# ПОЛЫМЯ РЭВАЛЮЦЫІ

ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА І МАРКСЫЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

1933

ЖНІВЕНЬ—ВЕРАСЕНЬ

КНІГА ВОСЬМАЯ—ДЗЕВЯТАЯ

# ПОЛЫМЯ РЭВАЛЮЦЫІ

ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА
І МАРКСЫЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ
І КРЫТЫКІ



ОРГАН АРГАНІЗАЦЫЙНАГА КАМІТЭТУ
САЮЗУ САВЕЦКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ БССР

КНІГА ВОСЬМАЯ—ДЗЕВЯТАЯ



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
ЛІМ

МЕНСК 1933

ЭДУАРД САМУЙЛЁНАК

# „ТЭОРЫЯ КАЛЕНБРУН“

## (АПОВЕСЬЦЬ)

Галоўны кіраўнік мэталюргічнага заводу Акцыянэрнага Таварыства „Нэптун“ нярухома сядзеў у крэсьле. Ён стараўся захаваць унутраную роўнавагу. Ён імкнуўся ўпэўніць самога сябе, што няма поваду для выбуху гневу, пералічваў у памяці ўсе парады дактароў у тэй частцы, дзе яны рэкамэндавалі пану галоўнаму кіраўніку ня гневацца, але з гэтага нічога ня выходзіла. Васьмі пудам гатунковага буржуазнага мяса пана галоўнага кіраўніка пагражала апаплексыя. Старанна запакаваны ў тугое сукно фраку, забраніяваны манішкай, паддушаны гальштукам, пан галоўны кіраўнік задыхаўся, глытаў паветра і, вырачыўшы вочы, глядзеў на свайго памоцніка. І ўвесь час думкі яго перапаўзалі ад становішча на заводзе да парадаў дактароў у тэй частцы, дзе...

— Маю гонар далажыць пану шэфу,—гаварыў гнуткі, гутапэрчывы чалавек па той бок стала,—маю гонар далажыць пану шэфу, што пагроза страйку ў наяўнасьці.

Чалавек памаўчаў. Відаць чакаў, што скажа на гэта пан галоўны кіраўнік. Пан кіраўнік нічога не сказаў. Тады гнуткі чалавек пацёр далонь аб далонь і, нахіліўшы наперад сваё даўгое тулава, зайшоў з другога боку стала.

— Гэта чуваць па настроі ў цэхах,—дадаў ён.—Аб гэтым і маю гонар давесьці да ведама пану шэфу.

— Вы ў гэтым вінаваты,—асіплым басам сказаў пан кіраўнік.

— Прашу выбачэньня пана шэфа...

— Вам патрэбна было быць больш пільным!

— Прашу выбачэньня пана шэфа...

— Вы круціцеся перад маімі вачыма... як... як чорт ведама што. Прашу вас сесьці.

Гутапэрчывы чалавек папраміў акуляры і пераламаўся ў паклоне, як сцызорык. Пан галоўны кіраўнік убачыў дасканалы прабор на даўгім чэрапе памоцніка.

— Вы круціцеся так, пане Зброчэк, як істужкавы гліст, якога ўсадзілі ў банку са сьпіртам. Гэта ў вас называецца энэргічнай дзейнасьцю.

— Але...

— У вас усе намаганьні накіраваны на тое, каб нарабіць гвалту навокал сябе!

— Але-ж, пане кіраўнік...

— Гвалт і піск—гэта ваша стыхія. Такія людзі мне не падабаюцца. Вы чуеце, пане Зброчэк? Прашу вас памаўчаць. Я хвалююся. Мне шкодна хваляваццa...

Пан галоўны кіраўнік кінуў абкурак цыгары на стопку акуратных сініх папак на стале. Гадзіньнік паказваў дванаццаць. Бронзавая баядэрка ў нярухомым танцы з электрычнай лямпаю ў руках гарэзьліва ўсьміхнулася пану галоўнаму кіраўніку. Ён зморшчыўся і перавёў погляд на левы рог вялізнага стала. Там, на варце пісьмовага прыладзьзя мужна стаяў легіянэр з ружовага мармуру.

Зброчэк пацёр далонь аб далонь і кашлянуў.

— Што?!—спытаў кіраўнік.—Вы нешта сказалі?

— Прашу выбачэньня пана шэфа,—прыўзьняўся ў крэсьле Зброчэк.—Я маю гонар...

— Сьмялей, сьмялей, пане Зброчэк!

— Маю гонар прапанаваць пану шэфу... выклікаць войска.

— Пане Зброчэк,—нечакана спакойна сказаў кіраўнік.—Гэта ідыёцтва!

— Пан шэф заўсёды любіць гучныя словы...

— Ідыёцт-ва!

— Я ня прымаю гэты выраз да сэрца, пане шэф.—З францускім пранонсам адказаў Зброчэк.—Паважаючы патрыятызм пана шэфа, ведаючы эрудыцыю пана шэфа—не саромлюся сказаць: я не абражаны гэтым!

— Памаўчыце, пане Зброчэк,—прахрыпеў кіраўнік.—Я хвалююся!

— Маўчалі некалькі хвілін. Пан галоўны кіраўнік тлуміў гнеў. Зброчэк уціснуўся ў кут глыбокага крэсла, забыўшыся на беспарадную ўсьмешку, што застыгла на твары.

— Пане Зброчэк!—нарэшце сказаў кіраўнік.—Вы самі ня ведаеце, што сказалі. Вы трусьлівы, як заяц, і страх адбірае ў вас розум.

— Пан шэф памыляецца...

— Што?! Прашу не забывацца!

— Слухаю пана шэфа...

— У нас вайсковы заказ, пане Зброчэк. Вы разумееце, якія гісторыі могуць адыграцца ў сувязі з выклікам войска? Вы можаце сабе ўявіць, што гэта азначае для фірмы?!.. Нарэшце, вы можаце сабе ўцяміць палітычную сытуацыю? Што?!

— Прашу выбачэньня пана шэфа...

— От!

Пан кіраўнік разгарнуў адну з сініх папак і выцягнуў адтуль сьпіс.

— Ярош Гагай, Адам Турчын, Марцін Крамарчык... Дзе яны?

— У цэхах, пане шэф. На рабоце.

— Вам былі дадзены інструкцыі, Зброчэк?

— Так, пане шэф.—Зброчэк устаў і нахіліўся над сталом.

— Вы нічога не зрабілі?!

— Я быў у паліцыі, пане шэф. Я патрабаваў арышту і прадставіў матар'ялы. Мне адказалі, што меры будуць прыняты. Аднак...

— От!—кіраўнік кінуў на стол сьпіс.—Неадкладна дабіцца арышту па гэтым сьпісе. І гэтых трох—у першую чаргу!

— Будзе выканана, пане шэф.

— Не-ад-клад-на!

— Так!

— Войска выклікаць толькі ў тым выпадку, калі становішча будзе пагражаць грамадзкаму спакою па-за межамі заводзкай тэрыторыі. Меры перасьцярогі прыняты?

— Так, пане шэф! Заводзкія вароты ахоўваюцца паліцыяй. Усе форткі пад вартай.

— Можаце зараз ісьці. Папярэджваю вас, што я вамі нездаволены. Загладзіць віну—сёньня шырокія магчымасьці! Вы здольны, малады чалавек, пане Зброчэк. Спадзяюся памылак больш ня будзе?

Зброчэк схапіў сьпіс і схаваў у кішэню.

— Маю гонар запэўніць пана шэфа,—сказаў ён, выпростваючы сваё гнуткае тулава,—маю гонар запэўніць пана шэфа, што больш ня будзе неабходнасьці пану шэфу пры ацэнцы маіх разумовых здольнасьцяй абражаць свае вусны няпрыемнымі словамі. Добрага здароўя пану шэфу!

Бліснулі акуляры. Мякка захваляваліся парт'еры. Пан галоўны кіраўнік застаўся адзін у сваім габінэце. Ён закурыў сыгару і крытычна аглядзеў лёгкі стан бронзавай дзяўчынкі на стале.

Пан галоўны кіраўнік адчуваў золкі неспакой. Рабочыя патрабавалі зьняць вайсковы заказ з заводу і павысіць расцэнкі. Папярэдзіць забастоўку магчыма было толькі здавальненьнем іх патрабаваньняў. Але вайсковы заказ—гэта тое, чаго дабівалася фірма на працягу некалькіх месяцаў. Гэты заказ вырваны з-пад самага носу, з самых зубоў самага заядлага канкурэнта—трэсту „Ролд, Славічэк і сыны—усё для мэталюргіі“. Забастоўка, хаця-б на самы кароткі час—два-тры дні, паслужыць повадам да зрыву заказу. Задаволіць рабочых нельга ні ў якім разе. Ня можа быць і гутаркі. Ня можа быць і намёкаў. Ня можа быць нават і думкі.

Тыя, хто кіруе забастоўкай, даб'юцца свайго так ці інакш. Калі фірма ня пойдзе на зьняцьце заказу (а яна, бязумоўна, ня пойдзе)—заказ будзе сарваны трыма днямі забастоўкі. Лёс заказу вырашаны загадзя.

— Магчыма гэта канкурэнты? Магчыма Ролд і Славічэк?—думаў пан галоўны кіраўнік.—Іх агентура? Не. Глупства. Гэта я ведаю хто... Гэта выразна. Гэта камуністы! Ім цікава сарваць вайсковы заказ!

І тады пану кіраўніку прышла думка, што калі страйк—справа рук камуністаў, дык і павышэньне расцэнак не ратуе заказ! Тупік!

— Тупік!—мармытаў пан галоўны кіраўнік.—Тупік!

Зьняць заказ азначала канец дыктатуры пана галоўнага кіраўніка. Праўленьне таварыства патрабуе яго адыходу. Гэта штонебудзь ды азначае!

Пан галоўны кіраўнік смактаў цыгару. У зашклёнай бакавой сьцяне габінэту чотка ўставалі абкураныя, ахутаныя дымам, чорныя карпусы цэхаў. Туды папросту баяўся глянуць пан галоўны кіраўнік. Ён сядзеў нярухома і смактаў цыгару. У габінэце было ціха. На паркеце ляжала пляма скупога, аслоненага хмарамі сонца.

— Тупік! Трэба прымаць меры!

Восем пудоў варухнуліся ў крэсьле. Палец з брыльлянтам адшукаў на стале гузік званка. Пан галоўны кіраўнік сказаў служанцы:

— Зацягнеце драпры на сьценах. Запалеце люстру. Мяне непакоіць гэтае ідыёцкае, каламутнае сьвятло. І цераз дзесяць хвілін—пазванеце ў гараж. Машыну.

Роўна а палове другой, на парозе машыннага аддзяленьня зьявілася высокая постаць. Гэта быў Марцін Крамарчык. Ён зашпіліў брэзэнтавую куртку, акінуў поглядам цёмнае нутро машыннага і адшукаўшы ў паўзмроку старшага машыніста зьмены накіраваўся да яго.

— Таварыш Кольбэ,—упаўголаса сказаў Крамарчык,—на заводзе абвешчаны страйк. Пастановай камітэту страйку мне загадана даць гудок.

Машыніст Юльян Кольбэ, крыху нахіліўшы на бок галаву, працягваў абціраць пальцы рук абмасьленым жмутком рызьзя. Прыглушана гулі катлы, плёскалі прыводныя рэмні, раскідаючы кроплі масла, рухаліся матылі магутных машын.

Падышлі двое рабочых і сталі побач з машыністам.

— Марцін,—сказаў Кольбэ,—ключа ад гудка я табе даць не магу. У мяне хворая жонка і трое дробных дзяцей. Давай гудок сваімі сродкамі, я гэтаму не супярэчу.

— Ты не далучаешся да забастоўкі?—спытаў Крамарчык.

— Магчыма. Я табе сказаў. Я ня маю права рызыкаваць жыцьцём дзяцей.

— У мяне няма часу,—сказаў Крамарчык.—Няма чаго гутарыць. Я ніколі ад цябе гэтага не чакаў, таварыш Кольбэ. Дзе люк на дах?

— Там у куце,—паказаў рабочы, што стаяў побач.—Там трап на гару. Я табе дапамагу, таварыш Крамарчык. Мы адчынім кляпан.

З кучы вугальля, што ляжала ў куце, саскочыў качагар Бартош. Ён трымаў у руках лапату.

— Забастоўка, Марцін?—разьлёгся яго моцны голас.

— Забастоўка,—адказаў Крамарчык.—Дзе люк, я пытаюся!

— Вядзі яго,—падштурхнуў Бартош рабочага.—Бярэце з сабою молат. Далоў шапку кляпану! Я тут у дзьвярах пастаю, Марцін. Пасьля гудка спыняем машыны!

Па чыгунных папярэчынах трапу загрукалі крокі. Загрымела заслона люку. Цераз яго ў машыннае, дзе пад стольлю слаба тлелі закураныя лямпкі,—упаў сонечны прамень.

— Зачыняйце люк!— крыкнуў Бартош, ідучы да дзьвярэй.

На парозе стаяў Кольбэ. Ён працягваў абціраць рукі. У яго быў жоўты, азызлы, стомлены твар.

— У штрэйкбрэхэры пойдзем, бабуля?—спытаў Бартош.

Кольбэ нічога не адказаў.

— Гэта ўжо відаць па чалавеку, калі ў яго скурка пачынае дрыжаць,—працягваў Бартош.

Кольбэ зноў нічога не адказаў.

— Не паважаю трусоў,—закончыў Бартош.

Усё гэтак-жа ў паўзмроку машыннай гулі катлы і ляскаталі прыводныя рэмні пад стольлю. Машыны працягвалі сваю работу. Але людзі ўжо пакінулі яе. Каля машын зьбіліся ў цесныя гурткі качагары і памоцнікі машыністаў. Нешта гаварылі напаўголаса, размахваў рукамі высокі і худы мэханік.

— У мяне жонка і дзеці, малады чалавек,—нечакана сказаў Кольбэ.—Зараз у сям'і асабліва цяжкае становішча. Калі згублю работу—канец... Я больш яе ўжо не атрымаю.

Ён сустрэў насьмешлівы погляд Бартоша і адвёў вочы ў бок.

— Я ня даў ключа, бо гудок можна адчыніць і інакш. А тое, што ключ пры мне—гарантыя таго, што я буду мець работу. Але ў штрэйкбрэхэры не пайду. Я стары рабочы...

— Тым горш,—сказаў Бартош.—Тым і горш, што ты стары рабочы, а з тваіх паводзін гэтага ня відаць!

Кольбэ ня здолеў адказаць. У гэты момант на парозе зьявіўся Зброчэк.

— Дзе Крамарчык?!—крыкнуў ён да Кольбэ.

Той адмоўна пакруціў галавой.

Зброчэк адвярнуўся:

— Хадзеце сюды!

На парозе зьявілася яшчэ чацьвёра. Яны былі ў сініх гарнітурах і капялюшох. Усе чатыры трымалі правыя рукі ў кішэнях.

— Дзе Крамарчык, пане Кольбэ!—выгінаючыся на парозе, віскуча закрычаў Зброчэк.—Я ў вас пытаюся!

— Шпікі!—крыкнуў Бартош.—Хлопцы, спыняйце машыны!

— Не чапаць машын,—завіскатаў Зброчэк і вырваў руку з кішэні. Блiснула сталь рэвальвэру. Чацьвёра выразна пераглянуліся.

— Крамарчык ішоў сюды? Я ў вас пытаюся, Кольбэ! Мы проста па яго сьлядох... Дзе ключ ад гудка?!

— Ён пры мне,—адказаў Кольбэ.—Вось ён.

Гул машын пачаў сьціхаць. Прыводныя рэмні з мяккім шолахам паўзьлі пад столь павольна. І ў гэты момант—угары засыкала, забулькатала пара. Сыканьне пераходзіла ў рознагалосы, нястройны сьвіст. Ён гусьцеў, рос, пашыраўся, набываючы голас, і нарэшце густа і перамножна, з нечаканаю сілаю зароў гудок.

— Ён тут!—крыкнуў Зброчэк.—Выключыць пару! Стой!

Чацьвёра выхапілі рэвальвэры. Зброчэк сарваў акуляры і кінуў іх у кут. І ў гэты момант качагар Бартош заступіў ім дарогу трымаючы ў руках даўгі жалезны прут. І аднекуль са змроку, за яго плячыма выступіла паўдзесятка постацяй у чорных робах.

— Вымятайся адгэтуль, паліцэйская шваль!—густым голасам, пакрываючы рык гудка, крыкнуў Бартош.—Вон, бо пакрышым чарапы ў дробязь!

Зброчэк разгублена ступіў крок назад. Адпаведна з гэтым адступілі малайцы ў капялюшох. Зброчэк усунуў рэвальвэр у кішэню і нешта сказаў у бок шпікаў. Усе яны не адводзілі вачэй з цёмнага кута ў глыбі машыннага, дзе быў люк.

— Нам патрэбна бачыць Крамарчыка!—закрычаў Зброчэк.— Што вы звар'яцелі? Хто адчыніў гудок?!

— Марш вон!—гукнуў Бартош, узносячы ўгору прут.

Зброчэк адступіў яшчэ на крок. Шпікі былі ўжо на самым парозе. Бартош з узьнесеным прутам стаяў перад імі, а за яго плячыма цесным гуртком насьцярожана застыглі ўзброеныя малатамі і лапатамі рабочыя.

І ў гэты час Кольбэ, які стаяў з боку, на тым-жа месцы, дзе і быў, убачыў, што адзін са шпікаў, хаваючыся за плечы другога, уважліва і спакойна наводзіць маузэр у шырокія і сьмелыя грудзі Бартоша.

Таварыш Кольбэ ацаніў момант. Недзе далёка мільгнула думка аб сям'і. Важкі ключ бліснуў у паветры. Шпік выпусьціў маузэр, абапёрся плячыма да сьцяны і павольна зьехаў на зямлю.

У гэты-ж час у твар Кольбэ ўдарыў агонь. І зараз-жа паветра прарэзаў прут Бартоша. Даўгавязае цела Зброчэка, здрыгаючыся, лягло побач з целам машыніста Юльяна Кольбэ.

Яны ляжалі разам. Кольбэ, пралетары, нявольнік вялікіх машын, і яго прыганяты і забойца Зброчэк. Вочы машыніста Кольбэ шклянелі сьмерцю. Ён ня бачыў, як цераз цела шпіка спрытна пераскочылі трое тых, што засталіся жывыя, а за імі Бартош і качагары. Ён таксама ня бачыў, як сышлі па трапу і вышлі на двор двое. У адным ён пазнаў-бы свайго старога таварыша, Марціна Крамарчыка.

Маўчалі машыны. Распрасьцёртыя на зямлі ляжалі тры трупы. Над імі пагрозна і ўрачыста равеў гудок. Ён клікаў людзей на барацьбу.

І людзі ішлі на яго магутны голас. Адзін за другім цэхі пакідалі работу. Рабочыя вялікімі групамі ішлі да цэнтру двара.

„Нэптун“ распачаў забастоўку.

Рэзка зазьвінеў званок тэлефону.

— Камэндант слухае.

— Пане камэндант...—захрыпела трубка.—Пане камэндант... Гаворыць галоўны кіраўнік заводу „Нэптун“... Сур'ёзныя непарадкі... Высылайце войска, пане камэндант... Роту... дзьве, пане камэндант! Забіты мой памоцнік, забіты агент сакрэтнай службы, забіты машыніст зьмены пры... аказаньні супраціўленьня забастоўшчыкам. Пане камэндант, хутчэй.. На паліцыю слабая надзея... Паліцыя баіцца...

Камэндант кінуў трубку. Прабег па пакоі. Да дзьвярэй і назад.

— Што рабіць? Людзей няма... Хіба выклікаць новых? Ненадзейна...

Падышоў да стала і націснуў кнопку званка.

На парозе—веставы.

— Сэржанта Дроба да мяне!

Праз хвіліну—у растворы дзьвярэй зьявілася высокая постаць. Спакойны твар, падцягнуты рэмянем шапкі. Пільны погляд шэрых вачэй.

— Слухаю пана камэнданта!

— Сэржант Дроб, вы бярэце астатнія два ўзводы вашай роты. Вы накіроўваецеся на завод „Нэптун“. Па словах дырэктара—там непарадкі. Не сумняваюся, што гэтаму шпаку цяпер і заяц здаецца тыграй—аднак, патрэбна пільнасьць, сэржант. Калі там сур'ёзныя непарадкі—прыняць рашучыя меры!

— Слухаю пана камэнданта!

— Чакайце, сэржант. Мне ня хочацца, каб на „Нэптуне“ нарабілі-б гвалту мае хлопцы. Там вайсковы заказ. Наогул, мне не падабаецца ўся гэтая гісторыя... Я ўпэўнены, што там ня так страшна, як здалося гэтаму старому шпаку.

— Разумею, пане камэндант.

Камэндант павысіў голас:

— Не разважаць, сэржант! Калі будзе патрэбна страляць, вы будзеце страляць! Але памятайце, трэба будзе давесьці, што стрэльбы стралялі самі, як гэта кажуць... Вам зразумела напружанасьць апошніх дзён?

— Так, пане камэндант.

— Рэкамэндую асьцярожнасьць... Трэба на месцы ўстанавіць з кім маеце справу.

— Так, пане камэндант.

— Ніводнага неасьцярожнага руху, сэржант! Разам з тым—трэба папярэдзіць разьвіцьцё непарадкаў...

— Мне не зразумела, пане камэндант...

— Не разважаць, сэржант! Прыбыўшы на завод, вывучыце сытуацыю і далажыце мне па тэлефону. Усяго добрага, сэржант Дроб!

Сэржант узяў пад казырок. Чотка завярнуўся кругом. За ім зачыніліся дзьверы. На пляцоўцы сэржант аправіў партупэю і паціснуў плячыма.

— Недарэчнасьць, а ня інструкцыі. Пан камэндант ня ведае, як паставіць нагу.

А ў габінэце з кута ў кут нэрвова крочыў камэндант. Нарэшце спыніўся супроць люстра. Агледзеў сваю постаць, пакруціў вус і прайшоў да стала, пабразгваючы шпорамі сваіх лякіраў.

І тут пан камэндант грукнуў кулаком.

— Я-б з вамі пагутарыў, галганы, праклятая галота! Пан сэржант Дроб не дыплёмат! Мы ведаем дыплёматыю: гэта мова нашых кулямётаў! Мы-б вам паказалі, пся крэў!

Пан камэндант зноў ударыў кулаком аб стол.

—... Калі-б не палітычная сытуацыя... Калі-б ня гэтая палітычная сытуацыя...

Тры грузавікі спыніліся на рагу вуліцы. Адгэтуль успаўзалі на ўзгорак вузкія калідоры цесных і брудных завулкаў. На ўзгорку, пад шэрымі дахамі вуліц і завулкаў ускраіны ўзвышаліся панурыя, чорныя карпусы цэхаў заводу „Нэптун". Высока ў неба ўсьпяліся стройныя коміны. З-за каменнай заводзкай агарожы высоўваліся стрэлкі паравых кранаў і мачты высокавольтнай перадачы. Завод стаяў. Над комінамі ня было звычайных воблак дыму, ня чуваць было гулу машын. Пагрозна і моўчкі узьнімаліся на ўзгорку заводзкія карпусы, і цёмныя вокны нацэліліся на горад, як жэрлы гармат з фартоў цытадэлі.

Усё гэта ў момант агледзеў і ацаніў сэржант, які яшчэ на хаду саскочыў з аўто. Ён вёў атрад вузенькім завулкам, што ўзьнімаўся да самых варот заводу. Салдаты па двое ішлі за сэржантам. На палове дарогі сэржант азірнуўся цераз плячо. У людзей былі нахмураныя твары. Яны былі непраніквёнымі ў засені касак, сэржант бачыў толькі падвязаныя рэмянямі падбародкі, але ён адчуў, як з кожным крокам узьнімаецца напружанасьць нэрваў людзей.

Крок атраду быў важкім і марудным. Багнэты хісталіся ў такт хады. Глянула сонца з-за хмары, і сталь багнэтаў заблішчэла ў вузкім завулку, які быў завалены цэлымі горамі шлаку. Людзі панура ішлі наперад. І спакойна, і проста вёў іх высокі сэржант у зяленым шынэлі.

Каля варот іх сустрэў паліцэйскі афіцэр. Патруль паліцыянтаў разгублена мясіў гразь каля праходнай будкі. З-за варот наплываў пагрозны гул многіх галасоў.

— Ня надта прыемныя справы, сэржант,—стараючыся захаваць роўнавагу і надаць бясклопатнасьць голасу, сказаў падобны да бочкі паліцыянт. У яго быў ценькі піскілявы голас.

— Ужо трох забілі і невядома колькі яшчэ будзе мяса да вечару... Заводзьце людзей на двор, сэржант.

Сэржант крута павярнуўся да паліцыянта.

— Падпарадкуюся толькі загадам камэнданта, пане падпаручнік!

І, адвярнуўшыся да салдат, падаў каманду. Карабіны стройна ўзьняліся з плеч і, бліснуўшы багнэтамі, зьніклі. Атрад трымаў стрэльбы „да нагі“.

Паліцыянт зьбянтэжана лыпнуў вачыма.

— Чакайце, сэржант! Мне здаецца, што я афіцэр, што...

— Ведаю, пане падпаручнік!

— Мне здаецца, што мой загад...

— Гэта вам толькі здаецца. Капрал першага ўзводу! Застаецеся маім намесьнікам. Толькі па майму загаду і непасрэднаму загаду камэнданта!

— Слухаю!

— Мне здаецца, пане сэржант...

Сэржант прайшоў у вароты міма нацягнутых паставых паліцыянтаў. Ён спыніўся каля аднэй з будак, адразу-ж за варотамі, і агледзеў двор. Уся агромная плошча цэнтру двара, дзе скрыжаваліся шляхі вузкакалейкі, дзе ляжалі горы мэталёвага ламачча, уся гэтая плошча ў некалькі гэктараў была затоплена шчыльным натоўпам. Тут былі дзесяткі сотняў людзей. У чорных, замасьленых робах, у скураных фартухох, у стракатых майках, абкураныя дымам і чадам горнаў, абсыпаныя мэталёвым пылам, зьліліся ў адно магутнае цела калектыву сотні чалавечых адзінак, зьнітованыя адзіным жаданьнем барацьбы. Гэта быў гатовы да бою пралетарскі атрад.

На стрэлцы аднаго з кранаў трапятаў чырвоны сьцяг. Абняўшы рукой пераплёт стрэлкі, нявысока над натоўпам—гаварыў прамоўца. Ён гаварыў зычна і горача, і словы яго разнос ліся над сотнямі галоў. Натоўп то заціхаў, то гуў нізкім нутраным гулам.

Сэржант прыслухаўся.

— Усю зіму мы галадалі! Сотні людзей ня мелі кавалку хлеба і прытулку. Увесь такарны цэх пераабсталёўвалі, выкінуўшы на вуліцу сотні рабочых сем'яў... Таварышы! мы ледзь ня здохлі ад голаду за доўгую зіму. Зараз частку з нас прынялі на работу... І што-ж! Нам на грош павысілі расцэнкі, але прымусілі абточваць знарады!

Нешта незразумелае наперабой закрычалі дзесяткі галасоў. Вырасла пагрозная хваля гулу, пакацілася ад цэнтру і замерла на ўскраёх.

— Гэтыя знарады—для нас саміх! Мы ня будзем рыхтаваць самі сабе крывавую лазьню! Мы ня будзем рыхтаваць сьмяротныя падарункі для нашых братоў на Усходзе! Даволі! Мы патрабуем зьняць з заводу вайсковы заказ і павялічыць расцэнкі на ўсе гатункі работ!

І зноў—магутныя перакаты хвалі сотняў абураных галасоў. Сэржант зьняў пальчатку і правёў далоньню па твары.

... Гэтак-жа восемнаццаць гадоў таму назад грымелі галасы пратэстаў на адным з заводаў гэтага гораду. Гэтак-жа стаяў напагатове пралетарскі атрад. Выразна запомніў гэта маленькі Стась, і сёньня мінулыя вобразы з нязвыклай яскравасьцю сталі ў вачох.

... Увечары таго дню заплаканая, разьбітая горам маці прыняла за руку малога Стася ў гарадзкі морг. Там на мармуровым стале ў радзе з другімі мерцьвякамі ляжаў з рашчэпленай галавой сьлесар Лукаш Дроб. Стась запомніў і лічбу, што была напісана сінім алоўкам на пяце мёртвай нагі бацькі. Яна і зараз у вачох, гэтая сіняя лічба „13“

Сэржант адзеў пальчатку.

Гаварыў другі прамоўца:

— Мы сёньня павінны дэманстраваць супроць вырабу вайсковых заказаў. Мы павінны дэманстраваць супроць павялічэньня вайсковага бюджэту! Мы павінны дэманстраваць сваю рэвалюцыйную салідарнасьць з пралетарыятам усяго сьвету і, у першую чаргу, з пралетарыятам СССР! І перад тым, як выйсьці на вуліцу, мы павінны ўшанаваць памяць таварыша Юльяна Кольбэ, першай ахвяры нашага заводу ў сёньняшні дзень.

Таварыш Кольбэ загінуў, абараняючы жыцьцё другога пралетара...

У натоўпе замільгалі шапкі. Людзі стаялі з адкрытымі галовамі, і велічная ціш уступіла на шумны дагэтуль двор.

Нэрвовая спазма сьціснула горла сэржанта. Па ўсім целе калючыя і зімныя прайшлі дрыжыкі. У гэтыя кароткія хвіліны прайшоў перад яго вачыма ўвесь шлях Станіслава Дроба, і сэржант яскрава ўбачыў, як памыляўся Стась, убачыў, якой мізэрнай і недастойнай была мэта Стася, як, ня гледзячы ні на што, мала ён меркаваў узяць ад жыцьця...

— Што вам тут патрэбна?—спытаў побач няпрыязны голас.

Перад сэржантам стаяла двое рабочых.

Што патрэбна Станіславу Дробу? Патрэбна пайсьці і стаць вунь туды, да стрэлкі, каб у часе дэманстрацыі апынуцца ў першых шэрагах дэманстрантаў і, магчыма, несьці чырвоны сьцяг. Што можа быць патрэбна Станіславу Дробу, сыну пралетара, сьлесара Лукаша, на гэтым двары, калі завод рыхтуецца да выхаду на вуліцу? Нават сьмешнае пытаньне!

— Што вам патрэбна тут, мы пытаемся! Чуеце, сэржант?

— Сэржант? Ага! Сэржант... Сытуацыя... Давесьці, што карабіны стралялі самі... так... Два ўзводы канвойнай роты пад камандай сэржанта Дроба... Вось яно што...

Сэржант асланяе твар пальчаткай. Ён зьбіраецца з думкамі. Куды зайшоў ты, маленькі Стасік Дроб!

І выразна ўсплывае плян. Цяпер сэржант ведае, што яму патрэбна.

— Мне патрэбны тэлефон. Я камандзір прысланага сюды атраду.

— Тэлефону няма,—адказаў адзін рабочых—заводзкі камутатар выключаны.

— Ёсьць тэлефон у канторы кіраўніка,—сказаў заводзкі вартаўнік з бляхай на грудзёх.

Адзін з рабочых сьціснуў кулак і паказаў яго вартаўніку.

— Не разьзявай дзюбку, варона! Пайшоў прэч адгэтуль!

Вартаўнік нехаця адвярнуўся і паплёўся некуды ўздож агарожы.

— Правядзеце мяне ў кантору кіраўніка,—сказаў сэржант.

— Нельга.

— Хто мне можа дазволіць дайсьці да тэлефону?

— Член камітэту. Хіба паклікаць Крамарчыка?—рабочы ў ваганьні паглядзеў на другога.

— Абавязкова паклічце. Мне патрэбны тэлефон. І чым хутчэй вы гэта зробіце, тым лепш для вас.

— Бяжы!—падштурхнуў адзін рабочы другога.—Няхай камітэт разьбярэ.

Крамарчык прышоў хутка. З ім разам зьявіўся высокі агромністы чалавек з жалезным прутам у руках. Крамарчык па звычцы адшпіліў і зноў зашпіліў гузік сваёй брэзэнтавай курткі. Коратка агледзеў сэржанта, крыху затрымаўшы погляд на наплечніках.

— Што вам патрэбна?—суха спытаў ён.

— Камандзір атраду. Патрэбна размова па тэлефону.

— Нельга.

Сэржант аправіў кабуру.

— Прашу вас адыйсьці са мной на некалькі крокаў у бок.

Шэрыя, цьвёрдыя вочы Крамарчыка недаверліва глянулі ў гэткія-ж шэрыя вочы сэржанта. І ў бляску вачэй Дроба Крамарчык адшукаў нешта такое, што прымушала верыць.

— Хадзем,—коратка сказаў Крамарчык.

Яны адышлі ў бок.

— Перамова па тэлефону дасьць магчымасьць на працягу пятнаццаці хвілін адвесьці салдат у казарму і адчыніць вам дарогу ў горад,—сказаў Дроб.

— Альбо прывесьці яшчэ два ўзводы?—насьмешліва спытаў Крамарчык.—Магчыма на кулямёт забыліся?

— У гэтым даю слова.

— Цяжка для рабочага верыць на слова чалавеку, які мяркуе начапіць афіцэрскія наплечнікі.

Дроб зьлёгку пачырванеў.

— Даю вам слова.

Зноў Крамарчык недаверліва і пільна паглядзеў у вочы сэржанта. Твар Дроба ўжо быў зімным і спакойным.

— Хадзем,—сказаў Крамарчык.—Але папярэджваю, калі гэта правакацыя—гэта вам дарэмна ня пройдзе.

Абмінаючы натоўп, яны накіраваліся да асабняку, што стаяў на водшыбе, у куце двара. У пад'езьдзе асабняку на асфальтавай дарожцы стаялі паставыя рабочага пікету. Па шырокіх усходах, што былі ўсланы чырвонай дарожкай, Крамарчык і сэржант узьняліся на другі паверх. Французскі замок у дзьвярах быў вырваны. Сэржант штурхнуў нагой дзьверы і апынуўся ў зашклёным габінэце. Крамарчык спыніўся ў дзьвярах і стаў за парт'еру.

З-за прысадзістай камлыгі пісьмовага стала выкацілася круглая, таўшчэразная куля. Заблішчэла брыльянтамі персьняў, каронкамі зубоў. Тры падбародкі пана галоўнага кіраўніка гвалтоўна калыхаліся, каўнер быў адшпілены і ружовая шыя выпірала вон, разрываючы манішку.

— Якое няшчасьце, пане афіцэр... Я вельмі рады вашаму прыбыцьцю!

Сэржант казырнуў і прайшоў да стала. Двое рабочых, якія сядзелі на падваконьніку, насьцярожыліся, але заўважыўшы знак Крамарчыка, пачалі зноў углядацца ў вакно. Пан галоўны кіраўнік застаўся стаяць пасярод габінэту з шырока разьведзенымі рукамі і разяўленым ротам.

Сэржант узяў трубку.

— Камэнданта.

І праз момант учуў знаёмы, прарэзьлівы камэнданцкі голас.

— Пане камэндант,—спакойна сказаў Дроб.—Прыбылі на завод. Каманда стаіць у варотах разам з патрулём паліцыянтаў. На двары адбываецца мітынг. У асноўным становішча прыблізна такое, як вы ўяўлялі яго, пане камэндант.

— Так,—з выразным задавальненьнем сказала трубка.

— Але мітынг шматлікі. Тысяч пяць людзей. Прамовы антымілітарыстычнага парадку і людзей уводзіць на двор, я асабіста, ня лічу мэтазгодным. Патруль паліцыі па сваёй колькасьці дастатковы для блёкады варот.

— Вашы меркаваньні?

— На мой погляд нічога асаблівага няма.

Трубка памаўчала. І тады сэржант учуў слова, якога напружана чакаў.

— Зьвяртайцеся.

— Цераз пятнаццаць хвілін, пане камэндант!

Сэржант паклаў трубку і сказаў кіраўніку:

— Загадана адвесьці атрад у казарму.

У маленькіх сланёвых вочках адбіўся страх.

— Адыходзіце? Што гэта азначае!?

Сэржант казырнуў:

— Загад камэнданта!

І пайшоў да дзьвярэй. Пан галоўны кіраўнік затупаў на месцы і падбег да стала. Але на тэлефонную трубку лягла рука рабочага. Пан галоўны кіраўнік упаў у крэсла.

— Ва-а-ды-ы-ы...—прахрыпеў ён, тузгаючы манішку сутаржна-скурчанымі пальцамі.

На ўсходах сэржант ціха сказаў:

— Паліцыянты для вас перашкоды не стаўляюць. Толькі не марудзьце.

І адчуў, як яго руку моцна паціснула рука Крамарчыка.

Калі яны вышлі на двор, Крамарчык упяршыню убачыў, што ў сэржанта яшчэ вельмі малады і вельмі ўсхваляваны твар.

Не азіраючыся, сэржант прайшоў міма рабочых пікетаў да галоўных варот. І тут да яго адразу-ж падбег кароткі паліцэйскі падпаручнік і сьледам за ім да твару яго чорнай хмарай падсунуліся вусы паліцэйскага капітана.

— Пане сэржант! Я вам загадваю...

Сэржант выцягнуўся ў струнку.

— Маю загад пана камэнданта: зьвярнуцца!

І падаў каманду.

Карабіны паслухмяна ўзьляцелі над шарэнгай.

Сэржант кінуў косы погляд на паліцэйскіх. Яны ўтваралі затычку ў варотах.

— Выб'юць адным напорам,—падумаў сэржант.

Атрад ішоў тым-жа завулкам, па абочынах якога ляжалі горы шлаку. Гразь хлюпала пад нагамі. Але цяпер у небе ясна сьвяціла сонца, перамагаючы напластаваньні хмар. Яно зьзяла на багнэтах. Твары салдат былі вяселымі. Нават больш. Радасьць была на змучаных салдацкіх тварах. Радасьць ад таго, што ня будзе крыві, ад таго, што сьвеціць сонца на шэрую зямлю, і радасьць ад таго, што ў паветры зыкі сьпеву.

А стогалосы, рэвалюцыйны сьпеў нарастаў з кожнай хвілінай. Ён узьнімаўся над заводзкай пляцоўкай, над чорнымі карпусамі, над вуліцамі і завулкамі ўбогай ускраіны. Ён вясеньнім ручаём разьліваўся ў паветры, захопліваў з сабой людзкія сэрцы так, як захоплівае трэскі вясеньняя паводка, і ці пад рабочай блюзай, ці пад салдацкім шынэлем, ці пад шэрай сярмягай—аднолькава моцна здрыгалася сэрца і біла шпарчэй у краты грудзей. І шугала хутчэй па жылах кіпучая, вясеньняя, прагная да барацьбы—чалавечая кроў.

Нарастаў рэвалюцыйны сьпеў. З радаснымі тварамі ішлі салдаты, а на перадзе іх—выпрастаны і спакойны чалавек у зялёным шынэлі, сэржант Дроб. Ён думаў аб тым, ці здолеюць выйсьці за вароты рабочыя заводу „Нэптун“ перш, чымся прымчаць паліцэйскія аўто.

На рагу вуліцы чакалі на атрад тры грузавікі. На жоўтым борце першай машыны была сіняя лічба „13“.

Сэржант нахмурыў бровы. Недзе ў грудзёх, глыбока пад сэрцам варухнуўся золкі неспакой.

Прайшло два дні. Увечары сэржант сядзеў у сваім пакоіку, на ніжнім паверсе камэндантуры і чытаў. За дашчанай перагародкай прыглушана гаманіла казарма. За вакном, дзе гусьцеў вячэрні змрок—шумеў вясеньні горад. Быў ціхі, вячэрні час кароткага салдацкага адпачынку. Там, за перагародкай, на вузкіх, цесных, смуродных нарах ляжалі людзі. Загнаныя ў душны каменны мяшок казармы, таміліся ў гэты вясеньні вечар людзі, марылі аб волі.

Панурыя гарнякі з Дамброўскага басэйну, варшаўскія мэталісты, лодзінскія ткачы, аратыя з-пад Ліды, з Галіцыі, з Мазурскага краю, з Памэраніі, апранутыя ў мундзіры салдатаў краіны бязьмерна вялікіх традыцый і бяссэнсна малых спраў—маўкліва ляжалі на нарах, слухаючы шум вясеньняга ветру за сьценамі казармы, прыслухоўваючыся да гоману вячэрніх вуліц гораду. Кожны думаў аб сваім, але ўсе думкі зыходзіліся на адным. Гэта—убогія каморкі рабочых кварталаў. Гэта—убогія хаціны шэрых вёсак. Гэта—голад і беспрацоўе. Гэта—крыўды, прыгнечаньне, цяжкая і дарэмная праца каля варштатаў і на палёх. Думалі людзі і аб сабе, аб аглушаным муштроўкай, нявольніцкім, паўгалодным салдацкім жыцьці...

Вясеньні вечар сыходзіў на горад. Пад стольлю казармы зямігалі закураныя, рэдкія лямпкі ў дзесяць сьвечак. Сэржант паклаў кнігу. Гэта быў томік услаўленага нацыянальнага паэты. За гучнай прадмовай, якая выносіла аўтара ў гэніі паэзіі, крылася мутная, дохлая вадзіца лірычных уздыханьняў, гістэрычных ускрыкаў, бяспрыкладнага містыцызму і беспадстаўных палётаў у міжпланэтныя прасторы.

Гэта ня ўвязвалася з жыцьцём. І ні ў якім разе не дапасоўвала да паўзмроку казармы, дзе змучана варушылася, напоўзадушанае жыцьцё.

— Дрэнь!—зазлавана сказаў сэржант.

І ў гэты час у дзьверы пастукалі. На парозе стаяла постаць веставога.

— Да пана камэнданта ў габінэт.

Сэржант узгрыгнуў, але зараз-жа аўладаў сабой. Павольна ўстаў і аправіў пояс.

Ён ведаў у чым справа і таму, на хаду, паміж пляцоўкамі першага і трэцяга паверхаў абмацаў больш слабыя зьвеньні ў ланцугу сваіх довадаў. Іх было нямнога, і таму ўжо спакойны, сэржант пастукаў у дзьверы камэнданцкага габінэту.

Гаўкнуў голас камэнданта і зараз-жа брахнуў сабака. Сэржант усьміхнуўся. Абодва галасы былі падобны адзін да аднаго.

Асьляпіла сьвятло. У габінэце плаваў пах цыгары. Сэржант выпрастаўся і казырнуў.

— Па загаду, пане камэндант!

— Добра, сэржант! Хадзеце бліжэй. Твар камэнданта стараўся набыць прыхільную ўсьмешку. Вялізны аўчар падышоў да сэржанта і абнюхаў край шынэлю.

Камэндант паказаў на крэсла супроць стала.

— Сядайце. У нас з вамі ёсьць вельмі цікавая тэма.

Сэржант сеў. Пад ногі яму лёг аўчар. Супроць яго, за сталом сядзеў прарэзьлівы, сухі, гарбаносы камэндант з крута завітымі вусамі і бліскучым праборам. Ільсьнілі наплечнікі і срэбная мішура каўнеру. Камэндант адчуваў эфэктнасьць свайго выгляду і ўсьміхаўся з легкай гіранічнай ветлівасьцю да сэржанта. Ён узяў асадку і пастукаў ёю па мармуровай дошцы стала. І адразу зьнікла ўсьмешка і твар стаў суровым і злым.

— Адкажэце каротка, на якіх падставах вы адвялі атрад з заводу „Нэптун“?

— На падставе вашага загаду, пане камэндант.

Камэндант пачырванеў і зноў пастукаў асадкай па стале.

— Сэржант!—павысіў ён голас.—Вы паказалі непраўдзівую сытуацыю і вымусілі мяне даць загад на зварот. Калі вы гэта зрабілі з умыслам—вас чакаюць буйнейшыя няпрыемнасьці. Што? Не разважаць, сэржант! Я вас накіраваў на завод без афіцэра, даручыў вам палову канвойнай роты, а вы не зрабілі такой простай справы, як блёкада заводзкіх варот. Што? Не разважаць, сэржант!

У гэты момант з-за шырмы, што стаяла ў глыбі габінэту, разьлёгся кароткі, сухі, характарны шолах. Аўчар павёў вухам.

— Сур'ёзная відаць справа,—падумаў сэржант. Мяне фатаграфуюць.

Камэндант заікнуўся і зірнуў мімаволі ў бок шырмы. Заўважыў, што для сэржанта быў прыкметны яго погляд і разгублена забегаў вачыма. Потым бразнуў асадку на стол.

— Чаму вы не падпарадкаваліся афіцэрам паліцыі?

— Я меў ваш загад, пане камэндант.

— Менавіта?

— Прыбыўшы на завод перш за ўсё азнаёміцца са становішчам і далажыць пану камэнданту па тэлефону.

— Так. А потым?

— Меў таксама ваш загад, пане камэндант. Зьвярнуцца ў казарму.

— Але вы далажылі мне, што мітынг меў спакойны характар!

— Наадварот, пане камэндант. Я дакладваў вам, што мітынг у вялікіх памерах і прамовы такога характару, што небясьпечна ўводзіць людзей на двор заводу.

— Так. Вы аб гэтым мне сапраўды дакладвалі. А хіба вы ня ведалі, што адбудзецца дэманстрацыя?

— Ня меў такіх крыніц для арыентоўкі, пане камэндант.

Камэндант зноў узяў асадку ў рукі.

— А зараз скажэце мне, пры вас памёр ад удару пан галоўны кіраўнік заводу?

— Пры мне з панам галоўным кіраўнікам здарыўся прыпадак. Нічым ня мог яму дапамагчы, бо меў ваш загад...

— Аб чым?

— Зьвярнуцца ў казарму.

Камэндант густа пачырванеў і паклаў асадку.

— Апошняе пытаньне: аб чым вы гутарылі з рабочымі на дварэ.

— Дамагаўся атрымаць тэлефон.

— Дзіўна, чаму яны вам дазволілі дайсьці да тэлефону?!

— Я гэта ацаніў, як факт іх мірнага настрою, пане камэндант.

— Вы ня чулі ў словах прамоўцаў закліку да дэманстрацыі?

— Я слухаў прамову толькі на працягу дзесяці хвілін. Рабочы пікет патрабаваў майго адыходу. Аб дэманстрацыі ня чуў. А паліцыі ў варотах было досыць.

Камэндант устаў.

— Цяжка выявіць праўду ў даным выпадку. Ва ўсялякім разе, вы, лепшы службіста, трымалі сябе ў дзіўнай неадпаведнасьці з вашымі папярэднімі паводзінамі. Загады вы і раней выконвалі акуратна, дакладна і хутка. Застаецца незразумелым другое: чаму вы ня здолелі арыентавацца ў такім выразным становішчы і прымусілі мяне даць памылковы загад?

— Я ня здолеў арыентавацца, пане камэнлант, таму, што я ўпяршыню быў пасланы на ўхіленьне беспарадкаў. Акрамя таго—там было пяць тысяч чалавек і кожны крычаў сваё. Я трымаўся аднаго. Нельга ўводзіць жменькі людзей у гэтую чалавечую кашу, бо іх у даным выпадку мог сустрэць лёс... Сэржант памаўчаў. На яго з чаканьнем глядзеў камэндант.

— ... лёс лыжкі масла, пане камэндант.

Камэндант паморшчыўся.

— У астатнім я кіраваўся вашымі загадамі.

— Добра, Дроб.

Камэндант прайшоўся па пакоі.

— Пакінем гэтую няпрыемную гутарку, сэржант. Вы ў маіх вачох застанецеся тым-жа самым бравым легіянэрам, дастойным арміі вялікага маршала.

— Рад служыць, пане камэндант!

Камэндант дайшоў да стала і спыніўся.

— Вы па адукацыі, тэхнік, сэржант?

— Так.

— Дзе ваша сям'я?

— Я ня маю сям'і.

— Хто быў ваш бацька?

— Я ня памятаю бацькі, пане камэндант. Падобна да таго, што ён працаваў недзе ў прамысловасьці.

— Маці?!

— Яна памёрла ў адзін год з бацькам.

— Хто вам дапамог стаць на ногі?

— Я гадаваўся у ксяндза, далёкага сваяка маці.

— Так. У вас адчуваецца добры тон. У вас старанна ўзгадоўвалі дух веры, каханьня да айчызны, вернасьці свайму народу.

Я лічу, што на бліжэйшых вайсковых сьвятах вам будзе дадзена права ісьці ў афіцэрскую школу і, калі вы толькі пажадаеце, прыдзе той час, што я пацісну вам руку, як роўнаму сабе перад аўтаром веры і айчызны.

— Рад служыць, пане камэндант!

— З меркаваньняў гэтых я і задаў вам шэраг пытаньняў, якія вам маглі прыйсьці не да спадобы. На тое я ваш начальнік. Вы вольны, сэржант Дроб!

Сэржант павольна сышоў па ўсходах у пад'езд і стаў у кут, у засень усходаў. Вартавы з вуліцы учуў яго крокі, зазглянуў у пад'езд, нікога ня ўбачыў і роўнадушна адвярнуўся, працягваючы мерную сваю хаду—узад і ўперад перад дзьвярыма казарм.

Чакаў сэржант нядоўга. Неўзабаве грукнулі дзьверы ўгары і на ўсходах разьлегліся лёгкія крокі са звонкім акампанімэнтам шпор. Міма сэржанта прайшоў сярэдняга росту, драбнаваты афіцэр у макінтошы францускага пакрою.

— От мой фатограф з дэфэнзывы,—зазначыў сэржант.—Вось табе і „бравы легіянэр“!

Сэржант вышаў з-пад усходаў і ўвайшоў у казарму. Вартавы зноў заглянуў у пад'езд, сплюнуў і падаўся зноў на вуліцу.

У калідоры сэржанта сустрэў паручнік канвойнай роты. Ён, гледзячы міма сэржанта, нацягваў пальчаткі.

— Роўна а дваццаць чацьвёртай гадзіне, сэржант, вы, па загаду пана капітана, накіроўваецеся на чале першага ўзводу ў штаб, для ўнутранай аховы памяшканьня. Зьявецеся ў распараджэньне дзяжурнага камэнданта. Людзей узьнімеце за дзесяць хвілін да адыходу. Зразумела, сэржант?

— Так, пане паручнік!

— Можаце ісьці.

Паручнік усё гэтак-жа, гледзячы проста перад сабой, выйшаў з казармы. Сэржант накіраваўся да сваёй каморкі. І, увайшоўшы ў яе, як быў у шынэлі і ў шапцы—лёг на цьвёрды свой ложак.

Ён стомлена прымжыў вочы.

Рознакаляровыя ліхтарыкі пад расьпісаным сталяваньнем запаўняюць залю фантастычным сьвятлом. Тут, у гэтым сьвятле, якое нэрвуе людзей нязвыклым злучэньнем фарбаў, у празрыстых воблаках тытунёвага дыму, павольна хістаюцца і, здаецца, плывуць задумныя пальмы ў лямцавых адзеньнях.

За мармуровымі столікамі—людзі. П'яныя ад він і наркотыкаў, з пашыранымі зрэнкамі мужчыны, што апрануты ў крылатыя фракі, хціва абмацваюць вачыма жанчын, угадваючы пад абалонкай адзеньня выпеставанае цела самкі. Жанчыны адказваюць гэтым-жа. У іх вачох, разбэшчаных, і разам з тым пакорных, жаданьне, якога не сутрымаць, і нэрвовая ўсьмешка на маляваных тварах. Жанчыны апрануты ў памерак магчымасьці, і плечы іх ільсьняць у фантастычным сьвятле ліх-

тароў, і на гэтай гладкай, насычанай касмэтыкай скуры крыжуюцца ліпкія погляды мужчын.

Як толькі зьмеркне, у бары-дансінгу „Томмі“ зьбіраецца маклерская прылізаная банда, якая фрачным груганьнём абсядае тлустыя тушы біржавых каралёў. З томнымі тварамі і падведзенымі брывамі сядзяць за чужымі столікамі модныя паэты. З громам шабельных похваў, бліскаючы мішурнай ганарыстасьцю каўняроў і наплечнікаў, бадзяюцца, спатыкаючыся на кельнэраў, непераможныя афіцэры, з задавальненьнем пераймаючы на сабе ільсьцівыя погляды жанчын.

Гэта—асноўны тон бару-дансінгу „Томмі“. Бульварныя газэты назаўтра, аблізваючыся ў прадчуваньні гаспадарскай падачкі, адзначаць прысутнасьць у бары: „фінансавых і вайсковых дзеячоў і дзеячоў мастацтва“. Гэтак сама газэты адзначаць і тое, што пасьля дванаццаці гадзін „пачалося нязвыклае ажыўленьне“.

На эстрадзе, што схавана ў глыбі залі, у цішы, якая задрапіравана парт'ерамі—настройваецца джаз. Бегаюць кельнэры. Гістэрычна-высока зьвіняць галасы.

У адным з пустых кутоў залі, за столікам пад пальмай—сядзяць двое. Адзін, кароткі і грузны, туга зашпілены ў мундзір, мае ружовы, гладка выгалены твар, на якім у пухліне тлушчу утапіліся, валавяныя, маленькія вочкі. Гэта—майёр Пфэрц-Дабравольскі. Другі, сярэдняга росту, сухі, з даўгім змаршчастым тварам. Твар гэты—нязвычайны, нечалавечы твар. Уздоўж яго, крыху наўкос—шрам. Гэты шрам раскрышыў левую скулу, разьбіў брыво і зьнізу ўгору, наўкос усяго твару цягнецца яго ружовы накіп. Левая частка твару—сіняя. Вока няма. У ямцы сядзіць шкляная пратэза. Таму майёр Каленбрун устаўляе ў яміну манокль.

— Я слухаю вас, калега Дабравольскі.

Паміж імі на круглым, мармуровым стале—гара фарфуру, хрусталю і ў цэнтры награмаджэньня бакалаў, шклянак, кілішкаў, талерак і вазаў—срэбнае вядро з крышталём ільду і залатагорлай бутэлькай. Прыемны і ценькі пах ежы казыча нюх і горла Пфэрц-Дабравольскага. Акрамя гэтага, у яго зусім няма жаданьня гаварыць тое, чаго чакае Каленбрун. Аднак Пфэрц-Дабравольскі адсоўвае ад сябе аднэй рукой талерку, другой—бакал.

Ён кажа з вымушанай абыякавасьцю:

— Калега. Навіна не асабліва прыемная. Наш паднаглядны зьнік.

Каленбрун вымае шкелка маноклю з яміны вока і старанна праціраe яго берагам беласьнежнай сарвэты.

— Мы яго бясспрэчна адшукаем,—сьпяшае дадаць Пфэрц-Дабравольскі.

— Бясспрэчна. Аднак, зараз—факт застаецца, пакуль што, фактам. Выйшаў са сфэры агентурнага нагляду.

— Ёсьць магчымасьць яго адшукаць?—Голас Каленбруна рэзкі, з іржавай ноткай.

— Справа трох дзён, майёр. Я дзіўлюся, чаму вы не сказалі ўзяць яго раней. Мы столькі часу трымалі гэтага чалавека ў руках...

— На гэта былі вышэйшыя меркаваньні.

— Не разумею!

Каленбрун упраўляе шкелка ў вока. Потым нахіляецца цераз стол і кажа:

— Пасьля вячэры мы паедзем з вамі ў штаб, майёр. Там вам стане вядомым, навошта нам патрэбны гэты чалавек і навошта мы столькі яго трымалі на волі. Карацей, я вас увяду ў падрабязнасьці пляну. Тады, магчыма, вы прыкладзеце больш энэргіі да таго, каб зноў атрымаць гэтага чалавека. Ён нам неабходны менавіта зараз. Трэба яго выкапаць хоць з-пад зямлі. Спадзяюся на вашых дэтэктываў, майёр.

Пфэрц-Дабравольскі з аблягчэньнем ківае галавой. Шчылінкі вачэй зьнікаюць, заплываюць у складках тлушчу. Майёр Пфэрц-Дабравольскі ўсьміхаецца.

Каленбрун узьнімае бакал.

— Вашае здароўе, калега!

Цераз гранёны бок бакалу Пфэрц-Дабравольскі бачыць скарэжаны ў прызьме твар Каленбруна, які ўжо паставіў свой бакал. Бліскаюць пратэза і манокль, шчыліна роту, што ашчэрылася ва ўсьмешцы, зьліваецца з накіпам шраму. Тоўстаму майёру здаецца, што ў Каленбруна палова галавы мэталёвая, і мэталь няўдала скляпаны з сухой і жоўтай каробкай даўгога чэрапу. Каленбрун зьнікае, расплываецца ў прызьме бакалу. Таўсьцяк ставіць пусты бакал на стол. І ў гэты момант за яго плячыма бязгучны, як цень, зьяўляецца кельнэр. Шампанскае ільсьніць у бакалах, адбіваючы ў сабе ўсе колеры асьвятленьня залі.

— Вашае здароўе, майёр Каленбрун!

Некалькі хвілін абодва маўчаць нахіленыя над талеркамі. Пфэрц-Дабравольскі аглядае з укосу страшэнны твар Каленбруна.

— Мы-ж салдаты!—нарэшце кажа Каленбрун.

Пфэрц-Дабравольскі разумее. Ён адварачваецца да кельнэра.

— Каньяк, кельнэр!

І адкідваецца на сьпінку крэсла. Ён адчувае прыемную млявасьць. Бар гудзе нястройным гулам галасоў. У празрыстым дыме хістаюцца пальмы. У нішы аркестру прабуюць саксафон і ён ускрыквае савіным голасам. Пфэрц-Дабравольскі аглядае залю, бачыць, як яго пагляд ловяць афіцэры і ўсьміхаюцца гарэзьліва жанчыны. Ён здаволена адварачваецца да стала.

Зьяўляецца кельнэр.

І яшчэ цераз дзесяць хвілін расквечаная дзівоснымі агнямі заля калышыцца ў вачох Пфэрц-Дабравольскага. Нават скарэ-

жаны твар Каленбруна здаецца яму прыгожым і прыемным. Майёр Пфэрц-Дабравольскі трымае ў руце ножку гуся і размахвае ёю ў паветры, у такт аркестру, які грае пікантнае танго— „Зьвярніся зноў да мяне“.

— Кельнэр!—кажа Пфэрц Дабравольскі,—загадайце аркестру, каб адыгралі марш „Placówka ulanów“!

Кельнэр хутка зьвяртаецца і разгублена камечыць у руках сарвэтку:

— У аркестры ня маюць такіх нот, пане генэрал!

— Што-о-о-о?!..—вочы Пфэрц-Дабравольскага ў справядлівым гневе вылазяць на лоб,—што-о?!.. Вы не падрыхтаваліся да прыёму вайсковых?!

— Пане генэрал...

Коратка звоніць бакал.

— Майёр!

Пфэрц-Дабравольскі зусім блізка ад сябе бачыць зьнявечаную маску Каленбруна.

— Супакойцеся, майёр!

— Хай граюць...—не здаецца таўсьцяк,—хай граюць факстрот „Місс Эвэлін“!

— Можаце не зьвяртацца, кельнэр,—кідае ўздагон Каленбрун.

І налівае бакалы.

— За здароўе маршала, калега!

Аркестр пачынае факстрот. Пфэрц-Дабравольскі размахвае гусінай ножкай. І раптам гэтую ножку нехта вырывае з рук. Так нечакана, што майёр на працягу хвіліны недаўменна аглядае абпэцканыя ў тлушч пальцы.

— Кельнэр!—кажа Пфэрц-Дабравольскі.—Адшукаць гусіную ножку!

— Кельнэра непатрэбна,—падае рэзкі голас.—Я хачу пагутарыць з вамі калега.

Пфэрц-Дабравольскі ўзьнімае галаву і падаецца назад. На твары Каленбруна зьзяе сінімі, жоўтымі, зялёнымі вар'яцкімі агнямі пратэза вока. Гэта нязвыкла і страшна. Каленбрун усьміхаецца і блiскаюць залатыя зубы. Яго твар пабялеў і, нібы ад цяжару шраму, скрывіўся на бок.

— У мяне зараз выпаў манокль і пабіўся,—тлумачыць Каленбрун.— Цяглiцы брыва перабіты і шкелка высьлізгваецца вон. На дзень патрэбны два манокля. Не паважаю шнурка. Гэтак ходзяць салёныя шпакі. Дарэчы, ведаеце хто гэтак мяне размаляваў?

— Бальшавікі,—асьцярожна адказвае Пфэрц-Дабравольскі.

— Менавіта. Я прыняў удар на шаблю. Яна разьляцелася ў дробязь, у пыл. Нібы фарфуравы паўмісак. Страшны нечалавечы ўдар. Так можа сьцебануць шабляй сам чорт. Я памятаю гэтага кавалерыста. Пад ім дубам стаяў конь, ашчэраны, як зьвер, і гэткім-жа зьверам быў кавалерыст. Я парыраваў удар, але як бачыце...

гм... Гэтага я ніколі не забудуся. І каб не французскія хірургі, якія клеілі мне чэрап, сёньня я на вас глядзеў-бы адтуль.

Вышыты рукаў выцягваецца ўгору і палец майёра паказвае на расьпісаную столь.

Майёр Каленбрун уздыхае.

— Некалі я меў дваццаць тысяч дзесяцін зямлі ў Чарнігаўшчыне. Гняздо маіх продкаў. Блізка адтуль былі мае два цукравых заводы. Узамен гэтага я атрымаў чатыры шчыліны ў чэрапе, які трэснуў, як сьпелы гарбуз, атрымаў шрам і немагчымыя болі галавы. Да сваіх маёнткаў і заводаў я акрамя ўсяго дадаў і левае вока... Што вы кажаце, майёр?

— Кажу, што гэта вельмі няпрыемна, калега.

— Гэтае кволае слова нічога на азначае. Ні-чо-га не азначае перад тэй ненавісьцю, якую я ўзгадоўваю, выпешчваю для іх. Думаю, што хутка буду мець магчымасьць аддзякаваць. Хэ-хэ... Вы ня ведаеце майёр, што азначае „Тэорыя Каленбрун“! Хэ-хэ... Вы павінны благаслаўляць свой лёс і заўтра даць на імшу ў капліцы сьвятой Марыі за тое, што вам удалося мець справу з майёрам Каленбрун. У гісторыі гэта будзе адзначана. Хэ-хэ... „Тэорыя Каленбрун!“... Ведаеце, што майёр? Вып'ем!

Пфэрц-Дабравольскі абмякае, устанаўлівае кароткія локці таўстых рук на бераг стала і падпірае імі тупы, масыўны падбародак. Рознагалоса гудзе бар. Недалёка ад іх рассаджваецца кампанія поўп'яных маладых людзей.

Джаз стогне танго.

Каленбрун сядзіць просты, як струна, і кусае цыгару. Дым ахутвае яго дзікі твар шалёнымі агнямі шклянога вока.

— Уначы я прасынаюся, майёр,—хрыпіць ён напаўголаса.— Часамі мне здаецца, што я чую раскаты катастрофы, якая патрасае сьвет. Мне здаецца, што я чую за вакном голас азлобленых мас, якія ня ведаюць ні страху, ні літасьці. Я, майёр Каленбрун, кавалер двух ордэнаў „Wirtuti militari“, я адчуваю ў сваёй душы нізкі страх!

— Гэта нэрвы, майёр!—бурчыць таўсьцяк.

— Нэрвы?! Хэ-хэ-хэ... У мяне? Нэрвы? Мае нэрвы жалеза! Мая воля—сталь, майёр Пфэрц-Дабравольскі! Але гэта тым горш! Я магу арганізаваць удалую атаку, я магу праз цэлыя гады плесьці ніці самых складаных разьведачных апэрацый; у мяне хопіць і вытрымкі і здольнасьцяй. Але, калі я гляджу навакол сябе і бачу ворага за кожным вуглом, чую яго крокі за сваім хрыбтом, калі я разумею, што кожны завод—гэта дывізія варожых сіл, кожная вуліца—іх акоп, калі я адчуваю, што фронту няма, але, разам з тым, вораг націскае з кожным днём усё больш, што гэты вораг на зямлі, пад зямлёй, у паветры,—тады я губляюся, майёр! Не саромлюся вам аб гэтым сказаць!

Каленбрун узьнімае сухую руку і патрасае ёю ў паветры.

— Фронту няма і мы ў агні. Кляса супроць клясы, майёр Наблі́жаецца час вялікіх дрыгаў, але гэта прадбачаць толькі ня-

многія з нас. Нам патрэбна нязвыклая канцэнтрацыя сіл, надзвычайна ўмелая арганізацыя ўсіх баявых рэсурсаў і выходных вышынь надзвычайна ўмелая палітыка з масамі, на якія мы яшчэ не згубілі ўплыў! Нам патрэбна ўмелая работа ў стане нашага ворага, І нават пры гэтых умовах—перамога не забясьпечана. Іх—мільёны! Мільёны мільёнаў на ўсёй кулі зямлі... А нас—толькі дзесяткі тысяч! Няма франтоў! Мы абкружаны! Іх воля вырашыць, калі менавіта нас задушыць, сьцерці з твару зямлі... Вып'ем, майёр?

Ён прагна выпівае бакал.

Усё гэтак-жа назойна стогне джаз і бясьпечна сьмяюцца п'яныя людзі. Усё гэтак-жа ківаюць галовамі задумёныя пальмы, якія ахутаны празрыстым тытунёвым дымам. Але да п'янага мозгу Пфэрц-Дабравольскага даходзяць слабыя адценьні грозных вобразаў, якія выклікаў у гэтую раскошную залю Каленбрун.

Пфэрц-Дабравольскі сьціскае кулакі і кажа:

— Нэрвы, калега! Тэхніка вайны вырашыць барацьбу. Тэхніка ў нашых руках!

— Я ня думаю здавацца на літасьць пераможцаў,—адказвае Каленбрун. Я буду, як тыгра, змагацца з ворагам сваім. Я гавару аб канцэнтрацыі сродкаў барацьбы значна ў большых памерах, чым вы гэта можаце, калега, выбачайце, зразумець. Тэхніка — адносная справа! Авіё і артылерыя, газы і агнямёты—патрабуюць людзей! Людзям ня нашай клясы нельга верыць, майёр! І я часта думаю аб тым, колькі-б я даў на тое, каб былі вынайдзены і дзейнічалі звышмагутныя агнямёты, марсіянскія цеплавыя праменьні, машыны, якімі дзесятак людзей мог-бы зьнішчыць мільёны... Колькі-б я даў за тое, каб бачыць, як гарань у моры агню гэтыя стотысячныя масы, як яны курчацца ў агні, як смуродзіць іх мяса, каб убачыць як вее вецер іх попел па нашых палёх, па нашай зямлі!

Каленбрун задыхаецца і прыўстае з месца. Па стале коціцца бутэлька і разьбіваецца аб паручань крэсла. На белым твары Каленбруна выпінаецца наліты крывёй сіні шрам.

— І яшчэ мяне наведваюць вобразы,—задушана хрыпіць ён,— Як сотні і тысячы тысяч душаць гіганцкія машыны, як пад іх гусеніцамі, пад іх жалезнай нагой гінуць яны, як клапы, лопаецца мяса, плыве рэчкамі праклятая, чырвоная кроў... І тады я адчуваю майёр, як заходзіцца маё сэрца смагай, прагнасьцю бою! Ненавісьць мая сьвятая! Гэта кроў маіх продкаў гаворыць у жылах маіх!

— Нэрвы, майёр! Супакойцеся, прашу вас...

— Магчыма гэта і нэрвы, як вы кажэце... Але толькі такая звыш-чалавечая тэхніка, і толькі такая ненавісьць, і толькі такая клясавая дысцыпліна можа стрымаць іх наступ. Але тэхнікі такой няма. Мы можам страляць з гармат, бамбардаваць, касіць з кулямётаў, труціць газамі, усё гэта выпрабаваныя сродкі, але для выкарыстаньня гэтых сродкаў павінны быць выканаўцы.

людзі! Вось на гэтых людзей нам і цяжка разьлічваць, майер... У іх будуць людзі, якія павінны былі-б быць у нас. Яны сёньня яшчэ носяць нашу зброю, падпарадкуюцца нашым загадам, але гісторыя ведае прыклады, калі наша зброя скарыстоўвалася супроць нас! Кляса супроць клясы, майёр! Надыходзіць катастрофа!

Каленбрун садзіцца ў крэсла і сьціскае галаву рукамі.

— І самае галоўнае ў тым, што я прадбачу гэтую катастрофу і ня бачу сродкаў яе адвесьці. Але Каленбрун будзе змагацца! Будзе змагацца Каленбрун!!!

У гэты час загасаюць ліхтары і сінія ўспыхваюць агні, замаскаваныя ў сьценах.

— „Focstrott“...—разьлягаецца голас,—Lady and lady! Gentleman and gentleman!“...

Завывае джаз. У сінім, змрочным сьвятле пачынаюць выгінацца пары. Мужчына танцуе з мужчынам, жанчына з жанчынай. Гэткі „тон“ бару-дансінгу „Томмі“. Пачынаецца „ажыўленьне“.

— Супакойцеся, майёр,—нясьмела шэпча Пфэрц-Дабравольскі.—Гэта дае сябе чуць вашая рана. Супакойцеся, скаштуйце вось гэтага.. Яно ацьвярожвае.,. Вынаходства гаспадара бару манапольна... Скаштуйце, вы на мяне нагналі страху.

Каленбрун выпростваецца. Злосная ўсьмешка рашчэплівае твар.

— Вам страшна? Вы толькі цяпер глянулі наперад? Вы толькі цяпер падумалі аб дні, што прыдзе заўтра?!

Пфэрц-Дабравольскі маўчыць. Вые джаз. У сінім тумане выгінаюцца пары.

— Вам страшна, майёр?

Пратэза вока блішчыць сінім агнём, мёртвым і злавесным.

— Патрэбна вялікая актыўнасьць, вялікая мабілізацыя сіл. А ў нас гэтую актыўнасьць разлагае ведаеце хто? Канкурэнцыя! Вось і ўсё... і чым далей, тым глыбей і больш. За вынікі я не адказваю. Майёр Каленбрун добра адыграе сваю ролю і з гонарам зыйдзе са сцэны. З го-на-рам!!!

Цераз некалькі хвілін успыхвае сьвятло. Людзі рассаджваюцца за сталы.

— Будуць танцаваць у чырвоным сьвятле,—кажа Каленбрун.— А потым зусім без сьвятла. І тады ўжо „Lady and gentleman“, І зноў: сіняе, чырвонае і жоўтае сьвятло. І факстрот. Ангельскі мэтад...

Каленбрун голасна лаецца. За бліжэйшымі столікамі азіраюцца на іх.

— Дванаццатая гадзіна,—кажа Каленбрун.—Едзем, майёр. Кельнэр! Запісаць на мяне.

У праходзе паміж столікамі ім дарогу заступае кароценькі чалавек у фраку і цыліндры, які ледзь трымаецца на патыліцы. Ён узьнімае бакал і пішчыць:

— Прапаную піць за здароўе паноў майёраў, прадстаўнікоў высокага камандваньня нашых баявых легіёнаў. Мы маем вялікі гонар бачыць сёньня паноў майёраў у сваім коле, радуемся гэтаму, як і належыць шчырым патрыётам, і вітаем паноў майёраў ад чыстага сэрца. Вашае здароўе, панове!

Навокал эфэктна бразгаюць шпоры афіцэраў. Зьвіняць бакалы. Каленбрун суха нахіляе галаву. Пфэрц-Дабравольскі кланяецца, шырока расставіўшы кароткія ногі.

У вэстыбюлі Каленбрун кажа таўсьцяку:

— Скурай пагрозу адчуваюць! Чапляюцца за нас! Што-ж, мы будзем змагацца! Хай будзе па калена крыві!

— Нэрвы, майёр! —бурчыць Пфэрц-Дабравольскі.

Залітая агнямі вуліца топіць у бляску электрычнасьці ціхую вясеньнюю ноч, што плыве над горадам. Супроць пад'езду бару, паблісквае лакам вараны „Лінкольн".

Шофэр адчыняе дзьверцы.

— Праехаць маім маршрутам за горад, —кажа Каленбрун, падтрымліваючы пад локаць Пфэрц-Дабравольскага. —І роўна а палове першай у штаб!

Доўгая, нізкая машына бясшумна ляціць па ільсьняным асфальце вуліцы, асьляпляючы сустрэчныя машыны сьвятлом сваіх фар. Паліцыянты казыраюць флюгеру з адмысловым вэнзэлем на радыятары машыны.

Сэржант Дроб закончыў развод. З усяго нараду, што падпарадкаваны сэржанту, застаўся адзін салдат. Ён заняў пост на пляцоўцы апошняга паверху, перад дзьвярыма, на якіх прыбіта мядзяная лацінская лічба.

Сэржант паглядзеў уніз, у пралёт усходаў. Потым адчыніў дзьверы з лічбай. Там быў доўгі калідор з маўклівай шарэнгай зачыненых дзьвярэй. У гэтым калідоры варта не прадугледжвалася. Ён павінен быў ахоўваць толькі ўваход ў калідор.

Сэржант паглядзеў на гадзіньнік. Было дваццаць пяць хвілін на першую. Рабіць пакуль што ня было чаго. Ён увайшоў у калідор і пайшоў па гулкім паркеце. Дзьверы былі зачынены. Сэржант дайшоў да канца калідору і завярнуўся для таго, каб ісьці назад. І тут убачыў, што дзьверы аднаго з габінэтаў былі толькі прычынены. У малочнае сьвятло лямп у калідоры, цераз шчыліну дзьвярэй ледзь прыкметная ўкліньвалася пасма зялёнага сьвятла.

Сэржант асьцярожна зазірнуў у габінэт. Ён быў пусты. На вялізным стале, што стаяў у цэнтры пакою, адзінока сьвяціла лямпа пад зялёным абажурам. На стале было пісьмовае прыладзьдзе і ценька стрыкаў гадзіньнік, што быў устаўлены ў масыўны, ніколі нябачанай сэржантам канструкцыі, тэлефонны апарат. У глыбі пакою шчыльная стаяла засень і цераз яе нявыразным, сьветла-сінім колерам прасьвечвала супроцьлеглая глухая сьцяна.

Нейкі зімны, загадкавы бляск вылучала з сябе сьцяна і гэты бляск цьмяны, амаль няпрыкметны, пранікаў цераз афарбаваны абажурам паўзмрок габінэту і вабіў вока сваімі ценькімі, ледзь прыкметнымі праменьнямі затуманенага крышталю. Здавалася, камлыга ільду стаіць у засені габінэту і час ад часу ўспыхвае, іскрыць і гасьне на ёй невядомае сьвятло.

— Паміж іншым, цікава,—падумаў сэржант.—Паглядзець, ці што?—І ён увайшоў у габінэт.

„Лінкольн“ прашурхаў шынамі па гравію прысад, асьвятліў на завароце стракатую будку і вартавога пры ёй і праз момант спыніўся перад пад‘ездам. Шофэр выскачыў і адчыніў дзьверцы. Ён выцягнуўся ў струну. Вартавыя ў пад‘езьдзе замерлі, гледзячы проста перад сабой, у адну кропку, і стаялі нярухомыя, як статуі.

З аўто вышлі двое. Шпоры зазьвінелі на ўсходах. Усюды па іх шляху выцягваліся ў струнку вартавыя. Зацінаючы дыханьне, праводзілі іх вачыма.

Калі ўгары замёр звон шпор, вартавы ў вэстыбюлі нахіліўся над вухам свайго таварыша і сказаў:

— Гэты кароткі і таўсты, як крываная кілбаса—з дэфэнзывы. Хлопцы казалі, зьвер. Уласнаручна скуру з жывога чалавека можа зьняць. А гэты аднавокі, з гумулястаым чэрапам—адгэтуль. Майёр разьведкі. Крывамордая сука і апошняя ў сьвеце сволач.

— Цішэй!—адказаў другі.—Ты тут цішэй, брат... У самой іх пашчы сядзіш! Глынуць—і ўсё.

І вартавыя распачалі сваю хаду. Узад і ўперад—узад і ўперад.

Тое, што загадкава паблісквала ў засені габінэту, аказалася сталёвымі сэйфамі. Яны займалі ўсю сьцяну, амаль не да сталяваньня і былі распалажаны рысункам шахматнай дошкі. Сэржант заклаў рукі за сьпіну і агледзеў шэрагі сэйфаў.

Яны хавалі таямніцы штабу. Мёртвая, магутная сталь апранала хрусткія паперкі плянаў, фатаграфій, шыфраў, дакумантаў украдзеных і падробленых, дакумантаў, на якіх скрыжоўваюцца ніці закулісных міжнародных інтрыг, дакумантаў, кошт якім—кроў. Аб гэтым сэржант мог толькі здагадвацца.

Варожа глядзелі на яго адмысловыя, складаныя замкі. Зімна паблісквала сталь...

— Пікантна,—падумаў сэржант.—І пры гэтым—не зачыняюць дзьвярэй!—Ён адвярнуўся ад сэйфаў, намерваючыся выйсьці з габінэту. І... хуткія крокі і звон шпор разьлегліся ў калідоры.

Момант... Адзін толькі момант затрымаўся ў ваганьні сэржант і за гэты час ацаніў усю небясьпеку спатканьня на парозе габінэту. У некалькі крокаў ён дасягнуў цёмнага куту. І ў гэтую-ж хвіліну белая пальчатка лягла на ручку дзьвярэй.

— О-о-о!—разьлёгся іржавы, скрыпучы голас.—Дзіўна! Адчынены габінэт. Гм! Дзіўна... Прашу, калега Пфэрц-Дабравольскі, сядайце. Дзіўна! Гм! Я не зачыніў дзьвярэй!

— Няма чаго непакоіцца, майёр,—сказаў Пфэрц-Дабравольскі.—Варта!

— Не, не! Не заспакойвайце мяне! Прашу сядаць, майёр!

Пфэрц-Дабравольскі грузна сеў у крэсла. Каленбрун нэрвова прабег паўз сталёвую сьцяну, аглядаючы замкі сэйфаў. Усё было ў парадку. Па дарозе ён зазірнуў за шырму ў дальнім куце габінэту і вярнуўся да стала. Пфэрц-Дабравольскі сцызорыкам адчыняў скрынку з цыгарамі. У яго быў зусім спакойны выгляд, і, наглядаючы за тым, як тоўстыя пальцы майёра намагаюцца пралезьці ў вузкую шчылінку, пад пругкі лісток фанэры, Каленбрун адчуў, як звыклая роўнавага прыходзіць зноў да яго.

— Шчасьліва!—сказаў ён.—Гэта папросту шчасьлівы выпадак. У другі раз падобная няўважлівасьць можа дорага каштаваць.

— У чым-жа справа, майёр?—сказаў Пфэрц-Дабравольскі.—Я-ж вам казаў. Ёсьць-жа варта. Інструкцыі таксама ёсьць.

Каленбрун засьмяяўся.

— Я лепш буду разьлічваць на добры японскі замок, майёр.

І як-бы жадаючы падкрэсьліць тое, што сказаў, падышоў да дзьвярэй і моцна грукнуў імі. Звонка шчоўкнуў замок.

— Чулі? Аўтамат. Можна адчыніць альбо ключом, альбо... пальцам. Больш сродкаў няма, за выключэньнем, зразумела, піраксыліну.

— Пальцам? Вы жартуеце, калега!

— Альбо ключом. Альбо піраксылінам. Справа ў тым, што мне патрэбна выпрацаваць звычку шчыльна зачыняць дзьверы. Вам падабаюцца цыгары, майёр?

Ценькім пружынным уздыхам азвалася другое крэсла. Каленбрун сеў:

Некалькі хвілін абодва маўчалі. Стрыкаў гадзіньнік на стале.

— Ну, майёр,—азваўся Каленбрун.—Цяпер прыступім да справы. Містыкай больш мы займацца ня будзем. Паездка ахаладзіла мозг. Перш за ўсё аб гэтым... аб гэтым... Крамарчыку, ці што?!

— Так,—нездаволена адказаў Пфэрц-Дабравольскі.

— Як гэта здарылася?

Пфэрц-Дабравольскаму ў тоне Каленбруна здалася насьмешка.

— Гэта здарылася таму, калега,—сказаў ён зазлавана,—таму, што вы не паклапаціліся арыентаваць мяне аб далейшым. Вы хацелі мець камуніста—я зрабіў вам такую паслугу. Мае дэтэктывы адшукалі вам патрэбную асобу. Але, што далей—для мяне невядома. Я не магу паручыцца за чалавека, які знаходзіцца доўга пад наглядам. Звычайна ён зьнікае, як толькі што нібы падазронае навокал сябе заўважыць. А тут, за такі час, ён мог пералічыць па пальцах усіх маіх малайцоў, і калі-б яму было цікава—запасьціся на ўспамін іх фотакарткамі. Глупства. З-за гэтага аднаго чалавека мы правалілі значную справу. Важную справу правалілі, майёр Каленбрун!

— Вы больш падрабязна, калі ласка.

— Крамарчык быў адным з арганізатараў забастоўкі на „Нэптуне". Мы яго не ізалявалі толькі таму, што вы мяне трымалі за рукаў. У чым справа! Вам патрэбны гэты лайдак? Бярэце яго і вешайце на першай асіне! Вы гэтага не зрабілі самі і пры тым мяне трымалі за рукаў. Час ішоў. У мяне ў руках была цэлая група. Заводакіраўніцтва папярэдзіла мяне аб тым, што чакаць далей нельга і прадставіла сьпіс. Там прозьвішча Крамарчыка было на першым месцы. Потым—шмат іншых.

— Былі прозьвішчы Турчын, Гагай?

— Здаецца, былі.

— Ха-ха-ха!

— Чаму вы сьмяецеся, майёр! Тут не да сьмеху. Я абмеркаваў усё і ўжо адчуваў, што позна. Сапраўды позна. Я аддаў загад арыштаваць усіх па сьпісе і ў тым ліку вашага. Нават, у першую чаргу! З усімі перасьцярогамі!

— Каб вы арыштавалі Турчына і Крамарчыка разам— вы зрабілі-б як раз тое, што патрэбна рабіць і зараз.

— Я ўжо рабіў на свой погляд,—зазлавана адказаў таўсьцяк.— Але... было ўжо позна. Нашыя агенты, якія былі накіраваны на завод, нічога ня здолелі зрабіць. Распачалася забастоўка. Грандыёзны мітынг. Частка нашых агентаў паўцякала праз форткі. Адна група ўступіла ў бойку, і менавіта з-за вашага праклятага Крамарчыка, якога яны абмацалі. Панесьлі страты. Адзін забіты.

— Шкода!

— Памоцнік кіраўніка заводу таксама застаўся ляжаць на месцы. Такі быў энэргічны малады чалавек. Нам часта аказваў паслугі. Галоўны кіраўнік, чалавек масыўнай камплекцыі—памёр ад удару. Сарвалі вайсковы заказ з заводу. Дэманстрацыя і ў сувязі з гэтым—непарадкі ў горадзе, цэлых два дні ўсё дагары дном. От, майёр, які правал!

— Хіба вы не зрабілі арыштаў?

— Некалькі нязначных. Па сьпісе заводакіраўніцтва. Асноўныя ўсе зьніклі.

— А чаму вы дапусьцілі да дэманстрацыі?

— Гэта ўжо справа рук камэнданта. Гэты трус і бабнік паслаў туды два ўзводы з сэржантам. Уявеце, без афіцэра! Інструкцый ён яму, як выявіла расьсьледваньне, амаль ніякіх ня даў. Той пакруціўся на заводзе, сьлепа трымаючыся камэнданцкіх загадаў. А камэндант—трус. У выніку—сэржант адвёў атрад у казарму. Нарад паліцыі ня здолелі ўзмацніць. У выніку—паліцэйскі патруль раскідалі ад варот, натоўп вываліў на вуліцу, і тады ўжо, пане мой, паспрабуйце стрымаць!

Пфэрц-Дабравольскі змоўк. Каленбрун запаліў цыгару.

— Але, мяне усё-ткі цікавяць двое,—сказаў ён,—Крамарчык і Турчын.—Таўсьцяк штурхнуў ад сябе скрынку з цыгарамі.

— Я ўяўляю сабе, якія будуць вынікі з двух. З аднога мы ўжо бачылі.

Каленбрун адчыніў скрынку стала, выняў з яе манокль і ўставіў у яміну вока. Зялёны бляск пратэзы загаснуў. Каленбрун ветліва ўсьміхнуўся.

— Дрэнна, калі чалавек ня ведае. Я зараз перадам вам тое, на што намякаў за вячэрай. Вы будзеце ведаць аб тым, што называецца „Тэорыяй Каленбрун". І тады вам будзе зразумела, чаму нельга было дагэтуль арыштоўваць Крамарчыка і чаму яго трэба арыштаваць абавязкова з Турчыным. Тое, што на „Нэптуне" вынікла забастоўка, якая пацягнула за сабой некаторыя ахвяры, нягледзячы ні на што—зьяўляецца каштоўнай дэтальлю да майго пляну. Чым больш можна будзе прад'явіць да Крамарчыка і Турчына абвінавачваньняў у антыдзяржаўнай дзейнасьці—тым больш гэта забясьпечвае посьпех „Тэорыі Каленбрун". Нам патрэбна як мага больш шуму навокал гэтых імён. Вам не зразумела?

— Не магу пахваліцца, — нездаволена прабурчэў Пфэрц-Дабравольскі. Каленбрун адкінуўся на сьпінку крэсла.

— Пачнем здалёк, калега. Я вам гавару аб канцэнтрацыі сіл. Гэтае ўяўленьне перарастае рамкі аднае краіны. Яно павінна перарасьці разуменьні нацый, рэлігій, маралі. Яно павінна аб'яднаць увесь культурны сьвет супроць чырвонай здані бальшавізму. І гэта ня толькі здань. Там...

Каленбрун паказаў некуды ў кут габінэту:

— Там, ляжыць краіна. Вялізарнейшы цыклёп. Супроць яе павінны канцэнтравацца нашы сілы. І вось, майер...

Каленбрун нахіліўся над сталом.

— І вось, майер.. Для таго, каб вялікія словы не засталіся без пацьвярджэньня справай—мы з вамі выступаем зараз, захоўваючы прынцып канцэнтрацыі.

— М-мы???

— Вы зьдзіўлены? Так, мы! Маштаб выступленьня хаця і не ўсясьветны, аднак вынікі... вынікі, майер... Хто ведае... Вынікі паводле пляну павінны быць гістарычнымі. Трэба навучыцца з-за малога бачыць вялікае. Ітак аб прынцыпе канцэнтрацыі зноў. Тут таксама на першы погляд нязначны маштаб. Але мы ня будзем паўтараць сумнага вопыту былой Расіі, дзе гафтаваныя генштабісты звысоку паглядалі на „блакітныя мундзіры" і „гарохавыя паліто". Узаемнае супрацоўніцтва паміж разьведкай і дэфэнзывай, брацкае супрацоўніцтва двух родаў аднае зброі—дасьць пажаданы нам вынік Гэта ў даным выпадку і будзе канцэнтрацыяй нашых сіл. Вам і зараз не зразумела?

— Н ня маю гонару.

— А цяпер аб маёй тэорыі. Гэта кароткая, салдацкая тэорыя. Наступаць так, каб вораг лічыў, што ты адступаеш. Усё. Цяпер усё. Я вам бясспрэчна давяраю, майер!

Таўсьцяк нахіліў галаву.

— Адно пытаньне. Вы ўпэўнены, што гэты... Крамарчык будзе ў вашых руках?

— Справа трох дзён,—з гатоўнасьцю адказаў Пфэрц-Дабравольскі.

— Добра. Калі вы будзеце ведаць аб усім, што я маю вам перадаць, я думаю, вы прымеце ўсе захады да таго, каб гэты чалавек зноў апынуўся ў нашых руках.

— Спадзяюся, пане майёр.

Каленбрун пасунуўся са сваім крэслам бліжэй. Цяпер ён сядзеў якраз насупроць Пфэрц-Дабравольскага, і яго дробная худая постаць здавалася дзіцячай у параўнаньні з таўшчэразным тулавам Пфэрц-Дабравольскага, чэрава якога выпірала гарой. Зьнявечаная маска Каленбруна ашчэрылася ўсьмешкай. Ён аглядаў габінэт адзіным сваім вокам, нешта абмяркоўваючы. Потым выняў манокль і паклаў яго на стол. Пратэза ўспыхнула зялёным агнём. Каленбрун пачаў гаварыць.

Утульны паўзмрок сустойваўся ў абшырным габінэце. Стаяла спакойная ціш. Стрыкаў гадзіньнік і голас Каленбруна, які быў паніжаны да шэпту—нагадваў спакойную, сямейную гутарку ў позьні вечар.

Але ў маленькіх вочках таўсьцяка ўспыхнула зацікаўленасьць. Ён варухнуўся ў крэсьле і адклаў цыгару проста на бераг стала. Потым пачаў павольна нахіляцца да Каленбруна. Усё бліжэй і бліжэй сыходзіліся іх твары. Шырокі, адкормлены твар, які ільсьніў тлушчам і кроплямі поту, амаль не датыкаўся сухой маскі скарэжнага чалавечага чэрапу. Едкі, хрыпаты, прыдушаны голас Каленбруна працягваў апавядаць. І здавалася, што разяўлены зьдзіўленьнем рот таўсьцяка імкнецца глынаць адно за другім картавыя і сухія, як кавалачкі касьцей, словы.

У зялёным паўзмроку габінэту нараджаўся ценькі, прадуманы ў драбнейшых сваіх дэталях, плян. Адна за аднэй цяклі хвіліны, сьцякаліся ў дзесяткі, і вось ужо кропля гадзіны дрыжыць на кончыку стрэлкі. Каленбрун працягваў разьвінаць плян. Кропля сарвалася. Гадзіньнік празваніў два разы.

Каленбрун гаварыў. А супроць яго нярухомы, як мангольскі бажок, сядзеў таўсьцяк са складзенымі на круглым жываце рукамі.

Каленбрун скончыў нечакана аднэй фразай. — Атрымоўвае стрэл у патыліцу—і адкінуўся ўглыб крэсла.

— Вашы пытаньні, майёр?

— Значыць, прыгавор будзе прыведзен у выкананьне?

— Ніводны са здраднікаў сваёй краіны не павінен пазьбегнуць кары.

— Так. А хто такі Рыдэль, майёр?

— Паручнік Рыдэль? Гэта—унікум. Англа-француская школа! Адвага, пільнасьць, энэргія, вынасьлівасьць, вытрымка—вось што прадстаўляе з сябе паручнік Рыдэль. І галоўнае—фанатычны патрыётызм. Полымя нянавісьці да ворагаў сваёй нацыі! Я вас пазнаёмлю з паручнікам Рыдэль, калега.

— Вельмі ўдзячны. Больш пытаньняў я ня маю, майёр Каленбрун.—Пфэрц-Дабравольскі абцёр хустачкай пот на ружовай лысіне.—Дазвольце вам сказаць, майёр, што я ніколі не ўяўляў сабе нічога падобнага да гэтага. І сапраўды, забастоўка на „Нэптуне" не здаецца ўжо гэткім няшчасьцем.

— Усё залежыць ад таго, як паставіць справу.

— Гэта геніяльна, майёр Каленбрун!

— Хэ-хэ-хэ!

— Гэта найвялікшая і вытрыманая стратэгія!

— Хэ-хэ-хэ.

— Вы...

— Пакіньце, калега. Я толькі работнік разьведкі, майёр Каленбрун.

Самаздаволеныя, сытыя людзі за сталом сьмяяліся і абменьваліся камплімэнтамі. Яны былі здаволены тым, што прайшло зараз тут, у габінэце, на працягу цэлай гадзіны. Плян наглай і пачварнай правакацыі адпавядаў іх імкненьням, і адзін з гэтых людзей быў аўтарам гэтага пляну. Яны зараз абгаварвалі яго дэталі, уносілі новыя варыянты, зьменьвалі старыя і зноў іх устанаўлівалі ў мэтах найбольшага ўдасканаленьня пляну, дасягненьня найбольшай яго эфэктыўнасьці і зьнішчэньня, абсалютнага зьнішчэньня зрываў. Плян у тэорыі ня меў памылак.

У гэты момант за шырмай, дзе дыхала гарачынёй батарэя цэнтральнага ацяпленьня, чалавек вырашаў цяжкое пытаньне. Сэржант Дроб яшчэ бачыў у зялёным змроку габінэту шчупальцы аднавокага спрута. Паўзьлі гэтыя гнуткія шчупальцы, абмацвалі людзей, прысмокталіся да іх, і хутка яны выцягнуцца, выпрастаюцца, перакруцяць, перамяшаюць усё ў патрэбным Каленбруну парадку і пацягнуцца павольна і ўпэўнена туды, дзе лягла асноўная мэта пляну.

— Выхаду няма,—думаў Дроб.—Адгэтуль толькі адзін выхад—на парапэт цытадэлі з завязанымі вачыма. Яны замкнуць габінэт. Я гэтага не дапушчу. Я ня дам жыць гэтаму пляну... Я задушу гэтую правакацыю...

Апаляючым было дыханьне батарэі. Душнай была атмасфэра габінэту, насычаная дурманам цыгар. Кроў шумела ў вушшу, вялікае хваляваньне заціснула дыханьне сэржанту Дробу. Ён стараўся быць спакойным; абмацваючы кабуру.

— Іншага выхаду няма!

У гэтую хвіліну Каленбрун, праціраючы шкелка манаклю гаварыў са здаволенай усьмешкай.

— Як бачыце, мая тэорыя знайшла сабе прымяненьне?

— О, так!

— Таму, мы і надамо гэтай апэрацыі дэвіз: „Тэорыя Каленбрун".

— Гэта ганаровы дэвіз, майёр!

— Хэ-хэ-хэ! А паміж іншым, мне некалі адмаўлялі ў прызнаньні маіх здольнасьцяй. У прыватнасьці—прыпамінаю такі факт. Калі пачалося з берагоў Беразіны вялікае адступленьне, я прапанаваў

штабу плян контр-наступу. Я тады камандваў палком. Тупагаловыя „стратэгі“ нават і ня прынялі да абгаварэньня мой плян. А ён, паміж іншым забясьпечваў посьпех. І вось—прыйшоў той дзень, калі перадавыя атрады бальшавіцкай коньніцы дасяглі прыгарадных паркаў сталіцы. Была шалёная паніка. За бясцэнак прадаваліся маёнткі. Акцыі ператварыліся ў клёзэтныя паперкі, месца ў купэ цягніку на мяжу—было адзіным ратункам. Галота павылазіла тады з сваіх нор для таго, каб з хлебам і сольлю сустрэць бальшавікоў. Маршал зьняў з сябе камандваньне і, грукнуўшы дзьвярыма, накіраваўся да сябе ў габінэт, для таго, паміж намі кажучы, каб пераапрануць маршальскія нагавіцы на порткі былога аўстрыйскага ваеннапалоннага. Хэ-хэ-хэ... Адбылося пасяджэньне штабу. І тады „стратэгі“—успомнілі пра палкоўніка Каленбрун.

— І вы...

— А я ляжаў у гэты час з рашчэпленым чэрапам. І каб ня гэта—я паспрачаўся-б яшчэ з гэтым надзьмутым француcкім пеўнем—Вэйганам! Я-б яшчэ паспробваў яго зброю на полі апэрацыйнай карты!

— Не сумняваюся, што...

— Але гэта ўжо паміж іншым. Гэта ўжо гісторыя. Але мы з вамі ўсе-ткі дакажам, майёр, малойчыкам, што паначэплівалі генэральскія эпалеты, што яны супроць нас, вэтэранаў, нічога ня варты. У той час, калі стары Каленбрун адступаў у глыб краіны, абліваючыся крывёй, абараняўся ад цэлай дывізыі будзёнаўскіх д'яблаў—яны,—ня ўсе праўда, але многія з іх,—швэндаліся, трымаючыся за спадніцы жонак высокапастаўленых асоб, па тылавых шпіталях і інтэнданцтвах. Мы з імі яшчэ пагутарым у свой час!

Каленбрун устаў.

— Дзесяць хвілін на трэцюю. Пара было-б нам і адпачыць, майёр!

Цяжка апіраючыся на поручні крэсла ўзьняўся і Пфэрц-Дабравольскі.

— Можна паручыцца, майёр, што за тры дні вы арыштуеце гэтага бальшавіка?

— Бясспрэчна,—упэўнена адказаў таўсьцяк.—Меры прыняты. У Пфэрц-Дабравольскага з лап ня надта лёгка выкруціцца. Гы-гы гы!

Чэрава майёра закалыхалася.

Яны стаялі каля стала адзін супроць другога, і твары іх зьнікалі ў паўзмроку, што паслаўся паверх абажуру. Пазумэнты на мундырах ясна ільсьнілі ў сьвятле лямпы. І з левага боку грудзей кожнага паблісквала белая эмаль ордэнаў. І ніхто з гэтых самаўпэуненых людзей ня ведаў, што на белы бляск эмалі нацэльваецца сьмерць.

Набягалі апошнія хвіліны...

І нечакана і проста, сам ня ведаючы гэтага, удар адвёў Пфэрц-Дабравольскі. Спакойна нацягваючы пальчаткі, ён сказаў.

— А цяпер прадэманструйце, калега, ваш замок. Палец і піраксылін... Гы-гы-гы! мне гэта падабаецца. І наогул, усё тут у вас—арыгінальна. Палец і піраксылін!

(Ствол рэвальвэру адхіліўся ад папярэдняй кропкі прыцэлу).

— Нічога дзіўнага,—адказаў Каленбрун.—Замок бяз ключа можна адчыніць толькі знутры. Знадворку—толькі ключ, альбо, менавіта хэмія. Хадзеце сюды. Вось, бачыце гэтую кнопку? От і ўсё!

Шчоўкнуў замок.

(Ствол рэвальвэру апусьціўся).

— Калі ласка, майёр. Прашу!

Груканулі дзьверы. І зноў азваўся замок. Габінэт быў пусты. Сьвяціла адзінокая лямпа. І навокал яе—сінімі смугамі пацягваўся тытунёвы дым.

Крокі замерлі ў калідоры. Глуха груканулі дзьверы.

І тады, з-за шырмы, што стаяла ў дальнім куце габінэту, выйшла высокая постаць. Сэржант Дроб падыйшоў да стала і павольна апусьціўся ў крэсла. У яго быў бледны твар. На шчоках рухаліся жаўлакі. У вачох жыў нездаровы, неспакойны бляск. Сэржант трымаў у руцэ рэвальвэр і некалькі часу глядзеў проста перад сабой, у адну кропку. Потым перавёў погляд на дзьверы. На белым тле выразалася жоўтае, мядзянае колца замку. І з боку гэтага колца—ледзь прыкметная паблесквала кнопка.

На змучаным твары сэржанта зьявілася ўсьмешка.

— Палец і піраксылін! Анэкдот! Вашае шчасьце, пане аэрастат, што гэты замок адчыняецца пальцамі!

Сэржант усадзіў рэвальвэр у кабуру, старэнна яе зашпіліў і аправіў шынэль. Потым падыйшоў да дзьвярэй. Шчоўкнуў аўтамат.

Цяпер габінэт быў зусім пусты.

У пад'езьдзе сэржант спыніўся перад адчыненым вакном. Па пляцоўцы за яго плячыма ўзад і ўперад хадзілі вартавыя. За вакном драмала ціхая ноч. Чорная, мяккая цемра, настолькі густая, што, здавалася, можна было яе абмацаць, ляжала ў парку.

Дроб глыбока ўдыхнуў у сябе зімнае, начное паветра. Спакойная і густая цемра, лагодная ціша ночы былі самым выразным і прыемным адчуваньнем жыцьця, да якога зноў вярнуўся Дроб. Ня было тэй нэрвовай паралізаванасьці, глыбокай і бездапаможнай тугі, якую ён перажыў за шырмай габінэту ў прадчуваньні дармовай і непатрэбнай пагібелі чалавека, які выпадкова пхнуў прычыненыя дзьверы і апынуўся ў сакрэтным габінэце.

І той рашучы гнеў, які пацягнуў за сабой беззваротнае рашэньне коштам жыцьця трох чалавек ліквідаваць плян пачварнай правакацыі, тое ні з чым непараўнанае пачуцьцё, якое прымусіла яго ўзяць на прыцэл эмалевы крыжык на шырокіх грудзёх з тым,

каб потым выстраліць сабе ў вісок—гэты гнеў і гэтая цьвёрдая рашучасьць, якая стлуміла самае вострае пачуцьцё ў істоце чалавека—інстынкт самаабароны, таксама зьніклі. Гэта цяпер было непатрэбным. Выкрыты сакрэт замка зрабіў гэтую меру лішняй.

Магчыма шляхі, якімі давядзецца Дробу ліквідаваць плян, пацягнуць за сабой яшчэ больш сур'ёзныя ахвяры, чым яго ўласнае жыцьцё і жыцьцё двух паразытаў; аднак, ён рады тым, што глядзіць зараз у чорныя начныя прасторы, што зімнае, бадзёрае начное паветра казыча горла і лагодзіць твар. Ён рады тым, што застаўся жыць. Якое шчасьце—жыць! І падвойнае шчасьце—жыць і змагацца! Дагэтуль ён толькі жыў. А цяпер ён будзе і змагацца, і жыць. Гэта азначае больш, чым проста жыцьцё. І першай задачай у яго барацьбе зьяўляецца—перашкодзіць аргаразьвіцьцю пляну Каленбруна. Ён зьвяжацца з падпольнай арганізацыяй камуністычнай партыі. Ён знойдзе спосаб папярэдзіць Крамарчыка. Калі будзе патрэбна—ён возьме на сябе ўсю цяжкасьць гэтай задачы. Гэта-ж ён, сэржант Дроб, узяў на сябе ўсю рызыкоўнасьць адводу атраду з заводу „Нэптун“. Гэта ён даў магчымасьць вырвацца на вуліцу тысячам абураных рабочых! Гэта ён зрабіў, падпарадкаваны таму ўнутранаму штуршку, які вынік з далёкага вобразу забітага бацькі. Гэты штуршок—ёсьць магутны клясавы інстынкт. Цяпер будзе змагацца сэржант Дроб!

А што, калі яму не паверыць гэты суровы Крамарчык? Тады ён яму раскажа аб усім сваім жыцьці. Раскажа, як ён блукаў з хворай маткай па дарогах, разбураных вайной, па палёх зьнявечаных знарадамі, блукаў ад вёскі да вёскі днямі і тыднямі, галодны і босы, не азіраючыся на пакінуты горад. Ён раскажа Крамарчыку аб тых невядомых магілках, дзе засыпалі зямлёй яго матку, і раскажа аб тых батрацкіх сямі гадох, якія ён правёў на ксяндзоўскім фальварку. Аб тым, які горкі быў хлеб яго дзяцінства, аб тым, якімі былі балючымі пабоі.

І яшчэ раскажа Дроб таварышу Крымарчыку аб тым, як прыйшоў і стаў на запасных шляхох вакзалу гэтага гораду таварны цягнік, і бяспрытульны чатырнаццацігадовы Стась саскочыў з тармазной пляцоўкі аднаго з вагонаў. І аб усіх днёх і справах сваіх раскажа партыі сын пралетарыя Лукаша Дроба для таго, каб партыя паверыла яму. Але ён пачуе адказ: тое самае, што ўжо сказаў яму Крымарчык на заводзкім двары:

„Цяжка верыць слову чалавека, які мяркуе начапіць афіцэрскія наплечнікі“.

Тады зноў будзе гаварыць Дроб. Будзе гаварыць горача і ўпэўнваючы. Ён раскажа аб тым, як з бяспрытульных нізоў выбіўся ён у шэрагі тэхнічнага студэнцтва. Як батрак з ксяндзоўскага фальварку аўладаў вышэйшай навукай сучаснасьці.

— Гэтага мала, Дроб. Гэтага мала для партыі.

І тады ён раскажа аб сваёй жыцьцёвай памылцы. Аб тым, як марыў ён наконт славы выдатнага інжынэра Дроба і на гэтае аддаў усе намаганьні, усе свае дні. Раскажа аб гутарцы, якая

адбылася аднойчы і якая паслужыла для яго штуршком для паступленьня ў вайсковую школу, з якой ён выйшаў сэржантам. Кіраўнік фашыстоўскага саюзу моладзі абяцаў яму усялякую падтрымку ў тым выпадку, калі ён выйдзе з вайсковай службы афіцэрам запасу. Гэта азначала, што тэхнік Дроб будзе інжынэрам Дробам, выдатным інжынэрам Дробам, канструктарам нячуваных машын. І вось, ён хаця і адмовіўся ад уступленьня ў фашысцкія шэрагі—заявіў сваю згоду наконт вайсковай школы і атрымаў наплечнікі сэржанта для таго, каб потым атрымаць дыплём інжынэра. Ён жыў толькі для сябе. Ён калі і змагаўся, дык толькі для сябе. І ў гэтым была яго памылка. І аб ёй ён шчыра раскажа Крамарчыку для таго, каб партыя паверыла яму. Ён бачыць зараз гэтую памылку. Ен выправіць яе.

— Мая заслуга,—скажа Дроб,—у тым, што я ўтрымаўся на гэтым коўзкім шляху, захаваў роўнавагу, цьвёрда стаю на нагах. Настолькі цьвёрда,—што магу змагацца за справу партыі.

І партыя паверыць яму, Станіславу Дробу, сыну токара Лукаша, які загінуў у часе рабочай стачкі. Бязумоўна, паверыць. Суровыя вочы Крамарчыка ўбачаць шчырасьць у яго вачох. Ён-жа паверыў яму там, на двары заводу „Нэптун"!

— Прыгожая ноч, сэржант?

Дроб хутка азірнуўся і стукнуў абцасамі.

Па ўсходах уніз ішоў дзяжурны камэндант.

— Надта прыгожая ноч, сэржант,—працягваў афіцэр.—Вы марыце аб каханай дзяўчыне, сэржант?

— Я не паэта, пане паручнік, для таго, каб зачароўвацца і марыць,—адказаў сэржант.

Камэндант спыніўся, падумаў і пакруціў сьветлы вус.

— Маеце рацыю, сэржант. Салдат не павінен быць паэтай. Я здаволены вашым адказам, сэржант.

Пышныя вусы, аксэльбанты і наплечнікі пана паручніка важна праплылі міма сэржанта. Варта прыставіла стрэльбы да нагі.

Сэржант адвярнуўся да вакна.

Вось яна, чорная вясеньняя ноч за вакном. Зімнае, бадзёрае паветра. Якое шчасьце жыць! Якое шчасьце, змагацца!

І сэржант глыбока і заспакоена ўздыхнуў. Цяпер ён ведае свой шлях. Цяпер ён ведае свае абавязкі. І ён цяпер ужо ня зыйдзе з дарогі, ён цяпер не заблукаецца на шляхох свайго жыцьця. Бо яго шлях цяпер—шлях мільёнаў.

Было дзесяць гадзін вечару, калі Дроб спыніўся на рагу аднэй з вуліц. Насупроць панура чарнелі верхавіны дрэў вялікага парку. Высокія муры з безліччу цьмяных, слаба асьветленых вокнаў, рэдкія пешаходы на тратуарах, падсьлеплыя вулічныя ліхтары і самі цесныя, вузкія, дрэнна выбрукаваныя вуліцы, якія разыходзіліся адгэтуль у розныя бакі, у шэрую цемру ночы, сьведчылі аб тым, што гэта адзін з рабочых кварталаў прадмесьця.

Была непраглядная каламута навокал. З сутарэньняў камяніц пазіхала цьвілай вільгацьцю. На цагляных тратуарах, пад нагой, хліпала цяглая гразь. Нават неба над гэтым чорным кварталам было каламутным і панурым, расплаўленым заравам агнёў вялікага гораду, які глуха шумеў недзе далёка адгэтуль. Тут, у цеснай цішы сумных муроў толькі заглушана брадзілі адгалоскі вулічнага руху цэнтраў.

Змрок вясеньняй ночы, якая была апаганена смуродным дыханьнем сутарэньняў, быў іржавым у нясумленным бляску рэдкіх ліхтароў.

Сэржант паглядзеў на гадзіньнік. У яго распараджэньні заставалася яшчэ даволі часу для таго, каб дайсьці да супроцьлеглага ўскраю гэтага парку і адшукаць пешаходны масток цераз канал. Туды павінен быў прыйсьці Крамарчык.

Цэлы дзень водпуску з казармы Дроб патраціў на тое, каб адшукаць Крамарчыка. Чатырнаццаць гадзін няўтомнай хады, язды на трамваях, аўтобусах, чатырнаццаць гадзін трывогі чаканьня і неаслабнай увагі ляглі сьвінцовым цяжарам утомы на плечы Дроба. Але зараз ён быў спакойны. Пад вечар, калі ён зусім страціў надзею знайсьці Крамарчыка ў тысячным натоўпе, што навадняе гарадзкія вуліцы, калі ён прышоў да вываду, што паменшай меры глупствам зьяўляюцца пошукі на вуліцах у вялізным горадзе, пошукі чалавека, які знаходзіцца ў падпольлі і можа быць зусім у супроцьлеглым канцы гораду, альбо зусім па-за яго межамі, калі ён уявіў сабе, што будзе азначаць тое, калі ён ня знойдзе Крамарчыка—Дроб вырашыў пайсьці на адчайны крок. Ён накіраваўся на завод „Нэптун“ і стаў чакаць у варотах выхаду дзеннай зьмены.

Ён доўга ўглядаўся ў паток рабочых блюз, які доўга цёк з варот заводу, і нарэшце яму здалося, што бачыць знаёмы твар. Гэта быў рабочы адзін з тых двух, што былі ў забастовачным пікэце на двары заводу. Дроб пайшоў ззаду за ім. Рабочы прайшоў некалькі вуліц, потым пачаў заварачваць з аднаго завулку ў другі і нарэшце спыніўся ў падваротні аднаго з маленькіх домікаў. Тады Дроб падышоў да яго.

— Вы ведаеце мяне?—спытаў ён.

— Здаецца, ведаю,—адказаў рабочы, азіраючыся.

— Як бы мне ўбачыць таварыша Крамарчыка?—спытаў сэржант.

Рабочы доўга вагаўся, ня ведаў што адказаць. Потым адчыніў падваротню і сказаў:

— Заходзьце.

Сэржант блізка гадзіны сядзеў у маленькім пакоіку. Нарэшце рабочы вярнуўся. З ім прышоў яшчэ і другі. І гэтага пазнаў Дроб. Ён сядзеў на падваконьніку ў габінэце галоўнага кіраўніка ў часе перамовы сэржанта па тэлефону.

Яны сказалі Дробу, што Крамарчык прыдзе ў гэты парк паміж адзінаццатай і дванаццатай гадзінай ночы. Месца сустрэчы—пешаходны масток цераз канал.

Так проста вырашылася справа, якую Дроб лічыў невыкальнай і пакладаўся толькі на спрыяючае злучэньне абставін. Але ня толькі гэта радавала Дроба. У тым, што рабочыя без доўгіх ваганьняў і допытаў згадзіліся арганізаваць сустрэчу з Крамарчыкам,—ён бачыў, што яму давяраюць, што адвод салдат з заводу рабочыя высока ацэньваюць, як заслугу перад іх справай. І гэта ўзнагароджвала Дроба шмат за што. І зараз, пасьля чатырнаццаці гадзін беганіны і трывог, стомлены сэржант не адчуваў сябе разьбітым маральна. Наадварот, зараз ён адчуваў у сабе высокі ўздым унутраных сіл. Ён нёс з сабой партыйную справу і адзнакі давер'я партыі да яго, сэржанта Дроба.

Часу да моманту сустрэчы яшчэ заставалася шмат. І Дроб павольнай хадой чалавека, які адпачывае, накіраваўся да ўваходных варот парку.

Дрэвы стаялі маўклівай, замкнутай сьцяной. У цёмным парку было ціха і ў паветры прабіваўся пах прэлага мінулагодняга лісьця. Зямля вясеньняя, цяжарная сокамі жыцьця, перамагала сваім урачыстым дыханьнем атрутную вонь каналізацыі і сутарэньняў.

Ціха было і цёмна тут і толькі зрэдку па ствалох дрэў пралятали трапечучыя адценьні невядомых і далёкіх воблескаў. Сэржант павольна ішоў вузкімі сьцежкамі прысад, зварочваў з аднэй у другую і ішоў далей, ня прытрымліваючыся кірунку, заслуханы ва ўрачыстае маўчаньне дрэў, захоплены цішынёй і пахам вясеньняй зямлі.

І раптам, зусім блізка ад яго—разьлёгся стогн. Ён паўтарыўся зноў, працяглы і балючы, і раптам распачлівы крык, малады і звонкі, поўны болю, адчаю і гневу, востра разрэзаў маўчаньне ночы. Дроб спыніўся, як урыты. Па скуры пасыпаліся мурашкі жуду. Рука разгублена абмацвала пояс у пошуках кабуры. Гэткім нязвычайным і нечаканым быў крык.

А ён узьняўся зноў, жаласны і балючы.

І цемра навокал заварушылася. Невядома адкуль зьявіліся людзі. Загаварылі прыглушаныя, трывожныя галасы. Зашурхала навокал лісьцё пад асьцярожнымі, ціхімі крокамі. Дроб аўладаў сабой. Ён успомніў, што рэвальвэру няма і замест яго адшукаў у кішэнях электрычны ліхтарык. Ён выцягнуў руку з ліхтарыкам і ступіў уперад. Косы прамень сьвятла сьлізгнуўся па ствалох дрэў і на момант выхапіў з ночы постаць чалавека. Глянуў перакошаны, бледны твар і шырока расчыненыя, спуджаныя вочы.

— Паліцыянт!—галосна крыкнуў чалавек і кінуўся ў бок.

— Паліцыянт!

— Паліцыянт—разьлегліся навокал прыглушаныя галасы.

— Паліцыянт!

І нехта, ужо здалёк, галосна крыкнуў:

— Уцякайце! Паліцыянт!

І ўсё сьціхла. Уперадзе, проста перад Дроабм, зноў разьлёгся стогн. Дроб прабег навобмац некалькі крокаў і зноў успыхнуў ясны, вузкі праменчык ліхтара. І тады Дроб адступіў на крок.

На зямлі курчылася ў сударагах плачу жанчына, якая была апранута ў лахманы. Распушчаныя валасы раскідаліся па плячох і акрывалі яе твар. Побач з жанчынай стаяў нехта з нахіленай галавой, абапёршыся плячыма аб ствол дрэва. На ім быў шырокі пінжак, які вісеў, як на калку, на яго высхлым тулаве, і цень ад казырка падала на яго сіні твар. Нешта бязформавае і белае ляжала на зямлі, каля ног у мужчыны.

— Што тут?—спытаў Дроб.

Жанчына рэзка ўзьнялася. У раме бязладзьдзя валасоў Дроб убачыў вострыя рысы маладога, заплаканага, надзвычайна худога і прыгожага твару. Вочы жанчыны хвіліну глядзелі ў асьляпляючую сэрцавіну ліхтара і няпрытомны гнеў і адчай бушавалі ў яе вачох. Потым твар яе сударажна ўздрыгнуў.

— Ты прышоў...—прашаптала яна задыхаючыся,—ты прышоў... паліцэйскі сабака... па труп... майго Юзіка... Бяры!

Яна парывіста адсунулася ў бок:

— Бяры!

Ліхтар перамясьціўся. На грудзе рызьзя ляжала распрасьцёртае і выцягнутае, высхлае да шчэнту, дробнае цела дзіцяці. Жоўта-празрыстая скура мерцьвяка квола прасьвечвала цераз дзіры сарочкі. З-пад павек, што былі прыўзьняты, заблішчэў шкляным бляскам прамень ліхтара.

— Бяры!—крыкнула жанчына зноў.—Чаго стаіш!

Мужчына выцягнуў руку і асьцярожна, папярэджваючы, дакрануўся пляча жанчыны.

— Я не баюся!—прашаптала жанчына няпрытомна.—Я матка!

І зноў вырас пагрозны крык:

— Бяры!

— Супакойцеся!—мякка сказаў Дроб.—Я не паліцыянт. Я сэржант пяхоты. Салдат.

Жанчына, не разумеючы, паглядзела на яго і зноў нахілілася над трупам свайго дзіцяці. Яе плечы задрыжэлі ў ціхім, няўцешным плачы. Навокал шчыльна і маўкліва стаялі дрэвы і густая цемра няменш шчыльна сьціскала адзінокі праменчык ліхтара ў руках Дроба.

Тады загаварыў мужчына. Голас яго быў глухі, абыякавы і роўнадушны.

— Юзік нядаўна памёр, пане сэржант. Магчыма назад таму—дзесяць альбо пятнаццаць хвілін. Каб у нас была-б хаця бутэлька малака, яго можна было-б выратаваць. Бо ён памёр ад голаду. Мы з Мартай самі ўжо дні блізка тры як нічога ня елі. А яго ў апошні раз накармілі ўчора ўвечары.

Ліхтарык Дроба абмацаў панурую постаць мужчыны. Ён гэтак-жа стаяў пад дрэвам, як і раней, і рукі яго бязуладна і вяла зьвісалі ўздоўж тулава. Глухое мармытаньне працягвалася:

— Ён паміраў павольна... Сёньня ад раніцы сьсінеў увесь. І ўжо ня плакаў. Маўчаў. Я колькі мог, хадзіў праз дзень, шукаў чаго паесьці для яго і нічога не знайшоў. І ён памёр... Слаўнае было дзіцянё... Добры хлапчук... Каб бутэлька малака і кавалачак хлеба...

Мужчына змоўк. Жанчына нярухома ляжала ў коле сьвятла.

— Каб кавалачак хлеба...—нібы ў забыцьці паўтарыў мужчына.

Нехта працягла ўздыхнуў за плячыма сэржанта.

— Хто тут?

— Гэтм нашы... Беспрацоўныя...

На гэты раз людзі не ўцякалі. Яны стаялі навокал цесным гуртком. Брудныя лахманы, худыя, сінявата-жоўтыя, зямлістыя твары, ліхаманкавы бляск вачэй гаварыў аб голадзе і бяспрытульнасьці. Людзі ціснуліся адзін да аднаго, але ніводзін не падаўся назад, перад сьвятлом ліхтара.

Мужчына загаварыў зноў:

— Я мэталіст. Ужо хутка год, як без работы. Мы прадалі ўсё, што было можна, і плацілі за кватэру, а потым ня стала чым плаціць. Нас выкінулі на вуліцу а палове зімы. Недалёка ад гэтуль, у лазьнях—працаваў мой таварыш. Дык ён пушчаў нас нанач у лазьню з дзіцянём. Уночы мы былі ў сьпякоце, а ў дзень ішлі на мароз. Потым і таварыш страціў работу. Мы зусім апынуліся на вуліцы. Хацелі ісьці ў вёску. Але няма на што і там спадзявацца. І вось ад таго часу, як сышоў сьнег,— мы тут, у парку.

— Хаця-б сьмерць на нас усіх прышла, ці што...—уздыхнуў нечый старэчы голас за плячыма Дроба.

— Сьмерць, кажаш?—перапытаў другі (у яго быў звонкі, малады голас).

— Я паміраць не хачу. І ня буду. Мне ня многа трэба. Мне патрэбна работа. Будзе работа, будзе і хлеб. Навошта мне паміраць!

— А дзе ты работы здабудзеш?

— А не здабуду работы... дык няхай ад мяне нічога добрага не чакаюць! Выходзіць усёроўна здыхаць. Так ці інакш. Дык тады паспрабуем па-другому. Мне патрэбны хлеб. І яго я здабуду. Усёроўна,—ці молатам і мазалём, ці нажыкам альбо дубінай... Няхай сьцерагуцца, у кога тоўстае пуза і таўстая кішэня!

— Ня так трэба, Франц,—ціха сказаў нехта зусім блізка ад Дроба.—Ня так трэба. Адзін загінеш. Аднаму няма куды ісьці. Трэба ўсім. Трэба ўсім за сваё жыцьцё змагацца. Трэба арганізавана, Франц! А адзін—ты загінеш...

— Ні хлеба няма, ні работы няма...—зноў уздыхнуў стары і ціхі голас. Людзі загаманілі, заварушыліся неспакойна:

— Кожны дзень ганяе паліцыя, як сабак...
— Двое з мосту ў раку ўкінуліся ўчора...
— Адзін брытвай зарэзаўся на мінулым тыдні. Сёньня, вось дзіцё-ад голаду памёрла...
— Чым мы вінаваты, што гэтак мучаемся!
— Усім!—сказаў нехта цьвёрда і спакойна.—Тым вінаваты, што пакорна хрыбты гнулі перад таўстапузай сволаччу. Трэба было па-інакшаму! Трэба было...
— Мы яшчэ ня згубілі часу!
— Так, так! Ня згубілі... Мы яшчэ пагаладуем, перш чымся часу дабяром. Усё-ткі, трусасьць мацней у лапах чалавека трымае, чымся голад! Ня гэтак дабяралі час рабочыя ў Расіі!
— Праўда, Марк. Ня гэтак. І ня так трэба разважаць, як Франц. Аднога буржуя зарэжаш—сам страціш галаву. А ўдасца—нічым агульнай справе не дапаможаш. Толькі ўласную напхаеш кішку...
— Я ня еў чатыры дні—узьняўся нечый высокі і нэрвовы голас.—Што яны робяць з намі, крывапіўцы, павуччо праклятае! Я не магу больш цярпець...
— Адзін павесіўся на мінулым тыдні...—адзначыў стары голас.—Тры дні вісеў—ніхто не хацеў здымаць, пакуль адшукала паліцыя!
— Магчыма вы з фашыстаў, пане сэржант?—спытаў голас таго, каго называлі Францам.—Нешта вы маўчыцё! Не да густу вам гэткія размовы?
— Мала дапаможаж словамі, таварышы!—сказаў Дроб.—Патрэбна справа, а ня словы. Я не фашыст, таварыш Франц!
— Таварыш! Ён сказаў, таварыш!
— Салдат рабочаму, бязумоўна, таварыш! Гэтак было і ў Расіі.
— Правільна. Салдат рабочаму таварыш!
— Ты раскажы аб нас у казарме, таварыш... сэржант! Чуеш? Раскажы ўсю праўду!
— Што бачыў, усё раскажы!
І тады Дроб узьняў угору ліхтарык для таго, каб усе бачылі яго твар. І людзі ўбачылі яго ўсхваляваны твар і гневам бліскаючыя вочы. Дроб некалькі хвілін маўчаў. Ён ня ўмеў доўга гаварыць. Дагэтуль ён ведаў толькі крутую, адрывістую каманду.
— Таварышы бяздомныя пралетары!—з вялікім хваляваньнем сказаў сэржант.—Я ня толькі раскажу аб вас у казарме. Мы арганізуем дапамогу для беспрацоўных у Белым парку. Мы, салдаты, дамо з астатніх сваіх капеек на дапамогу сваім братом. Мы падзелімся з вамі, чым можам. Я думаю, таварышы, што нядоўга засталося вам чакаць. Мы сурова адпомсьцім за голад і дарэмную сьмерць дзесяткаў тысяч людзей! Мы назаўсёгды выкаранім прыгнёт і эксплёатацыю. Засталося нядоўга, таварышы! І майце на ўвазе, што салдаты пойдуць разам з вамі!
Сэржант апусьціў ліхтарык:
— Бо вораг у нас адзін, таварышы!

Ён змоўк і ўсхвалявана дыхаў. Гэта была яго першая прамова. Ен чакаў водгуку ад сваёй аўдыторыі, што акаляла яго тут у ночы, у цемры. Ён ня бачыў і ня ведаў, колькі людзей слухала яго першую прамову.

І раптам, спачатку нясьмелыя, а потым дружныя аплёдысмэнты нечакана і нязвычайна разьлегліся тут, у начным парку, пад дрэвамі, якія маўчалі варожа і насьцярожана.

Нехта прабраўся да сэржанта і пацiснуў яго руку.

— Правільна, таварыш. Вораг у нас адзін!

А беспрацоўныя навокал усё яшчэ аплёдыравалі. Яшчэ дружнымі былі плёскі бяздомнай аудыторыі. І перш, чымся апалі, разьядналіся і змоўклі аплёдысмэнты—паветра рэзнуў працяглы сьвіст.

— Паліцыя!

— Разыходзьцеся!—трывожна сказаў нехта.

Сэржанта падхапіў нехта за руку і пацягнуў у бок ад таго месца, дзе яшчэ ўсхліпвала жанчына, якая яшчэ ляжала на зямлі. Сэржант падпарадкаваўся настойлівым штуршкам сухой рукі, што моцна ўхапілася за яго рукаў. Яны хутка, амаль напаўбегам, ішлі, абмацваючы дрэвы, спатыкаючыся на пні. Навокал разьлягаўся шолах крокаў. Ува ўсе бакі разьбягаліся людзі.

Зноў разьлегся сьвіст. Гэта быў прарэзьлівы, працяглы, паліцэйскі сьвісток.

— Ну, от дарога,—сказаў той, хто вёў сэржанта. Дроб пазнаў голас Марка.—Трэба табе адгэтуль выбірацца, таварыш сэржант.

— Мяне завуць Дроб, таварыш Марк. Скажы, як прайсьці да каналу, дзе пераходны масток.

— Адгэтуль проста ўніз. Гэтай-жа сьцежкай. Ты з ліхтарыкам разьбярэшся. З поўкілёмэтра адгэтуль будзе... Ідзі хутчэй. Небясьпечна!

Дроб адшукаў руку Марка і ўціснуў у яе некалькі паперак.

— Ня крыўдзіся, Марк. Гэта таварыская дапамога, не падачка. Пахавайце дзіцянё і падтрымайце жанчыну. Я прыду сюды, дзён пераз пяць-шэсьць што нібы для вас арганізуем. Трымайцеся!

Жорсткая далонь пацiснула руку Дроба.

— Бывай. Мы будзем чакаць! Ідзі хутчэй, таварыш Дроб! Аблава набліжаецца!

Марк растаяў у змроку. Дроб павольна, абмацваючы сьцежку, пайшоў у тым напрамку, куды паказваў Марк. Адышоўшы некалькі дзесяткаў крокаў, ён спыніўся і паслухаў. Цяпер дрэвы гулі. Гул быў роўны і спакойны, як нібы ціхай, бяскрыўдна-спакойнай была гэтая вясеньняя ноч у парку, як нібы не мяталіся там, у глыбі гэтага акультываванага лесу, устрывожаныя, бяздомныя людзі, як нібы ня шнырałі ў пошуках іх разьятраныя паліцыянты з дубінкамі ў руках.

Гулі дрэвы пад лагоднымі хвалямі ветру ўміратворана і спакойна. Накрапваў рэдкі і дробны дождж. Але гэтая першабытная

ціша, гэты першародны спакой зямлі, цяжарнай вясеньнімі сокамі,— ужо ня мог больш абмануць Дроба. Ён ішоў, схаваўшы рукі ў кішэні шынэлю, ішоў напруджанай, асьцярожнай хадой чалавека, які асьцярагаецца ўдару зьнянацку. Час ад часу паблескваў яго ліхтарык.

Ен хутка дасягнуў каналу. Чыгунныя, літыя, вільготныя краты ўзьбярэжнай, цьмяна ільсьнілі ад сьвятла ліхтара, што нахіл ўся звысоку над гарбатым, вузкім пешаходным мастком цераз канал. Дроб абапёрся аб паручні. На паверхні каналу ўсплывалі масьлянистыя плямы. Яны зьнікалі і зноў усплывалі і зноў распадаліся ў цьмяным бляску, у павольным руху чорнай, лякіраванай вады. На супроцьлеглым берагу строма ўзьнесьліся ўгору дрэвы апошніх прысад парку, што ішлі паралельна каналу. Там, за прысадамі, за сьцяной дрэў пачыналіся ўжо больш ажыўлёныя кварталы гораду. Адтуль даносіўся заглушаны, далёкі шум вулічнага руху; званкі трамваяў, сырэны аўто, гоман чалавечага натоўпу. Над верхавінкамі дрэў, у цёмным паветры, калыхаліся і дрыжэлі воблескі шматлікіх вулічных агнёў.

А тут, над змрочным каналам, у панурай засені дрэў, над тлустай ільсьняна-чорнай паверхняй вады было ціха зусім, і калыхаўся цьмяны ліхтар над вузкім мастком. Абапёршыся на краты, нахілілася над вадой адзінокая нярухомая постаць чалавека. Рукі Дроба моцна сьціскалі знобкі мэталь. Перад вачыма ўсплывалі і расплываліся, зьяўляліся і зьнікалі масьлянистыя, рознафарбныя плямы...

...Гэтыя хвіліны—апошнія хвіліны чаканьня. Набліжаецца час прыходу Крамарчыка. Дроб раскажа яму аб усім, што прадстаўляе з сябе „Тэорыю Каленбрун“. Гэта адзін, асноўны бок справы. Другі-ж бок,—гэта экзамэн Дроба, экзамэн на вытрымку, энэргію, сілу волі падпольшчыка, рэвалюцыянэра, які адданы сваёй справе, справе сваёй партыі. Хутка ня будзе сэржанта Дроба. Будзе таварыш Дроб, камуніст. Ён распачне новы шлях і ня зыйдзе ўжо з гэтага шляху. Ня ў тым справа, што ён можа павольна ўзыйсьці ў канцы свайго шляху на прыступкі эшафоту. І ня ў тым справа, што калі нібы да варштату на адным з сацыялістычных заводаў гэтай краіны падыдзе інжынэр Дроб. У абодвых выпадках ён будзе верны сваёй партыі, як-бы ня скончыўся яго шлях. Справа ў тым, што ён ня можа больш чакаць, ня можа больш заставацца ў баку ад барацьбы, ён, сын пралетара, Лукаша Дроба. Яго месца—у першых шэрагах ланцугоў, што ідуць на прыступ, і ён гэта месца зойме.

— Але, што калі Крамарчык ня прыдзе?

...На самай справе. Што будзе тады, калі Крамарчык ня зьявіцца, расцэньваючы яго запрашэньне, як правакацыйны манэвр паліцыі? Тады невядома, на які час аддаляецца магчымасьць зьвязацца з партыйнай арганізацыяй, уключыцца ў арганізаваную, палітычную барацьбу. Пасьля гэтага—пацягнуцца

доўгія будні казармы, беспрасьветная муштроўка і туга бездапаможнасьці. І галоўнае—„Тэорыя Каленбрун“ будзе дзейнічаць!

Дроб сьціснуў рукамі знобкі чыгун. Яму здалося, што ён здольны раскрышыць на хрусткія кавалкі масыўнае ліцьцё крат. Масьлянiстыя плямы плывуць па паверхні каналу, павольна рухаецца ўперад густая, чорная, смуродная вада. Маўклівыя дрэвы цясьняцца над вадой. Над грывай прысад парку—калышыцца зарава агнёў гораду. Ужо ня чуваць паліцэйскіх сьвісткоў там, у глыбі парку. Ужо спакойнай стала вясеньняя ноч...

„Тэорыя Каленбрун“—ня будзе дзейнічаць! Гэтага не дапусьціць ён, Дроб! Так ці інакш—альбо будуць адрэзаны шчупальцы, альбо будзе зьнішчаны сам спрут! І шлях барацьбы—прывядзе ў партыю, у шэрагах якой некалі стаяў Лукаш Дроб.

Стрэлка гадзіньніку перакрочыла лічбу, якой з нецярпеньнем чакаў сэржант. Гарбаты, пешаходны масток быў пусты. Ніхто не зьяўляўся нават на ўзьбярэжнай.

А калі, на шляху да партыі, давядзецца загінуць Станіславу Дробу—дык што азначае сьмерць аднога, калі застаюцца жыць і змагацца мільёны! Мізэрная, няпрыкметная зьява—сьмерць аднога чалавека, адрантвеньне маленькай чалавечай адзінкі.

„Тэорыя Каленбрун“—ня будзе дзейнічаць! У гэтым рэвалюцыйны доўг сэржанта Дроба!

І раптам сэржант уздрыгнуў. Цераз пешаходны масток, панура нахіленая, выразна акрэсьленая ў сьвятле ліхтара, павольна рухалася высокая постаць. Гэта быў той чалавек, якога чакаў Дроб, за якім палююць у горадзе паліцэйскія філеры, у пошуках якога шныраюць праніклівыя банды агентаў дэфэнзыны. Трымаючы рукі ў кішэнях, нахіліўшы тулава наперад—чалавек павольна ішоў цераз масток.

Дроб хуткім крокам накіраваўся яму насустрач.

— Таварыш Крамарчык!

Крамарчык спыніўся. Сэржант прыкмеціў чоткі рух правай рукі ў кішэні. Але ня стрымаў кроку, ідучы насустрач Крамарчыку. У адзін момант яны былі адзін супроць другога.

— Таварыш Крамарчык!

Зноў насьцярожана варухнулася ў кішэні рука Крамарчыка.

— ...Я маю вам перадаць важную справу.

— Якую справу?

— ...Перадаць аб важнай справе. Вы мяне ведаеце, таварыш Крамарчык?—Крамарчык хутка азірнуўся на бакі. Усё яго вялізнае, касьцістае цела было напружаным, гатовым адбіць удар.

— Кажэце, у чым справа!

Дроб у сваю чаргу усадзіў руку ў кішэню. Але гэта быў гэст нецярпеньня і гневу.

— Таварыш Крамарчык,—разьдзельна сказаў сэржант.—У нас няма часу на цэрэмоніі. У нашым распараджэньні—хвіліны. У парку нядаўна адбылася паліцэйская аблава. Нашу размову могуць спыніць.

Гэта выйшла шчыра і пераканаўча. Крамарчык у ваганьні аглядаў высокую постаць усхваляванага чалавека, што стаяў перад ім. Потым сказаў:

— Па некаторых даных, я маю магчымасьць давяраць вам. Аднак, ідзеце ўперад. Ікалі што-небудзь здарыцца, майце на ўвазе, што ў першую галаву будзеце цярпець вы.

Сэржант зразумеў тое, на што намякаў Крамарчык. Ён завярнуўся і пайшоў першым. Усьлед за ім, па жалезных плітах насьцілу, загрукалі важкія крокі Крамарчыка.

*(Працяг будзе)*

А. ГУРЛО

Мне не пазнаць таго кута,
Дзе цяжка жыць было і дыхаць,
Дзе маці пела: „Гута-та",
А над калыскай вісла ліха.

Мне не пазнаць палеткаў, ніў,
Дзе за валом саха кульгала
І камень аб парог званіў
На пустках, выганах і галах.

Цяпер зусім другім стаў кут;
Зусім другія і палеткі.
Няма няволі і пакут
Ні для старых, ні для падлеткаў.

Пасьля вялікай барацьбы,
Якая зьнішчыла старое,
Растуць, мацнеюць новы быт
І новыя жыцьця устрої.

Палеткаў нашых не пазнаць—
Няма тых вузенькіх загонаў.
А вока цешыць збажына
Сваім размахам і разгонам.

5/V—33 г.

**Я. КОЛАС**

# ДРЫГВА *)

## XXI

Ня толькі ў Віркуцьці, а і шмат па якіх маёнтках акупаванага Палесься ладзілі паны пышныя банкеты польскаму афіцэрству. Польскае шляхецтва пераджывала мядовы месяц адраджэньня свае дзяржаўнасьці, зварот да жыцьця гадаваных вякамі надзей на іх зьдзейсненьне. І тыя паны, што вярнуліся ў свае маёнткі, адчувалі сябе на сёмым небе і лічылі, што цяпер яны сапраўдныя, настаяшчыя поўнапраўныя іх уладары. Уся палітычная абстаноўка складалася на іх карысьць. Польшча мела сваю армію, узброеную на францускія сродкі Антанты, якая адводзіла Польшчы значную ролю ў вайне з Саветамі. Становішча-ж Саветаў было дужа цяжкае. Ім прыходзілася напружваць сілы супроць насядаўшай з усіх бакоў контррэвалюцыі ў умовах эканамічнай разрухі, нястачы, голаду і цяжкай спадчыннасьці, пакінутай царызмам. Усё гэта палягчала задачу польскай ваеншчыны і жывіла надзеі польскай буржуазіі на перамогу ў вайне з Саветамі.

Сьледам за польскай арміяй ціснулася цэлая хваля буйнай і дробнай шляхты, выгнанай рэвалюцыяй з іх котлішч, прадстаўнікі рэлігійнага культу і цэлая псарня іншых дармаедаў і паразытаў.

І для ўсяе гэтае грамады ўзаконеных марадзёраў трэба было знайсьці і месца і разьмеркаваць ролі.

На гэты раз „ужондзіць“ банкет узяўся павятовы „камісар“ пан Крулеўскі. Банкету надавалася спэцыяльнае значэньне. Ладзіўся ён ня толькі для таго, каб пагуляць і павесяліцца польскай шляхце разам з афіцэрствам: банкету прызначалася і іншая роля.

Маёнтак пана Длугошыца адзін з пышнейшых у павеце. Гэта—котлішча старога польскага роду. На працягу вякоў пераходзіла ад бацькі да старшага сына, пераходзіла, як умацаваная вякамі непарушаная спадчыннасьць. І толькі пры апошнім уладару, пры пане Лявону Длугошыцу захісталася гэта спадчын-

---

*) Працяг, гл. „Полымя рэвалюцыі“ № 5, № 6, № 7

насьць ад подыхаў вялікай рэвалюцыі. Пан Длугошыц змушан быў пакінуць свой маёнтак і падацца глыбей на захад. Цяпер пан Длугошыц вярнуўся ў сваё радавое гняздо, вярнуўся, як чалавек, які тапіўся і якога адратавалі ад сьмерці.

Даволі было аднаго толькі абеглага погляду на палац, на дваровыя будынкі, на ўвесь маёнтак у цэлым, каб адразу ўбачыць, што гэта—старасьвецкая рэзыдэнцыя багатай, радавітай польскай фаміліі. Таўшчэразныя топалі і разложыстыя ліпы пышным вянком абкружылі панскую сядзібу. На ўзвышку атулены густым садам з шырокімі прагаламі, дзе разьлегліся прасторныя, роўныя дарожкі, стаяў мураваны белы палац, высока ўзьняўшы над садамі сваю чатырохкантовую вежу, аздобленую рознымі скульптурнымі ўкрасамі. Горда і пыхліва выступаў ён з цэлага лесу купчастых дрэваў і стромкіх тапаляў сваёю вежаю, масыўнымі белымі сьценамі і чырвоным чарапічным дахам. У самым палацы, у яго шматлікіх пакоях, прасторных залях, дзе можна разьмясьціць сотні народу, сабраны дабро і раскоша, скрозь якія прабіваліся людзькія сьлёзы, гора і пакута. Шмат чаго з гэтага дабра страцілася за часы рэвалюцыі, і пан Длугошыц, вярнуўшыся з выгнаньня, паставіў на ногі цэлы штат прыслужнікаў, каб знайсьці і сабраць расьцягненае дабро ў скарбніцу фамільнага палацу. З гэтых палацаў разыходзіліся ніці нянавісьці і злобы да паўстаўшых „халопаў", у гэтых палацах завязаліся вузлы змаганьня супроць новых асноў жыцьця заложаных Кастрычніцкай рэвалюцыяй. У гэтым-жа палацы рыхтаваўся цяпер пышны банкет у гонар польскай дзяржаўнасьці.

Зазіхацелі, загарэліся яркімі агнямі вокны палацу пана Длугошыца, узіраючыся ў цёмныя закуткі двара і панурыя лясы і балоты стоенага ў сваёй трывожнай маўклівасьці Палесься. Вечарам, калі на лясы і балоты густа насунулася цемра, пачалі зьяжджацца госьці. Як звычайна вядзецца ў такіх разох, першымі зьяўляліся меней значныя асобы, уласьнікі дробных фальваркаў, арандатары маёнткаў з сваімі жонкамі і дочкамі, у каго яны былі. Усё, што было лепшага для выезду на такую ўрачыстасьць, надзявала шляхта на сябе і на сваіх коняй. Слугі зьбіваліся з ног, прымаючы гасьцей і прыбіраючы іх вазкі. Пан Длугошыц кожны раз, сустракаючы новага госьця, выказваў усе адзнакі гаспадарскай радасьці і шляхетнасьці, кланяўся ветліва паціскаў руку, кідаў тую ці іншую фразу, адпаведна выпадку ці асобе госьця. Да ўсіх ён быў уважлівы і ветлы— так вымагала шляхетнасьць і польская дэмакратычнасьць, на прынцыпах якой будавалася адраджоная, польская дзяржаўнасьць.

Склад гасьцей быў даволі стракаты і рознастайны. Тут былі абшарнікі розных катэгорый, арандатары і проста дробная шляхта, а таксама і прадстаўнікі інтэлігенцкіх прафэсій і дактары і адвакаты. Вельмі заметную часьць гасьцей складалі вайскоўцы, дзе былі прадстаўлены ўсе іхнія катэгоры, пачы-

наючы ад ніжэйшых афіцэрскіх чыноў і канчаючы генэраламі. Быў тут і палкоўнік пан Дэмбіцкі. Сярод ваеннай і цывільнай публікі мільгалі таксама і постаці ксяндзоў у доўгіх сутанах. З прычыны важнасьці і ўрачыстасьці палітычнага моманту „сьвентыя ойцы“ дазволілі сабе некаторую вольнасьць, зьявіўшыся на банкет. Таксама адступалі яны і ад правіл ксяндзоўскага статуту ў дачыненьні да жанчын, выказваючы сябе болей кавалерамі, чым служкамі пана бога. Праўда, паненкі і маладыя дамы ахвотней гарнуліся да вайсковых. Яно і ня дзіва: ужо адна вопратка іх і асабліва становішча, як ваяк, здабыўшых і здабываючых польскую вольнасьць і незалежнасьць, вельмі выгодна вылучала іх у вачох маладых шляхцянак. Затое-ж трохі паблеклыя пад уплывам часу дамы кружыліся каля ксяндзоў, як мухі перад дажджом каля гаршкоў, з якіх нядаўна вылілі зацірку і непасьпелі яшчэ вымыць і вышараваць рагожаю.

За нядоўгі час сам сабою зрабіўся адбор гасьцей, іх натуральны падзел на групы. У кожнай групе былі свае спэцыфічныя інтарэсы і тэмы гутарак, хоць усе яны вяліся пад лёзунгам маладой польскай дзяржаўнасьці і яе гістарычнай місіі. Адна толькі моладзь—паненкі, панічы і маладое шыкарнае афіцэрства зьяўлялася ў значнай ступені аўтаномнай у гэтым сэнсе, аддаўшыся цалкам парывам радасьці нястрымных хваль свае маладасьці. Нясьціханна грымеў ваенны аркестр. Бурныя польскія танцы зьмяняліся адны другімі. Паненкі і маладыя дамы стараліся перашчагаляць адна другую прыгожствам, далікатствам рухаў, чароўнасьцю сваіх дзявочых усьмешак і вабнасьцю поглядў сваіх вачэй. Кавалеры вылузваліся са скуры, каб зьвярнуць на сябе агульную ўвагу і закасаваць усіх іншых. Якіх толькі талентаў ня было выяўлена тут. Якіх толькі штук не выраблялі яны. Як хораша выкідвалі ногі, як лоўка тупалі, падскоквалі, а як хвацка кружылі сваіх дам. Як спрытна насілі іх на паветры і раптам прысядалі перад імі на адно калена, каб гэтак-жа раптоўна падняцца і да канца выпаўняць сваю місію.

Каля палкоўніка пана Дэмбіцкага згуртавалася цэлая грамада гасьцей. Тут сядзіць і пан Длугошыц, чалавек сярэдняга веку. Усё яго аблічча паказвае на арыстакратычнасьць яго роду. Ён салідны і павольны, ва ўсім захоўвае меру і пачуцьцё свае годнасьці. Ксёндз Ксавэры Пацейкоўскі і Ян Галанзеўскі таксама людзі паважныя, дыплёматы, хітрыя палітыкі і людзі пранырлівыя, заўзятыя патрыёты, болей думаюць і дбаюць аб справах людзкіх, чым аб інтарэсах боскіх. Тут жа сядзіць і павятовы „камасарж“ пан Крулеўскі, адвакат пан Ладунскі і некалькі дробных панкоў, яшчэ не пасьпеўшых дайсьці да сваіх маёнткаў—маёнткі гэтыя яшчэ не заваёваны.

Наўперад гутарка датыкалася чыста ваенных тэм. У цэнтры ўвагі палкоўнік пан Дэмбіцкі. Яго слухаюць з напружанаю ўвагаю і з вялікім нацыянальным самаздавальненьнем. Палкоўнік пан Дэмбіцкі расказвае пра розныя апэрацыі ў вайне з бальша-

вікамі, у якіх яму, як кіраўніку і начальніку штабу дывізіі, прыходзілася браць непасрэдны ўдзел. Былі крытычныя моманты і толькі ўмяшаньне пана Дэмбіцкага, яго надзвычай сьмелыя, і можна сказаць, геніяльныя манэўры вырывалі кожны раз перамогу з рук бальшавікоў. Расказваючы, пан Дэмбіцкі рысуе на стале пальцам, паказвае пазыцыі чырвоных, іх прасоўваньне наперад і тое месца, адкуль ён пасылае свае рэзэрвы і б'е бальшавікоў.

— А як пан палкоўнік глядзіць на далейшы ход ваенных падзей?—пытае пан Длугошыц, важна падпёршы рукою гладка выбрытую бараду. На яго твары, як і на твары іншых слухачоў, блукае радасная ўхмылка.

— Папэндзім, пся крэв аж да Смаленску,—пыхліва сьцьвярджае пан палкоўнік і даводзіць гэта дзесяткамі розных меркаваньняў. Перш за ўсё Польшча—яшчэ некранутая маладосьць, у ёй яшчэ дрэмлюць вялікія мажлівасьці. Цяпер-жа яна—жывы парыў, энтузіязм. Палякі—самы ваяўнічы, самы здольны да вайны народ. Ян Сабескі, Стэфан Баторый, Касьцюшка, маршал Пілсудзкі—хіба мала гавораць гэтыя імёны? Сіла Польшчы—яе дэмакратызм, якога ня ведае ніводзін народ.

Сам пан Дэмбіцкі і яго слухачы паднялі пры гэтым вочы на суб'екта, што сядзеў у іх кампаніі, але ня зусім падыходзіў да яе. Ён слухаў гутарку паноў і ў той-жа час трымаў на рэчы свой погляд, хоць і ня выказваў яго. І сваім аблічам, і ўсёю сваёю постацьцю, і манэрамі трымацца, і нават складам сваіх мысьляй чалавек гэты вылучаўся з панскай грамады. Сярэдняга росту, шырокі і прысадзісты, ён усім сваім выглядам сьведчыў аб дэмакратычнасьці свайго паходжаньня. Невялікія ўдумлівыя шэрыя вочы яго пазіралі кудысь унутр. Яго мысьлі, хоць марудна і павольна, вялі нейкую сваю работу. Але ня ўсё з таго, што ён думаў, выкладаў ён перад сваімі слухачамі. Чалавек гэты вёў нейкую прыхованую палітыку. На від яму было гадоў трыццаць. Яго прозьвішча—Галеніч.

Выразны позірк, кінуты панамі на Галеніча, прымушаў яго так ці іначай азвацца на словы пана палкоўніка аб вялікім польскім дэмакратызьме.

— Мы, беларусіны, дужа ўлічваем, панове, дэмакратычнасьць польскага народу,—азваўся Галініч: і ня толькі ўлічваем, але і высока цэнім яго. Вось чаму мы і зьвязваем лёс беларускага народу, бо і ў мінулым лёсы былі аднакія. Не на азіяцкую бальшавіцкую Маскву, а на дэмакратычную эўрапэйскую Варшаву арыентуемся мы. І Польшча і Беларусь насілі на сабе ланцугі расійскае няволі, няволі царскай. А бальшавіцкая няволя ня будзе для нас саладзейшай за няволю царскую. Мы верым, панове, што толькі дэмакратычная Польшча забясьпечыць беларусам вольнасьць і дасьць ім усе мажлівасьці для разьвіцьця іх уласнай культуры і іх аўтаноміі.

— Натуральна жэч,—пацьвердзіў ксёндз Галандзеўскі.

Паном Длугошыцу, Дэмбіцкаму і іншым паном ня дужа спадабалася, што Галеніч ставіць на адну роўніцу польскі народ з беларускім. Такое суседзтва двух народаў за сталом жыцьця ім было проста не пад гонар, але, як хітрыя палітыкі, нічога аб гэтым не сказалі, а толькі кіўнулі галовамі. Галеніч-жа, каб адзякаваць ксяндза Галандзеўскага, дадаў:

— Нават той факт, што першыя беларускія часопісі „Наша доля“ і „Наша ніва“ падтрымліваліся польскаю грамадзкасьцю і паважным каталіцкім духавенствам у першую чаргу тады, як ніводзін прадстаўнік праваслаўнай царквы іх ня выпісваў, выразна гаворыць за тое, ад каго мелі мы спачуваньне ў сваім імкненьні да адраджэньня беларускага народу і яго культуры.

Ксяндзы і польскае грамадзтва скромна апусьцілі вочы. У заключэньне Галеніч даў абяцаньне падтрымліваць палякаў у змаганьні з бальшавікамі вострай зброяй слова, паскольку беларусы іншай зброі ня маюць: фармаваньне спэцыяльнага беларускага войска знаходзілася яшчэ ў стадыі свайго зачатку.

Паны выказвалі сваё задавальненьне дэмакрату Галенічу. А ксёндз Пацейкоўскі сказаў:

— А так, пане. Абавязак кожнага культурнага чалавека—змагацца з барбарствам, з гвалтам, з анархіяй і бязбожніцтвам.

— Білі маскаля і бэндземы біць,—катэгарычна заключыў пан Дэмбіцкі сваю гутарку на ваенную тэму.

Але ў паноў ёсьць усё-ж некаторая доля непакою. Яна гучыць у запытаньні пана Крулеўскага.

— Але, пся крэв, хлопы не заспакоены. Цо то бэндзе?

Пан Дэмбіцкі зьлёгку нахмурыўся.

— А то, пане, глупства,—зьняважліва кідае ён.

Няпрыемна было наогул у такі урачысты момант гаварыць пра хлопаў, тым болей няпрыемна, што „хлопы“ хаваліся па лясох. Гэта акалічнасьць міжволі нагадвае паном іх уласнае туляньне ў часе мяцежу, калі яны самі шыбавалі „до лясу“.

— То не ест глупства, пане палкоўніку,—асьцярожна запярэчыў пану Дэмбіцкаму адвакат Ладунскі:—я баюся, што недаацэнка сілы „хлопскага“ руху можа прычыніць нямала няпрыемных неспадзяванак. Сялянскія паўстаньні гэтага—адгаліненьне таго-ж бальшавізму, того-ж самага цёмнага пачатку, што ёсьць унутры чалавека і асабліва ў натуры нізавых мас. Пад сьцягам бальшавізму і пад непасрэдным кіраўніцтвам бальшавікоў вядуцца паўстаньні хлопаў, і ў гэтым іх небясьпека. У чым сіла бальшавізму? У яго лёзунгах і закліках да разбурэньня. Бальшавікі дасканала ведаюць натуру галітвы і апэлююць да яе цёмных пачаткаў.

— А,—азваўся адзін з абшарнікаў:—Пан Ладунскі напалохан бальшавікамі і ён лічыць іх за вялікую сілу. Вялікая была калісь і сіла татарскіх орд, аднак, яны ў Эўропу далей Расіі не

пасунуліся—іх зьмінтрэжылі палякі і чэхі. І цяпер перад Польшчаю стаіць задача—ня пусьціць азіятаў у Эўропу.

— Панове,—выступіў ксёндз Пацейкоўскі:—мае рацыю пан Ладунскі, калі ён засьцерагае ад бальшавізму, і мае рацыю пан Залеўскі—прозьвішча абшарніка, выступіўшага супроць Ладунскага,—калі ён спасылкаю на гістарычную зьяву заспакойвае. Але наш абавязак, абавязак сумленных грамадзян, сыноў нашай маткі Польшчы, прыйсьці на дапамогу жолнежам нашай непераможнай арміі, якая з ласкі маткі гоніць барбараў і атэістаў.

І ксёндз Пацейкоўскі прадставіў поўны праэкт, як павінны змагацца „сумленныя грамадзяне"—верныя дзеці маткі Польшчы з бальшавізмам і з сялянскімі паўстаньнямі. У гэтай справе павінен прыняць удзел „косьцел сьвенты", бо і сам пан бог патрабуе паўстаць супроць бальшавікоў-атэістаў. Патрэбна прапаганда антыбальшавіцкіх ідэй праз друк, як правільна адзначыў пан Галеніч. Але гэтага мала: трэба арганізаваць паўстаньне набожных сялян у тыле Чырвонай арміі, а таксама паставіць на ногі сваіх людзей—свае вочы і вушы. У заключэньне трэба напісаць адозву да культурнай Эўропы, каб усё культурнае чалавецтва паўстала супроць анархіі, крыві і стыхіі разбурэньня, што нясе сьвету бальшавізм.

Праэкт ксяндза Пацейкоўскага і самога аўтара праэкту віталі горача.

А музыка грымела. Весялілася шляхецкая моладзь. А калі нагуляліся і нагаварыліся, госьці селі за стол. Шумны, пышны быў банкет у палацы пана Длугошыца пад аховаю батальёнаў польскіх салдат. Агалашаліся патрыятычныя тосты. Крычалі „віват" польскай дзяржаве, маршалку Пілсудзкаму, польскаму войску ў асобах генэралаў і пана Дэмбіцкага, гаспадаром, духоўным асобам, найпрыгажэйшым польскім жанчынам і вялікаму, як нідзе ў сьвеце, польскаму дэмакратызму.

## XXII

Дагаварыцца аб справе з Саўкам Мільгуном узяўся разважлівы Бруй. Ён выбраў зручную часіну і вечарком, на зьмяркаrньні накіраваўся ў Саўкаў двор. Бруй увайшоў у хату і спыніўся каля парогу: у хаце нікога ня было. Зьвярнуўся і хацеў ужо ісьці назад, аж з печы пачуўся голас:

— Хто там?

— Гэта ты там, Саўка?—запытаўся і Бруй.

— Я,—спакойна азваўся Саўка і ня дужа сьпяшаўся падымацца—проста не хацелася варушыцца: хата халодная, а печ была цёплая.

— Здароў, Саўка. Што ты парабляеш там?

— А вось ляжу і думаю сабе.

— Ну, што-ж? і гэта работа, калі няма нічога лепшага... Аб чым-жа ты думаеш?

Бруй зайшоў з другога боку печы, бліжай да Саўкі. Саўка памкнуўся быў, каб устаць, але перадумаў і рашыў адказаць госьцю лежачы.

— Думаю, чым заняцца. Рабіць-жа нешта трэба, а рабіць, дык вось ня прыдумаю што.

Пры гэтым Саўка падумаў: „Цікава, чаго ты прышоў“.

— Галава ты, галава. Работы сабе ня знойдзеш. Да ты ня любіш работы.

— Ну, як то ня люблю. Глядзя, якая работа.

— Сьмешна гаварыць, каб чалавек работы сабе не знайшоў.

„Ці ня прышоў ты клікаць мяне на якую-небудзь сваю работу“—у мысьлях сказаў Саўка:—„не, брат, дудкі, да цябе працаваць не пайду“.

— Чалавек шукае работы па сабе,—у голас сказаў Саўка.

— Гультай ты, Саўка, вось я табе што скажу. У такі час, каб ты не знайшоў сабе чым заняцца.

— Ну, дык скажы—чым?

Саўка зрабіў рашучае намаганьне і сеў. Ён счуў—Бруй мае сказаць нешта такое, што варта паслухаць седзячы.

— Ты вось што мне скажы,—адразу пачулася, што Бруй пераходзіць да справы,—да якой партыі належыш ты?

— Як партыі?—пачухаў патыліцу Саўка.

— А так, за каго ты стаіш?

— Я? ні за каго. Сам за сябе стаю.

— Вось гэта і ня добра. Калі ты ні за кога не стаіш, то і за сябе не стаіш... Ты паглядзі, як ты жывеш: холадна, цёмна, пуста...

— Ну, гэта не заўсёды так бывае,—запярэчыў Саўка:—калі пуста, а калі і густа.

— Слухай, Саўка: ёсьць адна справа—вазьміся за яе. Шкадаваць не будзеш... Якраз будзе густа.

Саўка пачуў, што рыбка пачынае торкаць.

— Кажы—што?

— А вось што: зрабіся ты партызанам.

Саўка замаўчаў, а потым адрэзаў:

— Ня хочу.

— Ты ня ведаеш, у чым тут соль.

— Соль добра, калі ёсьць што саліць,—заўважыў Саўка. Закручваеш, брат, ты нейкую штучку.

— „Чую—сальцам пахне“,—сам сабе думае Саўка, але не сьпяшаецца выказваць рух сваёй душы.

Разважлівы Бруй пакрыўдзіўся.

— Калі ты ня хочаш нават пацікавіцца, у чым тут справа, дык нам і гаварыць няма аб чым.

І ён змоўк. Не падаваў голасу і Саўка. Ён разважаў так: пойдзе за дзьверы, тады вярну яго. Але Бруй за дзьверы не пайшоў.

— Чаму ў цябе няма агню?—запытаў ён.

— Дзеці ў суседа гуляюць. Жонка да маткі пайшла, а я покі не надумаў, што рабіць, ня маю патрэбы ў агні.

— Цяжка-ж ты думаеш.

— Усякія думкі бываюць.

— Дык ты партызанам быць ня хочаш?

— Не, ня хочу.

Як відаць, яму надакучыла гэта гульня ў хітрыкі, і ён дадаў:

— Кажы проста, і ня хітруй, пане Бруй.

— Дык вось слухай. Ты—чалавек, на якога крыўды мы ня маем. Чым ты займаўся там, мы ня ведаем. Дзяліць нас ты ня зьбіраўся. Але былі таварышы, што на наша дабро, на наш набытак ужо разяўлялі раты і працягвалі рукі. Цяпер яны па лясох туляюцца ды ў шайкі сходзяцца. А з гэтага дабра ня будзе. Парадак-жа павінен быць, і вуха дзяржаць трэба востра. Вось-бы ты і ўзяўся за імі пасачыць. А для гэтага табе і трэба партызанам прыкінуцца. Табе яны паверацць, а выяваць табе не канечне. Ты толькі праведай, дзе яны хаваюцца і што яны думаюць рабіць, і папярэджвай нас праз войта Васіля Бусыгу. Вось і ўся твая работа. А плата будзе табе ня кепская: хлеб будзе, да хлеба будзе, капейка будзе і ні ў чым нястачы ня будзе.

Саўка акінуў поглядам сваіх мысьляй увесь складаны комплекс тае ролі, на якую падбіваў яго Бруй з усімі яе выгодамі і хібнымі бакамі. Ён адразу пачуў цьвёрды і прасторны грунт дзеяньня. У хаце было цёмна, і Бруй ня мог сачыць за выразаю Саўкавага твару. Ён цярпліва чакаў покі Саўка думаў, і меркаваў, ці спрытна пад'ехаў ён да Саўкі.

„Ці не пагарачыўся я?"—разважаў разважлівы Бруй і з некаторою трывогай чакаў Саўкавага слова. Саўка-ж адразу ацаніў стратэгічную важнасьць свае пазыцыі і ўзважыў сваю ролю і спосабы яе выпаўненьня.

— А што вы дасьце мне за гэта?—нарэшце запытаў ён.

У разважлівага Бруя, як бы камень з плеч скаціўся.

— Аб плаце мы дамовімся лёгка, і крыўды мець ты ня будзеш.

Усякі такі торг і сканчэньне торгу звычайна адзначаецца барышом. Бруй заклікаў Саўку да рыжабародага Біркі, як гэта было ў іх зараней абмяркована. Туды-ж павінен быў падыйсьці і Васіль Бусыга.

Сышліся ў Біркі.

Пілі самагон, елі скваркі. Тут-жа гуртам акрэсьлілі круг Саўкавых абавязкаў, а таксама дамовіліся і аб плаце, прычым у яе аснову быў палажан прынцып прэміі—болей стараньня, плата звыш нормы, і чым большы вынік, тым большая прэмія.

Падазрэнным, спасьцярожлівым вокам акінула Аўгіня Васіля, калі ён вышаў з хаты; па яго прыслалі ад Біркі. З таго дня, калі Аўгіня так нявелта прыняла Васілёва паведамленьне аб тым, што ён—войт, яны амаль што не гаварылі. Праўда, Аўгіня гатова была пайсьці на згоду—у яе былі на гэта свае мерка-

ваньні, яна першая рабіла захады ў гэтым кірунку, але Васіль закуражыўся і астаўся глух. Гаварыў з ёю скупа і то толькі ў афіцыяльных выпадках, калі справа датыкалася гаспадарскіх інтарэсаў. Зацялася тады і Аўгіня: цяпер яна мела на гэта права, як абражаная і пакрыўджаная жанчына. У мысьлях яна была нават і рада гэтаму, але ад прыроды яна была трохі артыстка і спрытна праводзіла ролю зьняважанай жонкі.

„Куды-ж гэта пашоў ён? чаго?“ карцела пытаньне ў Аўгінінай галаве. Ёй адразу цюкнула, што, тут мае месца змова. Яна ўспомніла словы рыжабародага Кандрата Біркі аб партызанах. Усё гэта яе зацікавіла і занепакоіла. Ёй раптам стала страшна, страшна таго прамежнага стану, у які папала яна. Яна ўспомніла бабку Насту, гутарку з ёю. Перад ёю таксама ўсплылі апошнія падзеі ў Вепрах. Жыцьцё наматвала вакол яе ліпкія ніці, у якіх можна лёгка заблутацца, як муха ў павуціне. Адыйсьціся ў бок ад усяго гэтага яна ўжо не магла. Ёй трэба ведаць, што робіцца вакол яе і не хадзіць сьляпою. Ёй трэба, нарэшце, на нешта наважыцца і пайсьці па нейкай пэўнай дарозе.

Аўгіня апранула кажушок, што вельмі ўтульна аблягаў яе стройную фігурку, накінула на галаву цёплую хустку і вышла на двор. Спынілася каля весьніц. Ужо цёмная ноч густа заткла цемрадзьдзю вуліцы, хаты і двары. Тускла і нясьмела сьвяціліся вокны. Па вуліцы зрэдка праходзілі адзіночныя чалавечыя постаці. Аўгіня хвілінку пастаяла, а потым рашуча накіравалася ў бок хаты Кандрата Біркі. Хацелася праверыць сваю дагадку. Біркава хата стаяла непадалёку па другі бок вуліцы. Разглядаючыся, Аўгіня асьцярожна ўвайшла ў двор, ціхенька расчыніўшы весьнічкі, і стаілася за вуглом, каб не папасьціся каму на вочы. Расслухаўшыся, яна высунула галаву ў палоску сьвятла, што ішло ад вакна. Яна хвалявалася, як чалавек, што змушан падглядаць спотайку, рызыкуючы быць злоўленым. Па хаце ківаліся цені, няясна даносіўся прыглушаны гоман. Разгледзець, што робіцца ў хаце, было трудна. Аўгіня прыгнулася, зайшла з другога боку і зноў зазірнула ў вакно. Скрозь чысты, не затканы марозам кусочак шкла, яна разгледзела мужчын, сядзеўшых за сталом і выпіваўшых. Дзьве постаці найболей зьвярнулі на сябе Аўгініну ўвагу: Васіль і худашчавы чорнамазы Саўка Мільгуні. У Аўгіні ніякіх сумненьняў цяпер на заставалася: Саўку нанял, купілі за грошы і ставілі на цёмную, здрадніцкую справу. Ад Саўкі можна спадзявацца ўсяго. Пачуцьцё страху і агіды калыхнулася ў Аўгініным сэрцы. Аставацца тут болей ня было чаго. Такжа ціхенька вышла на вуліцу і пайшла ў сваю хату. Тут толькі ўлягглося яе хваляваньне, і сэрца стала біцца спакойней.

Дзед Купрыян ужо драмаў на сваіх палатках, ці можа проста думаў пра ўсе гэтыя падзеі апошніх дзён. Не спачуваў дзед Купрыян усёй гэтай валтузьні і калачэчы і не разумеў нічога з таго, што пачало тварыцца на сьвеце. У яго было цьвёрдае пераконаньне ў тым, што ўсё ліха пайшло ад таго, што скінулі

цара. Быў цар, быў і парадак, добры ці благі, але парадак, і хто хацеў працаваць, той меў сабе працу і меў кавалак хлеба. Дабра на сьвеце не чакаў цяпер дзед Купрыян. Але хто паслухае яго, калі малады народ пайшоў ня ў меру разумны? Меншыя Аўгініны дзеці, два хлопчыкі спалі бястурботным сном шчасьлівага дзяцінства. Ня спалі толькі Аўгіня і Алеся. Яны сядзелі каля камінку, пралі і ціхенька вялі гутарку. Алеся дзіцячым інстынктам угадвала бацькаву няласку да сябе і пад уплывам гэтага яе псыхіка была сьціснута і прыгнечана бяспрычынным страхам і боязьню. А ў апошнія дні гэты страх і неспакой яе дзіцячага сэрца сталі яшчэ болей вострымі, асабліва, калі бацькава панурасьць накіравалася і на матку. Яна трацілася ў дагадках, чаму гэта так, але не магла вытлумачыць сабе прычын бацькаўскіх паводзін. Тое, што гаварылі ў хаце і навокал яе старэйшыя, параджалі ў яе сэрцы няясныя і страшныя мысьлі аб людзкой жорсткасьці і несправядлівасьці. Адкуль узяліся палякі? Чаго ім трэба? Чаго ўрываюцца яны ў вёскі і сілаю бяруць усё, што яны хочуць? Усё яе спачуваньне было цалкам на баку тых, хто не хацеў скарыцца перад палякам і біўся з ім на сьмерць, бароначы свае інтарэсы. Дзеда Талаша яна лічыла выдатнейшым чалавекам і ўсім сэрцам спачувала Панасу, якога забралі палякі. Але вось бацька ня любіць іх, ненавідзіць. За што? Чаму?

## XXIII

Нявысокі хударлявы чалавек разьмеранаю роўнаю хадою ідзе лесам. Лес, ахінуўшы свае плечы белаю накідкаю, урачыста захоўвае цішыню і спакой. Такі лагодны спакой бывае толькі ў мінуты мудрага разважаньня аб таемных заваблівых глыбінях жыцьця, або тады, калі заціхае ўсякая трывога, усякі клопат і нічога ў сьвеце ня турбуе ні мысьлі, ні сэрца, а ты адчуваеш поўнае сугалосьсе з тым, што над табой і вакол цябе.

І гэты нявысокі хударлявы чалавек, адзеты болей на гарадзкі лад, прычым і абутак і адзеньне яго дастасаваны да пешага перасоўваньня, здаецца, паддаўся чарам гэтага ляснога спакою і цішыні. Сяды-тады ён углядаецца ў гэты лес, у гэта часамі дужа цікавае спалучэньне дрэваў у розныя вычварныя групы і згуртаваньні. І нельга не запыніць увагі вось на гэтай групе. Нявысокі хударлявы чалавек уважна ўглядаецца ў яе сваімі шэрымі халоднымі вачыма. Стаіць разложысты дуб. Магутныя сукі яго і шырокі верх крыху нахіліліся ў той бок, дзе сьвеціць сонца. Праз гэтыя сукі прасоўвае сваю круглую галаву стромкая асіна. З другога боку высокая танклявая елка праціскае скрозь дубовыя галіны свае зялёныя калючыя лапы. Там, дзе галіны стыкаюцца адна з другой, кара на іх сьцерлася. Цяпер яны застылі нярухома, але, калі вецер, сьпяшаючыся ў сваю дарогу, праходзіць над лесам, яны пачынаюць церціся адна аб другую і глуха скрыпець.

Нявысокі хударлявы чалавек спасьцярожлівым вокам ловіць усе гэтыя драбніцы. Ён яшчэ раз акідае поглядам дзіўную групу, і ў мысьлях паўстае пытаньне: што гэта—змаганьне за жыцьцё ці то—згода і дружба? Нявысокі хударлявы чалавек наогул ня верыць ні гэтай цішыні, ні гэтаму лясному спакою: гэта цішыня і гэты спакой—толькі зманлівая відомасьць цішыні і спакою. На шырокіх прасторах зямлі бурліць вір змаганьня жорсткага, бязьлітаснага, але не безладнае і хаотычнае, а змаганьне, падпарадкаванае акрэсьленаму закону. У буры гэтага змаганьня нявысокі хударлявы чалавек поўным нутром адчувае нараджэньне новай эпохі і замацаваньне яе на зямлі. Вось чаму ён так упэўнена ходзіць у гэтым віры. Кажуць, хто сее вецер, той пажынае буру. Нявысокі хударлявы чалавек—сейбіт буры і праз буру прыдзе новы лад і народзіцца новы чалавек.

Гэты сейбіт—таварыш Нявідны, той самы Нявідны, чыё прозьвішча, ды й сам ён, так зьдзівілі дзеда Талаша. У Нявіднага за пазухай даволі ёмкі пакет. У пакеце зложаны адозвы да сялянства акупаванага Палесься, інструкцыі для падпольных бальшавіцкіх арганізацый, гэтых патаемных крыніц для жыўленьня ідэй клясавага змаганьня і апоры Саветаў на мясцох. У гэтым-жа пакеце ёсьць шмат матар'ялаў, напісаных рукою клясавага ворага і накіраванага супроць бальшавікоў. Тут-жа ляжыць і адозва акупацыйнай польскай улады да абшарнікаў, каб яны варочаліся і займалі свае „законныя" маёнткі і сядзібы, а сяляне, каб зьвярнулі ім розны набытак, забраны імі ў часе рэвалюцыі і ўлады Саветаў. Нявідны акуратна зьбірае ўсе гэтыя матар'ялы: на гэтых матар'ялах ён вядзе агітацыю супроць акупантаў і раскрывае іх сапраўднае нутро. Рызыкуючы сваёю галавою, пераходзіць ён з месца на месца, арганізуе новыя ячэйкі, падтрымлівае, дапамагае ўжо арганізованым. Цяпер ён і ідзе ў вёску Паставы. Гэта другі яго паход сюды. Быў ён там з месяц назад, калі вёска Паставы была яшчэ ў руках чырвоных. Былі ў яго там сувязі і знаёмства. Нявіднага цікавіць, што сталася з ячэйкай, якую залажыў ён у Паставах і аб якой ня мае цяпер ніякіх вестак. Яму трэба дазнацца, як жыве, чым жыве і ці жыве яна наогул.

Самая прыкрая рэч, калі чалавек знаходзіцца ў стане поўнага няведаньня. Што ведае Нявідны аб вёсцы Паставы? Нічога. Ведае толькі, што яна знаходзіцца пад палякамі, што ў Паставах, як і ў кожнай занятай палякамі вёсцы, ёсьць іх шпіёны і агенты, што час ад часу паяўляюцца там польскія разьезды і наезды. Вось чаму Нявідны ідзе асьцярожна. Ён ведае, як зорка сочаць жандары, паліцыя і польская контрразьведка за такімі небясьпечнымі людзьмі, як ён. Ведае, што чакае яго, калі ён пападзецца ў іх рукі. Шкода ня толькі волі і жыцьця, а шкода і правалу тае работы, якую даручыла яму партыя.

Перш чым увайсьці ў вёску, ён стаіўся ў лазовых кустох каля замёрзшай рэчкі і стаў прыглядацца і слухаць. У вёсцы было ціха і бязьлюдна. Нявідны стаяў і цярпліва лавіў зручны

момант, каб выйсьці з свае засады. Але момант гэты не налучаўся. І раптам, дзесь з боку, на рэчцы пачуліся дзяціныя галасы. За купамі аголеных кустоў мітусіліся хлапчукі школьнага ўзросту. Было іх пяцёра. Яны працерлі нагамі вузенькія доўгія сьцежкі на лёдзе і коўзаліся, хто на дзеравяных чурбачкох, прыладзіўшы іх да лапця, а хто проста з разгону на сваіх нагах, абутых у самыя прымітыўныя лапці. Адзеты яны былі ў старыя лежаныя суконныя халацікі, падперазаныя даматканымі каляровымі паясамі. На нагах сьмешна варушыліся радняныя нагавіцы.

З-пад расхлістаных халацікаў віднеліся голыя грудзіны. Шапкі на іх былі самыя рознастайныя, непамерна вялікія, зімовыя ці проста летнія. Але хлопцам было весела. Яны громка перакідаліся словамі, часамі лаяліся і звонка рагаталі.

Нявідны адчуў нейкую радасьць, калі да яго слуху данёсься гэты шчэбет дзіцячых галасоў, а іх постаці паказаліся перад яго вачыма. Каб не спалохаць іх, ён асьцярожна вышаў з кустоў і памаленьку падаўся ў іх бок, бесклапотна высьвістваючы нейкі матыўчык вясёлай песьні. Хлапчукі раптам навастрыліся і змоўклі.

— Гуляйце, хлопчыкі, гуляйце. Ня бойцеся.

— Мы не баімося,—храбра адказаў адзін з іх.

Нявідны падышоў бліжэй. Хлопцы ўсё-ж ня зусім верылі яму і пазіралі спасьцярожліва, прыпыніўшы свае забаўкі.

— А чаму вы, хлопцы, ў школу ня ходзіце, а коўзаецеся?

— Настаўніка няма,—дружна адказалі хлопцы. Нявідны відочна затрывожыўся.

— А дзе-ж ваш настаўнік?

— Палякі забралі.

— Арыштавалі?

— Эгэ-ж,—пачуліся іх галасы.

Нявідны сумеўся. Вось гэта яго моцна ўразіла.

— А калі яго арыштавалі?

— Учора.

Наступіла кароткае маўчаньне. Тая акалічнасьць, што гэты незнаёмы чалавек цікавіцца настаўнікам, хіліла дзяцей да Нявіднага.

— А скажэце,—парушыў ён маўчаньне:—Нічыпар Барэйка дома ці не?

Галасы хлопцаў падзяліліся. Адны казалі дома, другія—не. Яны зусім асвойталіся з Нявідным і лічылі яго за чалавека, з якім можна гутарыць сьмела. Яны адказвалі наўперад разам, але ў болей трудных выпадках, дзе адказ на запытаньне павінен быць асьцярожным і дыплёматычным, адказваў старшы з іх Мікітка Гулік. Ён зараз-жа распарадзіўся пасланць у вёску Міхалку Крупіка справіцца, ці дома Нічыпар, каб скончыць спрэчку. Умяшаўся і Нявідны.

— Калі ён дома, то скажы, няхай падыдзе сюды, яго, скажы, хоча пабачыць Нявідны.

Ахвотны Міхалка хацеў ужо бегчы, але Нявідны затрымаў яго.

— Пачакай трошкі... А палякі ёсьць у вёсцы?—запытаў ён хлопцаў.

— Цяпер няма,—адказаў Міхалка:—але яны стаяць тут блізка.

— Дык ты, браток, перадай Нічыпару ціхенька, каб ніхто ня чуў.

Міхалка пабег, а Нявідны стаў гутарыць з хлопцамі.

— Ну, як—добра вам жыць пры паляках?

Хлопцы ўтупілі вочы. Відаць, яны ўсё-ж не адважваліся сказаць тое, што думалі: боязна памыліцца. Нарэшце Мікітка сказаў з адценьнем журбы ў голасе:

— Не, ня добра.

— Чаму?

— Да вось забралі нашага настаўніка. Хлеб, жыўнасьць адбіраюць. А калі хто хоць трошкі пачне сьпірацца, таго б'юць.

— А як вы думаеце, за што забралі вашага настаўніка?—зацікавіўся Нявідны, хоць добра ведаў прычыну арышту. Дзецям спадабалася, што гэты дарослы чужы чалавек лічыцца з іх думкамі.

— Кажуць, за тое, што бальшавіком быў,—нясьмела азваўся Мікітка.

— А як маглі даведацца палякі, што ён—бальшавік?

— Крук Марцін удаў яго,—рашуча заявіў Мікітка.

— А хто такі Марцін Крук?

— Чалавек адзін тут. У яго бальшавікі забралі каня, дык ён са злосьці і топіць усіх, хто бальшавік,—тлумачыў Мікітка.

— А скуль ты ведаеш, што яго ўдаў Крук?

— Усе так гавораць.

Гутарка спынілася: бег Міхалка. Усім было цікава ведаць, з чым вернецца ён. А Міхалка яшчэ здалёку паведаміў, што Нічыпар дома і зараз ідзе сюды сам. І сапраўды, хвілін праз колькі прышоў і Нічыпар, пануры і заклапочаны. Рыжаватыя бровы яго зрасьліся на носе, а сам нос яго, хоць і задзёрысты, выглядаў даволі маркотна і нявесела. На від Нічыпару можна было даць гадоў дваццаць з невялікім хвосьцікам. Відаць, нейкая думка яго моцна непакоіла. Твар яго трохі пасьвятлеў, калі падышоў ён да Нявіднага.

Нявідны паглядзеў у вочы Нічыпару.

— Што, брат, ня весел?

— Не вяселіцца штосьць,—вінаватаю ўсьмешкаю ўсьміхнуўся Нічыпар.

Хлапчукі стаялі тут-жа: ім хацелася чуць, аб чым будуць гутарыць мужчыны. Мікітка, як старшы, пагнаў іх коўзацца і сам адышоўся: прыроджаны такт падказваў яму, што не хлапецкая справа слухаць гутарку дарослых, ды яшчэ пры такіх абставінах.

Нявідны і Нічыпар таксама рушылі з месца. Ідучы гутарылі.

— Сакратар арыштован?

— Арыштован, тав. Нявідны,—пахмура адказаў Нічыпар.

— Якую-ж работу рабілі вы тут?

— Зьбіралі сходы. Агітавалі супроць белапалякаў, выступалі за Саветы.

— І якія вынікі?

— Да ўжо згуртавалі чалавек дванаццаць хлопцаў. А вось цяпер работа прыціхла і паліцыя пачала дужа насядаць. Шпіянаж на ногі паставілі. А тут і настаўніка забралі... Настрой зьніжаны.

— А баявую дружыну маеце вы?

Нічыпар крыху замяўся.

— Парассыпаліся хлопцы.

— Ні чорта вы не зрабілі. І грош цана такой вашай рабоце,—ціхі і лагодны з віду Нявідны загаварыў цьвёрда і жорстка:—як-жа гэта вы не паставілі людзей здольных узяць у рукі зброю? На вас насядае паліцыя... Дзеці адкрыта гавораць пра даносчыка Марціна Крука. А што вы з ім зрабілі?

— А што зрабіць з ім?—запытаў Нічыпар.

Нявідны паглядзеў на яго халоднымі вачыма.

— У расход яго вывесьці,—цьвёрда прамовіў ён:— ці вы спадзяецеся, што паліцыя запросіць вас на работу і скажа: калі ласка, агітуйце супраць нас... Ні к чорту ваша работа. Бабы вы. Старыя дзяды самі сваім розумам даходзяць да думкі, што трэба ўзброенае змаганьне супраць акупантаў. Самі зьбіраюць людзей, зброю самі дастаюць і самі становяцца на чале партызан. А вы спалохаліся паліцыі, арыштаў і стаіліся, як мышы пад мятлою...

— Склікаць сёньня-ж сход.

Але Нічыпара непакоіла адна думка, і не сказаць пра яе Нявіднаму не выпадала.

— Горш за ўсё вось што, тав. Нявідны: на вобыску ў часе арышту нашага сакратара забралі дакумант—сьпісак членаў замосьцінскай падпольнай арганізацыі.

Яшчэ халадней глянуў Нявідны на Нічыпара.

— Самі работы ня робіце, ды яшчэ другіх падводзіце. Далі знаць аб гэтым у Замосьце?

Нічыпар маўчаў вінавата і панура.

— Паведаміць, ва што-б там ні стала, паведаміць Замосьце.

— Замосьце на вялікім падазрэньні ў паліцыі, і прабрацца туды трудна.

Нявідны зьмерыў Нічыпара з ног да галавы халодным поглядам.

— Няма ў вас арганізацыі, няма ў вас работы і... людзей у вас няма... Ёсьць людзі, але вы ня здолелі паставіць іх на работу.

Нявідны змоўк. Што было гаварыць Нічыпару?

— Вось што,—памаўчаўшы сказаў Нявідны:—сход склікаць на пасьлязаўтра. Калі я не вярнуся, праводзьце сход самі. Задача сходу—разгарнуць работу, жывую, бальшавіцкую. Арганізаваць партызанскі актыў, іначай вы ня людзі змаганьня, не бальшавікі, а мёртвы баласт. Не чакаць, покі паліцыя дазволіць вам насіць зброю—самі вазьмеце яе ў паліцыі.

І перадаў Нічыпару жмут адозваў.

— Расклеіць гэтыя адозвы, дзе толькі можна. Нявідны пайшоў. Нічыпар маўчаў, пазіраў яму ў сьлед.

— Таварыш Нявідны, і я іду з табою.

Нявідны азірнуўся.

Аставайся тут і рабі тое, што я табе казаў.

Нявідны зьнік у кустох. Нічыпар яшчэ пастаяў некалькі хвілін. Яму стала прыкра і сорамна.

„За работу, за жывую работу“.

Нічыпар задумаўся, і ў другім кірунку пайшлі яго мысьлі.

## XXIV

Калі Саўка Мільгун сам не дадумаўся, якою справаю заняцца яму, дык за яго людзі падумалі, і добра падумалі. Цяпер Саўка зьлез з печы, ажывіўся, парухавеў,—словам, другім стаў чалавекам. І думак у яго поўная галава. Думкі яго ідуць па дзьвёх асноўных лініях: першая—як практычна зьвязацца з партызанамі і другая—як застрахавацца ад іх на ўсякі выпадак. Інačай сказаць, што трэба зрабіць, каб і сена было цэлае і каб козы былі сытыя. Як вядома, такую мудрасьць шмат хто праводзіць у жыцьці. І Саўка бярэцца за работу. Ня брацца нельга; барыш выпілі, задатак узяў. Крупы, мукі, сала таксама перапала. А наперадзе гэта перападаньне абяцае стаць яшчэ болей шчодрым. Ня трэба толькі спаць у шапку і ня быць дурнем.

Сабраўся Саўка ў дарогу, напусьціў на сябе ваяўнічы від і многазначна прайшоўся перад вокнамі войтавай хаты і яго прыяцеляў: няхай ведаюць, што ён выконвае свае абавязкі. І войт убачыў яго з двара і таксама многазначна кіўнуў яму галавою.

Саўка ідзе ў Вепры—з Вепраў пачне ён сваю работу. Сустракаючы сяго-таго з сваіх знаёмых, ён асьцярожна заводзіць гутарку аб гэтай бядзе, што на людзей насунулася, аб тым, як цяжка жыць пад польскай акупацыяй.

— Куды, Саўка, ідзеш?—запытаюць яго.

Саўка нахмурыць бровы і грозна адказвае:

— Чалавеку цяпер адна дарога—у лес.

І скажа такім тонам, што ўсім становіцца ясна, чаго трэба чалавеку ў лес ісьці.

— Охх-хо,—уздыхне толькі Саўкаў слухач.

І нічога дзіўнага няма: зусім слушна гаворыць Саўка, і яго словы разумеюць, як заклік да паўстаньня. Людзі спачуваюць

яму, а некаторыя нават папярэджваюць, каб ён асьцерагаўся, бо можна лёгка папасьціся. Саўка і сапраўды думае, што трэба асьцярагацца.

Строга акрэсьленага пляну ў Саўкі няма. Ён накідаў толькі самыя агульныя абрысы яго, а рэшта—Саўка проста пакладаецца на шчасьлівы выпадак. Вось чаму яго дзейнасьць болей падпарадкуецца натхненьню, чым папярэдняй прадуманасьці, і калі Саўка выходзіў ужо з сяла, дзяржучы кірунак на Вепры, і ў поле яго зроку трапіла хата дзеда Талаша, то ён рашыў ня мінаць яе: а ну-ж, натрапіць на сьлед старога паўстанца. Па істоце Саўка нічога ня мае супраць дзеда Талаша і тых людзей, за якімі ўзяўся ён сачыць, ён глядзіць на іх, як на сродкі да жыцьця. Ён гатоў нават і спачуваць ім, але што ты зробіш, калі так зьбегліся акалічнасьці? Ды, праўду казаць, Саўка ня Сьпіноза, і пытаньнямі этыкі ён не займаецца.

Максім тупаў на двары. Тая бяда, што навалілася на дзедаву хату і яго сям'ю, здавалася, абмінула Максіма і не наладжыла на яго свайго адбітку. Прынамсі, на Максімавым твары не заўважалася нічога такога, што сьведчыла-б аб згрызотах і трывогах душы. Але і ня вечна-ж заставацца твару адным і тым-жа, а ў Максіма, быць ня можа, былі прычыны праясьніць свой твар.

Максім трохі зьдзівіўся, убачыўшы на двары Саўку: такі рэдкі быў ён тут госьць. Але Саўка, як ні ў чым ня бывала, падышоў да Максіма, прывітаўся.

— Асірацеў ты, брат Максім,—пачаў гутарку Саўка.

— Выходзіць, што асірацеў.

Максім быў захоплен зьнянацку і не знайшоў болей трапнага адказу. Саўка-ж трымаўся ўзятага тону. Ён дакорліва патрос галавой.

— Вось, брат, часы настал. Ні ў чым пэўнасьці няма, і сам сабе ня можаш быць гаспадаром. Я проста ня ўрымшчуся. Месца сабе не знаходжу.

— А табе што?

Максім падумаў, што Саўку палякі пакрыўдзілі.

— Ну, як-та што? Ты-ж думаеш, баліць толькі таму, каго за жабры ўзялі? Баліць і таму хто змушан глядзець на ўсё гэта. Ведаеш-жа, што робіцца. Ня мне гаварыць табе пра гэта.

— Ну, дык што?—і Максім недаверліва паглядзеў на Саўку.

— А тое, што сядзець ня трэба ціха.

— А чаго-ж ты сядзіш?—папікнуў Саўку Максім.

— Вось-жа і ня ўседзелася мне. Людзі ідуць у лес і я іду туды.

Максім ужо падазрона глянуў Саўку ў вочы.

— Ты, брат Максім, ня ведаеш Саўкі, але ты скора пачуеш пра яго,—разьвейваў Саўка Максімава падазрэньне.

— Ты гаворыш так, што цябе і зразумець трудна,—заўважыў Максім. У яго голасе ўсё-ж адчувалася недавер'е да Саўкі. Гэта адчуў і Саўка.

Ты хочаш сказаць—трудна паверыць?—запытаў Саўка і не чакаючы адказу, дадаў:

— Скажу проста—іду, брат, партызаніць, з добрымі людзьмі скампанавацца хачу. Ды толькі ты—маўчок, ні гу-гу.

Максім пазіраў на Саўку шырока раскрытымі вачыма, а Саўка гаварыў далей:

— Табе я скажу, а другому не скажу, бо твой бацька гэрой. Чым я лепш за твайго бацьку? Чаму ён павінен партызанам быць, а я дома сядзець?

Максім затрывожыўся.

— Бацьку не даюць дома сядзець: яго ловяць і ён мусіць хавацца, бо ў астрозе сядзець нікому ахвоты няма.

— Як за добрую справу, то і ў вастрозе не шкада пасядзець. Але ты скажы—мне ты можаш сказаць праўду,—куды мне падацца, каб пабачыць твайго бацьку? А калі не яго, то Мартына Рыля, ці каго-небудзь з іх?

— А скуль я магу ведаць? Бацькі даўно дома ня было. Як вырваўся ад палякаў тады, дык і не паказваецца. Дзе ён, што з ім—ня ведаю.

— Можа яно й лепей, што ня ведаеш'—разважліва зазначыў Саўка:—хіба людзям цяпер можна верыць?.. Ну, але хто хоча свайго дабіцца, той даб'ецца. Дык бывай, Максім, здаровы.

— Бывай.

Саўка крэпка пацісnуў Максіму руку.

Максім доўга стаяў, пазіраў, як Саўка выходзіў з сяла і павярнуў на дорогу ў Вепры, пазіраў, покі зусім ня зьнік з вачэй, і думаў над гэтым дзіўным візытам такога няпэўнага чалавека, як Саўка Мільгун. У выніку разважаньняў над гэтаю гутаркаю з Саўкам, Максім сказаў сам сабе: шалахтун... А ў рэшце ад яго ўсяго можна спадзявацца.

І ўсё-ж Максім ня мог заспакоіцца на гэтай думцы. Саўкавы словы і яго намер пайсьці ў партызаны ніяк не мясьціліся ў Максімавай галаве—ці ня было тут якога падступства? Ці не падаслалі яго, каб выведаць пра дзеда Талаша? Максім-жа, шчыра кажучы, нічога ня ведаў пра бацьку і пра Панаса. З таго часу, як начавалі яны з Мартынам Рылем, бацька дома не паказваўся.

Новая акалічнасьць разьбіла Максімавы думкі і сумненьні, выкліканыя Саўкам, і засланіла яго самога на некаторы час. Прышла Алена. Яна была на сяле. Не заходзячы ў хату, Алена падышла да Максіма.

— Ведаеш, Максім, што за праява была ў Ганусах?

Па тону Аленінага запытаньня Максім адчуў, што праява была дужа цікавая.

— Не, ня ведаю, ня чуў,—адказаў Максім, з некаторою трывогаю зірнуў Алене ў вочы.

— У сяле гавораць, што пад Ганусамі паўстанцы-сяляне ўшчэнт пабілі палякаў, паадбіралі награбленае дабро і жыўнасьць, а саміх іх зьнішчылі да аднаго.

— Вось гэта добра, калі то праўда,—азваўся Максім, і ў вачох яго бліснула радасьць і задаволеньне.

— Праўда, Максім, і самі людзі з Ганусаў расказвалі пра гэта. І ведаеш, яшчэ што расказваюць? Што паўстанцамі камандаваў стары, ужо сівы чалавек, што там былі і нашы салдаты. А гэты стары чалавек, па расказах, вельмі падобен да нашага бацькі.

— Ну, што ты кажаш?—зьдзівіўся Максім.

— Праўда, праўда, Максім.

— Не, гэта, мусі быць, брахня.

— Не брахня, а людзі гавораць,—стаяла на сваім Алена:—і не адна я так думаю, а і шмат хто думае так.

— Ну, калі ён управіўся народу назьбіраць і трапіць аж у Ганусы?

Алена ня здолела растлумачыць, як гэта магло здарыцца, але яна была цьвёрда праконана ў тым, што ў ганусанскіх падзеях браў удзел і дзед Талаш. Яе ўпэўненасьць была такая моцная, што яна перадалася, нарэшце, і Максіму. У сувязі з гэтым ён успомніў Саўку Мільгуна. Саўкавы словы, яго паводзіны і намер прадставіліся цяпер у іншым асьвятленьні: проста Саўка дачуўся аб гэройстве партызан, і ўчынкі іх натхнілі яго на ваяўнічы лад. Нічога дзіўнага няма ў тым, што пры такіх абставінах Саўку і сапраўды захацелася зрабіцца партызанам. Але чаму Саўка нічога не сказаў пра падзеі ў Ганусах? А ён, відаць, проста сумыслу не гаварыў пра іх, каб ня зьніжаць свайго ваяўнічага намеру. Гэтыя меркаваньні здаваліся Максіму зусім натуральнымі і яшчэ болей умацоўвалі ў ім тую ўпэўненасьць, што перадалася яму ад жонкі. Сваімі думкамі ён падзяліўся з Аленаю, расказаўшы ёй сваё спатканьне і гутарку з Саўкам. Алена цалкам далучылася да Максімавых поглядаў на Саўкава партызанства. Такім чынам, усе няяснасьці і сумненьні, прынесеныя Саўкам, цяпер разьвеяліся.

Навіны-ж аб ганусанскіх падзеях перадаваліся з хаты ў хату і глыбока захаплялі ўсіх і хвалявалі. Яны сталіся асноўнаю тэмаю для гутарак, разважаньняў і розных спалучэньняў падзей у іх цэлым жывым вянку, сплеценым людзкою пакутаю і кроўю. Разбраеньне польскага канвою, арышт Панаса, зьнікненьне дзеда Талаша, жорсткая расправа палякаў у Вепрах,—усё гэта адышло цяпер на другі плян, засланілася ганусанскімі падзеямі. Людзкая гутарка аздабляла сапраўдныя падзеі, прыплятаючы сюды розныя эпізады, драбніцы і такія акалічнасьці, якіх у сапраўднасьці ня было, але якія маглі быць. Ганусанскія падзеі набывалі значэньне гэраічнай быліны, дзе партызаны выступалі, як волаты, а іх атаман рысаваўся, як народны гэрой, як рука караючай справядлівасьці і помсты за людзкія крыўды і пакуты.

Гэтыя-ж падзеі падымалі дух прадоўнага сялянства і клікалі яго да актыўнага змаганьня супраць акупанскай навалы.

Толькі бабка Наста па-свойму прыняла гэту весьць аб падзеях у Ганусах. Яе асабліва занепакоіла тая акалічнасьць, што ў гэтых падзеях мог браць удзел і дзед Талаш. Быў ён там, ці ня быў, напэўна ніхто ня ведаў. Але-ж людзі называлі яго імя. Ведаючы-ж характар свайго старога, бабка Наста зусім была гатова паверыць, што ён там быў, і гэта акалічнасьць яе зусім ня цешыла. Што-ж будзе з Панасам? Што станецца з іх хатаю? Неспакойна было на сэрцы ў бабкі Насты.

Вечарам, калі зусім ужо зьмерклася, бабка Наста сядзела адна ў хаце, запаліўшы газовачку, і прала кудзелю, што прынесла ёй Аўгіня. Невясёлыя думкі, такія-ж аднастайныя і доўгія, як і тыя ніці, што смыкала яна і накручвала на верацяно, віліся над яе старою галавою. Бабка Наста адчувае сябе зусім адзінокаю. Максім і Алена—крыўдзіцца на іх бабка Наста не магла,—больш паміж сабою перагаварваюцца. Яны маладыя. Усё жыцьцё яшчэ перад імі. Моладасьць-жа ня так кратаюць згрызоты, як старасьць. Яны ўдваіх. Бабка-ж Наста зусім, зусім адна. Яна думае пра Панаса, і сьлёзы, як восенскія дажджавыя кроплі па халодным шкле, паволі коцяцца па яе маршчыністым твары.

Дзьверы бабчынай хаты ціха скрыпнулі.

Бабка Наста зірнула—парог пераступіла постаць маладзіцы. Яна была так захутана, што нельга было разгледзець яе твару. І толькі калі яна сказала: „Добры вечар“,—бабка па голасу пазнала Аўгіню.

— А, гэта ты, Аўгінька... А я кудзелі яшчэ не дапрала.

— Ліха з ёю, з кудзеляю.

Аўгіня падышла зусім блізенька да бабкі Насты. Голас яе перарываўся. Сама яна хвалявалася.

— Бяда, бабка Наста,—здушаным голасам сказала Аўгіня:—я прышла вас папярэдзіць.

Яна расказала пра Саўку Мільгуна і пра яго ролю, якую адводзілі яму войт і два яго прыяцелі.

— Што-ж цяпер рабіць?—сашчаміла рукі бабка Наста.

— Трэба даць знаць, папярэдзіць трэба вашага старога і тых, хто з ім. Не палохайцеся, бабка.

Аўгіня прадумала ўсе спосабы і расказала аб іх бабцы Насьце. Трэба даць знаць у Вепры жонцы Мартына Рыля. Трэба так ці сяк паведаміць дзеда Талаша ці каго-небудзь з яго сяброў. Гэту справу можна даручыць Алене, або Максіму. Нарэшце, бабка Наста сама можа гэта зрабіць. Баяцца няма чаго: Саўка вялікай бяды не наробіць, калі будуць ведаць, што ён за партызан.

— Толькі-ж, бабка, божа барані, не кажэце, што гэта я перадавала вам.

Аўгіня так-жа ціха вышла з хаты дзеда Талаша, як і прышла.

## XXV

Тысячамі дарог і ў розных кірунках зьбягае вясною сьнегавая вада. Як многа гэтых дарог і як рознастайны яны ў сваім руху і ў сіле свайго імкненьня.

Ёсьць нейкія зваблівыя чары, паэзія і хараство ў гэтых дарогах-ручаёх, што пракладаюць пуціны вясьне і адноўленаму жыцьцю на зямлі, у іх мітусьлівым бегу і залівістым бульканьні, у вясёлым гомане і ў грозным шуме. Маленькія, кволыя, ледзь заметныя ў пачатку, струменяцца яны, як сьлёзы, па твары зямлі тоненькімі пакручастымі рысачкамі, набываючы сілу з кожным часам, з кожным крокам руху наперад. І колькі перашкод, колькі нечаканасьцяй у іх падарожжы! Кожная грудка лёду, кожны парог—гарбінка, выступ зямлі, узгорачак становяць ім замінкі і труднасьці ў іх імклівым руху. Але яны бягуць, нясьціханна, бягуць бязупынна, дзе шпарчэй, дзе павольней, абыходзячы перашкоды, ці проста зносячы іх з свае дарогі, бягуць, покі не сальлюцца ў бурлівыя патокі, покі не ачысьцяць зямлі ад сьнягоў, каб магутным разводзьдзем пралажыць шырокі шлях для яе новага жыцьця.

Тысячамі дарог і ў розных кірунках ідуць і людзі, шукаючы сабе прастору, волі і ўсяго таго, што называюць яны сваёю радасьцю і шчасьцем.

Шчасьліва вярнуўся дзед Талаш у Высокую Рудню з часьцю сваіх партызан і з чырвонаармейцамі на чале з Букрэяй.

Гэты паход навочна паказаў паўстаўшым сялянам, што іх сіла—дружны калектыў, арганізаванасьць і строгая дысцыпліна. Удача, спадарожыўшая паходу, яшчэ вышэй узьняла ваяцкі дух партызан, разгарнуўшы перад імі шырокія далі змаганьня за сваю волю, за свае права жыць незалежна ад паноў. А ўсё гэта, разам узятае, гаварыла за пашырэньне, за далейшае разьвіцьцё тае справы, пачатак якой клаў Букрэеўскі паход сумесна з партызанамі. Немалое значэньне мела тут і аўтарытэтнае слова самога Букрэя.

Перад тым, як разыйсьціся, закончыўшы паход, Букрэй сабраў у лесе на прывале агульны сход удзельнікаў усяго паходу. Ён горача прывітаў партызан і асабліва дзеда Талаша з першым баявым хрышчэньнем, і зьвярнуўшыся да іх з заклікам ня кідаць так удала пачатай справы змаганьня з гвалтаўнікамі-акупантамі.

— Таварышы,—казаў ён:—цяпер вы самі бачыце, што ваша сіла—згуртаванасьць, строгі парадак, дысцыпліна і дружная работа плячо ў плячо з Чырвонаю арміяй. Наш паход—гэта маленькая драбніца ў радзе ваенных падзей, якія прыдзецца перажыць нам у недалёкім часе.

Тым ня меней і гэта драбніца адгукнецца ня малым рэхам сярод нашых ворагаў. Вось чаму я і хочу папярэдзіць вас, што вораг навострыць вушы і стане яшчэ болей жорсткім, каб вы-

караніць дух паўстаньня і непакоры. А ваш, таварышы, абавязак—шырыць, разьвіваць паўстаньне, зьбіраць народ, гуртаваць яго ў баявыя групы, у цэлае войска і шчыльна трымацца Чырвонай арміі. Яна дасьць вам ваенную вывучку, дасьць кіраўнікоў. Камандзіры-ж знойдуцца і спаміж вас, таварышы. Прыклад таму наш слаўны атаман і бацька—Талаш.

Але, таварышы, ня ўсякага прымайце ў свае рады: пад відам вашага прыхільніка будуць прыставаць да вас і вашы ворагі і правакатары. Дык будзьце асьцярожны і ня спускайце гэтага з-пад увагі.

Некалькі слоў сказаў і дзед Талаш. Ён падзякваў Букрэя і чырвонаармейцаў за дапамогу і добрую параду. Сумесна былі тут вызначаны і некаторыя прынцыпы арганізацыйнага парадку партызанскага руху. Былі назначаны начальнікі партызанскіх груп і выбрана месца збору, якое павінна было заставацца ў строгім сакрэце, а таксама выпрацаваны і формы сувязі, і назначан быў час, калі начальнікі партызанскіх груп павінны былі зьявіцца для інфармацыі і далейшых плянаў партызанскай дзейнасьці.

Дзед Талаш цяпер проста шчасьлівы чалавек, калі толькі ёсьць на сьвеце шчасьлівыя людзі. Усе яго жаданьні збыліся: ён папомсьціўся палякам за сваю асабістую крыўду і за крыўды, прычыненыя палякамі другім. Але гэта між іншым. Ён мае настаяшчую ваенную стрэльбу і апроч таго, уся адабраная ад палякаў зброя, што папала ў рукі партызан і чырвонаармейцаў, паступіла ў яго распараджэньне—так пастанавілі на ваенным сходзе. Ён знайшоў свайго зьняволенага сына, і сын яго з ім на волі. Пад руплівым доглядам Нупрэя Панас можа ня толькі хадзіць, але і бегаць. Нарэшце, дзед Талаш—партызанскі камандзір. Праўда, войска яго яшчэ павялічыцца і значна павялічыцца—на гэты конт сякія-такія меры ўжо прыняты. Чырвоныя камандзіры прынялі яго ў сваю сям'ю, іменна, як камандзіра і свайго чалавека. Хіба гэта ня гонар дзеду Талашу? Але дзедава галава знае меру і не пераходзіць тае граніцы, ад якой галава пачынае кружыцца. Ён цьвяроза глядзіць на рэчы. У гэтай галаве жывуць цяпер пераважна чыста ваенныя і камандзірскія мысьлі. Ён думае аб далейшым ходзе падзей: не за гарамі вясна, а вясною пачнуцца такія справы, што трэба быць гатовым да ўсякага. У дзедавай галаве ёсьць месца і для думак аб доме—аб бабцы Настусі, аб Максіме і аб гаспадарцы. Бабка Наста з жалю заходзіцца па Панасе ды і аб ім трывожыцца. І ня ведае яна, што Панас вырваўся з няволі і што ён разам з бацькам. Гэтыя мысьлі і накіроўваюць дзеда Талаша ў бок свайго дому.

Пасьля некалькіх мяккіх і лагодных дзён пагоды дыхнуў з поўначы вецер, пазганяў нізкія воблакі і заціх. Неба разьясьнілася, афарбавалася ў зеленаваты халодны колер, і на Палесьсе

зноў насунуліся пякучыя марозы. Патаемнымі сьцежкамі і дарогамі, а дзе і без дарог прабіраецца, ідзе дзед Талаш у сваю вёску. Ня ведае дзед, што ён—вядомая асоба ня толькі сярод партызан і вайсковых людзей, але і сярод яго заклятых ворагаў, што за ім з асаблівай увагаю і пільнасьцю сочыць польская контр-разьведка і паліцыя. Пасьля захвату польскіх афіцэраў і салдат у Віркуцьці і ганусанскіх падзей палякі прынялі рад строгіх захадаў, накіраваных на вылаўліваньне такіх небясьпечных людзей, як дзед Талаш, Мартын Рыль і іх паплечнікі. Дзед Талаш і Мартын Рыль былі запісаны ў асобны сьпісак з пералічэньнем прымет, па якіх можна пазнаць іх.

Хоць і ня ведаў аб гэтых строгасьцях дзед Талаш, але, адчуваючы свае грахі перад акупантамі, ён таксама трымаў вуха востра. Так, ён не адважыўся ўзяць з сабою „настаяшчую" стрэльбу, хоць разлучацца з ёю яму было цяжка: пападзешся з стрэльбаю, тады прапаў вечным правам. Гэта асьцярога і дасканалае веданьне свайго Палесься дапамагалі дзеду шчасьліва дайсьці дамоў. Ужо пад поўнач уваходзіць дзед у сваю хату.

Бабка Наста ня можа цалкам аддацца сваёй радасьці, пабачыўшы дзеда і даведаўшыся аб Панасе: абставіны былі такія, што кожны час, кожная мінута пагражала і дзеду, і Панасу, і ўсім ім страшным ліхам, і цяпер бабка трасецца ад глухой і цёмнай трывогі. Што можа сказаць яна дзеду Талашу, калі ён таксама далёка зайшоў у сваіх учынках? Адно можна сказаць: не паказвацца болей тут, не дражніць ліха, покі жыцьцё ня зьменіцца ў лепшы бок — ад свайго дому ён сабе адрэзаў усякія дарогі.

Дзед Талаш моўчкі і з глыбокаю ўвагаю слухае навіны, што расказвае яму бабка і Максім. І што асабліва зацікавіла дзеда Талаша, дык гэта паведамленьне аб Саўку і яго фальшывым партызанстве, і аб тэй ролі, якую адыгралі ў гэтым Васіль Бусыга і яго прыяцелі. Дзед Талаш маўчыць. Уся яго злосьць пераходзіць на войта і яго прыяцеляў.

— Бач іх, якія спрытныя!—нарэшце падае голас дзед Талаш:

— Ну добра!

У гэтым... „ну, добра" чуваць пагроза. Дзед Талаш яшчэ і сам ня ведае, якою мерою адмерае ён войту, але што гэтага ён так не папусьціць.

Пасьля доўгага разважаньня над усім тым, што даведаўся дзед Талаш, ён сказаў рашуча і цьвёрда:

— Дык вось што, мае мілые, паслухайце-ж вы мяне!

Адразу пачулася, што дзед скажа вельмі важнае.

— Вам усім трэба сыйсьці з дому!—катэгарычным тонам заявіў дзед Талаш:—так, трэба сыйсьці!

Дзедава заява была такая нечаканая, што ніхто не знайшоў, што сказаць на яе. А дзед тым-жа тонам казаў далей:

— Рашыць гаспадарку — яна ў нас ня дужа вялікая! Хату забіць, бо калі будзеце тут сядзець, яе ўсёроўна спаляць палякі, а вы набярэцеся лішняй бяды і страху.

— А куды-ж мы дзенемся? Што ты гаворыш, стары?—жахліва запытала бабка Наста.

— Ты, маці,— спакойна, але цьвёрда адказаў дзед Талаш:— перабірайся ў Макушы да Тэклі. Алена пажыве ў сваіх бацькоў, а табе, Максіме, няма чаго пільнавацца бабы. Калі Саўка пайшоў у партызаны, то і табе трэба туды падацца, ды толькі не па Саўкавай дарозе ісьці. Пакуль вы будзеце ліпець тут, чакаючы кожны дзень бяды, то і мяне і Панаса будзе цягнуць хата, і позна ці рана паловяць нас, літасьці нам ня будзе.

Трудную задачу задаў дзед Талаш і вышла яна зусім нечакана ні для самога дзеда, ні для яго сям'і.

Ламалі над ёю головы і, нарэшце, мусілі згадзіцца, што іншага і лепшага выхаду з іх становішча няма. Пакінутая хата можа застацца цэлаю... Сапраўды ня кепска гаворыць стары.

Выходзячы з дому яшчэ до сьвету, ён весела сказаў:

— А што да Саўкі, дык я вельмі задаволен гэтай навінай: мы з ім трохі пагутарым. Знайдзеце-ж яго і скажэце яму: няхай ідзе ў Карначы і запытае Цімоха Будзіка. Гэта наш верны чалавек. Цімох яму і пакажа дарогу да нас.

Ужо кілёмэтраў пяць прайшоў дзед Талаш, калі пачало ўзыходзіць сонца. У лесе было ўрачыста ціха. Адзін толькі мароз гучна палусківаў у галінах старадрэвін ды звонка скрыпеў сухі сьнег пад дзедавымі нагамі. Самыя небясьпечныя мясьціны, як здавалася дзеду, засталіся ззаду і ён ішоў павольна і спакойна, аддаўшыся цалкам сваім думам, Думаў ён пра Саўку Мільгуна, пра Васіля Бусыгу. Першым пакараньнем для яго будзе падпал яго будынкаў. Гэту задачу загадае ён Цімоху Будзіку. За тым думаў дзед і пра сваю хату, што праз колькі дзён застанецца адна без гаспадароў. Што будуць гаварыць людзі, як успрымуць яны весьці аб тым, што Талаш і яго сям'я сышла з дому? Дзеду здавалася, што гэта весьць усхвалюе людзей, і ён яшчэ болей упэўніўся ў правільнасьці свайго ўчынку. Ды і спакайней будзе і яму з Панасам і ўсім ім. З такімі думкамі дзед Талаш падыходзіў да сухога поля, дзе ён, чакаючы Панаса, сустрэўся з Мартынам Рылем. Вось і той стары каржакаваты дуб. Стаіць ён з тым-жа комам сьнегу, заціснуўшы між развалін, такі-ж, як і быў, крэпкі і зьвязісты, толькі мароз, аздобіўшы яго інеем, зрабіў яго яшчэ болей паважным і сталым.

Заглядзеўся дзед Талаш на гэты дуб і даў зевака: і не агледзеўся ён, як перад ім, быццам са сьнегу выскачыўшы, вынырнулі тры легіянэры.

Наставіўшы на дзеда стрэльбы, грозна крыкнулі:

— Стой!

Затросься дзед Талаш. Ком гарачыні пакаціўся дзесь у сярэдзіне каля сэрца.

— „Прапаў ты, брат Талаш!"—Сам сабе сказаў дзед і спыніўся. Але ў той-жа момант моцна ўзяў сябе ў рукі.

— Тфу! тфу! тфу!—тры разы плюнуў дзед Талаш і сказаў пры гэтым:

— Як-жа вы зьлякалі мяне, гіцлі.

Дзед пастараўся прыняць самую пацешную постаць перапалоханага чалавека. Такая перапалоханасьць і дзедава зьбянтэжанасьць разьвесяліла легіянэраў і пальсьціла ім.

— Хто ты і куды ідзеш?—спытаў старшы легіянэр.

— Тутэйшы, пане. Іду на балота—бучы паставіў, можа дзе ўюн ці ня ўлез?

— Ідзі з намі!—загадаў той-жа салдат.

— Куды і чаго?—вялікае недаўменьне адбілася на дзедавым твары.

— Ідзь, ідзь, галган стары!—салдат зьлёгку штурхануў дзеда.

Паскроб дзед патыліцу.

— Ды мне-ж і часу няма!

Дзела штурхнулі яшчэ энэргічней.

— А бадай-жа вы па сьвеце не хадзілі!—сказаў дзед і пайшоў з салдатамі.

„Канец"—думае сам сабе дзед Талаш. І вялікі прадсьмертны сум ахапіў яго душу. Наабапал іх дарогі стаіць лес, пасівелы ад інею, як і дзед Талаш ад старасьці. Дзед прыглядаецца да лесу. Няўжо гэта апошні раз бачыць ён гэты лес? І так-жа ня хочацца ўміраць. Ён успомніў сваю хату. Ці добра зрабіў, сказаўшы сваім дамашнім сыйсьці з дому? Апошні яго ўчынак устае перад ім у іншым сьвятле. Жаль і вялікую адзіноту і поўную адарванасьць ад сьвету, ад людзей адчувае дзед Талаш. Але гэты мінутны ўпадак духу і слабасьць яго праходзіць. Маланкай мільгаюць яго мысьлі. З нязвычайнай быстрынёй і з неймавернай чоткасьцю праходзяць перад ім пражытыя зьявы, падзеі і цяперашняе яго становішча. Жыць, жыць, што-б там ні стала. Вось заключны акорд усяго складанага комплексу жыцьця, што праходзіць перад яго вачыма.

З прарэзьліваю яснасьцю вынікае перад ім Мартын Рыль, яго апавяданьне пра сваё вызваленьне з-пад польскага канвою. Ён пераводзіць вочы на свой канвой. Легіянэры курчацца ад марозу, наставілі каўняры шынэляй. Двое ідуць наперадзе. За імі дзед Талаш, а трэці, старшы, ідзе ззаду і трохі наўзбоч. Дзед Талаш мерае вокам іх фігуры, ацэньвае іх фізычную сілу. Яны здаюцца яму, як сам ён казаў, „шчуплымі". І раптам нешта знутры штурхнула дзеда Талаша. У момант вока ён хапае карабін з рук старшага легіянэра, таго, што ішоў наўзбоч ззаду, і б'е яго з такою сілай прыкладам па галаве, што ложа кара-

біну ломіцца. Трэск зломанага карабіну і хруст чэрапа зьліваюцца у адзін гук. Як сьцяты маланкаю легіянэр тут-жа падае. Толькі адзін крык, немы і нявыразны, вырваўся з яго грудзей.

— Сюды! ка мне, хлопцы! — дзіка крычыць дзед Талаш і кідаецца з мэталёваю часьцю карабіну, што засталася ў яго руках на другіх салдат. Яны-ж ад нечаканасьці і страху, пакідалі свае карабіны і кінуліся наўцёкі ў лес.

Падабраў дзед іхнія карабіны і як дзікі зьвер сам кінуўся бегчы.

Калі ён крыху апамятаўся і заспакоіўся, то першае, што ён адчуў, і што потым доўга не забывалася, гэта быў хруст разьбітага ім чэрапа невядомага яму чалавека. Хруст гэты некалькі дзён стаяў у яго вушах.

(*Працяг будзе*).

СЯРГЕЙ ДАРОЖНЫ

# ВАЙНА — ВАЙНЕ

Толькі залпы прыціхлі
І горачны дым разьвінуўся,
Толькі трупы зарылі
І высахла сьвежая кроў,—
Зноў драпежнікі войн
Загулі пра вайну ўсе,
З вуха на вуха
Тропкамі здрадніцкіх змоў.

Толькі высахлі мацерак сьлёзы.
І трупы
Хрупкім жвірам прысыпалі
Пад дзірваны,—
Зноў ушчулі гарматныя збройніцы Круппа.
Заігралі сусьветныя
Майстры вайны.

Зноў яна —
Гэта чорная здань па-над сьветам
У масцы міру нячутныя ніці снуе...
Зноў фашыцкія іклы
Наточаны супраць Саветаў
І рыхтуюцца потайкі
Пляны свае.

Досыць!
Годзе, драпежнікі, выць па засьценках
Пра закуплены вамі
Нам загадзя „рай"...
Сьвет напоўнен нялюдзкімі
Стогнам і енкам,
Палам помсты крывавай
Шугае праз край!

Міру ў сьвеце няма!
Чуеш крыкі калёній?
Чуеш грукат гармат на усходняй зямлі?

Рушаць тысячы белых і чорных —
Мільёны!
Разьвінаючы клясавых боек агні.
Досыць войнаў за рынкі!
Уставай, волат працы!
Чорны, белы і жоўты—адзінай сьцяной
Пад штандары кампарты!
Рушце змагацца
У астатні рашучы
Клясавы бой!

Менск 25-VII—33 г.

МІХАСЬ ЛЫНЬКОЎ

# НА ЧЫРВОНЫХ ЛЯДАХ*)

## I. ЦІХІЯ СЯЛІБЫ

Калі падыходзіць час каляд, рэб Нохім урачыста запрагае каня, набівае пехцяры сена і, апрануўшы лепшае адзеньне, загадвае:

— Каб усё да парадку... Ты, Сіма—крок наперад—каб каровы былі накормлены, ды падоены... Айда, рабі сваю справу... Роха, слухай маю каманду: малако адразу-ж на перагон, ды ў паграбы. Ды каб акуратна ўсё. Ну, годзе, арш. Без аніякіх...—і, павёўшы сурова брывёй, рэб Нохім выходзіць з хаты.

— То тата відаць за Бэцяй?

— Відаць за Бэцяй...

— Ну, што-ж, няхай сабе едзе.

— І я кажу: няхай.

— Ты ўсё няхай, ды няхай, у цябе і слова свайго нямашака... Ці доўга так будзем цярпець?

— Чаму цярпець?

— А таму, што мы для таты тыя-ж самыя каровы — вялікі яму аб нас клопат.

— Чаму яму няма клопату? Ён і аб каровах яшчэ як думае...

— Сказала? Што з табой гаварыць... Хіба ты не разумееш, што мне пара знайсьці чалавека... Ізноў-жа і табе ня век лічыць бідоны...

— Тату відней...

— Не галава ў цябе, а бідон.

— А ты рабі сваю справу,— не знайшлася чым дапякчы сястры Сіма.

Рабілі моўчкі, соўдаліся моўчкі.

Рэб Нохім паганяў каня, насьвістваў нейкую песьню пад нос, але, калі насустрач трапляўся яму які чалавек, рэб Нохім напускаў на сябе столькі пыхі і ўрачыстасьці, што здавалася ня рэб Нохім сядзіць у санях, а сам Саламон важна васьсядае ў залатой калясьніцы. Тапоршчылася шаўковая рудая барада, сурова

*) Працяг гл. „Полымя рэвалюцыі“ №№ 2-3, 4, 5, 6, 7.

навісалі бровы, рукі важна нацягвалі вожкі і поўны велічы рэб Нохім паганяў свайго зьмірнага кулястага каня.

— Но, стаеньнік, слухай каманду!

Стаеньнік вінавата матляў вушмі. Сустрэчныя віталіся, зьнімалі шапкі, жадалі рэб Нохіму добрага здароўя. Паважалі яго за вясёлы характар, за добрыя парады, якія заўсёды мог даць на любы выпадак, у любых абставінах. Спачувальна падсьмейваліся над некаторымі слабасьцямі рэбэ, над яго выключнай павагай да дачкі, якой жыў Нохім, аб якой думаў, для якой завіхаўся дні і ночы са сваёй работай. І кожны лічыў сваім абавязкам сказаць слова, другое аб Бэці, аб яе асаблівасьцях, аб яе якасьцях. Нават Чырвонец, які вечна быў заняты думкамі, дзе-б пазычыць траяк, і той, сустрэўшы па дарозе рэб Нохіма і адказаўшы на пытаньне: „куды яўрэй ідзе?" ня прамінаў запытацца аб здароў'і Бэці, аб яе посьпехах і выказаць пару, другую пажаданьняў: аб жаніху, каб во-о..., аб унуках, каб ім здароўечка...

Выслухаўшы, рэб Нохім лічыў патрэбным заўсёды сказаць:

— Няхай яўрэй сядзе на воз... няхай яўрэй пад'едзе... Бо конь, ня конь, а стаеньнік... Ізноў жа і дваццаць вёрст даюцца ў знакі, бо чабаты ў яўрэя ня досыць спраўныя...

Ды й пагаварыць з Чырвонцам люба, і час з ім неўзаметку. Пагаварыць Чырвонец майстра. Ён раней абамне сена ля сябе, павернецца раз, другі, каб ямчэй прымасьціцца, мацней прывяжа палапленую кайстру да саней і тады ўжо, азірнуўшыся на дарогу—каб у парадку ўсё было—раптам пераходзіць да гутаркі:

— От скажэце, рэб Нохім, чаму гэта неба стала задужа нізкім?

— Як гэта так?

— Ды проста так, нізкім... Дзень ата ю... дыхаць цяжэй... Няма чым дыхаць...

— Дыхаць, кажаш... Праўду, яўрэй кажаш... Правільна кажаш, цяжэй... І будзе яшчэ цяжэй, куды цяжэй...

— Ня пужайце, рэб Нохім, скажэце чаму?

— Вайна.

— Што вы думаеце... Я таксама думаю, што без яе не абыходзіцца. Але навошта вайна? Ці, скажам, яна патрэбна мне? Ці, мо', крый божа, вам? Патрэбна яна вам, хочу запытацца, рэб Нохім?

— Зачым пытаць?

— І правільна, зачым пытаць... Навошта яўрэю вайна... Але скажэце, рэб Нохім, зачым-жа чытаем у газэтах, пра яўрэяўшпіёнаў... Нямецкіх шпіёнаў... І што рускаму войску яны вялікія здраднікі на фронце. Яўрэі здраднікі... Зачым-жа чытаць?

— Навошта чытаць...

— Як гэта так навошта? Ну, добра, вайна... Няхай яе халера возьме, а ня добра... Вайна... ваюють... колькі ў салдатах нашых... Зачым-жа здраднікі?

— Здраднікі? А запытайся ў бежанцаў з Рыгы, яны табе скажуць аб немцах... Ізноў-жа пра яўрэяў шпіёнаў, расійскіх шпіёнаў... Так ужо ідзе жыцьцё, што яўрэй павінен быць, ён ня можа ня быць шпіёнам... Для Вільгельма расейскім, для Мікалая нямецкім... Такі закон... І ня мы яго выдумалі... Бо вайна, а вайна—гэта кроў... І каму ахвота пускаць сваю кроў... І каму ахвота пахваляцца сваёй дурасьцю, сваімі няўдачамі, няўмельствам сваім... Вайна—зьвер... зьверу патрэбна кроў... У яўрэя жыдкая кроў, танная кроў... Так спрадвеку...

— Ня пужайце, рэб Нохім... Я і так галавы не дабяру, што яно і да чаго... Дыхаць стала цяжка, задужа цяжка. Чаму-б гэта ня так, каб кожнаму чалавеку можна было хлеба ўкусіць... Лягчэй каб... Дужа я думаю, і дзень і ноч думаю... Жонка лаецца... Няхай, кажа, рабін думае, ён з гэтага хлеб есьць, а табе трэба справы весьці. Кепскія справы... у горад схадзі, людзей папрасі, каб усё ўдоўг... Ды што возьмеш—пачак махоркі якой, сінькі, запалак—і тое на сабе цягні... Цяжка дыхаць, рэб Нохім... цяжка...

— А ты менш думай, рабі больш...

А пра сябе — „думай, Чырвонец, думай, яўрэю думы дапамагаюць"... Глядзеў на Чырвонца, на яго рудае паліто, на яго выцьвілы шэры твар, дзе ліхаманкава запяляліся заняпалыя яміны воч, і дзесьці ў глыбіні схаваных пачуцьцяў варушылася прыкрая і ў прыкрасьці сваёй непакойная думка:

— А ты сыты, апрануты, маеш грошы ў банку... Хто-ж гэтаму прычына? Бог? Канешне, яго божая воля... Але-ж ты горб нацёр... Мазалі нацёр... Перад імі, перад панам і перад прыставам... Ніхто ня прыдбаў... [illegible]ьціпнасьцю сваёй, сьмеласьцю, сваім розумам, сваім наду[illegible]ашэнціла... Чаму-ж яму не шанцуе, Чырвонцу... І ня лодыр, здаецца, мае справу ў руках, але ў караўках, відаць, закарэе. Памрэ ў іх, ня выкарабкаецца з іх. А ўсё-ж яўрэй. Шкада яўрэя... Але што з таго жалю?

Коўзаліся сані па наезджанай абочыне сашы. Уздыхаў Чырвонец і зябка захінаў лахманы свайго паліто, да раз-по-раз папраўляў сядзеньне, каб ямчэй схаваць ногі, закутаць іх глыбей у салому. Ад марозу сьлязіліся вочы і ён міргаў імі—міргаў недалужнымі, рудымі расьніцамі, што апускаліся крылом недабітае птахі.

„Худа яўрэю",—думаў рэб Нохім, і каб адыйсьці ад невясёлых думак, ён пераходзіў да сваіх спраў, плянаў сваіх, меркаваньняў. Добра было-б і дужа-б добра памець сваяцтва з Алтарам. Чым бы не пара Бэці Алтараў сын Лёва. Толк чалавек разумее ў камэрцыі. Пісьменны, спэцыяльна вучылішча скончыў. Галоўнае-ж—з грашмі чалавек. А грошы—усё ў жыцьці... Добра Бэці жылося-б... Толькі хіба ганарлівы задужа Алтар, абы з якім родам і не сябруе.Яму падавай хоць самага цадзіка... Але дзе-ж тых цадзікаў набярэшся. Ды й жыцьцё ўсё мяняецца. Каторы і добры род—ня жыве, а ліпее. Час худы. А далей будзе яшчэ

хужэй. Нездарма Мацьвей Юльлевіч намякаў пра кароў, каб купіў часам. Ды й лес распрадае. Нездарма гэта... Прычыны відаць ёсьць, сур'ёзныя прычыны. Але дзе ты іх купіш, кароў гэтых. Трэба-ж зямлю мець, а хто табе купчую на яўрэя выправіць... Лёгка сказаць.

Уяжджалі ў горад. Засьпяшыў, замітусіўся Чырвонец.

— Дык дзякаваць, рэб Нохім, дзякаваць, што падвязьлі, я ўжо і так дайду, бо ўгору і каню цяжка.

— Каню, канешне... Аднак, як хочаш...

Рэб Нохім важна паганяў каня, які за дарогу забыўся крыху на "дысцыпліну" і выказваў пэўныя намеры асабліва не сьпяшацца.

— Но-о, стаеньнік. Але-ж ня кепска было-б і ў горад перабрацца. Даўно пара... Жывей тут людзі, варушацца спрытней.

Сугорбіўшыся, длыпаў пазадзе Чырвонец, паціраў рукі, хукаў на іх, пастукваў чабатом ах чобат. Быў ён заклапочаны, руплівы і торапка бегалі заняпалыя вочы, нібы шукаючы сярод стрэчных таго, у каго можна было-б пазычыць чырвонца або траяк... Матляўся згрызены мольлю башлык і аб гэтыя шэрыя згрызіны цёрліся рухавыя вушы, празрыстыя ў сваёй маразявай чырвані. І яна, гэтая чырвань—мацней, чым сіней былі абветраныя азызлыя шчокі, з выцягнутым белым зябкім носам.

— Худа яўрэю,—азірнуўся на Чырвонца рэб Нохім.—Але што-ж ты зробіш. Не аб усіх будзеш думаць. Не набярэшся лапікаў на сарочкі чужыя... Ды й чаму я гэта павінен думаць аб чужых лапіках. Но-о, стаеньнік, слухай каманду... Дысцыпліна, стаеньнік, дысцыпліна... Інакш, як бы ты думаў?

Станцыя не зьмяніла свайго выгляду.

Як і пяць год таму назад, была яна маленькай, не гаманлівай, з тым-жа невялічкім халодным і ўлетку і ў зімку пасажырскім пакоем, з вечна рыплівымі дзьвярмі, з нязьменным старажам Палікарам, які ходзіць от, тупае па ўсіх пакоях, па вузенькім пэроне. Ходзіць заклапочаны сваімі вечнымі турботамі: лямпы патушыць, каторыя залішнія, прыкруціць кнот, каб ня дужа „люмінацыі" той, і так газы ідзе, ня лямпы, а прожары. Ізноў-жа эканомія. Раз прыкруці, два прыкруці—глядзі і набяжыць якая грыўня за месяц, а гэта ўжо верны прыбытак, на шапку катораму малому там, ці на штаны. Ізноў-жа Палікар і насільшчык, і прыёмшчык багажу, ён-жа і пошту дапамагае здаць і прыняць. Адным словам, майстра на ўсе рукі. І ня дзіва, калі пасьля лішняе соткі, часам, заўзята спрачаецца Палікар з худым бялёсавокім тэлеграфістам.

— Ты на мяне не глядзі, што я, можна сказаць, у аднэй кампаніі з табой чарку п'ю. З тэлеграфістам якім-небудзь задрыпаным... Я, брат, усё магу: і сцэпку магу, і на дрываклада, калі хочаш, ізноў-жа і стрэлку, калі трэба, і жазло прыняць, а хочаш, дык і багажную квітанцыю выпішу...

— Ну, падумаеш, квітанцыю... Тры пуды, скажам, паставіў і ўсё табе. Ты дэпэшу паспробуй выстукаць.

— Дэпэшу, кажаш? А на ліха-ж вы, жоўтакантныя, будзеце? Найшоў прамудрасьць. Уся навука ваша ў пальцы, адным пальцам, можна сказаць, хлеб калупаеце. А я вот і ў звон магу ўдарыць. І раз удару, і два ўдару, а захачу—і тры...

— А чатыры ня стукнеш!

— Магу і чатыры стукнуць...

— А вот-жа ня стукнеш!

— Каб закон на тое, ударыў-бы і ў чатыры, а па закону толькі тры. Чацьверты, брат, без патрэбы, чацьверты, гэта ўжо штраф, глядзі правілы...

— Нехта-ж правілы твае папёр.

— А гэта, брат, сьляпы не дагледзеў...

Калі трапляецца тут сьляпы—жабрак Сільвестэр—векавуе на станцыі, начуе на багажнай лаве, а зімой зашываецца бліжэй да групкі—ён пратэстуе звычайна:

— А ты не мані, што не дагледзеў. Я, брат, бачыў, чуў гэта, значыцца, як сам начальнік падышоў гэтак да сьцяны ціхесенька. Толькі чую: кульгель, кульгель—гэта ўсё пасьля таго, як машыніст Андрэй яго жазлом па каленцы цяпнуў, дык і пакульгвае крыху... Дык от падышоў і раму здымае. Ды шчэ й кажа мне:

— Гэта я, Сілівей, ня турбуйся, значыць, бо ўсёроўна правілы гэтыя нікому не патрэбны, ды й прачытаць-жа іх ізноўтакі цяжка з-за мушынай тае прыкрасьці. А рамкі нішто, дубовыя рамкі. У самы раз пад сям'ю будзе царскую... А ты, не дагледзеў... Я не дагледжу!

І сапраўды найлепшы памочнік Палікару—сьляпы. Прышоў які цягнік—Палікар да Сілівея:

— Ты ўжо паглядзі за парадкам, а я хіба да хаты скачу, жонкі даведаюся...

Ці проста:

— Не адлучайся нікуды, спаць пайду пад бярозу, дужа-ж сон зморыў...

— А што там, ідзі сабе...

Палікар, тэлеграфіст, ды сьляпы Сілівей—і ўвесь нямудроны штат невялічкае станцыі. Ды й то Сілівей, так сказаць, звыш штату. Хіба от начальнік станцыі яшчэ, да жандар Мікіта Сухон. Але-ж начальнік не да кампаніі, усё-ж начальнік, як ні як, шапка ў яго чырвоная, а жандар больш ракамі займаецца ды півам. Ды ізноў-жа—гаспадзін жандар, а той ваша благародзьдзе, яму й пад казырок бяруць і стрэлачнік і рамоншчыкі каторыя. Ды й характар у яго ня зусім, каб дружацкі. От прыгледзіць дзе ў кутку і давай экзамэн наладжваць:

— А ну, сьляпы, падыходзь на дыстанцыю... А ну, адказвай, ды каб адразу: які поўны цітул яго імпэратарскае вялікасьці? А хто я тут ёсьць? А хто такія, скажам, нутраныя во-

рагі? І што рабіў-бы ты на маім месцы, убачыўшы гэтага ворага сярод пасажыраў?

І калі першым разам адказаў было сьляпы адным махам:

— А я-б яму салаўём запеў, верная грыўня ў кішэні (вялікі спэц Сілівей на той сьвіст салаўіны, на прамудрыя тыя каленцы салавейкавы)—спахмурнеў тады Сухон і лупануў-такі разы са два сялёдкай тэй па сухіх Сілівеевых рэбрах.

— Балда ты, можна сказаць, крывая балда. І ніякага ў цябе розуму і паняція. А павінен-бы ты таго ворага за каршэнь узяць, пратакол як сьлед па форме скласьці і ў жандарскае ўпраўленьне адаслаць... Калі ворааг у рукі ня йдзе, бей па інструкцыі з агнястрэльнага аружжа...

— А калі пры мне няма агнястрэльнага?

— Ізноў балда... Не разумееш славеснасьці. Уся бяседа з табой для відзімасьці аднэй, каб розуму цябе навучыць. Бо хто скажам, такую адказную службу, як маю, на цябе ўзложыць: гэта ты разумець павінен. Ізноў-жа сьляпы ты, старац, можна сказаць, божага сьпісу. І трэба-б цябе па ўсіх правілах гнаць з казённага памяшканьня і наогул на тэрыторыю не дапускаць, як асобу зусім старонЬнюю. А ты лаву багажную пралежваеш, казённыя кафлі ля групкі праціраеш. І я дапушчаю, хаця магу ў любы момант, як тлю цябе ізьністожыць. Напішу от, што мысьля ў цябе дзёрзкая была, выказаўся ты, скажам, пра цара, альбо пра мяне, часам... і ў дваццаць чатыры хвіліны... А я дапушчаю... Няхай, думаю, сьпіць... Няхай, думаю ля вагонаў аціраецца, вялікі-то мне клопат. А ты адчуваць гэта павінен. І яшчэ як адчуваць... Усёй мысьляй і сэрцам.

Сухон навучаў сьляпога, навучаў славеснасьці. І калі надакучвала—ішоў ракаў лавіць на рачулку, ці садзіўся ў дзяжурнай перапісваць старыя пратаколы „аб бязьбілетным дыякане айцы Панкраце“, аб пошуках шапкі жандарскага ротмістра Насядаева, оная паводле слоў пацярпеўшага зьляцела з цягніка на сямнаццатай вярсьце і, як відаць з праведзенага дазнаньня, паднята пастушкамі вёскі Закарэеўкі, якія оную шапку каравашніку за цукеркі прадалі“..., аб „сцэпшчыку Савасьцеі, які „выпімшы аблажыў і прыстол божы і царскі род непатрэбнымі словамі і нават царскаму партрэту кукіш выстаўляў“...

Перапісваў пратаколы, „каб цьвёрдасьць у руках была, каб мысьля не іржавела“, а была-б заўсёды ў поўным парадку і сапраўднасьці. „Для гімнастыкі, так сказаць, мазгоў“—пахваляўся часам начальніку станцыі.

А Сілівей „адчуваў,“ і калі собіла, часам, ля вагонаў сабраць капейку лішнюю за тыя каленцы салавейкавы, купляў папярос пачак, каторы паквяцісьцей, і, улучыўшы момант зручны, да яго благародзьдзя:

— Сэрцам і мысьляй, можна сказаць, вашаму благародзьдзю: дужа-ж духавітыя... пачак цэлы...

— А ну, пакаж тля каторая... Курыць можна... А ну, закуры от хіба адну, ды адчувай... Ды ідзі, ідзі, дужа мне тут з табой разгаворы разгаварваць...

Гэта калі поблізку людзі.

Так. Не зьмянілася станцыя.

— Ціхая, негаманлівая. Лясы навакол, балаты. Вечарамі сірацеюць агні на стрэлках, пабліскваюць цьмяныя і блеклыя (усё кнаты тыя падкручаныя, Палікараў клопат), ды жмурыцца сэмафорнае вока ў тумановую далеч лагчын, пералескаў, вільготных начных палёў. Тады прыяжджае поезд начны і на хвіліну абуджае сонныя прасторы гулкім рэхам да гудковымі пагалоскамі, басавітымі, пранозьлівымі. Абуджае станцыю на хвіліну, бо ўвесь штат у рабоце—ля звону Палікар, бараду важнецкі пагладжвае, начальнік ля паштовага вагона завіхаецца, Сухон падцягвае грудзі—аж пуп трышчыць— і накручваючы вусы, важна праходжваецца пад вокнамі вагонаў, сурова прывітаецца з машыністам. На рабоце і сьляпы.

І калі Васіль Панфілыч, вылязаючы з пракуранага вагона пачуў гэта даўно знаёмае:

— Падайце, гаспада пасажыры, няшчасьненькаму, сьляпенькаму, каторы, можна сказаць, бязбацькавіч і бязматкавіч, на падтрыманьне грэшнае плоці...

Тады падступіў да горла, падкаціўся салодкі камок і здрадліва памакрэлі расьніцы.

— Ты, Сілівей? Жыў яшчэ, пяеш, птаха пакгаузная?

— Пяю, гаспадзін, а што? Ці ня часам знаёмы які?

— Уга... Колькі-то год... Дык на, брат, грыўню, ды йдзі, не марудзь, поезд цябе чакаць ня стане... Ідзі, браце, пой... Пой, голуб мой, мазалі тыя песьня сьцірае... На сэрцы...

Так сьцірае... Дык вось яна, радзіма, вось яна бацькаўшчына... І лясы яе, балаты яе непраходныя лесавыя палі верасковыя, ды дарогі тыя—у вымоінах. у калдобінах, не канём па іх, а больш пехам. Ды па тых дарогах ідзе-паўзе тая доля, сьляпая, лахманамі трасе, салаўінымі песьнямі выхваляецца. І ў песьнях тых бязьмежная шырыня і глухія сьцены, адвага і адчай, узьлёты ў паднябесныя вышыні, і камянем на зямлю, на жвір, на жарству, на сухі той пыл прыдарожны, на пахучыя палі верасковыя.

Так ідзе і кульгае тая доля сьляпая, няўміручая. І песьні тыя салаўіныя—сьляпыя песьні. І жыцьцё сьляпое, як чорная ноч. Такая ўжо бацькаўшчына, такая радзіма.

А жандарная радзіма...

Не заходзячы на станцыю перайшоў Васіль Панфілыч калеі і пайшоў дарогаю, што да гораду. Тры вярсты тут усяго, невялікая хада. Ды калі людзі яшчэ, спадарожнікі. Двое салдатаў, ды чалавек яшчэ ў ватоўцы, башлыком закутаны, тырчаць адны толькі рудыя вусы і на іх ледзяныя сусолкі. З салдатаў адзін высокі, сутулісты. Ідзе і па бакох не глядзіць, нібы думае аб нечым, і калі скажа слова якое, дык слова тое бух, як камень,

ды сам тады скоса так пазірне і зноў замаўчыць і ў шэрані начной цемравеюць нярухомыя рысы яго твару, застыглыя, нібы скамянелыя. І ўся постаць салдата, яго шапка-зімоўка, даўжэзная шынэль, чабаты—цямнеюць от на сьнезе—усё нагадвае дзівосную начную птаху.

Другі—меншы. Кароткая шынэль з абвіслым хлясьцікам рабіла яго нязвычайна шырокім цяльпухаватым. Але быў ён наўзьдзіў рухавы, як ветраковыя махі круціліся рукі яго і сам ён усё подбежкам, подбежкам, каб наперад заскочыць, каб слова сваё от перад людзьмі паказаць, ня толькі што выказаць. Ён торапка гаварыў, каўтаў цэлыя словы і відаць хацелася-ж чалавеку як мага больш выгаварыцца, расказаць пра тыя дзівы дзіўныя, дзе й сам не быў, што й сам ён бачыў. Аж засопся, запарыўся:

... дык мы, братачка, й далі... Ну, й далі... Яны ў атаку, мы на штыхі... Пад самымі Баранавічамі... пятнаццаць раз адбівaліся, ну, а потым гэта мы націснулі... Бы-ы-ло... Як хмара тая цёмная, градавая—так лягло на тым полі германцаў...

— Ну-у...—ні то сумляваючыся, ні то зьдзіўляючыся мармытнулі пад нос рудыя вусы.

— Бы-ы-ло... чацьвёра сутак узапар палілі мы іх, у штаблёх такіх палілі... Крыві гэ-э-та... так і шваркоча...

— Як на патэльні, кажаш...—усьміхнуўся тут высокі і раптам абрэзаў:—Ці ня кашаварам ты быў на этапным пункце, мой голуб?

— Як гэта так?—аж сьцяліся плечы ў меншага, у шырокага. Ад крыўды хіба, ад нечаканасьці.—Як гэта так?—пытаю. К чаму гэта ты?

— А к таму от, ваяка мой кашаварны, што фронт, відаць ты ня бачыў і пораху таго нюхаць табе не даводзілася... Хто гэта з нас ды такімі справамі пахваляцца будзе... Дзе ты бачыў... Ну, ваявалі, ну біліся... І нічога тут, браце мой, дзіўнага. Проста от так і паміраць даводзілася, бяз слова твайго ды прыгожага, выкручастага... Проста от так і паміралі людзі, хіба ня людзкі крыху. І бяз ніякіх там хмар градавых... клаліся, дзе каму собіла. А кроў? Кроў, браце мой, яна не шваркоча... Яна можа і ціханька сыйсьці і няўпрыцям табе, а яна і пайшла і душу тваю павяла з табой... Зямля, браце мой, мягкая зямля, для крыві тваёй лягчэй яна пуху, і ўсё ўбярэ, а ні званьня, ні расінaчкі. А ты--шварко-о-ча... цёмныя хма-а-ры... Шваркатун, ты, можна сказаць, не ваяка, а атопак салдацкі... Вось што я табе скажу... І годзе, даволі мне твае глупствы слухаць, скажы лепш, як ты бруха расьціў... Бач, ражка ў цябе, як асадак той панскі... Аб такую ражку і куля любая пасароміцца апаганіцца... А ты, кажаш, на штыхі...

— Ды што ты, чалавеча, ды на табе крыж часны... Калі я маню... От жа я... Калі хочаш, і чобат зьніму—і кінуўшы

шапку вобзем намерыўся чалавеча чабаты зьняць.—От рана ў мяне, вялікая, значыцца, рана...—але асаблівага спрыту ўсё-ж ня выказваў

— Ты гэта кінь... Бачу, як на ране сваёй гоцаеш... Ня трэба хваліцца, дружа... Салдат ты й салдат чалавек самы шэры. А ты—ра-а-ны, хмары тыя градавыя...

Нешта хацеў яшчэ меншы спрачацца, муліўся нешта сказаць, але безнадзейна махнуў рукой, шапку насунуў на самыя вушы і йшоў утароплены, зьбіваючыся з салдацкага кроку. Ішоў і маўчаў, але, відаць, быў ён з людзей гаманлівых і было тое маўчаньне яму за пакуту і за вялікую крыўду. Усё сапеў пад нос, круціў цыгарку, і цыгарка тая не давалася на марозе - ірвалася папера, былі неўвароткія пальцы тыя, адубелыя, азызлыя. І ўжо ля самага гораду, заўважыўшы Васіля Панфілыча і яго акуляры, узяў нясьцерп чалавека, запытаў:

— З навукі хіба йдзіцё?

Каб загаманіць, значыцца.

— Чаму з навукі?

— А вот акуляры ў вас, адразу відаць чалавека вучонага... У нас, у хазяйсьцьвеннай камандзе... от чорт цягне за языка... Дык ці на знойдзецца ў вас, зямлячок, папіросіны якой для франтавога салдаціка?—і азірнуўся з апаскай на таго высокага і маўклівага.

Той ішоў і не адзываўся. Курыў, рэзкія ўзмахі рук з цыгаркай кідалі іскры махоркі, матлялася шынэль, хвастала па чабатох, махорачны дым воблакамі віўся ля шапкі і ніяк ня мог растануць у густым марозным паветры. Чалавек ішоў і крок яго быў роўным, адмераным, верным, як тыя хвіліны, чоткім, упэўненым.

— Сіла пад ім, пад чалавекам гэтым...—падумалася Васілю Панфілавічу. І як часта здаралася—стала шкада сябе... Вось ён ходзіць, ён Васіль Панфілавіч, па зямлі і няма таго кроку, няма тых узмахаў рук, няма і таго, каб от разам так, налапам, чалавеку ў вочы: і атопак ты... ражка твая. Гэта ў твар чалавеку. Ходзіць ён па зямлі, ён, Васіль Панфілавіч,—і нідзе нага тая цьвёрда ня ступіць—усё з аглядкаю. На сябе, на другіх, усё найбольш на імёны вялікія, на былыя гады, на былыя вялікія справы. А свае от, людзкія от—і вялікія і малыя—не па людзку выходзяць усе справы гэтыя, нешта сэрца ня хіліць да іх. Шэрыя справы, шэрыя дні, шэрыя людзі. І каб толькі шэрыя. Чорныя дні спасьцігнулі зямлю, спасьцігнулі краіну. І ходзім от, ходзім бледнымі ценьмі. Ні прытулку, ні радасьці, ні зачэпкі той цьвёрдай, каб трымацца за жыцьцё ды абедзьвюма рукамі, сашчарэпіўшы іх, ды так, каб зубы трышчэлі.

Ды каб ясныя мэты былі.

І ня мэты. Ясныя яны. Вось веры тае не стае. Рукі віснуць. На што-ж абаперціся?

...Калі падыходзілі да гарадка, было сьветла зусім, сям-там старожкая цішыня вуліц парушалася скрыпам квортак—ішлі людзі на працу. Спазаранку праяжджалі на базар сяляне, былі казачныя коні ў іх, атуленыя марознай шэраньню. Рыпелі сані і рып той быў бадзёры такі, вясёлы.

Разышліся спадарожнікі хто куды, і Васіль Панфілавіч так і забыўся запытацца, хто яны, скуль яны, у каго якія справы ды клопаты.

Надыходзіў дзень, а з ім надыходзілі і шэрыя будзёнашныя клопаты. Зайсьці ў заежджы дом які, напаткаць спадарожнікаў, фурмана напытаць. Каб дамоў, да роднае хаты. Колькі-то год тых ня бачыліся...

---

„І паядоша седм кравы злыя і худыя целесы седм краў добрых відам, і ізбраных целесы (і сія невідзіма быша, яко внідоша ў чрэсла іх)...“

— Дзя-я-лы...—пачухаў патыліцу Лаўрэн.—Дзе гэта відана, каб худыя ды гладкага. У нас дык яно наадварот, гладкія куды спрытней... Узяць, Цыбала, скажам, ці Хвядоса старасту. Праглынаюць худзейшых. Адным вобмегам праглынаюць. І чрэслы нішто, ушыркі разыходзяцца, як ня лопнуць, хоць ты засекі проса засыпай у тыя чрэслы.

Любіў Лаўрэн вольным часам кніжку якую пачытаць. Налягаў усё на божае слова. За гэтае слова і старастам яго ў свой час зрабілі. Быў ён чалавек ціхі, не языкаваты, дрэннага слова ад яго не пачуеш. Жыў з сям'ёй з невялічкае гаспадаркі, сякі-такі прыбытак меў ад Дняпра і з параходзтва ды за пожні тыя сяльчанскія, вартаваў што начамі. І калі зрабіўся старастам, дужа-ж уцеха была вялікая. Стаіш от, сьвечы прадаеш, і кожны тут да цябе: „З днём сьвятым вас, пане Лаўрэн“... Стаіш, пілнуешся, каб не спазьніцца ў алтар зайсьці, сьвячу там выносіць, ладану падкласьці. Увесь народ на цябе глядзіць, а ты гэта проста ў алтар, дзе толькі-ж тыя духоўныя асобы і ходзяць. Духоўныя асобы тыя і ты разам з імі. А тут сьвечы гараць, пах той ідзе духавіты, урачыста паблісквають мядзяныя ўборы сьвятых, калышуцца пратасэі. Тут табе поп у сьветлых рызах выходзіць, чашу нясе, І голас як з неба:

— Піце кроў маю, сія бо ёсьць кроў новага завета, яжэ за вы і за многія іэьліваемая...

Добра гэта кроў за другіх праліваць, калі сам бог праліў яе за ўсіх людзей.

Але кроў крывёй. Можа яна, канешне, і кроў для другіх, каторыя гэта ня ведаюць. Лаўрэн-жа ведае. На кроў тую, на тое прычасьце сьвятое самае каліва якое патрэбна, самае большшае—невялікую чарачку. А тут што нядзеля, нясі пляшку цэлую. А разыйдзецца айцец Панфіл, калі войдзе ў ахвоту, у смак—і дзьве цягні, і то яму мала. Спрабаваў Лаўрэн па прастаце сваёй душэўнай намякнуць яму.

— Трохі гэта, бацюшка, і залішне-б, здаецца, на сьвятое прычасьце аж паўгарца браць... Ізноў-жа наклад царкве, непамерны можна сказаць, выдатак...

Дык дзе там.

— Эх, Лаўрэн, Лаўрэн, абуялі цябе думкі непатрэбныя, грэшныя... А чашу паласкаць трэба? Трэба. Што-ж ты яе грэшнай вадой паласкаць будзеш, хрыстову кроў варам сквярніць?

Хіба то паласкаць...

І старанна паласкаў поп. Так набгом і палошчыць, вобмегам і асушыць: і чашу і пляшкі тыя.

Ня ў пляшках, канешне, справа. Ня імі сьвет стаіць, ня імі тая праўда трымаецца. А ўрэшце, скуль ідзе гэтая праўда і хто ў ёй відней: бог ці людзі? Хіба для гэтай праўды ўкінуўся поп у камэрцыю, хіба для гэтай праўды трэба яму Лаўрэну ўчашчаць у горад, ды не за сьвячамі тымі васковымі, не за віном царкоўным, а йдзі ты вот, ды пра нафту пытай, нафту закупай для млыну. Зусім гэтая справа не да бога.

І доўгімі зімнімі вечарамі, альбо летнімі начамі на Дняпры думае часам стары пра бога, пра вышэйшую тую праўду і ўсё неяк не знаходзіць парадку. Спрабаваў прыглядацца да людзей, што другое веры, як гэта ў іх, якое адрозьненьне, праўды ўсё тае шукаў, божацкае і чалавецкае. З-за гэтае праўды і няпрыемнасьці сякія-такія займеў. Ня так даўно, па восені, езьдзіў да знаёмага бондара ў вёску Здырдзічы—века от ад хлебніцы зусім пашчапалася, патрэбна было новае. Але не аб адным там веку клопат быў, захацелася бліжэй паглядзець, як гэтыя здырнічане жывуць. Пабыў у хатах некалькіх, падзівіўся на паперыны белыя, на якіх літарамі друкаванымі божыя словы панапісаны. І паперы тыя, заместа абразоў па сьценах вісяць. І ўсё добрыя словы: і аб шчацэ і аб апошняй сарочцы, аб бліжніх тых... Дужа ўсьцешыўся было духам, от-жа людзі жывуць, праўду блюдуць, праўда тая са сьцяны проста ў вочы просіцца. А калі паехаў было да хаты і ўсю вёску праехаў, хапіўся раптам за голаў на колы зірнуўшы. Былі гэта шыны на іх, на ўсім пана-радзе, тоўстыя такія шыны, хазяйскія, спэцыяльна шчэ ў горадзе купляў, выбіраў колькі. Яшчэ мала ўжываныя, можна сказаць. Месяцы два як нацягнуў іх толькі каваль Іван Іванавіч. І добра так нацягнуў, у самы сухмень як уліплыя, ні шчылінкі табе, ні бразгоцінкі. І на табе. Былі шыны, от толькі былі. І ня стала іх, ня стала тых шынаў важных. Як кот зьлізаў. Вылаяўся, на чым сьвет, ды назад, да эвангельскіх тых хрысьціян.

— Як-жа гэта, кажа, ды каб шыны, брацця, цягаць... Ды ў самы-ж дзень, у сьвята, можна сказаць, чалавека абязножваць... Дзіва то, калёсы бяз шынаў, адна відзімасьць цяпер, рассыпацца ім цяпер—адно—плюнуць...

— А ты, чалавеча, і плюнь... Ты, брат ва хрысьце, не зважай. Мірская то справа шыны, і не на шынах тых, браце, да бога ехаць...

I дзіва, што ціхі чалавек Лаўрэн, і мухі тае здарма не пакрыўдзіць, а тут нясьцерп узяў.

— Падавіцеся,—кажа,—сукіны вы сыны, шынамі тымі. Каб за тымі вы шынамі бога ня бачылі, супастаты...

Дужа іх укрыўдуеш... Узялі гады шыны і насьмяхаюцца яшчэ:

— Ты, чалавеча, ня сярдуй... Вёска у нас такая, голуб, што і ў лапці можа абуць цябе... Зусім гэта простая справа...Шукаць кажаш?.. Дзе ты іх, чалавеча, знойдзеш, калі яны, быць можа, ужо трэцім разам перакрадзены... Едзь ты, чалавеча, да хаты і сябе ня ўводзь у клопаты лішнія.

І паехаў. Такі адведаў эвангельскіх тых хрысьціян, праўду тую, можна сказаць. Нават нікому не сказаў пра свае прыгоды

А вёска Здырдзічы сапраўды славілася па ўсёй акрузе. Дзе ні ярмарак, ці проста базар які, не абыходзілася бяз здырдаўцаў. Усёй, бадай, вёскай кралі, кумпаніямі цэлымі. Адны на самапрадкі спэцы, другія па частцы ботаў—дужа ўжо задоўга прымяралі. Пакуль прымервае адзін, глядзіш, пара-другая чаботоў і паехала. Трэція на жыўнасьць спрыт мелі, каб барана там сьперці, цялё якое. Проста на вачох бралі, ды так бралі, што і ня прычэпішся. Ня грэбавалі і драбязой: і лыжкай там асінавай, стаканам семак, шапкай дзяцінай

Былі і буйныя спэцы, вялікія аматары крадзежнай справы, аб якіх гаварылі з зайдрасьцю, з замілаваньнем. Хіба от валоўя справа. Пачалі гэта летам на чыгунцы валы прападаць. З цягнікоў, што на фронт, для салдатаў. І ня дзе-небудзь на супынку на станцыі, а прападаюць валы ў дарозе, на перагоне, па начах прападаюць. Проста, як растаюць, ні рог тых ад іх, а ні скуры, былі валы і нямашака. Ледзь, ледзь угледзелі, прасачылі. То-ж было турбацыі здырдаўцам, адных вобыскаў колькі. Праўда, валоў так і не знайшлі, зьніклі валы назаўсёды. А лоўка бралі іх з вагонаў. Пакрэхтвае цягнік на горку, тут і ў вагон можна спрытна забрацца. А другі ля вагону з вяроўкамі, каб за ногі вала ўшчапіць, каб як лузьнецца з вагону вол, хутчэй яго ў бок, каб пад колы ня трапіў. А тут і ў лапці. Абуюць вала і сьляда нямашака. І колькі пакралі. Адны крадуць другія перакрадаюць. Пакуль валу ручанцы выйдуць, дык ён у хлявох у трох пабывае. Але-ж валовыя справы прыціхлі. Дазналіся, сталі спэцыяльна сачыць на перагоне і спаймалі некаторых.

Вот табе і эвангельскія хрысьціяне, каторыя па пісаньні жывуць. Хто іх, канешне, разьбярэ і якая прычына крадзяжу іхнаму—ніхто ня ведае. Не ад салодкага, мусіць, жыцьця. Баялі старыя людзі, нібы за даўнымі часамі, калі воля была прышла, пасадзілі гэтых здырдаўцаў проста так на пясок, на голы пясок. Яно, канешне, і красьці пачнеш, на жоўты пясок сеўшы. І трэба сказаць, каб занадта людзі гневаліся на здырдаўцаў, дык не. Прывыклі ўжо. Другога злодзея пападуць, дык мяса тое на ім

да жывое касьці зьнімуць. Вунь, старавера аднаго, канакрада. Той таксама быў госпада бога ярыплёў, калі пачалі яму рэбры лічыць.

— За госпада,—кажа,—пакуту прымаю...

Тут усыпалі яшчэ болей. На што ціхі чалавек Лаўрэн, і то не сьцярпеў:

— Не за госпада, сукін сын, а за сівую кабылу пакутуеш...

І пра шыны свае ўзгадаў тады.

Дык вось вам і праўда. Разьбярыся ў ёй, разблытай. І Лаўрэн усё шукае праўды, з разумнымі людзьмі не прамінае словам якім перакінуцца, чытае кніжкі вольным часам. Усё тое божае слова. Чытае ў голас, жонка слухае. Ня зусім, каб ёй да спадобы быў занятак гэты: і час чалавек дарма марнуе, ізноў-жа й газа, як агнём смыліць. Але слухала. Да слоў тых прыслухалася, ды на лад на свой перастаўляла.

„...І взя камень, егоже положи тамо в возглавие себе: и постави его в столи, и возлия елей верху его..."

— Ты-б і сапраўды Лаўрэн; алею ў Еўніхі ўзяў, на самым дне, бадай, засталося ў баклажцы...

— Ціху ты... Алей табе раптам прысьпічыў... „Востаў-жа Іакаў, взя жоны свая і дзеці свая на вярблюды..."

— А каровы, Лаўрэнька, ня поены... Табе ўсё вярблюды на ўме...

— Хіба-ж то адчапілася-б ты, назола, не даеш божага слова чытаць...

— Мне з гэтага слова карысьць невялікая. Кароў от напой, тады й чытай... Вялікі то клопат мне...

— Яно, канешне, табе не вялікі, дужа ты разумееш у пісаньні, што яно і да чаго.

— Сказаць, каб тое пісаніе табе розуму дадало, дык ня скажаш... Сыны вун басякамі растуць...

— Ніхто, як бог...

— І твая дурасьць...

— Ну, ты ўжо там цішэй хаця крыху.

Але каровы паіць ішоў.

Калі-б ня гэтая дзяўчына, дык зусім было-б сумна ў гэтым заежджым доме, з забруджанымі шэрымі сьценамі, з шурпатай сукаватай падлогай, з прусамі, з прэлым пахам мокрых аўчын і зьляжалага хлеба. Ды яшчэ цыбулі і тараноў, на якія заўзята насядалі гаманлівыя балаголы, насядалі з такім апэтытам, ламалі такія акрайцы хлеба, што, здаецца, мёртваму захацелася-б есьці, зірнуўшы на гэтыя напружаныя, чырвоныя сківіцы, на пагражаючы бляск зубоў.

Балаголы елі і не забываліся аб сваіх справах, не праміналі ніводнага чалавека, які заходзіў у пакой і аглядалі яго таропкім крытычным вокам: а ці не пасажыр то, а ці мае багаж, ці так сам-па-сабе і ці будзе з яго якая камэрцыя. Яны аглядалі,

лаяліся між сабою, спрачаліся і ўся гэта гаворка іхняя была незразумела Васілю Панфілавічу. Таму было-б зусім сумна, каб ня гэтая дзяўчына. Яна сядзела на лаве побач з рознымі клункамі і карзінай. Тут-жа ахапак кніжак, перавязаных раменчыкам, ды ў руках дзяўчыны нейкі невялічкі томік.

— Відаць, Ляскоў ці Памялоўскі,—падумаў Васіль Панфілавіч.—Такія от да „Нивы" дадаткамі.

І яшчэ:

— Відаць, адна з тых дзяўчын, якіх местачковыя бацькі пасылаюць у навуку на апошнія медзякі. За шчасьцем пасылаюць, каб вывесьці ў людзі.

Васіль Панфілавіч пазіраў зрэдку на гэту дзяўчыну, на яе сарамлівы твар з такімі задуменымі вачыма, смуглым лобам, на які панавісьлі непадаткія да грэбня чарнявыя кудзеркі.

Дзяўчына адчувала сябе ніякавата, не магла схаваць гэтай здрадлівай чырвані, якая расплывалася па твары, калі зьнячэўку сустракаліся вочы. І тады запытаў Васіль Панфілавіч:

— Вучыцеся?

— Так, вучуся...

— У гімназіі?

— Так, у мясцовай...

Дзяўчына старанна ўшылася ў кніжку і Васіль Панфілавіч не знайшоў патрэбным распытваць далей. А тут і новыя людзі зайшлі ў пакой. Адзін з іх падышоў да дзяўчыны, ласкава ўзяў яе за плечы.

— Ну як, прачакалася мусіць? А мы і паедзем хутка да хаты, забавіўся я крыху па справах. Дык ты ўжо сабірайся.

І ўжо да людзей, да пасажыраў, да балаголаў знаёмых:

— А гэта дачка мая Бэрта. У горадзе тут жыве, вучыцца, у самога Біндэра на кватэры...

— Што вы кажаце, рэб Нохім, гэта-ж такое дзіця,—хвалілі бацьку за дачку, за добрыя справы.

— Та-а-к... У самага Біндэра, два магазыны ў яго...

— Што вы гаворыце? Шанцуе вам, рэб Нохім.

— У чым шанцуе?

— Па-першае, дачка... Па-другое, на кватэры ў такім паважаным доме... Па-трэцяе, вязець вам ва ўсім, рэб Нохім... Каму цяпер проста канцы прышлі, а вы са сваім малаком ні на што не шманаеце.

— Уга... Малако ўсім патрэбна, і каровы, слава богу, забастовак ня ладзяць.

Гэта была ўжо вышэйшая палітыка, паказ таго, што ён, рэб Нохім, ня лапцем кроены і ўсім-тым разьбіраецца. Таму і паважна агледзеўся ён навакол, каб паказаць усім добрым людзям, які ён спрытны, які ён дасьціпны на ўсё. І калі заўважыў акуляры Васіля Панфілавіча, крыху сьцяўся.

— То-ж дурны я, пры чужым чалавеку ляпаю языком аб усім.

Але хутка супакоіўся і пачаў пільней прыглядацца да гэтага чалавека ў акулярах. Было ў ім нешта знаёмае. Ці калісьці бачыў, ці сустракаўся нават. І прайшоўшыся колькі раз па пакоі, рэб Нохім зусім падышоў да чалавека, загаварыў з ім.

— Дык дзень вам добры... Ці ня бацюшку вы айцу Панфілу сынам даводзіцеся?

— Бадай, што так... А скуль вы мяне ведаеце?

— Да я-ж з таго самага мястэчка, дзе жыве айцец ваш. Ці не да хаты едзеце?

— А куды-ж болей?

— Т-а-а-к...—і ў голасе рэб Нохіма чулася ўжо расчараваньне. Трэба-ж было распачынаць гаворку, то-ж натура. Ды з чалавекам такім, які сасланы быў. А можа чалавек уцёк? А можа чалавек сапраўды злачынец? Але, як ні як, бацькам яму поп даводзіцца і даволі такі цікавы поп, камэрцыйны чалавек, разумны. Ведае, дзе што ляжыць. Ізноў-жа і карысны часам чалавек. Калі, скажам, грошы там ці што. Можна чалавеку і прыемнае што-небудзь зрабіць.

— Дык вы можа-б са мной і паехалі, усё-ж у мяне на возе вальней, чым у балаголаў тых...

— А чаму-б мне з вамі і не паехаць...—і быў той адказ просты, звычайны. Да таго звычайны, што рэб Нохім як у пельку ўпаў, у халодную. Каб з ссыльным чалавекам, ды на адным возе, ды яшчэ на сваім уласным возе. Але-ж, ізноў-ткі, прыемнасьць папу будзе, калі-ні калі ўзгадае чалавек аб рэб Нохіме, ня шкодзіць мець зачэпкі лішнія ў жыцьці.

Рэб Нохім прайшоўся колькі раз па пакоі і да дачкі прысеў, на вуха ціханька:

— Гэта-ж папа нашага сын, у ссылцы быў...—і пра сябе падумаў ізноў:—чорт-жа мяне за язык цягне... Як пачнецца дзень дуратою, дык чаго не наробіш толькі. Трэба от дзіцё палохаць...

І калі селі на воз, рэб Нохім быў ужо зусім нездаволены. „Гэта-ж трэба,—думалася,—такія дурасьці рабіць. І каму? Мне, каторага ўсе паважаюць, як разумнага чалавека. Дык на старасьці год ён зяхацеў, каб па прыставах цягалі. Ізноў-жа і чалавек: яго з далікатнасьці закрані, а ён ужо і да воза прэцца..."

Але чым далей ад'яжджалі ад гораду, настрой рэб Нохіма рабіўся лепшым, і ён гатоў быў нават распачаць гутарку. Аб вайне, аб цяжкіх гадох, „чым гэта ўсё скончыцца"... пра дачку і г. д. Ён нават павярнуўся да Васіля Панфілавіча:

— Вось дачка ў мяне... Каторы-то год сам гадую...

Хацеў яшчэ аб жыцьці сказаць слова, другое, але сустрэўся позіркам з Бэрцінымі вачыма і бяз слоў зразумеў, як ня хоча яна, каб ён гаварыў аб ёй, аб яе справах, аб яе гарадзкім жыцьці. Зразумеў і змоўк, нукнуўшы для прыліку на каня.

— Ты ў мяне на дысцыпліну забыўся, ідзеш, як гаршкі вязеш... Вот агрэю пугай...

Бэрта сапраўды адчувала сябе ніякавата. Ёй не падабаліся бацькавы паводзіны, яго заўсёгдашняе жаданьне прыслужыць каму, дагадзіць, калі трэба і ня трэба. Ёй не падабалася бацькава пахвальба аб яе кватэры ў багатых людзей. Не падабаўся ліслівы тон бацькавых слоў перад самім Біндэрам. Вечна гэтыя ўпросы, сьлязьлівыя просьбы: „Вы ўжо не забывайце на беднага яўрэя, на каго беднаму яўрэю і спадзявацца, як не на вас...“ І зачым так ніціцца чалавеку, зьневажаць сябе? Не такі ўжо і бедны чалавек. І кватэру-б можна другую. Дык не, абавязкова ў багатых, абавязкова ў вядомых, каб потым выхваляцца перад сваімі, перад местачкоўцамі.

Ня так ужо ёй і добра ў Біндэра. Ня так ужо і прыемна ў іх на кватэры, дзе адчуваеш сябе, як чужая, дзе сядзіш за сталом, часам, як на вугальлях, дзе глядзяць на цябе, як на бедную сірату. Сьвет жа такі нямілы тады.

Але ці не праз гэтыя сьлязьлівыя просьбы бацькавы трапіла яна ў гімназію? І цяжка разабрацца тут у сваіх думках пра бацьку: ці дзякаваць яго, ці крыўдаваць. Успаміны пра паступленьне ў гімназію вярэдзяць душу. З імі прыходзяць нязьлічоныя крыўды, якія ніколі не забываюцца. Раней „якая маленькая жыдовачка“, пазьней „прыгожая жыдовачка“, „шкада, што жыдовачка“? Цяпер то ніхто гэтага ў вочы ня скажа. Бэрце шаснаццаты год.

Праўда, шмат цяпер новых крыўд, крыўд куды большых, балючых. Не сваіх асабістых. І цяжка іх, крыўды гэтыя, пагадзіць з жыцьцём, пагадзіць з яго віратлівым разьбегам, з кіпучай пярэстасьцю яго дзён. Жыцьцё ідзе, такое прывабнае і прыгожае, такое заклікаючае сваімі нязьведанымі яшчэ тайнамі, сваёй сьвежасьцю і непазнанасьцю.

І такое цяжкае, часам, чорнае, як ноч, як туга, як безнадзейная глухая роспач. Гэта пачалося з таго часу, калі ўвесь сьвет стаў двайцца перад Бэрцінымі вачмі, распадацца на дзьве вялікія часткі і часткі тыя былі варожыя адна другой. І што яшчэ цяжэй—у кожнае часткі было сваё прыемнае, прыцягваючае, за што можна было аддаць свае сілы, чаму аддаваліся найлепшыя думкі і парываньні. Былі ў першай частцы і бязьмежны Пушкін і вялікі Талстой, ясныя як сонечны дзень тургенеўскія дзяўчыны, была дзівосная і хмялявая мудрасьць горкаўскіх басякоў, чаруючая цяплынь гогалеўскіх казак, гаркаватая слодыч чэхаўскіх слоў. І за ўсім гэтым уставалі гэтыя палохаючыя і грозныя словы: айчына, вялікая . руская зямля, імпэратарская дзяржава. І за дзяржавай, тулячыся за бліскучыя мундзіры, за вайсковую шчаціну штыхоў, за чорныя і залатыя рызы сьвятых сатрапаў, ішлі Пурышкевічы, Маркавы, ішлі шматлікія атрады Чабырачак, ішлі і ў позірках іх была крывавая муць, і на вуснах у іх былі брудныя і крывавыя словы. І яны гаварылі аб бацькаўшчыне, аб вялікай зямлі рускай, аб спрадвечных і непарушных сьвятынях, аб веры, цару і айчыне. І чуючы гэтыя словы, было цяжка і крыўдна

за іх, за вялікіх: за Талстога, за Пушкіна... За сьветлыя імёны Чарнышэўскага, Міхайлоўскага, за дзесяткі і сотні імён, якія зьніклі, растанулі ў крывавым тумане перад гэтай няўмольнай шчацінай штыхоў, перад палаючым бляскам кароны. Часам, каб адыйсьці ад балючага, апякаючага, прабавала „ключы шчасьця", зачытвалася поўнымі цынізму і чалавечай подласьці арцыбашаўскімі радкамі. Было прыкра, агідліва, але чытала да канца, каб пазнаць чалавечую праўду ва ўсіх яе праяўленьнях, ва ўсіх рознастайных крыніцах,—і сьветлых і цёмных.

І была другая частка. Тут былі змрочныя вуліцы, пярэстая ўбогасьць базараў, прыплюснутыя да зямлі халупы, вясёлкавы ад старасьці бляск вакон у сінагозе. І больш за ўсё ўбогіх лахманоў, з якіх выглядалі на сьвет божы задуменныя вочы. І часта сьлязіліся гэтыя вочы, палымелі чырваньню трахомы. Ды зяленіліся твары цьвільлю сутарэньняў і пакорлівай беднасьці. Тут былі свае радасьці, свае сьвяты. І больш за ўсё гора.

> О, родина...
> Ты много сил дала,—по капле, как змея,
> Их высосала скорбь и горе роковое...

Так. Тут была свая радзіма. Аб ёй гаварыў Шолам Алэйхем, ёй складалі гімны паэты. І салодкай атрутай здаваліся радкі Бяліка, Фруга. Пасьля іх кружылася галава, віхрыліся ўзьнёслыя думкі, але ападалі яны хутка ў халодным бясьсільлі, згасалі ў зачараваным коле суровых дзён і год, нібы скавана была спрадвечнымі ланцугамі чалавечая воля і людзкія жаданьні. Паэты пелі аб радзіме, але песьні тыя былі хутчэй надмагільнымі песьнямі чалавечым надзеям і радасьцям Радзіма была. І ня было яе. Гэта слова лунала, як замшэлыя паданьні, яно сьвяцілася, як слабыя аганькі сьветачаў Макавеяў. Аб радзіме гаварылі па-рознаму. Адны бачылі яе на прывольным улоньні Дняпра, другія—у далёкай Палясьціне, трэція—у агульна-расійскай радзіме. І цяжка было апазнаць яе сьветлыя рысы, улавіць яе прасторы, яе далячыні. І мо' праў быў вялікі гені Байрон, які бачыў у магіле адзіную радзіму старога бяспрытульнага народу.

Аб якой-жа радзіме думаць тады?

... Конь ішоў паволі. Гаварыў з нейкімі людзьмі бацька. Сядзеў, насупіўшыся, гэты чалавек у акулярах. Чалавек цёр нос, відаць, яму было холадна. І ўвесь гэты чалавек нягеглы такі, хударлявы, калючая барада настырчылася шчацінай, цьмяна пабліскваюць над вачмі запацелыя шкелцы. Часам бярэ чалавек гэтыя шкельцы і, прыжмурыўшы вочы, працірае іх хусьцінкай. Чалавеку холадна, ён зябка пацінае плячмі, разьмінае нагу—і тады сабіраюцца маршчакі на ілбе і чалавек праводзіць па іх стомленым рухам рукі, нібы зьмесьці іх хоча, сабраць у жменю ды кінуць от так на дарозе, на жыцьцёвы той узьвей-вецер.

— Ссыльны...—прыходзяць на памяць бацькавы словы. І тады хочацца Бэці разгадаць гэтага чалавека, увайсьці ў яго сукрытыя думкі і ў яго жыцьцё. Яно-ж такое няведамае ёй і нябачанае.

— Рускі...—абрываецца думка дзесьці і от-от згаснуць на сэрцы іскаркі цяплыні. Цяплыні да чалавека, да зябкіх плеч яго, да яго маршчакоў шматлікіх.

— Але-ж ён ня з тымі... Ён супроць тых... Ён адтуль, адкуль ідзе вялікая чалавечая праўда...

— Вы от павярніцеся так... Так-жа ляпей, цяплей...—праказала да яго. Праказала так проста, так звычайна.

— Дзякую..—адказаў чалавек і ў адказе тым была сапраўдная глыбокая шчырасьць.

Калі пад'ехаў Банадысь да стажка, нешта кінуліся коні ў бок, зашасталі палахліва вушмі.

Мо' воўк дзе ў парасьніку ўшыўся...—мільганула думка ў Банадыся. Ён прывязаў коні, агледзеўся. На замерзлым балацянішчы грудзіліся шматлікія стагі сена, некаторыя былі ўжо зьвезены, і на месцы іх чарнелі незацярушаныя сьнегам сьцяжарні.

— Дабра от дабра панакашвалі людзі... А нашага бадай боле... Прыдзе вясна, колькі тады грошай трапіць у кішэню. Праўда ў бацькаву. Але-ж пры так'м дзеле сёе-тое і мне можа перападзе... То-ж гуляй тады з дзеўкамі, раскошуй з салдаткамі...

Калі падышоў да стогу, каб абраць зручнейшае месца, дзе браць сена, крыху зьдзівіўся. З боку ляжала сьвежа нацярушанае сена, стог быў ускудлачаны крыху зьнізу і ярка зеляніўся пад халодным зімнім сонцам гэты раскудлачаны бок.

— Які бо то чорт бязумствам займаўся?.:.

Прыгнуўся, каб разгледзець сьляды поблізу. На шурпатым лёдзе відаць былі белыя мецінь, як ад падковак, ды на сьнежным сувойчыку ля куста быў ён, сьлед, поўны на ўсю нагу, на ўвесь поўны чобат.

— Каго тут прымха якая насіла?

І калі ўважліва прыглядаўся сьледу, раптам асеў, аж пасклізнуўся на лёдзе, і ледзь-ледзь ня выскачыла з грудзей тое сэрца ад страху. Чуў Банадысь, як кашлянуў нехта самым такім звычайным чалавечым кашлем. Напалохана аглядзеўся навокал. Нідзе ні душы. Стаяць, не варухнуцца асьнежаныя стагі, да болю ўвачох паблісквае лёд на сонцы, старая алешына не варухне ні галінкай, ні застаўшымся лісьцейкам—стаіць скутая белым інеем, у марозных блёстках якога пераліваецца вясёлкавымі агнямі сонца.

— Што за чамярыца, ці ня стрызьнілася?

Але калі зноў падышоў да стогу і намерыўся быў раскрываць яго бок, дык бадай што самлеў, скамянеўшы на месцы. З развярушанага сена відаць былі ногі, абутыя ў звычайныя салдацкія чабаты—шчэ падкоўкітыя ня сьцерліся на іх. Ды самы звычайны храп чуваць быў адтуль са стогу. Відаць, залез чалавек, ушыўся ў сяродку і спаў сабе салодка, пасьвістваючы на ўсе свае насавыя застаўкі.

Халодны жах апавіў Банадыся.

— Няйначай Бартох Антон. Ён-жа хаваецца цяпер, уцёкшы з вастрогу, паранены... Заб'е, калі ўбачыць... Ён то на мяне вока мае, ведае, хто даказчыкам быў, калі лавілі ў гумне, нябось людзі даўно давялі.

Банадысь кінуўся да коняй і, ня спускаючы воч з чабатоў тых, торапка хапаўся рукамі за зашмаргу ад лейцаў. Адубелыя пальцы—кінуў са страху сподкі ля стогу—ніяк не маглі справіцца з непадатнаю зашмаргай, і калі заўважыў Банадысь, як паварушыліся тыя чабаты, ды зноў кашлянуў там, у сене, тады кінуў і коні і сані і бегма кінуўся праз усё балацянішча, праз кусты і праз алешкавы парасьнік, каб хутчэй прасьцяком на дарогу. Бег і не азіраўся назад. Баяўся заўважыць усьлед за сабою грозную постаць ворага. „Калі Антон—заб'е, калі й другі які дэзэртыр—таксама не чакай дабра. Яны цяпер злыя, як гады, як восы тыя, калі ты іх кіем зачэпіш, разварушыш гняздоў'е іхняе, асінае"...

І толькі тады суцішыўся, кінуў бегчы, калі мінуў лес і вышаў на поле, якое межавала з мястэчкам. Тут ужо ня страшна. Тут і да хаты блізка, і да ўрадніка недалёка... І чым бліжэй да таты, тым сьмялейшым рабіўся Банадысь і калі ўваходзіў у мястэчка, нават, жалкаваць стаў, чаму гэта ён, Банадысь, ды не зьвязаў гэтага самага чалавека, чые ногі тырчаць са стогу.

— Гэта-ж такі выпадак зручны: узяў лейцы дый зьвязаў яго соннага, як цялё... Проста от да ўрадніка і прывёз бы, сказаў-бы яму: на от, злачынцу спаймаў, голымі рукамі, можна сказаць, узяў... Гутарак-бы колькі адных... І зноў-жа, дзеўкі... Зусім іншы тады разгавор з імі... Цяпер каторая і папікне часам „Сьмеласьці ў цябе, Банадысь, не хапае: а ўсё таму, што ў салдатах ты, мусіць, ня быў. Толькі-ж на нас і сьмелы ты"... Т-а-ак... трэба было зьвязаць гада без ўсяго ўсякага... Але, зноў-ткі, паспрабуй ты яго зьвязаць каторага. Мо' каму жызьня абрыдзела, толькі ня мне... Няхай другія вяжуць... Ну й клопату нарабіў-жа...

Банадысь зайшоў да хаты, каб бацьку аб усім расказаць і зараз-жа выправіць яго з людзьмі да стагоў. Не застаўшы бацьку дома, пайшоў да вурадніка.

Той сядзеў за сталом. Абвіслыя вусы здаваліся яшчэ даўжэй. На іх наліплі калівы капусты, якая стаяла на стале ў вялікай місе побач з пачатай пляшкай гарэлкі, з акрайчыкам хлеба ды парай другой гуркоў... Былі тыя агуркі кіслыя, салёныя—аж прыжмурваў вока вураднік ад вялікае асалоды—ад агурковага соку, ад паху таго тміннага, духавітага.

— Гуркі ў цябе, жана, нішто, важнецкія, можна сказаць, гуркі, у поўнай спраўнасьці, павінен я сказаць, і акуратнасьці. Царскія гуркі, што і казаць. Але што да палітыкі, дык, жана, ня суньcя. Гэта, жана, не твая кампэтэнцыя, як кажа сам пан прыстаў. Гэта ўжо мая кампэтэнцыя і павінен я тут поўнае сваё

разуменьне мець і захады прымаць, бо тут палітыка, тут факт, можна сказаць... А факт, жана, ён заўсёды ёсьць... факт, ты гэта разумець павінна... Та-ак... А ежалі я ўласнаручнае дзіцё вайсковай субордынацыі хачу вучыць, дык ты, жана, ня рыпайся, ды слухай сама з увагай, бо суборды-нацыя—гэта таксама... факт. А факт—ён заўсёды ёсьць... факт, ты гэта адчуваць павінна і разумець, таму ты ня хто іншы там, а супружніца і законная сажыцельніца, можна сказаць, гаспадзіна вурадніка, а вураднік ёсьць уласьць, а дзе ўласьць, там палітыка... І наогул, несьць уласьці, ашчэ не ад бога, як кажа наш паважаны айцец Панфіл... ён-жа іерэй нашага праваслаўнага храму... А гэта таксама факт і ніякіх тут сумненьняў ня можа быць...

— Я, канешне, ня супроць факту... Але ў Зарэччы вун, кажуць, такі дом адмахаў сабе вураднік, што па ўсёй воласьці не знайсьці, аж двое ганак, ды пад гонту крыты, на дзьве палавіны той дом, казалі анадысь людзі...

— Гэта як сказаць... Гэта, можна сказаць, чуткі ілжывыя, за якія і караць можна па законах нашага часу. Бо ня ў гэтым годзе той дом зьявіўся, а калі фактам давесьці, дык летась... Гэта раз... А па-другое, яго Зарэчча майму мястэчку не роўня, гэта, не раўнуючы, як гнеды пристава да майго буланчыка. А галоўнае—гэта ўнутраны вораг... Там, браце, таго ўнутранага ворага—платы гарадзі, толькі знай—варушыся, ды палітку праводзь, ды каб з розумам. А які ў мяне ўнутраны вораг? Салдаткі якія хіба, каторыя незадаволеныя? Відзімасьць адна, а ня вораг. На гэтага ворага і соцкага хопіць, з ім і стараста справіцца. Дужа ў мяне ворага ўнутранага мала, ніякага разгарненьня, можна сказаць. Іzноў-жа камэрцыя, скажам. Там адных маслабоек—з усяго павету возяць алей біць. Канешне і крупы дзяруць. І канешне, і ваўначоскі. Яно і ў нас ідзе на разьвіціе, але-ж Зарэччу ня роўня. Калі-ж пра дом казаць, дык я таксама не ў амбіцыі, ня ў крыўдзе, так сказаць, Ты думаеш, што я такі ўжо чалавек, апошні, каб аб сваім дзіцяці клопату там ня мець, чалавецкага абыходжаньня... А ну, каманда, зьмірна... Т-а-а-к... па ўсіх правілах субордынацыі. Кру-у-гом...

Мурзаты падшывалец, які стаяў „зьмірна“, чакаючы канца бацькавым прамовам, жвава павярнуўся за сталом, чакаў далейшага загаду.

— А ну, каманда, шагам... а-а-рш... ідзі шчоты прынясі, сукін сын... А цяпер... кру-у гом... айда бягом на зімнія кватэры...

Каманда як дужа кінулася на печ, падалей ад усякіх субардынацый.

— Дзіцё мардуеш, глядзі... аж схудняў на твар...

— Дармо... Не на ражку-ж мурло тое быць павінна... Яно, каторае больш хударлявае, дык больш спрытнейшае... Дык от ты, кажаш, дом... А я падлічу, тады і гаварыць можна, каб не абы як, а з фактам каб выступіць...

Тут і зайшоў Банадысь.

Не адрываючыся ад шчотаў, нездаволена мармытнуў ураднік:

— Ты там, каторы, шапку зьнімі, дурань. Ня ведаеш хіба, дзе знаходзішся.

Але ўгледзеўшы Банадыся, мягчэй ужо:

— Дык гэта ты, браце. Ну, дык садзіся. Па справе, відаць, ці так зайшоў?

— Дызэртыра я спаймаў, пане ураднік...

— Што ты гаворыш? Дзе?

— Ды на балацянішчы... У стагу...

— Што ты? Як-жа гэта собіла табе, і дзе ён цяпер?

— Ды там-жа...

— У сене? Зьвязаны хіба? Пілнуе хіба хто?

— Не... Я, пане ураднік, угледзеў толькі... Ляжыць от і сапе сабе, сьпіць, можна сказаць, і храпе, выбачайце за слова, аж стог той калышыцца.

— Чаму-ж ты яго ды ня згрыбчыў там? От бы тады проста да мяне...

— Да я, пане ураднік, без аружыя зусім... Каб жа аэта я ды пры аружыі... А з голымі рукамі яго ня возьмеш, можа, пры ім срэдзтва якое, паспрабуй-ка, паткніся...

— Гэта, канешне, так... Народ такі, што і рачанцы адбіць можа. З ім асьцярожнасьць сякую-такую мець трэба, бо злы народ, ён на ўсё папусьціцца можа. Але-ж і далекавата гэта будзе... Ізноў-жа клопат, каб на яго нарад. Але што ты зробіш, давай-ка, жана, амуніцыю, шаблю давай, аружыю... Трэба от толькі хіба панятых узяць, каб, як сьлед, па закону, па ўсіх, можна сказаць, правілах царскіх. Ды на вуліцы каго-небудзь напаткаем... Дык хадзем хіба...

Дагледзеў каровы Цупрон, вышаў з хлява, на сонца ўгледзеўся. І дзень марозны, а сонца куды ўгравае, асабліва ля сьцен, у кутках зацішных. Угледзеўся на сонца, за каўняром чухаўся— былейка тое з трушанкі трапіла, саломіна там ці што. І дужа-ж гэта чухацца добра, на сонца гледзячы, вочы на яго жмурачы. Сьвярбіць гэта пад барадой, ды ў целе ўсім млявасьць такая. У костках тых старых дрыгалкі сонечныя. Краніся рукой за бараду, далоняю да яе дакраніся—цёплая яна такая, нібы дух гарачы ідзе ад барады тае, сонцам аблашчанае. І самі сабой вочы плюшчацца. Хіліць да сну чалавека. Прысеў на бервяно Цупрон і толькі гэта падумаў:

— От яно сонца якое, вясну чуе, сілу-моц набірае, каб на палі, на жыты нашы...

Ды й прыкархнуў крыху, задрэміў на палене тым, на хваёвым. Храпака задаў, аж каровы жвачку кінулі, заматлялі вушмі, прыслухаліся на хвіліну якую—ды зноў пачалі сена тое малоць, перамалваць, каўтаць жвачку салодкую, жвачку мурожную, сакаўную.

Любіў такі паспаць Цупрон Палажкін. Ці ад старасьці то, ці ад дакукі тае, ад жысьці тае сямейнае, як любіў часам казаць сам Цупрон.

— Ты, братка мой, падумай толькі, семера баб у хаце, а я адзін, і кожная табой паганяе, на карку тваім во-от як езьдзіць, каб змаглі, у дамавіну раней часу загналі-б...

— А ты-ж гаспадар. Ізноў-жа, парадак ад цябе залежыць, даў-бы дыхту раз, даў бы два, глядзі і павага табе і шанаваньне...

— Дзе ты бачыў, чалавеча, каб гэта дыхту... Ідзі-ка суньея да мае кампаніі—усе валасы абскубуць, калі жывога толькі з хаты пусьцяць. Гэта калі зачэпіш іх. Такога скогату наробяць, такога вархалу: тут табе і аньцілерыя, тут табе і кавалерыя, ну проста эскадрон пяхоты...

— Ня бывае, Цупрон, эскадронаў такіх...

— Можа яно дзе і нямя, а ў мяне ёсьць, што ты мне, чалавеча, гаворыш... Тут хаця гаспадаркі рашайся часам, да таго-ж дакука. Але і зноў-жа, свае, ня чужыя... Вот і жыві...

І адно збаўленьне Цупрону—паспаць. Вольным часам якім ці так, прымудраўся Цупрон, каб употайкі як, на гумнішчы дзе ці ўбіўшыся ў баразёнку на полі там ці гародзе, гэта калі летам. Нават каровы раз даіў і даіўшы спаць налаўчыўся. Паслала Палажка ў хлеў, чакае. А Цупрон прысеў, даёнку паставіў, цыркнуў разы са два. Дух гэта з даёнкі йдзе, паднімаецца цёплай парай, а тут лысая павярнула галаў, у самую лысіну чмыхае, грэе чалавеку макушку.

Разамлеў чалавеча, прыхіліўся да сьцяны, ды й заснуў. А Палажка—кабета суровая. Чакае, ды ўсё духу таго, спрыту таго баявога набіраецца. Падвярнулася тут дачка.—Ідзі,—кажа,— падзівіся, дзе наш гіцэль стары запрапасьціўся, пагібелі на яго ўжо нямашака... Пашлеш, як дурнога таго богу маліцца...

Прыбягае дачка тут.—Хутчэй-ка, матка, паглядзі, што ён нарабіў там, татка наш...—Тут за ёмашнік Палажка—ад старога дабра не прычакаеш—і хуценька ў хлеў. Толькі гэта ў хлеў—так і зайшлася, налілася тэй злосьцю вялікаю, набрыняла, на якую калі-б глянуў Цупрон (каб ня спаў чалавеча), дык падумаў бы з гора—зноў-ткі завутраня пачнецца... Але спаў Цупрон, салодка спаў, нават сьлюні тыя на бараду пусьціў. Спаў і сьніў, нібы от ён Цупрон вясельле спраўляе. Ды якое вясельле: узапар сем дачок пад вянец, жаніхоў гэтых сем... А сватоў ды сваць-цяў—крый ты божа, памілуй, уся воласьць сышлася. А ён Цупрон ды з кожным сватам па чарцы, ды са сваценкамі, ды з кумамі, з сваякамі тымі блізкімі і далёкімі, жончынымі і сваімі. І ўсё так люба і сэрцу так міла, нібы ў каляды тыя чаркай па каўбасе, ці вялікодным днём па яечку сьвяшчонаму, божай вадой пасьвіцальнаму. І жонка нібы от Палажка гэтая самая, і маладзей яна, і спрытней яна і да яго куды лагадней: „Цупронька мой, Цупруньчык, ці-ж мы з табой сварыліся калі, ці то біліся, крый божа. Хіба-ж нам з табой і пацалавацца грэх ды на гэта-

кім-жа вясельлі...“ і ў самую гэта макаўку—плюсь. Ну, як маселкам тым па душы. І раптам тут падыходзіць сват. Страшэнны такі, гірклівы. А за ім другі, а там трэці, чацьверты... Ну, проста, сіла сватоў тых навалілася, за грудзі ўчапіла. Ды ў голас усё:

— Ну, выстаўляй кублы, нечага ніціцца, добрых людзей чмурыць, на пасагах абманваць...

Дзе-ж ты тую сілу кублаў возьмеш, аж семера кублаў, дый да кубла трэба і сарочку якую, і падушку якую, і чаравікі там, ды й з адзежыны зноў. Ды й кожнае адзежыны аж сем набораў. Гэтак-жа й гаспадаркі ня дзіва рашыцца. Умеючы, дык яно адным вобмегам: і ні каня табе, ні каровы табе, апошняе куранё на дзявочыя акрасы пусьціш. На каленцы стаў Цупрон ды потым грымзель у масьціну тую сукаватую.

— Братцы—кажа,—ня рэжце вы мяне без нажа, дайце ‘шчэ на сьвеце пакрасаваць... Дзе гэта я вам сем кублаў, хіба скуру апошнюю...

А яны:

— Скура нам твая, чалавеча, без патрэбы... Мазалявая яна... Ізноў-жа і прусамі пазгрызеная, блыхой паскусаная, Палажчынай рукой абіваная... Без карысьці яна, скура твая, чалавеча..,

Ды чаўпель за бараду, а каторы і да горла пне. Аж змакрэў Цупрон, ды набраўшыся жаху, як крыкне. Тут і вочы прадзёр, глядзіць імі, лыпае. І ніяк чалавеча не дабярэ з просапу, што за такое ля самага носу матляецца. Працёр крыху вочы, бачыць: няйначай жончыны кулакі от так і завіхаюцца ля бараньі ды ля носу. А прачухаўшыся і голас пазнаў і яе ўсю і падумаў тут, небарака, пра завутраню.

— Будзе няйначай, без яе цяпер, браце, не абыйдзешся... Здаецца, каровы я даіў... Аднак, што яна да мяне мае, чаго чэпіцца?

А Палажка насядае, голас усё вышэй і вышэй, самі сабой Цупронавы плечы сьцінаюцца, ды ніжэй апускаецца галаў.

— Ты гэта, ірад, нарабіў што? За чым цябе, супастата, паслалі?

Хацеў агрызнуцца, але змоўчыў: „Няхай ужо да канца даходзіць, не чапаць яе лепш цяпер, хужэй будзе“.

А Палажка даёнкай ды ў самы нос тыча.

— Ты паглядзі сваімі паганымі вачыма, што ты з даёнкай зрабіў, супастат.

Зірнуў у гэтую самую даёнку Цупрон, зірнуў нясьмела, падумаў з жахам: „а гэта, браце, хужэй завутрані будзе; што не вязе, дык не вязе“. І сапраўды ніякага малака ў даёнцы ані званьня, адны лепяхі тыя, выбачайце, кароўі.

— Дык гэта-ж ненарокам,—пачаў было нясьмела Цупрон—ізноў-такі—як відаць, карова гэта...

— А ты ‘шчэ надаўбень стары, сам бы захацеў у даёнку можа... Ды ты, ірад... Да супастата...

І пашла і паехала. Аж вочы заплюшчыў Цупрон. І толькі ён плюснуў вачмі, як вазьмі тут Палажка ды даёнкаю той у самую

бараду і ўцэліла. Як плюхне ў бараду, тая і пацяжалела. І дух з барады пайшоў, цяжкі такі дух, парны, карові. Не сьцярпеў Цупрон і сплюнуў нават ды падняўшыся пайшоў раскірэчыўшыся і сагнуўшыся, каб сьвітку тую не запляміць, да самага калодзежу. Аж да карыта таго нёс бараду, як гладыш з малаком, каб не разьбіць, не растрасьці. Мыў доўга, пяском цёр, анучынай праціраў, кожную валасіну перабіраў паасобку. Угледзеў сусед, зьдзівіўся дужа, запытаў праз плот:

— Што гэта ты, чалавеча, за бараду ўзяўся?

— Праісшэсьцьвія, брат...—мармытнуў Цупрон і замаўчаў.

— А якое яно там праісшэсьцьвія тое?

— Ат...—махнуў рукой Цупрон і да хаты падаўся.

Хоць бараду і спаскудзіў крыху Цупрон, але-ж у сямейнай жысьці, як ён казаў, крыху палегчала. Толькі гэта надумаецца Палажка пад карову пасылаць і ўжо брывёй той павядзе сурова, ды схамянецца раптам: „А няхай ён, крый божа, сатлее часам... Пашлі яго на сваю галаву, дурыбалу гэтую...“ Асьцерагалася такі даручаць даёнку. Ды й сам Цупрон куды дасьціпней стаў. Пойдзе, скажам, па мякіну там на гумно, ды ўжо на ўсякі выпадак (калі, крый божа, сон усьцігне) закрутку за сабою паверне, каб ніякага, значыцца, звонку прыступу ня было. Жджэ, часам, Палажка, жджэ і пайшла на гумно сьледам. А тут і вароты зачынены і закруткай знутры як пры ляпаны. Тут ужо крычы, ня крычы, хоць ты напал тут разарвіся, а яму не дадзенеш. Храпіць на тарпу, аж страха калышыцца. А прачнецца ад крыку, дык узлуецца ‘шчэ, агрызацца пачне.

— Укусі от сябе за калены, а хоць бы сабе за месца тое самае...

Ды выхваляецца ‘шчэ:

— Дужа я цябе баюся, думаеш... Вот цэпа вазьму, ды як узлуюся, дык я цябе на мэтлахі тыя ізьністожу, на порхаўку тую пакіну... От крычы, ня крычы, хоць ты сабе залейся там...

Аж чырванела ад злосьці Палажка, кулакі тыя сьціскала, але паспрабуй ты даяць да яго, ня станеш-жа вароты ламаць. А Цупрон агрызаецца. Надакуча яму, засьне ізноў, дзе ты яго там падкалупіш. У поўнай, можна сказаць, чалавек небясьпецы.

Праўда, знаходзіла часам Палажка доступ праз тыя дзьверы зачыненыя. Дачку якую меншую пакліча, калі пад рукой, ці падшывальца там за лежанак тых жменю.

— Хадзі ўжо, маё дзетачка, старой мне падсабі: от злазь туды пад страху, бачыш, бярвенца дзе асунулася... Дык злазь, галубок, ды закрутку павярні, каб вароты як адчыніць, мякіны ўзяць...

А Цупрон сабе сьпіць, ні аб чым не шманае. Пералезе малы пад страхой, закрутку тут адверне і пачынаецца тут Цупрону „завутраня“ поўная.

Другім разам, канешне, лез малы ды потырч ляцеў назад, штаны тыя ў руцэ трымаючы, ды на ўсё гумнішча румзаніны той. Ды ў голас:

— Ведаю я цяпер, цётка, якая мякіна там... Хоць сабе пазуху цэлую лежанак насыпайце, але не палезу... Гэта вы, каб дзеда Цупрона біць... Вам добра, а мяне як спаймаў, ды з веніка дубцом тым...

Ня вечна падпілнуеш, аднак, і малога. Спэцыяльна гумно агледзеў Цупрон, кожнае бярвенца абмацаў, ды дзе каторае асунулася—новыя паўстаўляў. Каб быць усё-ж у поўнай небясьпецы. Суседзі сьмяяліся: „Для завутрані Цупрон стараецца..." А каторыя салдаты, на фронце якія пабылі, дык тыя дзедава гумно няйначай як цыпронавым газаўбежышчам называлі, ад палажчынай напасьці той ды наступу яе. Пачалася-ж „завутраня" яшчэ даўно. Было дачок тады у Цупрона мо' ўсяго 'шчэ з пяцёра. Пайшоў гэта Цупрон у вялікодную ноч пасху сьвяціць. Ці страсьці тыя гасподні яго змарылі, ці за дзень чалавеча наверадзіўся, але-ж толькі вочы тыя так і ліпнуць, так і плюшчацца. Плюшчацца вочы, галава хіліцца долу, не да розуму і словы тыя сьвятыя. Таго і глядзі лубачка ліпавая плюхнецца аб падлогу, дай ты тады пасцы той рады. „Парасё 'шчэ ўцалее, а яечкі кокнуцца, ні за што, ні правошта могуць загінуць яечкі." Падумаў так, ды бокам, бокам з царквы, вышаў гэта на цьвінтар, ды ля парканчыку пад ліпаю і прыкархнуў крыху. Ды лубачку тую, каб хто ня сьцёг, да боку бліжэй прыгарнуў. І сьпіць сабе чалавеча. Тут ужо й страсьці прашлі, і ў званы, як сьлед, ударылі на самы той на „хрыстос-уваскрос", цалаванне прайшло, прайшла тая завутраня сьветлая, вышаў поп з крапідлам яйкі сьвяціць. Добрыя людзі і разгаўляцца пайшлі, а Цупрон сьпіць сабе, ні на што не шманае. Добра, што Лаўрэн натрапіў. Прышоў гэта чалавек, каб званіцу адамкнуць на звон вясёлы, вялікодны. Забраўся на званіцу, бумкнуў разы са два, і зір на ніз. А там чалавек пад ліпаю. Пайшоў Лаўрэн да яго, бача— Цупрон храпе і лубачка тая ля яго абярнутая, усе яйцы патрушчаныя і з пірагоў—адна відзімасьць—наваліўся на іх бокам Цупрон.

— Пане Цупрон,—будзіць тут Лаўрэн чалавека.

— Што ты надумаўся, браце, хрыстос табе васкрос тым часам.

Прадраў той вочы і за галаву схапіўся. Не да хрыстоса тут, можна сказаць, Цупрону.

Скеміў тут Лаўрэн, што з чалавекам няйначай як праісшэсьцьвія здарылася, ды ўжо як мага ласкавей—а самога нясьцерп бярэ, так і бярэцца за бокі—от бы ў рогат чалавеку пусьціцца.

— Яно, браце, можна сказаць, пасьвяцілі здаецца... Даўно, мой голуб, пасьвяцілі... Дзівіся то, сонца на паўзваніцы, на гару ўзьбіраецца... калі то ўжо сьвяціць...

Тут і самлеў Цупрон. А на лубачку як зірнуў, тады і зусім асеў, адно толькі вочы лыпаюць.

— Божа мой, божа, парасё тое дзе-ж падзелася? Парасё-ж тут у мяне было, ‘шчэ са сьвечачкай—дзяўчаты ўбіралі... Гэта-ж ня жарцікі, каб ля царквы парасё красьці... А куды я цяпер яйкі гэтыя падзену. І куды пайду я? Мяне-ж капэля мая жыўцом пакладзе ў дамавіну, не паглядзіць і на дзень вялікодны...

Пайшоў Цупрон да хаты, туляючыся, людзей абмінаючы. Дзіва то і сонца дзе, а ты тут з лубачкай. Лацьве ‘шчэ добрыя людзі разгавеліся і сьпяць сабе ды пупы пагладжваюць, адна малеча на вуліцы яйкі катае. Ёй то, малечы, канешне, не ўзда-гадкі Цупронавы дзялы. І добра яшчэ, прыдбаў у Лаўрэна колькі тых яец пасьвіцаных, другой праўда фарбы: у яго, у Цупрона, цыбульковыя былі чырвоныя, а Лаўрэнавы сокам баравым падфарбаваныя, зусім можна сказаць, другія яйцы.

Так і да хаты дадлыпаў. А там ужо прачакаліся даўно, прагаладаваліся, як сьлед, разгавіны тыя спадзяючыся. Увайшоў у хату, пахрыстосваўся нясьмела, да лубачку тую пацїху на стол паставіў.

— Дык хіба пачынаць будзем?—а сам хуценька на самы покут, каб у выпадку чаго падалей быць ад рук тых палажчыных.

Тут і ўзяліся. ‘Шчэ ў лубачку не глядзеўшы запытала грозна Палажка.

— Дзе гэта цябе нячысты дух, даруй мне, божа, за слова такое ў дзень сьвяты, дзе гэта, кажу, чэрці цябе насілі і ці ня ў пролубку ты трапіў часам, няпутная твая галава?

Сьцярпеў зьнявагу Цупрон, пацїху так:

— Ты-б разгавелася, хаця, а тады-б ужо... апасьля, адным словам...

Узяліся тыя за лубку, ды войкнулі толькі, усёй гэта капэляй Палажчынай. Мімаволі Цупрон на качарэжнік зірнуў, крый божа—возьмуцца ўсур'ёз... Але дзякаваць богу ды дню сьвятому пуставаў качарэжнік той—ні вілашніка, ні ёмкі тае паганае... вынесьлі для сьвята ў сенцы, каб у хаце чысьцей. Трэба сказаць дужа на ёмку тую рука Палажчына была напрактыкавана і ад рукі тае лепш далей куды ў ліхія часіны. Зірнуў Цупрон на качарэжнік і на душы лягчэй стала, яйцы пачаў лупіць, яйцо тое Лаўрэнава, што сокам баравым падфарбавана.

А тыя ніяк не ўтаймуюцца.

— Ты гэта кінь яйцо, ды адказвай мне,—насядае Палажка.

— Як гэта кінь? Пасьвіцанае яйцо каб кінуць?—нават сьмеласьці пачаў набірацца Цупрон.

— Ты зубы не загаварвай... Не пра яйцо кажу... А лупіць кінь... Дзе парасё, хрыстапрадавец, падзеў? Гэткае парасё, малаком ‘шчэ адпойвалі... Дзе-ж ты яго, душагубец, збайсаваў? А яйцы, вочы твае паганыя, чые ты яйцы прынёс?—насядае Палажка і сама ледзь ня плача—дужа-ж парася таго шкода. Лепшае парася можна сказаць, ад сьвіньні ўзяла, каб дзень сьвяты сустрэць, як добрыя людзі.

Памеўся было Цупрон на дурыкі кінуцца, каб час адцягнуць, а мо' яна тая жончына злосьць і ўходуецца як.

— А ці было яно калі і парасё тое ў лубачцы, ненарокам кажучы, быццам я там і ня бачыў яго... Гэта-ж падумаць, каб парасё ды ў лубачцы... Дык каб, скажам, з лубачкі зноў...

Сказаў і сам ня рад быў, да таго-ж узьюшылася ўся капэля, а найбольш ад усіх Палажка.

— Вот як працераблю табе вочы сьляпыя, дык зноў убачыш і памяць дурную на месца пастаўлю... Ці не табе, гіцаль стары, казала, каб парася пільнаваў, каб сьвечачка тая з зубоў ня выпала...

„Кепскія, браце, паперы выходзяць"—падумаў Цупрон ды пасунуўшыся хуценька глыбей на кут, апаў духам, прасіцца пачаў:

— Любыя вы мае... Як-ні-як, а ўсё-ж вы свае, дайце хаця сьвятым днём надыхацца... Як на чыстую тую паперу—усё выкладу. Стаяў-жа гэта я ў царкве, стаяў... Лубачку тую ўсё пільнаваў... Тут і завутраня падыходзіць, я стаю, хоць-бы раз на вуліцу вышаў. І вот праходзіць і завутраня, ужо народ за пратасэі ўзяўся, ужо на крэсны ход з царквы пайшлі. І такая тут тузаніна пайшла, ня дай-жа ты божа... Як бачыш, і пірог падушылі крыху, памялі, здаецца... Ну, паставілі гэта мы лубкі ля сьцяны, ідзем крэсным ходам. Раз прайшлі, два прайшлі і яшчэ трэцім разам прайшлі. Тут і кінуліся на лубкі мы. А цемер—палец на вока настаў, ня ўбачыш... І відаць...

— Што відаць?

— Здаецца от... і пераблыталі лубачкі... Можа той чалавек і душой не вінаваты, які, скажам, узяў заместа свае маю лубачку...

— Як гэта ўзяў?—Гэта-ж наша лубка,—і тыц гэтую лубку пад самы нос Цупронаў.

Паглядзеў з апаскай Цупрон, згадзіўся нехаця:

— Здаецца, наша лубка... Сапраўды наша... 'Шчэ летась ліпку абадраў у панскім лесе на выгарах...

— А яйцы чые, пытаю?

Паглядзеў на тыя яйцы праклятыя, уздыхнуў:

— Што казаць... Няйначай, ня нашы яйцы... Гэта-ж, можна сказаць, галянскія яйцы, а ў нас-жа звычайныя...

— А парасё дзе, супастата?

— Дык кажу-ж табе, пераблыталі... Цемер кажу вялікая была... Такая цемер, што крый божа. Можа хто і ўзяў парася ненарокам. Як пасьля завутрані гэта мы...

Тут і пачалася Цупрону „завутраня", колькі то год у памяці стаіць з таго дню.

— Ты гэта мне пра завутраню не гавары... Ты мне туман у вочы ня пушчай... Ты мне вочы свае бессаромныя не хавай... От з цябе порах будзе сыпацца, калі я ды сваёй рукой за цябе ды вазьмуся...

Што і казаць, туга давялося Цупрону, бадай палавіну барады тады страціў у калатуху тую хатнюю, вялікодную... 'Шчэ добра,

дзеўкі застоілі. Ці надакучыла зьвяга ім, ці ўрэшце не мага было разгавін тых чакаць далей—дзіва то, постам духі падвяло, ледзь ліпеюць пупы, да касьці папрырасталі—але-ж застоілі:

— Кінь ты ўжо, маці, рукі сьвятым днём паскудзіць аб супастата... Хопіць яшчэ і другім разам, ня дзе дзенецца... Сонца вунейка дзе, а мы 'шчэ і за скароміну ня браліся...

Застоілі такі...

Далася тая „завутраня". Аж на цэлы дзень з хаты сышоў. Залез на званіцу з гора—туды малеча хіба адна ды хлапцы маладыя лазілі—ды ад жысьці тае сямейнае празваніў цэлы дзень у сьвятыя тыя званы вялікодныя. Каб на сэрцы крыху лягчэй, каб глянец хіба які на душу навесьці. Старанна біў у званы, так біў, што Лаўрэн—наведаў званіцу чалавеча, каб парадак быў—заўважыў нават:

— Ты, пане Цупрон, з такім імпэтам б'еш, што можаш і ўшчэрбіну нагнаць на звон. Стары, браце, гэты звон, колькі то лецеек б'юць, ледзь ліпіць... А ўшчэрбіш—і звон ня звон, а біты той гладыш бабскі, ніякае красы табе, а ні гуку... Дык ты хаця, пане Цупрон, спакваля бі...

Дужа там спакваля, пасьля „завутрані" такой.

Дык вось якая была „завутраня" Цыпронава. Пасьля, канешне, баяліся Цупрону пасху даручаць, самі дзеўкі пасьвіцаць насілі. Што-ж, абы клопату меней...

...Спаў Цупрон на палене хваёвым, на зімовым тым сонцы завішным праграваў свае косткі старыя. А ў хаце бабы парадчылі, спраўлялі дзялы свае бабскія. А тут і Аўгіня зайшла, самая старшая дачка, што замужам за Сілівонам Мялавым. Прышла от проста так у даведзіны, як маці там жыве, як сёстры скачуць. Ні то, што, каб жалкаваць, на Сілівона крыўдаваць. Не з такіх Аўгіня, каб за чужою дапамогаю кідацца, каб гора сваё на чужыя рукі разносіць. Сама сабе давядзе парадку. Але матка зноў-жа, дужа ад яе хавацца будзеш.

— Дык б'е, кажаш?

— Біць каб гэта, дык рукі кароткія... Але-ж грызе... Як грызь грызе, не дае табе супакою ні днём, ні ўночы... Ды што казаць, каб займеў, дык горла-б табе перагрыз, жывасілам-бы зацёг на клодаўе... Такі-ж чалавек суровы... Гірклівы чалавек... І нелюдзь... Усё адзін, усё адзін... Дзе ты яго бачыла, каб у кампаніі, каб з людзьмі. Так, як воўк той і споўдаецца. І ў лес адзін, і шула там ставіць—адзін, выберацца ў горад калі і то пілнуе, каб-жа аднаму як выехаць, з людзьмі ня блытацца. Дужа-ж чалавек не кампанейскі, і ад людзей дзікун... А да мяне ўсё чэпіцца. І то яму ня ў лад, і гэта яму не да парадку... Пагражае ўсё. Я табе, кажа, паміраць буду, а не папушчуся. Здыхаць буду, гаспадарку рашу, каб ні званьня табе ад яе, а ні каліва таго на развод. У дамавіне, кажа, буду ляжаць і тады на цябе не забудуся. Па начох тых змеям прыпаўзу падкалодным, усю кроў тваю, краску з твару твайго ссушу, каб ні яснага

сонца табе, каб божага сьвету ты ня бачыла, каб кроў твая сукравіцай, бледнаю немаччу цябе агарнула... Дужа, мамка, страшкія словы ён гаворыць... Цяжкія словы, калі гэта ўзлосьць уваходзіць, да мяне чапіцца ўчне. І вочы тады ня вочы, не чалавечыя тыя ясныя... Чырвоныя вочы, крывёй заліваюцца, калі зьлосьцю той набрыдле, узлуе не па-людзку... Так і пілнуешся тады, каб ні нажа дзе, ні сякеры там паблізу. Касу і тую схавала, аж пад самую страху ў клеці, ці мала там што, калі ўсходзіцца... І так вунь паленам раз у дзіцё шпурлянуў... 'Шчэ добра такі—собіла адхінуцца ў часе, адну толькі зыбку і задзеў, пашчапаў крыху... Цяжка маці, дужа цяжка з чалавекам такім... Як рыба тая ў прыдуху, б'ешся часам... Злыгала мяне жыцейка з ім, у ліхія гадзіны спалучыла... Часам бы кінула, рашыла ўсё, ды ў белы сьвет за вачыма... Дужа крыўдна, маці. Ня жыцьцё,— адно званьне толькі, адно хіба—счазаць без пары, бяз часу. Цяжкі чалавек, супорлівы.

— І чаго-б то яно?

— А я ведаю?..

— Хіба-ж ублагаць яго нельга чым, улагодзіць як-небудзь?

— Сырая магіла яго ўлагодзіць...

— Хіба ці не за Аніса ён на цябе злуе?

— А калі і за Аніса. Хто вінаваты тут, ты сама памяркуй...

Задумалася Палажка. Куды цяжэйшая тут справа, чым, скажам, з Цупронам управіцца. Але-ж неяк паратунку таго шукаць трэба, усё-ж свая дачка, кроў, можна сказаць, ня чужая.

— Хіба схадзіць от мне да Сілівона, праведацца?

— Ды што ты, маці... Калі й кажу я, дык так, каб ведала ты як свая... Мне твая помач тут без карысьці, узлуе 'шчэ больш. Я і сама як-небудзь дабяру пуця таго, можа яно і палепшае як крыху.

Але дзе ты матку ўгаворыш. Дзе ты Палажку з думкі яе саб'еш.

— Гэта, дачка, кінуць так нельга. Даравааць, кажу, Сілівону нельга, раз ён на голаў лезе, жыцьцё тваё маладое марнуе... Ізноў-жа, бацька ў цябе ёсьць родны, павінен ён за дзіцём глядзець, дапамагчы яму, калі трэба. Няхай от да Сілівона сходзіць, балазе і дзень сьвяточны, дзень вольны.

— Гэта ўжо не... Што ўжо сабе хочаце, а зачым тату пасылаць дарма. І так ён у нас заняхлюдзеў задужа, бацька гэта. 'Шчэ ўзлуе Сілівон, дык дзялоў тады не абярэшся. Хіба сіла ў таткі Сілівонава, каб памерацца скажам. Ніяк не выпадае туды татку ісьці. Ізноў-жа і ўзлуе яшчэ больш, на мяне ўсярдуе, Сілівон гэта мой...

— Дзе ты бачыла... Што ні кажы, а мужчына-ж ён, Цупрон мой. Каб гэта мужчыны ды не давялі парадку... Не дагаварыліся між сабою. Няхай от ідзе, паклічце там, каторыя, Цупрона мне.

— Ат... рабіце, што сабе хочаце... Дужа мне клопату...

Раскатырхалі Цупрона на палене тым, на хваёвым, у завішным тым угрэве сонечным. У хату прышоў, з дачкой паздароўкаўся. І пачала тут ушчуваць яго Палажка.

— Стары ты гіцаль, сапсеў зусім ад сну таго, а таго ня бача, як дачка мардуецца, на белым сьвеце гібее. Адразу от да Сілівона, управу павінен знайсьці, срэдства на таго чалавека... За жыльле супастата вазьмі, ды як сьлед, каб дачку застоіў, родную дзіцю тваю, можна сказаць...

Наважыўся слова тое якое сказаць Цупрон, ды дужа тут позірк той грозны быў. Палажчын той позірк у качарэжнік. Пачухаў пад барадой, зірнуў скоса на кут той самы, ля печы што.

— Дык ты хаця пастой... Мо' я й пайду, часам...

І зусім разышоўся.

— Ты ўжо не чапіся хаця, сьляпіцай той у вочы ня лезь. Пайду, няйначай... Здаецца мне, што пайду... Ён у мяне не ўцячэ, паплача, можна сказаць. Ужо дабяруся я да яго... Жыўцом, можна сказаць, ня выпушчу з рук... Гэта-ж трэба, рахуба такая, каб праз яго і маю жысьцю трывожыць... Узяў сьвітку сьвятошную, наматаў хусьцінку на шыю, чыстую, чырвоную. Пастаяў з хвіліну, падумаў і рашуча ўзяўся за клямку.

— Я ўжо да яго дабяруся...

---

Шчэ з таго часу, як згарэла гумно панскае, акрыяў неяк духам Іван Іванавіч, нават весялейшым стаў крыху, і хада тая пажвавела, панурыя вочы зрабіліся на больш рахманыя і спрытнейшыя.

— Як памаладзеў каваль наш. З чаго-б то? Хіба на жаніцьбу думку займеў? Але-ж ня відаць нешта гэтага,—казалі, часам, людзі.

І на маладосьць тую прычыны былі. Дужа быў бежанства час цяжкі. Для ўсіх цяжкі, а для Івана Іванавіча ўдвая. Працавалі гэта з братам у горадзе на невялікім заводзе, жылі разам, сям'ёй аднэй. Матка была ды жонка з невялікім дзіцём. Брат маладзейшы, нежанаты яшчэ. І жылі сяк-так, аб сям'і дбалі, не забываліся і на справы тыя людзкія, справы агульныя. А забыцца было нельга, пра бацьку памяталі. Кінуў ён іх зусім яшчэ падшывальцамі, на цагельні тады працавалі хлопчыкамі яшчэ, цягалі цэглу ў сушыльню. Год быў тады сумятлівы, неспакойны, фабрыкі тыя ды заводы гулі нібы тым гудам шмяліным, і ўвесь горад быў як разварушаны муравейнік. Таго году і рашыліся бацькі. Прынесьлі яго аднаго вечару суседнія людзі да хаты. Быў ён зьбіты, скрываўлены, усю падлогу крывёю захаркаў. Ці то казакі яго дзе засеклі, ці чорная сотня ўсьцігнула,—не маглі тыя людзі дакладна давесьці. Казалі толькі, што на маніфэстацыі ля заводу здарылася тое няшчасьце. Суцяшалі яшчэ:

— Ты, маці, ня кідайся дужа і рукі ламаць тут няма чаго... Ня з ім адным... У цябе вунь сыны яшчэ, можна сказаць, лоб у лоб... У самы час, каб у работу, як сьлед, рукі сыновыя ўкінуць, у гадох хлапцы, карміцеляў маеш, маці, не гняві бога сьлязьмі... Вунь у суседкі твае і мужыка забілі і сына скалечылі... Доля яна, можна сказаць, наская доля... Жыў-жыў чалавеча і рукі на крыж, ды каб надумам сваім, яно-б тады і крыўды тае ня было... А то-ж бачыш, сьмерць тая прымусовая, нахабная... Ды на нашага брата ўсё мерыцца... Дык ты ня журыся дужа кабеціна, жывы 'шчэ, а мо' і акырхае як...

Суцяшалі.

Чалавек і жыў яшчэ, месяцы са два працёг, усё кырхаў.

Але зачаўрэў зусім і вечару аднаго паклікаў сыноў да сябе.

— Так што, відаць, не даводзіцца мне жыць з вамі болей... Можна сказаць, вольныя вы цяпер на зусім, ня ўказьнік я вам і не настаўіцель... Жывіце як лепей... Ды глядзеце толькі, каб бацька ў вас з памяці ня сышоў і тая сьмерць бацькава... Адно, што скажу яшчэ—ніколі не ўпрачайце добрым людзям, не станавіцеся поперак на іхняй дарозе, хоць бы тая дарога была крывёю залiваная... А цяпер, як сабе хочаце...

Таго вечару і здаўся бацька.

І можна сказаць, ня сыходзіў ён з памяці сыновай, дбалі яны аб ім, стараліся, на колькі было сіл тых і розуму. Разы са два брат ў астрозе адсядзеў за фабрычныя дзялы, быў ён куды спрытнейшы і на слова тое вастрэйшы, дасьцігаў да ўсяго хутчэй, і не мінаваць яму-б воўчага білету, каб не падасьпела тут бежанства. У завірусе кінулі ім цікавіцца асабліва, а тут і давялося ехаць з родных месц, ехаць на новыя, няведамыя паселішчы, ратуючыся ад вайны, шукаючы кавалка хлеба. Ехалі цягнікам таварным, але ўсяго толькі і праехалі перагоны са два, як замялі ўвесь цягнік казакі, пазганялі народ з вагонаў.

— Можаце і пешкі пайсьці, не паны вы і не граф'я, публіка вы звычайная, бежанская... А вагоны нам і пад знарады патрэбны. Можаце адным словам ісьці, не задзержвайся каторы...

У самую позьнюю восень надасьпела справа тая. Пакутвалі колькі дзён, матляліся па Белавескай пушчы бяз ежы, бяз прытулку і тут давялося рашыцца дзіцяці, азызла на дажджы ў дарозе, пасінела, зьвяло тварык у зморшчакі старэчыя ды так і зьвянула. Закапалі насьпех пад елкай, крыжык дубовы згоралі, паставілі, паглядзелі ў вочы адно другому, і жонка як кінецца тады вобзем на іглiцу тую калючую ды голасам немым як закрычыць, загалосіць. Здаецца, сэрцы ваўчыныя працяліся-б жалем ад таго голасу, ад слоў тых простых, матчыных слоў, звычайных. А ў самога ў сярэдзіне неяк захаланула, ды думкі тыя, як жарства, як камень, як суровыя-хвоі белавескія. Стаяць гэтыя хвоі, не шалохнуцца, толькі вецер гудзе ў верхавінах, асыпае з нябёс макрэдзьдзю, працінае восенскай зольлю. Суровыя тыя хвоі, пракаветныя, дакраніся камяля—загудзіць пра-

цягла гэтак і глуха, як звон той па мерцьвяках пахавальны. Сярод хвой дарогі—пясок, жвір, верасы паабапал. У самым, цьвеце былі верасы тады. Цьвітуць верасы, няўлоўны пах ад іх і кладзецца ён жалем вялікім і нязьведаным на людзкія сэрцы, жыцьцём абіваныя.

Дужа доўга будуць памятацца верасы тыя і суровыя восенскія хвоі. Ды камень той, пад які давялося пасьля і жонку пакласьці. Усё адно да другога: і дзіцё, дарога позьняя тая, восень з беспрасьветнымі і халоднымі начамі—і застаўся адзін, як перст. Хіба брат яшчэ ды матка. Выкараскаліся сяк-так з бежанскае тае бяды, да месца дабралія. Брат на службу пайшоў па завод, дабіўся там зручнай ваканцыі. Усё да сябе клікаў, каб ізноў гэта разам, як калісь раней. І матка з братам была. Але як трапіў адразу ў мястэчка, тут і загруз у кузьні і не хацелася нанава кратацца. Пазбыцца ўспамінаў тых цяжкіх ня мог, усё стаяла ў памяці, як жывое, і жыў, як зьвязаны чым. І сутуліўся неяк раней часу і іней на галаву ўпаў, занялалі вочы, бляску таго колішняга ў іх ня ўбачыш. Так і жыў бяз гора таго, здаецца, але і бяз радасьці тае асаблівае. Адна ўцеха з сялянамі каторымі пагаварыць, ды моладзь вот яшчэ. Тая моладзь, каторая вочы мела, у каторай яшчэ не астыглі грудзі, каторая і на сьвет яшчэ глядзіць ня жмурачыся, на поўнае тое вока маладое, рукой яго ад сонца не засьцячы. З ёй хіба і адводзіў душу, разьдзьмухваў вугалькі тыя, што тлелі дзесьці глыбока ў сэрцы.

І вот акрыяў Іван Іванавіч духам, весялейшы стаў. Шчэ невядома было, хто тое гумно спаліў, з якімі, можна сказаць, думкамі яно было спалена. Але-ж расьцьвіла тут радасьць вялікая і сьвет куды мілейшым стаў. „З гэтым сьветам шчэ можна памерыцца, на свой капыл яго пераставіць“. І калі гарэла гумно і шоў тады Іван Іванавіч пасьля крыўд гаручых ад прыстава—падумаў тады.

— Правы ты быў, бацька мой, у думках сваіх правы, у словах сваіх... У адным ты, аднак, ня правы... Не ўпрачайце добрым людзям на іхнай дарозе, хоць бы дарога тая была крывёю заліваная... Гэта, канешне, і хіба я тут супроць... Але-ж не галоўнае гэта... Ня толькі не ўпрачаць, а дапамагаць трэба дарогі тыя шукаць, якія-б крывавыя яны ня былі... У гэтым відаць і праўда наша... І гэта праўда відаць узьнеслася полымем над панскім гумном... Але ізноў-жа згасла, сацьмела... Бо дарогі, відаць, шырокае тае ня было... Ішла праўда тропкамі цёмнымі ды глухімі, сьцежкамі тымі лесавымі, віхлястымі, мужыцкімі сьцежкамі... Выйсьця ніяк не магла знайсьці ня шырокія дарогі, бітыя... А хто-ж вінаваты ў гэтым? Топчуцца людзі, з бітае дарогі ў балота кідаюцца...

Тут узгадаў Іван Іванавіч Лаўрэнавы наведзіны. Аж зьдзівіўся Іван Іванавіч госьцю такому, ведаў Лаўрэна за чалавека набожнага, да царквы старальніка, да слова сьвятога прыхіль-

ніка найвялікшага. А той прышоў, запытаў для прыліку аб шворне—ці ня можа ён—Іван Іванавіч—швораи новы паставіць у калёсы, бо рэпнуў стары, так такі напал і рэпнуў, мусіць-жа жалеза папалася бракаванае. І сам Лаўрэн ведаў, што пытаньне яго не да рэчы і як гэта, каб каваль ды шворна таго ня мог зрабіць, звычайнага таго шворна нямудронага да сялянскага воза. Гэта-ж не малатарню агледзець, не барабан які для крупадзёркі зрабіць. Самае, можна сказаць, простае дзела—швораи самы. Але-ж запытаў для прыліку. Пасьля мяўся ўсё, мымрыў пад нос. Пра газэціну—„мо‘-б ты, чалавеча, даў пачытаць навіны тых“, пра кніжкі каторыя. Урэшце загаманіў, паставіў язык на больш цьвёрдае месца. Трымаў важна газэтку тую ў руцэ, але чытаць каб, дык больш гаварыў.

— Я от, Іван Іванавіч, часьцяком, канешне, і газэціну ў руцэ патрымаю... Усё больш на тыя епархіяльныя ведамасьці налягаю, балазе поп не шкадуе, дае пачытаць часам. Чалавек я такі ўжо: куравам не балуюся, газэцінка, можна сказаць, у поўнай у мяне бясьпецы. Ну, той і давярае, не баіцца, што я парву там ці на цыгаркі тыя пушчу, грэшным часам... Дык вось, чытаю, кажу. І сказаць, каб дужа гэта радавала мяне, дык не... Праўды, сказаць табе, ня бачу я ў тым слове друкаваным. Усё я вычытаць яе хачу, якая яна, як да яе дасьцігнуць. А газэціна кажа мне толькі пра камілаўкі тыя, пра скуф‘і ды набедранікі—от аднаму папу там далі, другога там надарылі, трэцяму панагію на грудзі ўшчапілі.

— К чаму-б гэта? Хіба, праўда, скажам, у панагіі той, у крыжы тым срэбным?.. Альбо пішуць яшчэ, якія правы маюць папы на зямлю і што рабіць, якія законы на ўвазе мець трэба, калі, скажам, у папоўскім лесе пасечкі пойдуць ці на папоўскую мяжу хто ўзваліцца... А навошта, пытаю, папу зямля? Ці з яго так мала? Ці, скажам, недалёка за прыкладам ходзячы, навошта нашаму папу млын? І ці зручна духоўнай асобе справамі такімі займацца? Калі ўжо на тое пайшло, калі табе так закарцела, дык скідай рызу, станавіся ля жорнаў ды засыпай на здароўе. А то духоўная, можна сказаць, асоба і раптам інтарэс такі. Канешне, аб нашым папу і казаць няма чаго—ад папа адна рыза засталася. Любога п‘яніцу перап‘е, любую бабу змусьціць, а грыўню, каб лішнюю садраць, дык чорта перасьцігнуў-бы. Канешне, абы каму ня дужа я гавару аб гэтым, бо каторае яво і да ладу не дабярэ, што к чаму. Што і казаць, я і ў папа, канешне, пра сёе-тое пытаў, ды дзе гэта ён табе адкажа. Ты яму пра дзела якое, а ён табе Ісуса Навіна прыпляце, ты яму, пра зямлю, а ён на хрыста спасылаецца... Канешне і я ў Ісусах там да ў хрыстах добра такі разьбіраюся і толк некаторы маю... Але ізноў-жа—мёртвыя словы ўсё. Чытаеш, чытаеш, а сэрца, можна сказаць, ня кратае. Зусім, трэба сказаць, сэрца пустое. Бо як ня круці, а багатаму чалавеку і бог спрыяе ў сваім тым сьвятым пісаніі. І ў бібліі, значыцца, ізноў-жа і ў эвангельлі...

— Дзе-ж, пытаюся, справядлівасьць тады? Дзе-жяна тая праўда чалавечаская і якім пісаніем праўду тую пасьцігнуць можна?

Лаўрэн пытаўся пра праўду і відаць было, што пытае ён проста так, ад звычайнае тае цікавасьці людзкое, ад халоднага людзкога розуму. Не прыкіпела тая праўда да нутра, да сэрца яна ня прыстала. І голас таму быў ня ўзрушаны, ня было цяплыні ў ім, ня было таго хваляваньня, душэўнага мятушэньня і ўсяго таго, што ўласьціва чалавеку, калі ён праўдай той чалавечаскай за жывую душу працяты. Адзін быў голас: і аб шворне тым, што напал, і аб праўдзе людзкой, вялікай.

І калі выслухаў Іван Іванавіч Лаўрэна, адказаў толькі:

— Сыты вы чалавек, пане Лаўрэн...

Дужа гэта чалавека зьдзівіла. Узрушыўся нават:

— Як гэта разумець вас, слова гэтае к чаму? Сыты? Яно, сказаць, і вы-ж вот не згаладаваліся... сякі-такі кавал хлеба да вашых-жа рук горнецца, няйначай...

Зусім тут заблытаўся Лаўрэн. Нават тую раўнавагу сваю, думкі тыя разважлівыя, узважыстыя,—усё разгубіў.

— Сьмяецеся вы з мяне, Іван Іванавіч... І можна сказаць, над старым чалавекам сьмяецеся... Не чакаў гэтага ад вас, зусім не чакаў... Я да вас з сэрцам шчырым, я да вас як да разумнага чалавека, як да голаса таго, да якога прыслухаюцца, а вы—сьмешкі строіць над старым чалавекам—гэткае-ж выдумляць... Крыўдна дужа мне, чалавеча...

Нават устаў Лаўрэн, асьцярожна газэту на стол паклаў, нерашуча на месцы затупаў, на дзьверы тыя зірнуў.

— Крыўдна, кажу, сапраўды крыўдна... Гэта чалавека, ды каб у цёмны лес пускаць, няхай там блудзіць... А нам, маўляў, што... шкада хіба чалавека таго... Няхай паскача, маўляў, па купінах, па пнеўніку, ногі паламае, ногі тыя паскручвае...

І тады засьмяяўся Іван Іванавіч. Цёплым такім сьмехам, чульлівым.

— Дзіўны вы чалавек, пане Лаўрэн... Ня нашага веку чалавек... Вас-бы сапраўды куды ў лес пусьціць, на купіну тую пасадзіць, ды эвангельле ў рукі... Хораша. Сонца гэта вам у лысіну сьвеціць, камарыкі кашу таўкуць, галубы лесавыя на бярэзіне белай галубовыя справы ладзяць, траўка расьце, распускаюцца кветачкі, кругом чарвячкі, мурашкі ўсякія, божыя тыя казюркі... І да вас ад іх ніякай можна сказаць цікавасьці... Пра шчаку вы чытаеце пра тую правую, пра сарочку апошнюю... І ўсё яно харашо, усё яно йдзе так суладна, любамірліва. Ні вам гэта хто па шчацэ той ня лясьне, ні вам каму даць па правай, ці па макаўцы той па лысай... Харашо, гэта значыцца, выходзіць па пісаніі. Буква па буквіцы—і законы божыя... Тымчасам, ня ў лесе вы. І заўважылі вы, што поп ня дужа ласы ня толькі левую тую шчаку падстаўляць, але, крый божа, каб падставіць і правую... Пра апошнюю сарочку гаворыць, а сам ля гарцаў тых, ля апошніх тых гарцаў сялянскіх

дужа як завіхаецца... Залішне, нават, як кажаце вы... Ад папа, канешне, адна рыза засталася... Та-а-к... Заўважылі гэта вы і жахнуліся: як-жа гэта так, калі ды супроць буквы тае сьвятое выходзіць... Як-жа так, калі і ў самым пісаніі божым адно другому супярэчыць часам, буква пайшла супроць буквы... Скажам, пра апошнюю сарочку, ды скажам і аб тым, хто шмат мае, якому шмат яшчэ й дасца...

Вось і выходзіць, што думкі тыя вашы на балоце ўзрошчаны, а не на людзях... Буквены вы чалавек, пане Лаўрэн, і праўда тая ў вас—буквеная праўда. От каб ляснулі вам па шчацэ добра, каб пайшлі тыя валбукі? Каб задзела вас, выбачайце, за самыя печані—пачалі-б вы тады сапраўдную праўду шукаць. І зусім з другога канца шукалі-б яе. А пакуль што шукаеце ад сытасьці... Таму і сказаў я, што сыты вы чалавек і крыўдаваць тут, кажу я, ня трэба. А сыты чалавек і сытая праўда ў яго, кульгавая праўда... Шукаеце вы яе, людзей ды людзкія тыя дзялы мінаючы. А бяз людзей праўда ня бывае і людзі той праўдзе характар даюць. У багатага яна адна, а ў беднага зусім другая... Дык вось якая яна праўда чалавечаская, аб якой пытаеце вы... А шукаць тую праўду трэба ізноў-ткі на людзях, сярод нас усіх... Тут яе і пасьцігнуць можна...

Лаўрэн шапку мяў, усё прыглядаўся, чаму яна, тая шапка, ды такая ўжо лысая—выцерлася, мусіць, аб тарпы тыя, аб скірты саламяныя. І думаў—праўду-ткі чалавек кажа, супроць яе нічога ня скажаш. Аднак..

— Усё-ж-ткі, Іван Іванавіч, прыгожыя словы часам трапляюцца там... Можна сказаць, нават мудрыя словы. Чытаеш іх, думаеш, што к чаму... Нездарма-б тыя словы, здаецца?

— Гэта вы правільна, што нездарма... Прыгожыя словы, што і казаць. Звычайным словам чалавеку галаў не атуманіш. Таму й патрэбны былі яны гэтыя словы, прыгожыя, ды яшчэ залатымі тымі літарамі друкаваныя, каб ямчэй на чалавечыя плечы ярмо ўсьцягнуць, пад багатую тую праўду іх падначаліць, плечы гэтыя самыя. Ды пакорлівасьці іх навучыць, каб лепш шыі гнулі перад багатымі... Але мэханіку гэтую не адразу пасьцігнуць можна... Больш уважліва трэба да жыцьця ставіцца, ізноў-жа і ў разумных людзей, у вялікіх людзей навучыцца можна.

— Гэта вы правільна, Іван Іванавіч. Пра розум гэты самы. Не адразу даецца ён... Але-ж, выбачайце, колькі-то часу адняў у вас на пустыя мае размовы. Люблю пагаварыць я, так што выбачайце 'шчэ раз... Ня крыўдуйце...

— Ды што вы... Я рады заўсёды, калі чалавек да мяне загляне. А вы заходзьце, учашчайце, калі, канешне, ахвоту маеце...

Лаўрэн старанна дзьверы прычыніў, забыўся і шапку тую надзець, памацаў яе ў руках у самых сенцах і там ужо прыкрыў у поцемках сваю лысіну. Ішоў ад хаты крыху ўзрушаным, зьдзіваваным.

— Усё-ж, можна сказаць, слова новае ўчуў, нейкае новае слова. Паслухаць—яно, канешне, цікава... Выходзіць, відаць, глыбей папа тое дзела йдзе, не ў камілаўцы, відаць, справа тая ўся схавана...

Іван Іванавіч спраўляў сваю вячэру, на камянку бульбу варыў, чайнік прыставіў. Ужо сьвятло патушыў, клаўшыся спаць, як пастукаў нехта ў шыбку з вуліцы. Узьняўся, прыслухаўся—крыху тугаваты быў на вуха. Нехта настойліва, ня сьціхаючы, стукаў асьцярожна ў вакно. Падышоў.

— Адчынеце, Іван Іванавіч...

— А па якой вы, чалавеча, справе?

— Пасьля... Адчынеце хутчэй, бо замерз зусім, на марозе тут стоячы...

— Хто-б то такі да мяне справу мае?—падумаў Іван Іванавіч і пайшоў адчыняць квортку.

Ішоў Цупрон да Сілівона, усё стараўся надаць сабе выгляду таго суровага, на людзей пазіраў на сустрэчных, нібы хацеў паведаць ім аб такой-жа важнай і неадкладнай місіі, ускладзенай на яго Цупронавы плечы. Але чым бліжэй падыходзіў да зяцявае хаты, тым больш губляўся баявы цупронаў настрой і ўжо зусім зьмітрэнжыла яго здрадлівая такая, звадыяцкая думка, а ці ня лепш яму Цупрону павярнуць у тую вулічку-бакавушку, дзе за старымі клянамі жыве кум Панкрат. Баба ў яго дужа старанная і руплівая. І вялікі, да рэчы, спэц на грачышнявыя блінцы, от-бы паласавацца днём сьвятошным. У сваёй-то, у Палажкі не разласуешся, больш аб сваіх вантробах клопат мае, а яму, Цупрону,—і крупені нябеленай хопіць, і на хлебе ён вытрывае. Не вялікая, можна сказаць, птаха, зноў-жа й крыві ня панскай, каб гэта ды старому дурню прысмакі тыя яшчэ. І ўжо самасільна нага тая павярнула ў завулак—не раўнуючы конь той стары, ня гледзячы любую паваротку знойдзе,—але трапіла на сустрач малое Панкратава.

— А вы да нас, дзед Цупрон? А татка на базар паехаў, а мамка як пайшла на завутраню, дык 'шчэ ня прыходзіла. Мусіць то і абедню адстоіць...

Аж дрыжыкі прахапілі старога ад завутрані тае. Не малое, а перст, можна сказаць, божы, знаменьня, не раўнуючы, ад саплівай.

— Крый божа, даведалася-б мая пячэра, што я да Панкраціхі залучыў—былі-б мне блінцы, нябось, на тыдзень хапіла-б эржанікаў...

І падлыпаў далей да Сілівонавай хаты.

— Я ўжо яму дамся ў знакі...

Не пра дачку думаў, не пра крыўды тыя Палажчыны, а пра турботы свае, пра залішнія свае клопаты.

— Я ўжо яму пакажу, як добрага чалавека трывожыць, жысьцю яго сямейную парушаць.

Храбрыўся чалавек, думкамі весялосьць падаграваў, надаваў імпэту, меркаваў, як гэта ён, Цупрон, на Сілівона насядзе.

— А ну-ка, чорт безбароды, дай-ка я на табе кулак свае ўзважу за маё, можна сказаць, дзіцё адзінаўтробнае... Хіба-ж то закон такі, каб чалавека бічаваць. Хіба то чулі дзе людзі, каб спакой той трывожыць, Палажку на мяне напушчаць, тыгру тую, не раўнуючы, лютую...

Так і парог нераступіў. Старанна тымі лапцямі шморгаў ля парогу, венікам абіваў, каб сьнегу лішняга не занесьці ў хату. І тады ўжо, агледзеўшыся, дзень добры даў.

— Здароў, здароў, дзядзька Цупрон... Якім гэта цудам вас да зяця занесла? Ці ня ў час там няпуцяшчая мая?

— Уга. Дзе ты бачыў... Ня бачыў я яе, здаецца... Відаць у нас... Няйначай, як у нас...

— Ці ня жаліцца яна пабегла да вас? От-жа кабеціна на маю галаву...

— Што і казаць, чалавеча... Бабы—яны дыявалы... З бабамі век пражыць—ліха пабачыць... Чаго, чаго, а ліха—яно, браце,—стае... Але ты не зважай, чалавеча... Папусьціся от толькі ім—на голаў сядуць... Не раўнуючы, як у мяне... Так і рымсьцяцца, так і рымсьцяцца, каб табой круціць, жыцейку тваю муціць. Аднае і ўцехі тае ў мяне засталося: пачакайце от, ліха вашай матары, згарну рукі—пакукуеце. Што і казаць, чалавеча, толькі гэта ім папусьціся ты, дабра сабе не прычакаеш...

— Гэта ты, дзядзька Цупрон, правільна... Аднае мы тут думкі з табой...

Не з гаваркіх Сілівон. Выцісьне слова, маўчыць. Сядзіць ля стала, гамзюрысты такі, надзьмуты, як бычок той суседзкі—не падступіся. Сарочка на ім сьвятошная, вышываная—калісьці то вышывала Аўгіньня замуж выходзячы. На сарочцы камізэлька, яркая ў клетачку жоўтую ды чырвоную. Чабаты новыя, сырамятныя, дзёгцем ад іх патыхае на ўсю хату. Спраўны чалавек Сілівон. Нават лысіну вун зачасаў, блішчыць, алеем намазаная, сьмашна так паблісквае.

— Мусіць то каноплі вядуцца 'шчэ ў цябе, чалавеча?—запытаў Цупрон, на лысіну тую зірнуўшы.

— Ды 'шчэ колькі тых гарцаў ёсьць...

— А ў мяне, дай ты рады з капэляй маёй, калі 'шчэ вытахліся канапелькі тыя. Было 'шчэ лубачак з пару семя льнянога, выціснуў у пііпаўку, дык тады-ж і зьелі. Дзе ты яго набярэшся, каб яго ды неўжадобку з процьмай маёй, усё посьніцай так і перакідаемся, каб да вясны сяк-так перабіцца. Тады ўжо хіба парсючка якога заб'ем да вялікадня. А цяпер, чалавеча, прыелі ўсё: і хлеб і к хлебу. Ды яно сказаць, і хлеб адзін—прыедлівы, дужа, браце мой, прыедлівы.

Сказаў Цупрон і падумаў: а дужа гэта трэба мне ў гаворку ўкідацца, ды пра сваё: хіба тая чужая болька яму баліць. Чужому возу, як той казаў, ня цяжка...

А Сілівон пра сваё думаў. Думаў і непакоіўся:

— Насланьнё ды й годзі з сваякамі гэтымі. 'Шчэ, крый божа, помачы будзе прасіць... Старайся тут, каб раскідацца потым на кожнага. Але-ж гэта ў мяне не задужа, не на таго напалі... Прышоў от нытра старая, нытрыць, нытрыць... Не табою яно тут пакладзена што...

Трывожыўся. Пазіраў з апаскай на Цупронаў твар, на яго нос прыціснуты, на ўскудлачаную бараду. Пазіраў сваімі вузенькімі бязбровымі вачанятамі, мыляў губамі ад трывогі той, непакою.

Але-ж нічога не казаў пра хлеб. Цупрон. Нават папракаў у думках сябе: трэба-ж мне, гіцалю старому, перад кожнаю нелюдзьдзю гіньдзіцца, як бы от і хлеба таго куска век я ня бачыў, смаку таго ня спытаў. Каб перад кожным гадам ды шапку скідаць. Не дажджэ... Тут ад Палажкі той хапае... Але-ж то сваё... А то сядзіць, як глёк паліваны, бач ты яго, прыхарошваецца, алею таго на галаву наліў, дык думае, што яно й што-небудзь... І пыса тая голая, як у жабы... Дзіва то, Аўгіньня жаліцца... Потым яна рацыю мае аб чалавеку гэтым кажучы так. Дужа-ж нелюдзьдзю ад яго нясе...

Не казаў пра хлеб Цупрон, і думкі тыя ўсьцішыліся трывожныя Сілівонавы. Пазіраў у вакно, на плот, што стаяў за вакном.

Угрэты сонцам пачаў брацца на жужаль сьнег пад плотам. І відаць было, як падгніў плот ля зямлі, шчылаватым стаў— будуць па вясьне парасяты ў агарод лазіць. Няйначай як прыдзецца падправіць плот, жардзя прыстарацца ды выкінуць каторыя трухлявыя. Дубовых-бы от калкоў яшчэ трэба. Ці мала чаго 'шчэ трэба чалавеку жывому... Хата от у мяне, здаецца, добрая хата, колькі то год 'шчэ прастоіць. Не з гарбылёў якіх рублена, кожнае бервяно, як звон, колькі ўжо год стаіць, а смалой ўсё сьцякае. І печ, не раўнуючы, як з камня зьлітавана.

На тую печ і Цупрон вокам кінуў.

— Што не кажы, чалавеча, а печ у цябе печ... Яна, браце мой, і хату пераджыве... Век веку падасца, а печ будзе стаяць...

— Будзе стаяць...—адказаў Сілівон. І тут агарнуў яго жаль за сябе, за жытку сваю, за долю. Так агарнуў, што думкі тае не стаіў, чалавеку выказаў.

— Будзе стаяць яна, печ... Нідзе дзенецца... От-бы толькі да печы гэтай ды гаспадыню, як сьлед... Каб усё яно гэта— і мая жытка і яе жытка—ды пры адным месцы, не раўнуючы, як печ гэтая... Каб яна тая жытка шчылінамі ня бралася, ня віхлялася, куды каторая... Ты от старайся, сілу сваю ў печ укладай, у хату, у поле, і ў буйное тое і ў дробнае... А рукі зьбярэш— і паехала яно і рассыпалася як з таго рэшата дзіравага. Бо ня будзе вока на яго, гаспадарлівага ды кемлівага... Ды такога, каб вока тое клопат мой мела, каб у вока таго з памяці ня сыходзіла, што ўсё гэтае дабро ды маімі рукамі прыдбана рупнасьцю маёй, маймі клопатамі. І каб яно паважала мяне, родным лічыла,

ды к майму бервянцу сваё надтачыла-б... Ото-б парадак быў-бы, мо' і я тады, рукі сьцяўшы, меў-бы той супакой сапраўдны, не цягнуў бы турботы свае туды, пад крыж... І крыж-бы меў тады з накрыўкай, каб ня дождж яму, ні нягода яму, не мачыла яго, ня сушыла яго...

— Што ты, чалавеча, пад крыж, пад крыж... Ты, чалавеча, яшчэ з паўсотні год мо' працягнеш, 'шчэ надакучыць табе, чалавеча, тым часам... Бач ты, шчокі ў цябе, як наліваныя, ядраныя шчокі. Твар можна сказаць, як рыжок, аж гарыць...

— А гэта я к таму, дзед Цупрон, што няма мне ў сям'і ўцехі... Няма, каб род мой далей цягнуўся... Няма, каб хто словам любым да мяне успомніў, каб дабро маё па праву спажыў да прымножыў. От-бы як у брата майго Хвядоса. Расьце чалавек і родам сваім і гаспадаркай... А ў мяне от няма, каб гэта па праву...

— Дужа з таго клопат вялікі. Абы самому жылося. Аб чым-то думаць?

— Як-то думаць? А хіба-ж праца тая будзе спорыцца, калі ты, можна сказаць, на чорта лысага робіш?

— Жонка ў цябе, чалавеча, чаго-ж бога гнявіць...

— Адно званьне—жонка... Што казаць, дзед Цупрон... Канешне, дачка яна вам... Але ж трэба сказаць, не да боку яна прышлася мне, жонка гэтая. Можа каму яна і ў радасьць, можа яна каму і ў пацеху, але ж толькі ня мне... Мне-ж яна—адна прыкрасьць толькі, адна хіба толькі золь тая на сэрцы... Толькі-ж сэрца гэта і зьнібее праз яе, чэзьне без пары, бяз часу, злосьцю тою, як іржой, набіраецца... А чаму—казаць, думаю, няма чаго, сам ведаеш... Хаты от свае ня трымаецца, па чужых дварох, можна сказаць, андаракі свае аціра́е, сьветам маім белым круціць... Што казаць, дзед Цупрон, хіба ж ейнае дзіцё—маё дзіцё? Ты-ж, можна сказаць, нейкім чынам свой, хавацца мне ад цябе быццам-бы і ня ручыць, няма ў мяне такіх сакрэтаў, вот і кажу...

— Аб тваіх сакрэтах ведалі мы, браце, 'шчэ мінулым летам...— падумаў Цыпрон, усьміхнуўся сам сабе. Але набраўшыся тону сур'ёзнага запытаў, нібы от ён Цыпрон анічагуткі так і ня ведае.

— А чаму-б то і не тваё дзіцё, скуль гэта табе, чалавеча, ведама і які ты на гэта доказ маеш?

Не зважыўся чым адказаць Цыпрон. Сьцяў плечы, зморшчакамі тымі над бязбровымі вачмі варухнуў, залыпаў расьніцамі рудымі. Ды так для адчэпу:

— А ўжо-ж, ведаю... Калі бязульствам займаецца, як-жа гэта ня ведаць.

— Бязульствам, кажаш? А ты-ж мужык, павінен управу знайсьці... Вядома, дачка яна мне... Дачка яна, дачка, а канешне кабеціна. А яны, браце, роўныя ўсе, скінь от толькі аброць з яе, з каторай... А таму, браце, трымаць трэба брытанымі, спуску ім не даваць, каб ёй, каторай, ня дыхнуць, не адумацца.

Аж сьмеласьць тая надышла на Цыпрона, калі захапіўся ён справай гэтай жаночай.

— Я от, чалавеча, сваім не даю спуску. Чуць што, я, браце, за чубы іх... Я, браце, у зубы ім не гляджу, даводжу такі да парадку. Вот Палажка ў мяне анодысь... І так гэта, і гэтак... Адным словам, усхадзілася, як дзяжа тая хлебная. Дык я, браце,— тут дзед Цупрон і брывёй не маргнуў,—дык я, браце, яе за макаўку, ды за чуб... Цягаў, цягаў, браце, покуль рука не самлела. Запарыўся аж, рукі абіў...

Апрыкла тут брахня тая Сілівону. Адрэзаў:

— Відаць, як ты да парадку іх даводзіш. Ці не цераз тое і барады рашыўся, дзед. Унь адна палавіна толькі, а другая, як агнём сасмылела. Спрытныя аднак у цёшчы мае рукі...

— Што ты, чалавеча? Ты пра бараду не кажы, барада ў мяне кожную вясну ліняе. От так і ліняе, проста табе жмутамі цэлымі і сыплецца...

— Аднак, хутка яна ў цябе зусім выліняе... Скажу табе: балабон ты, дзед, пусты балабон—і ні звону таго, адны шчарбіліны—лапаціць па пустому. Скажу яшчэ: жыцьця ты, дзед, не разумееш, ніякага аб ім у цябе паняція... Інтарэсу свайго ў жыцьці ня маеш, дзед, няма табе за што ўчапіцца ў ім, бо жыцьцё гэтае для цябе як голы бубен, як далоня вось гэтая, паспрабуй зачапіцца... А ты мяне вучыш... Што ты мяне навучаць прышоў?

Усердаваў нават Сілівон. І злосьць тая ўсё буяла, разрасталася. Аж за сталом тым прыўстаў, рыпнулі боты тыя, дзегцявыя, сырамятавыя.

— Калі цябе падаслалі, ты й кажы, нечага са мной у дурыкі гуляць. Ен Палажку ушчувае... Ен сям'ю трымае ў руках... Табе, старому чорту, апошнія валасы павыскубуць хутка, на падціркі тыя... А ён на-а-вучае... За чым прышоў, гавары?

Зьніціўся тут дзед Цупрон, шапку сваю зьлямчыў, усе пазыцыі свае здаў.

— Ня злуй, чалавеча, ня злуй, кажу... Хіба я вінаваты ў тым... Ну, паслалі... Ну прышоў... Прыпякуць, чалавеча, дык да чорта ў пекла падасіся... Ідзі, Палажка кажа, да таго гада печанага, ды каб тыя апошнія валасы зьдзёр, дайся ў знакі яму, каб ён ведаў, як з маім родным дзіцём абыходзіцца... Каб ён, кажа, нелюдзь тая, крывёю заліўся...

— Ідзі, дзед, пакуль я 'шчэ сябе трымаю... Ідзі, да не аглядайся... Дужа мне гэта тут ахвота рукі свае аб цябе паганіць, сьпіну тваю шураваць, Палажкай абіваную...

Доўга прасіць сябе ня меў тут дзед ахвоты. За шапку, ды хуценька да дзьвярэй. Азірнуўся 'шчэ раз.

— А дарэмна ты, чалавеча, на мяне ўзлаваў... Ты, чалавеча, яе ўшчувай... Вучы, чалавеча, на розум, бо яны, кабеты, усе аднакавы. Ім, можна сказаць, папусьціся толькі...

— Ідзі, ідзі, ды дзьверы зачыняй, хаты мне ня вышвэнлжвай...

Як дуж кінуўся Цупрон у сенцы. Аж упарыўся, уся тая лысіна ўзапрэла.

— Ну й чалавеча, каб на цябе ліха. І ніякага, можна сказаць подступу. Кожны-ж чалавек гэта любіць, каб яму ў руку гаварыць. А хіба-ж я супроць яго казаў? Чала-а-век.. Але-ж і навучыў... Ну й навучыў... Каб такіх прыгод ды па сем на год... Аднак схадзіў... Цяпер Палажцы маёй няма чаго рыпацца... А калі што, няхай сама паспрабуе ліха таго вызнаць...

І толькі гэта Цупрон квортку адчыніў ды на вуліцу бараду выпусьціў, а насустрач ураднік з Банадысём. Памкнуўся быў Цупрон назад, каб бараду сваю за шула схаваць,—ахвота гэта вялікая з ураднікам справы мець—але спазьніўся.

— А вось і паняты нам. Дужа там чаргі тэй пілнавацца... Сьвятым днём дык яно ўсе людзі—куды каторы... Дык ты, Цупрон, з намі ўжо... 'Шчэ каторага возьмем ды й на балацянішча.

— Можа вы мяне, браццы, аслабанілі-б як... Ізноў-жа жыўцом мяне жонка зьесьць, бо й так я забавіўся...

— Нічога, чалавеча, цэл будзеш.

Ішоў Цупрон усьлед, бараду чухаў, сьвету таго божага ня бачыў.

— Ну й вязе... Так жа вязе... І ўнесла-ж мяне нялёгкая ў чужыя клопаты... У чужыя дзялы, можна сказаць, убіўся...

*(Канец у наступным нумары)*

Н. БУЗА

## ЛІСТ МАТУЛІ

Матуля родная,
Старая!
Я сэрцам буду палымнець,
Што ты мяне не забываеш
І часта марыш аба мне.

Калісь я быў табой забытым
І часта думаў у цішы,
Што ты сярпом зразаеш жыта,
Калі пасьпеюць каласы.

Але ня так, зусім іначай!—
Сярпок зламаўся аб вязьмо.
Мая матуля у калгасе
Жняяркай стрэнула жніво.

Ня гне пад сонцам сваю сьпіну,
Ня дзерыць рукі аб быльнёг.
Пры бурным рокаце машынным
Яна працуе на палёх.

Рукой кастляваю уласнай
Зламала лёс паганы свой...
Зямля твая цяпер калгаснай—
Яна і нашай, і тваёй.

І ты цяпер квітнееш кветам,
Жыцьця трымаючы ключы,
Гаворыш з цёплым, цудным летам,
Жняяркай збажыну жнучы.

У бурах, змроках
І завеях
Тваё пракрочана жыцьцё.
Што дня цяпер ты весялееш,
А сум ідзе у забыцьцё.

Таварышак з табою многа.
І песьні сыплюцца на бор...
Матуля! Нашыя дарогі
Ідуць да сонца і да зор.

І ты—пахілая, старая,
І я—занадта малады—
На працы радасьцю шугаем
І славім радасьці гады.

Сьмяецца нам абшар калгасны,
Шапоча збожжам сьпелых ніў.
Матуля! Вельмі я удзячны
За твой дасланы сыну ліст!

Менск, 1332 г.
Друкарня
імя Сталіна

ІЛ. БАРАШКА

# АПАВЯДАНЬНЕ КАМАНДЗІРА РАЗЬДЗЕЛУ ЛОШЧАНКІ ПРА СВАЙГО ПАМОЦНІКА КАРАВУЛЬНЫХ АКІМА

— „Зімавалі мы сярод гор Паміру, у далёкім, усходнім Таджыкістане, на далёкай, аўганскай мяжы...

Асьнежаныя, сівыя верхавіны гор гарэлі на паўднёвым сонцы сінім, дзівосным сьвятлом адвечных ільдоў і сьнягоў. А ўдалечы пад намі, была прасторная, вялічавая, багатая Вахшская даліна, квяцістая, вечна-зялёная, прывабная і непакойная...

Дзікі Вахш рэзаў сваім руслом даліну на няроўныя часткі, гучна і галасна нясучы студзёную, халодную ваду з ляднікоў— Паміра...

Непакорная, неспакойная рэчка Вахш...

Неспакойна і ў Вахшскай даліне,—ужо колькі гадоў змагаецца з уладай Саветаў непакорны басмач Ібрагім-бэк... Нішчыць ён кішлакі, нішчыць саўгасы, нішчыць, руйнуе палі з бавоўнай. У Ібрагіма чужаземная зброя і басмачы...

А мы сьцераглі граніцу, адарваныя нязьмеранымі прасторамі ад усяго сьвету, энэргічна перашкаджаючы ворагу прайсьці праз граніцу, ды прынесьці з сабою чужаземную зброю, пажары, зруйнаваньне і неспакой у малады Савецкі Таджыкістан,—сёмую нашу рэспубліку Саветаў...

Мне чамусьці ўспомніўся сёньня мой памоцнік.

Пра яго і апавяданьне.

Я памятаю той дзень, калі Каравульных Акім прышоў у нашу частку, скончыўшы вучэбную батарэю.

Загадам па палку Каравульных Акім быў прызначаны памоцнікам камандзіра майго разьдзелу, маім памоцнікам, маёй, як гавораць, правай рукой.

Акім быў нізкарослы, каржакаваты, каранасты чалавек, чэсны, акуратны камандзір, любы таварыш байца. Яго рыжы вяснушчаты, вечна з усьмешкаю, загарэлы твар, яго крэпкія рукі, яго каржакаватыя ногі гаварылі пра выносьлівасьць гэтага байца.

Ні ў адным з многалікіх паходаў, цяжкіх пераходаў ён ні на хвіліну ня траціў прысутнасьці духу, гарэў даручаным заданьнем і заўсёды гераічна выконваў даручанае.

Акіма любілі, паважалі байцы...

Акім быў чалавек з гарачай крывёю і высокім сьветлым розумам... Ён добра валодаў зброяй, быў надзвычайны джыгіт, ведаў амаль усе чыста песьні, якія існуюць на сьвеце, сьпяваў іх з байцамі на ўсе грудзі, быў бальшавік-вайсковец...

У нашай ужо часьці мы пераводзілі яго з кандыдатаў у члены партыі...

Аднаго разу, неяк пад вясну, зазваніў тэлефон... Я ўзяў халодную трубку. Мне званілі са штабу камандваньня.

Была халодная ноч. Горнае паўдзеннае неба было выткана тысячамі палымнеючых зор. Такія ночы бачыў я толькі на поўдні...

Па тэлефону я прыняў загад. Патрабавалася ад майго разьдзелу адразу-ж выступіць у паход.

Я разбудзіў стомленага за дзень Акіма і загадаў:

— Асядлаць коняй. Патронаў на кожнага байца ўзяць вось столькі, коняй вось такіх, людзей — увесь разьдзел, — такі быў мой загад.

Адразу-ж узяўся Акім за выкананьне загаду. Адразу.

— Мы да пяці гадзін павінны быць гатовымі да выступленьня. Сьпяшайся, Каравульных...

Я ўзяў карту, разаслаў перад сабою, і пры сьвятле газьнічкі пачаў намячаць маршрут...

Было чатыры гадзіны і трыццаць хвілін. Да мяне падышоў Акім. На твары іскрылася радасьць:

— У парадку спаборніцтва—коні асядланы, патроны раз'дадзены, людзі гатовы... Усё гатова да выступленьня, таварыш камандзір... Роўна на трыццаць хвілін раней...

Я праверыў. Яшчэ сон не зьляцеў быў з чырвонаармейскіх вачэй, яшчэ коні стаялі ў начной дрымоце, аднак усё было гатова да выступленьня.

Я падышоў да чырвонаармейцаў і растлумачыў задачу:

— Мы ідзем у баявую абстаноўку.

Гатовыя ісьці спыталі байцы:

— Куды?

— Па неправераных вестках басмачы хочуць перайсьці на савецкую тэрыторыю. Загад—ліквідаваць банду...

Уздоўж аўганскай мяжы мы ідзем ужо двое сутак. Два разы закацілася сонца за горы, двойчы выпаўзла яно гарачае, нявыносна душнае. А мы ідзем. Ціха ў пяскох. Цішыня надакучвае, пясчаны пыл разьядае вочы. Да поўдню сонца ўпіраецца ў нашы галовы, нам горача, а вады няма.

Да мяне пад'яжджае Акім.

— Дзе-ж басмачы? Няма басмачоў... Гэта з-за таго, што па неправераных вестках. Весткі заўсёды правяраць трэба...

Я ўсьміхнуўся. Я зразумеў Акіма. Яму ня церпіцца. Ён хоча хутчэй спаткацца і ліквідаваць... Так настроены і я і мае байцы. Каб хоць хутчэй...

— Хутчэй спаткацца хочаш, ліквідаваць,—вырвалася ў мяне·
— І ліквідаваць. Дзе-ж басмачы...
— Чакай, яшчэ будуць...
І мы едзем далей і далей...
Да начы мы прыехалі ў кішлак. У кішлаку не знайшлі ані аднаго таджыка. Толькі старыя ды дзеці на вуліцы.
— Дзе-ж мужчыны?
— Мужчыны?—перапытаў у нас стары таджык,—нашы мужчыны пайшлі па „хошар“... біць басмачоў...
Таджычкі-калгасьніцы прынесьлі нам вады і „нану“...
У кішлаку нам апавядалі пра банду Ібрагім-бэка. Пра зьверствы. Пра зьдзекі. Пра забранае басмачамі ў іхнім калгасе стада баранаў... Пра забойства іхняга старшыні...
А ноччу мы зноў крануліся ў дарогу. З намі паехалі дзьве таджычкі-дзяўчыны—праваднікамі...
Ішлі ноч.
Ішлі дзень.
Прайшлі Вахш, Акшаў. А за Ахтаў—зноў горы, горы... Дзікія яны, халодныя, з невядомымі дарогамі, пераходамі, сьцяжынкамі.
І раптам...
Раптам пачуліся стрэлы.
Мы моўчкі заляглі ў горах, чакаючы адступленьня басмачоў, каб ударыць па іх з тылу. Станавілася з кожнай хвілінай усё больш і больш напружней, неспакойней... Засакатаў кулямёт.
І нарэшце, пад націскам партызанскага атраду басмачы пачалі адступленьне, у поўным няведаньні, што мы чакаем іх—на граніцы...
Надыходзілі апошнія хвіліны нашай маўчанкі... Падрыхтавана зброя... Яшчэ, яшчэ адна хвіліна...
—Нарэшце,—сказаў мне Каравульных у самую апошнюю хвіліну.
Басмачы ўцякалі проста на нас. Засакаталі нашы кулямёты. Басмачы адразу з'арыентаваліся. Іх было сотні тры. Яны пачалі кружыць нас, жменьку ўзброеных байцоў...
Мы-ж кінуліся ў атаку. Мы былі абкружаны з трох бакоў.
Быў бой...
Каравульных кінуўся ў атаку і я яго страціў з вачэй. Раскалоўшы банду, я пагнаўся за аднэй групай. Ад бегу стагналі коні. Страшэнна, да болю, хацелася піць... А басмачы ўпарта не здаваліся, уцякалі ў горы...
Нарэшце мы перамаглі...
Усхваляваны боем быў я. Гэта было маё першае сапраўднае, баявое хрышчэньне... Пасьля бою чырвонаармеец Кунейка першым далажыў мне:
— А ведаеце, таварыш камандзір, сярод нас няма Акіма...
Ад гэтых слоў я нібы прачнуўся.
— Дзе, дзе-ж Акім?
У самы разгар атакі разрыўная куля забіла каня Акіма... Параніла і яго... Я гэта заўважыў, пад'ехаў, хацеў ратаваць... А Акім мне голасам загаду сказаў:

— „У атаку—марш. А я—застаюся тут... Мяне ня выратуеш...“

На жоўтым пяску кроў запяклася чорнымі плямамі. Акім слабеў. Я кінуўся зноў у атаку... А пасьля бою паехаў на тое месца. Акім быў мёртвы. Адступаючыя басмачы напаткалі, відаць, яго на сваім шляху, і...

Кунейка ня змог скончыць. Дзьве пары сьлязін, адна за другою, пакаціліся па шчоках байца і таварыша.

Я загадаў знайсьці Акімава цела...

Так вось... Акімава цела мы адшукалі. І на далёкай аўганскай мяжы, у авеянай ветрам-аўганцам зямлі мы ўрачыста пахавалі майго памоцніка.

На магіле байца і таварыша мой разьдзел даў прысягу:

— Узмацніць дысцыпліну, ліквідаваць басмачоў...“

Камандзір разьдзелу, таварыш Лошчанка скончыў сваё апавяданьне пра памоцніка свайго, Каравульных Акіма. Апавяданьне ня скончана. Я папрасіў яго расказаць канец. Замест працягу апавяданьня, таварыш Лошчанка дастаў з палявой сумкі газэту „Правда Востока“ і даў мне прачытаць інфармацыйнае паведамленьне, абведзенае нечай рукой чырвоным алоўкам.

Я чытаў:

— 22 чэрвеня тысяча дзевяцьсот трыццаць першага году рэшткі перайшоўшых з-за мяжы банд на чале з басмачомі брагім-бэкам часткамі Чырвонай арміі пры актыўным падтрыманьні дэхканскіх мас Таджыкістану былі зьнішчаны і захоплены найблізшыя памоцнікі Ібрагім-бэка—Алі Мардан Дашха, Ішан Ісахам і іншыя...

— 22 чэрвеня таго-ж году захоплены добраахвотніцкім атрадам Мукум-Султанава і дэхканамі кішлака Хаджы-Буль-Булан пры ўдзеле органаў ДПУ,—Ібрагім-бэк з двума басмачамі, якія ўцякалі за мяжу...

— „Ібрагім-бэк прывезены ў Ташкент...“

Я прачытаў інфармацыйнае паведамленьне, вярнуў газэту таварышу Лошчанка, папрасіў папіросу. На срэбным партсыгары ў Лошчанкі выгравіравана надпіс:—„За адданасьць і харобрасьць, выяўленую ў бойках з ворагамі Савецкай улады—ад Рэвалюцыйнага Ваеннага Савету СССР“. А на грудзях Лошчанкі палымнее новенькі, толькі што атрыманы ім, ордэн чырвонага Сьцягу за актыўную пераможную барацьбу з басмачамі...

Пад уражаньнем апавяданьня, я доўгі час ня знаў, з чаго мне пачаць прарваную гутарку з баявым камандзірам разьдзелу... Маўчаў і таварыш Лошчанка...

Старая-Бухара—Менск.

Г. МАЦЬВЕЕЎСКІ

# ГЕНЬКА І ЯЕ БАЦЬКА

(З запісак чырвонага камандзіра)

Валасы ў яе былі густыя і да кален. Заплятала яна іх у дзьве тугія касы і завязвала вакол галавы. Галава ад кос рабілася непрапарцыянальна вялікай і ледзь уваходзіла ў здаравенную салдацкую шапку. Вочы хаваліся пад густымі, шаўковымі вусінямі брывей, якія амаль зрасталіся, і цяжка было сказаць, якога яны колеру. Здавалася, што яе вочы ўвесь час зьменьваюць сваю афарбоўку і блішчаць па чарзе, калі чорнымі, калі шэрымі, а калі залацістымі іскрынкамі. Іншых гэткіх вачэй я не сустракаў. Генькіны вочы былі падобны толькі да саміх сябе.

Была яна спачатку на перавязачным пункце. Потым прышла неяк аднаго разу ў акопы, узяла вінтоўку, ды так тут і засталася. Чырвонаармейцы любілі баявую бабу і былі ня супроць таго, каб за ёй павалачыцца, але ад кавалераў яна адмахвалася даволі хутка. Калі хто-небудзь з хлапцоў ня ў меру распальваўся, казала каротка, сур'ёна, бяз лаянкі:

— Нельга. Ра-зу-мееш, нельга. Хвароба ў мяне нядобрая, заразьлівая.

На чало клалася глыбокая зморшчына, бровы зрасталіся.

— От скончым вайну, лячыцца буду,—усьміхалася і ласкава дадавала.—Дурань ты гэтакі.

Чырвонаармейцы шкадавалі.

— Пакутуе дзяўчына.

— Гэткая маладая, сымпатычная—і на табе.

Аднойчы на беразе Нёману я чаргаваў ля кулямёту. Ноч была цёплая, пахла жытам і рыбай. Вада паўзла бязгучна, быццам доўгі, разматаны кавалак чорнага саціну. Інады праз цішыню было чутна, як адрываўся і асядаў пясочны бераг.

Да кулямёту прышла Генька, зьняўшы шапку, яна, не сьпяшаючы, з замілаваньнем пачала пераплятаць косы. Доўгія, цяжкія косы не падыходзілі да салдацкай гімнасьцёркі і нагавіц.

— Чаму ты не адрэжаш косы? На чорта яны табе,—адна марока.

Генька адказала не адразу.

— Хай. Гэта ў мяне амаль усё, што нагадвае дзяўчыну.

Чамусьці захацелася, каб дадала:

— „Дурань ты гэтакі“.

Я павярнуўся да таварыша.

— Скажы Генька, чаму ты на фронце? І не сястрой, а з вінтоўкай.—Распаляла цікавасьць. Хацелася Геньчыных слоў. Яна маўчала.

Я папрасіў:

— Ну, скажы.

— Навошта? Ня люблю, ды і ня цікава.

Паправіла ў прыемніку кулямётную істужку, насунула шапку і лягла на локаць.

— Ня люблю я, калі ў чужую душу людзі з-за цікавасьці лезуць.

— Гэта ня цікавасьць.

— Я не пра цябе.

Цемнач пачынала паціху таяць. Чорны сацін Нёмана, як быццам, зьліняў і пашарэў. Рака пацякла хутчэй.

— Мне дваццаць два гады. А я часта думаю пра сьмерць. Хочацца інады памерці з сэнсам.

— Ну, гэта ведаеш, давай лепш жыць з сэнсам.

— Усе мы жывем з сэнсам. У кожнага ідэя ў жыцьці ёсьць, а от памірае шмат хто так, без усялякага сэнсу...

Генька правяла пальцам па носе, быццам кладучы палоску грыму.

— Ты нешта гаворыш, Генька, сёньня па-кніжнаму.

— Ну і што-ж. А мо і самі мы толькі для кніжок жывем.

Падняла пустую гільзу, паглядзела на разьбіты пістон і кінула далёка ў раку.

— Бацька машыністам у мяне быў. Трыццаць год цягнікі вадзіў па Уралу, кніжок чытаў шмат. Памятаю казаў:

— Самае галоўнае ў жыцьці—гэта ўзяць уладу над рэчамі. Нельга дапусьціць, каб рэчы кіравалі чалавекам... А сам усё жыцьцё быў падкіраваны цягніку і памёр на цягніку.

Генкіны словы расьлі разам з золакам.

— Калі Калчак прышоў, шмат хто з дэпоўскіх пайшлі з чырвонымі, бацька застаўся. Ня мог ад машыны пайсьці—машына была ў рамонце. Вылечыў машыну і зноў цягнікі вадзіць пачаў, толькі схудаў неяк і пастарэў. Кнігі кінуў, да гутаркі ахвоту згубіў. Баяўся, быццам, нечага. Потым я дадумалася—думу вялікую выношваў.

Цемнач шарэла, як быццам, разьведзеная малаком. На левым беразе вырасталі кусты. Далёка на небакраі самотна і блёкла міргала зорачка.

— З маткай бацька жыў добра, а тутака вельмі ласкавы стаў. Апошні час пра сьмерць гаварыў часта.

— „Стары, кажа, стаў. Ты, сьцяпанаўна, на выпадак чаго, беражы Геньку—маладая яна, жыць ёй трэба...

Пайшоў раз у дэпо і не вярнуўся. Эшалён павеў вайсковы на фронт. Салдатамі калчакоўскімі ды порахам вагоны набіты

былі. Даехаў да аднаго месца, дзе дарога, як быццам на вярблюдавым гарбу ламаецца, адхоны вялікія ад чыгункі ідуць; даў хуткасьць, якую толькі машына даць можа, ды і ўрэзаўся пад адхон з усім саставам.

У цемначы ля кустоў берагу звонка плёхнуўся шалёны шчупак і пасыпаўся пясочны бераг. Прыслухаліся.

— Трэскі ды гразь ад людзей і вагонаў засталіся. Дэпаўскія тамака працавалі, езьдзілі, бацьку, кажуць, на чатыры часткі тэндэрам расьціснула, а рука так на рэгулятары і здранцьвела.

— Маці пасьля гэтага хварэць пачала, усё богу малілася ды плакала. Набожная занадта была. Памятаю, бацька лаяўся, як малады быў, а потым рукой махнуў.

„Хай моліцца“. Гэткаму чалавеку, кажа, бяз веры не пражыць. Кожны чалавек ва што-небудзь верыць павінен. За бацьку малілася. Мне казала часта: „Не даруе Сымону бог, столькі людзей бязьвінных загублена. Якія ні ёсьць ворагі, а усё-ж-ткі людзі“. Так і памерла ціха з малітвай.

Ноч зусім пашарэла. Пацягнула латвым вецярком. На ўсходзе неба пабілася на барвовыя і аранжавыя палоскі.

Нёман блакітнеў і бег усё хутчэй і хутчэй.

Расказ дзяўчыны пра машыніста-героя я слухаў з захапленьнем.

— Ведаеш, Генька, добры быў у цябе бацька, надзвычайна памёр, з вялікім сэнсам.

— Я таксама гэтак думаю. А інады думаю—як гэта так, адзін чалавек памёр з сэнсам, а поўтысячы, альбо нават больш, так, без усялякага сэнсу.

Я ўзяў яе цёплыя рукі, неяк няўпэўнена і няпрывычна паціснуў, гледзячы ў залатыя іскрынкі вачэй.

Усход разгараўся ярчэй і ярчэй.

— Ну, я пайду.

Генька ўстала і, захутваючыся ў шынэль, дадала:

— На сёньня хопіць.

На флангу, недзе далёка, ледзьве чутна хлопалі стрэлы і глуха тукалі кулямёты. Прайшоўшы некалькі крокаў, дзяўчына вярнулася, падышла і ціха ўсьміхнулася.

— А пра хваробу я хлапцам хлушу, чапляюцца чэрці.

Я засьмяяўся і ўспомніў: „Дурань ты гэтакі“. Толькі цяпер я зразумеў сэнс гэтай ласкавай бяскрыўднай фразы.

Страляніна ўсё бліжэй і бліжэй, як быццам плыла зьверху па вадзе. Над лесам выплыў вялізны край распаленай патэльні, кучаравымі ягняткамі забегалі воблакі.

Праз дзьве гадзіны мы пад кулямі фарсавалі Нёман. Апоўдні таварышы расказвалі, што Генька, параненая шрапнэльлю, сарвалася са штурмовага мосьціка і патанула.

Смаленск

Г. МАЦЬВЕЕЎСКІ

# СЯЛІВАН

(З запісак чырвонага камандзіра)

Уласна кажучы, ніхто ня ведаў, як правільна па-кітайску ягонае імя.

Чырвонаармейцы звалі яго проста Сяліван, альбо Ходзе.

Сялівана ніколі ня крыўдзілі жарты, ён адчуваў таварыскую цяплыню чырвонаармейцаў, якія нават у самыя грубыя кепікі над Су-лі-ванам укладалі нявымоўнае пачуцьцё блізасьці.

Калі ў кітайца пыталіся, як цябе завуць, ён адказваў сур'ёзна:

— „Польсавіка".

— У вас у Кітаі і бальшавікоў няма.

Ён крыўдзіўся.

— Навошта так гаварыць „польсевіка" ёсьць у кожнай краіне. У кожнай краіне ёсьць добрыя людзі. У Кітаі таксама ёсьць.

Чырвонаармейцы любілі ламаную гаворку і часта гутарылі з ім.

— Сяліван, а, Сяліван, за што ты ваюеш?

Кітаец хітра прыжмурваў свае касыя вочы і пытаўся ў таго, хто даў пытаньне.

— А ты за што?

— Мы? Мы за зямельку-маці. Супроць буржуяў, значыцца. Перашкаджаюць гадзюкі жыцьцё добрае будаваць.

— Праўда,—загараўся Сяліван, буржуяў трэба страляць.

Хлопцам гэткі адказ падабаўся, яны ласкава хлопалі Сялівана па плячы: „дапамагай, дарагі, дапамагай".

Да рэвалюцыі Су-лін-ван рабіў папяровыя кветкі. Больш пра яго ніхто ня ведаў.

Аднаго разу ў часе адпачынку ў сялянскай хаце, убачыўшы каляровую паперу, Су-лі-ван неяк па-свойму ўзрадваўся.

— Будзем рабіць кветкі, добрыя кветкі.

Гаспадыня і дзеці былі вельмі задаволены, калі ён за паўгадзіны накруціў цэльны стол штукарскіх кветак і фігурак.

Чырвонаармейцы любілі гутарыць з Су-лін-ванам пра Кітай і закідвалі яго пытаньнямі.

— А дзе твая краіна Кітай ляжыць?

— Ці ёсьць у Кітаі мужыкі, сяляне тоісь, ці родзіцца жыта?

— Ці праўда, што кітайцы ядуць жаб і ня мыюцца ў лазьні?

— Чаму ў кітаянак маленькія ножкі?
— Навошта касу мужчыны носяць?
— Ці ёсьць у кітайцаў бог? Калі ёсьць, дык які?
У гэткія хвіліны Су-лін-ван переставаў усьміхацца, падкурчваў пад сябе ногі і гаварыў:
— Паслухай трохі, што ведаю, буду гаварыць пра Кітай.
Гаварыў павольна, расьцягваючы мудрыгельскія, незразумелыя словы. Расказваючы, ківаўся з боку ў бок, як маятнік, і вочы заплываліся туманам. Чырвонаармейцы слухалі з цікавасьцю расказы пра дзіўную краіну і са спачуваньнем ківалі галовамі.
Калі ішоў бой, Су-лі-ван трымаўся неяк дзіўна, неяк асабліва. Ніколі ня клаўся, не хаваўся ад куль і страляў седзячы. Стралок ён быў добры. Памятаю, як аднаго разу чырвонаармейцы спрачаліся з селянінам, што кітаец на дзьвесьці крокаў з першага стрэлу ўцэліць у гуся. Прывязалі гуся за лапу да прасла. Су-лін-ван не сьпяшаючыся сеў на край канавы, прыцэліўся і... увечары мы з задаваленьнем зьелі сяліванаў прыз.
Загінуў Су-лін-ван неяк выпадкова, задарма. Наступалі каля гораду Ліды. Палякі ўцякалі, пакідаючы параненых, я ішоў з ім амаль побач. Бачу пазірае ён у кусты і крычыць:
— Ахвісела.
Я—да яго. У канаве афіцэр ляжыць паранены, адна рука пад яго падвярнулася, другая з кольтам да Сялівана цягнецца. „Вазьмеце" кажа афіцэр і як быццам аддае. Сяліван схіліўся за кольтам, а афіцэр стрэліў проста ў рот.
Афіцэра хлопцы закалолі...

**Смаленск**

БАРЫС МІКУЛІЧ

# ПУБЛІЦЫСТЫЧНЫЯ ЭСКІЗЫ

## Масоўка мэталюргаў

Адсюль пайшоў першы цягнік, і там, у будучым Магнітагорску, стэповыя ваўкі цікавалі паравоз, які напоўніў сваім гудам дагістарычны стэп. Гэта была прадгісторыя магнітагорскага будаўніцтва. Першыя пасяленцы—выведчыкі хмурнага багацьця гэтага стэпу—пасяліліся ў палатках і зямлянках. Потым узьніклі прысадзістыя баракі. Грудам прыходзілі са стэпу ваўкі, пярэднімі лапамі бразгалі ў нізкія вокны, нібы позьнія падарожнікі-бесхацімцы, выцягвалі ўгору тужлівыя свае морды і вусьцішна вылі. Ваўкі паджымалі хвасты і беглі ў змрочны раздольны стэп. Вузкім рабіўся стэп для ваўчынага гульбішча.

Адсюль са станцыі Карталоў, прышоў першы цягнік, цягнікі пайшлі штодня, састаў за саставам, бліскучыя — нібы лякаваныя —перарэзалі стэп шматлікія рэйкавыя шляхі.

„Гістарычныя“ малюнкі (а гісторыі—тры гады!) успамінаюцца самі па сабе, як едзеш па гэтай дарозе.

Неўзабаве будзе станцыя Джабык.

Ад'ехалі семдзесят кілёмэтраў ад Магнітагорска. Бліжэй лесу няма, а лес патрэбен: сёньня выходны дзень, хочацца новых мясьцін, новай абстаноўкі, крышачку ўтульнасьці і ўтульнасьць гэтая—звычайны зялёны ліст.

Пяць тысяч магнітагорскіх мэталюргаў едуць на масоўку, прысьвечаную чыстцы партыі.

У вялізарным цягніку едуць байцы.

У „вагоне журналістаў“ сабраліся мясцовыя пісьменьнікі, рэдакцыйныя работнікі шматлікіх магнітагорскіх газэт. Тут ідзе ажыўленая гаворка. Неспакойны народ—гэтыя журналісты. Яны надумаліся выпусьціць гумарыстычную газэту „Рычы чытай“. І на першым-жа прыпынку доўгалыгі хлапец у шырокім капялюшы-„каўбой“ ходзіць ад вагона да вагона, трымаючы перад сабой першы нумар гумарыстычнай газэты. У момант абкружаюць яго людзі, залівісты дзявочы рогат зьвініць сакавіта: уласна кажучы сьмяяцца можна ня толькі з куплетаў і частушак у газэце, але з выгляду самога хлапца—хадзячага гэтага „выдавецтва“.

Сьлепіць сонца. Выключнае сілы вальтаж яго. Заплюшчваю вочы ад зыркага рознакаляровага відовішча.

Вялізарная пляцоўка, па кантах якой стаіць лес. Здаецца, што лес ня рос гэткім роўным чатырохкутнікам, а проста расступіўся, раздаўся ў бакі па камандзе пяці тысяч чалавек. Пляцоўка ўкрыта травой, перанасычанай кветкамі. Адчуваеш, як ідзе вецер—хваля за хваляй. Пад ветрам цячэ трава.

Недзе воддаль аркестр грымануў „Будзённага". Людзі з усіх канцоў сьпяшаюцца на ягоныя воклічы. Людзі схлынуліся ў адным месцы, людзі ўкрылі траву, затрымаўшы цячэньне яе. Людзкі пэйзаж—гэткі-ж яркі і каляровы, як і іхнае адзеньне. Нібы з яшмы — майстэрскай рукой выразаны рысы татарскага твару. Нібы адлюстровак хмурнага стэповага пэйзажу — твар башкіра, абвеяны ветрам. Шырокія раздольныя плечы рускага. Васільковы колер вачэй, кужаль валосься падказваюць у чалавеку беларуса. Сапраўды—багаты Магнітагорск на людзей розных нацыянальнасьцяй, гадаванцаў вялікіх савецкіх прасьцягаў, і ўсе яны— хоць-бы ў гэтым пяцітысячным—у вялікім дружным калектыве магутны ствараюць помнік эпохі—Магнітабуд.

Праразаючы натоўп узбуджаных вясёлых людзей, чуеш стракатасьць гаворкі. Увагу прыкоўвае эстрада. Маладыя трамаўцы —баяніст і баяністка — вядуць вясёлую народную песьню —рускую плясавую. Гульліва заліваюцца пад спрактыкаванымі пальцамі гармонікавыя лады. На зьмену ім паяўляецца артыст татарскага тэатру. Сакавітым драматычным тэнарам ён сьпявае рэвалюцыйныя песьні. Я ня ведаю рэзкіх, скупых, чоткіх слоў тэксту, але я разумею мэлёдыю—маршавы поступ, покліч гімну перамогі і вызваленай працы—баявую мэлёдыю гэтага сьпеву. Я напружваю слых і ён ловіць знаёмыя і хвалючыя два словы — калектыў і пралетарыят, і я чую як рускі рабочы побач са мной ледзь чутна паўтарае гэтыя словы, і шырокі ягоны твар расплываецца ў вясёлай усьмешцы: ён таксама, мусіць, хацеў зразумець татарскі рэчытатыў артыста і—ён зразумеў бязумоўна. А вось фагатыст-башкір з рэдкім майстэрствам выклікае з свайго струманту чароўныя шубэртаўскія мэлёды. Шубэрт у башкіра гучыць з нейкім адменным калёрытам. Пасьля украінскага народнага сьпеву (тут далёкі Дняпро парогаўскіх часоў і журба пад'ярэмнага цяжкога жыцьця, што адышло, якога няма і ня будзе) башкірскі хор выконвае свае — старыя і новыя — песьні.

І, слухаючы іх, мне ўспамінаецца:

На мітусьлівым рынку, дзе рып вазоў, крык хлапцоў-папяросьнікаў, хрыпаватыя паскрыпваньні пашарпанага грамафона-„амур" (прадаецца са скідкай), дзе мільгае ўсё часьцей і часьцей каштанавы глянц башкірскіх скуластых абліччаў —

бачыў я:

падкурчыўшы ногі, выпрастаўшы сухі свой стан, скляўшы на грудзях рукі—крыж-на-крыж, як Будда, як чмута біблейскай экзотыкі, сядзіць прывід мінуўшчыны.

У старога башкіра выключнай канструкцыі твар: строгая, выцягнутая доле сівая барада, рэзкі, с косьцевым выгібам нос

вочы пасоджаны глыбока пад маршчыністым, нібы ральля, ілбом, зрэнкі сьляпых вачэй нярухома ўтароплены ў незразумелую, нявідочную ні яму і нікому з прысутных кропку.

Башкір сьпявае. Туга сочыцца з асьмяглых ягоных вуснаў гора і вырак б'юцца зьнясілым беркутам... падбіты беркут раскідае наўкола акрываўленае сваё пер'е...

Прывід эпохі. Якую схапілі за горла! Якую прыціснулі! Якой —ні дыхнуць! Якая зьдзеквалася! Вось ён—гэты аскепак эпохі. У самага жорсткага чалавека сьціснецца рука ў кулак і сэрца дасьць перабой... адзін, другі!..

Але вось башкір устрапянуўся, павёў галавой. Да яго падышоў хлапчук з самаробнай дудой, сеў побач з ім, зайграў, перабіраючы пальцамі, і стары засьпяваў—хістаючыся, нібы молячыся:

„...Ляцеў Бахтыяр, Бахтыяр магутны. Аргамак нёс яго, рэзаў вецер і вецер адставаў ад каня. Вялікі палуван [1])—Бахтыяр, малады, прыгожы, магутны і шпаркі, як сокал. Але надышло гора для палувана і гора прышло наднае — праз шчасьце, праз каханьне.

...У бая [2]) была дачка. Вочы яе—як у сарны. Імя яе Аміня. Затужыў Бахтыяр па Сарне-Аміне, ой, як моцна затужыў.

...А бай — грозны быў. Бай клікаў Бахтыяра — карак [3]). Бедны башкір клікаў Бахтыяра — кунак [4]). Бахтыяр рабаваў баяў.

...Ня сьцерпеў Бахтыяр, украў Аміню ў бая Кінзы. Уцякаў з Аміняй, скакаў праз кош [5]).

...Насустрач яму — гара Атач.

...Ляцеў напрост, на гару Атач.

... Стаў Аргамак, ня ідзе, вецер абагнаў яго. Б'е Бахтыяр нагайкай каня, а той—ні з месца. Стрэліў у каня ў злосьці Бахтыяр, забіў, а конь ня падае. Жах апанаваў Бахтыяра, закрычаў ён.

... Учуў народ адчайны крык бахтыяраў. Учуў і вушы даланямі закрыў: забараніў Аллах на гару Атач хадзіць. Ой, грозны Аллах, ой, грозны.

... Месяц хадзіў узад-уперад два разы.

... А потым ішоў народ за Бахтырам, каб вызваліць Аміню, што да гары з канём прырасла. Бясьсільны быў народ, ня выратаваў Аміні. Горка плакаў Бахтыяр.

... Даваў срэбра, багата срэбра даваў Бахтыяр баям. Але прышоў бабай [6]), сказаў жорстка ён:

---

[1]) Багатыр.
[2]) Багацей.
[3]) Рабаўнік.
[4]) Прыяцель.
[5]) Кібітка.
[6]) Стары

... „Шайтан! Вялікі шайтан—гара Атач. Не хадзі на яго".

... І адвярнуліся баі ад Бахтыяра, і схапіў Бахтыяр кінжал, і выкалаў сэрца сваё...

... Месяц хадзіў узад-упер шмат разоў.

... Дзьмуў вецер халодны.

... Ішоў час.

... На касьцёх Аміні—лес вырас, зялёны лес"...[1])

Маленькі камлюкаваты магнітагорац, культпроп камсамольскай арганізацыі рудніка, ідучы побач, апавядае. На абліччы ягоным нейкая затоеная ўсьмешка, робіцца ўражаньне, што ён любуецца сам сабой, любуецца напорыстай стромай лічбаў і маштабаў Магніткі.

— Магнітагорскі камбінат у канчатковым сваім выглядзе будзе пакрываць усе падобныя прадпрыемствы. Вы, мусіць, чулі, што запасаў руды Магнітнай, ці, як яе называюць тут, гары Атач хопіць на 65-70 гадоў. Апрача гэтага, ведама, вядуцца геавыведкі на ўсёй пляцоўцы Магнітабуду. Наш камбінат у гэтым годзе павінен даць два з паловай мільёны тон чыгуну, гэта значыць—больш таго, што выплаўлялі ўсе заводы даваеннай Расіі.

Адзін са шматлікіх карэспандэнтаў вялікай цэнтральнай газэты, што канчаткова атайбаваўся ў Магнітагорску, робіць на-хаду заўвагу:

— Запраектаваная магутнасьць самага буйнога амэрыканскага заводу—3200 тысяч тон. У лепшыя, так сказаць, гады амэрыканскага „праспэрыты"... завод Герры даваў 2700 тысяч... Наш завод будзе даваць чатыры мільёны тон.

Разгортваючы чарговы нумар „Праўды", можна пацікавіцца выплаўкай чыгуну домнамі СССР. Сярэдняя дзённая лічба выплаўкі дзевятнаццаць-дваццаць тысяч. Прычым—дзьве магнітагорскія домны (першая і № 2—камсамольская, рэкордная) даюць дзьве тысячы тон.

Магнітагорскія маштабы—энных ступеняў, яны перакрываюць самую гарачую фантазію самых яркіх рамантыкаў. Аднойчы ўбачыў хлапчука, які старанна, сабраўшы зморшчыны на ілбе, нешта маляваў хімічным алоўкам. Зацікавіўшыся, я зірнуў на малюнак: няпэўная хлапчукова рука вывела на аркушыку паперы грандыёзную домну, а побач з ёй я ўбачыў нейкую дзівосную казюрку.

— Што ты малюеш?—пацікавіўся я.

Хлопчык прыўзьняў на мяне зьдзіўленыя свае вачаняты і з няпрыхаванай перавагай над дарослым адказаў:

— Хіба, дзядзя, не разумее? Гэта дзьве самыя вялікія рэчы: домна і вярблюд.

[1]) Запіс легенды ёсьць у магнітагорца А. Варашылава.

Самыя вялікія рэчы, якія прыходзіцца назіраць магнітагорскаму хлапчуку—домна і вярблюд, прычым вярблюд—гэта мізэрная маленечкая казюрка! З выключнай дакладнасьцю ўлавіў гэты хлапчук магнітагорскія маштабы...

... У жвавай гаворцы пра пэрспэктывы Магніткі мы накаса перасякаем пляцоўку масоўкі. Асмужаныя ладныя і мажныя перасякаюць пляцоўку ф зкультурнікі. Праз колькі хвілін пачнуцца спортспаборніцтвы, а пакуль што сотні чалавек, пабраўшыся ў кола за рукі, крынічаць вясёлымі крыкамі, буйным рогатам, гудуць ва унісон машастовыя басы баянаў. У жывым людзкім коле грузін ліха вытанцоўвае лезгінку. Лоўка праходзіць ён круг на абцасах сваіх востраносых ботаў. Жвава хапае на-хаду з зямлі папаху. Дружным рогатам і бадзёрымі крыкамі, выяўленьнем захапленьня сустракаюць глядачы новыя і новыя выверты танцора.

У другім месцы камсамольцы-забаўнікі ладзяць масавыя танцы. Хлапец у чырвонай майцы, спрэс мокры ад буйнога поту, падае ў рупар каманду. Рупар адлятае ў бок. Чырвонамайкавы хлапец лёгка разводзіць рукамі, чоткія, нескладаныя „па“ адлічвае нагамі, і ланцуг людзей пачынае варушыцца, вытанцоўваць гэты калектыўны—на сотні тры—танец.

Добра танцуюць мэталюргі.

Здаровыя і трэніраваныя ў Магнітагорску жанчыны. Сярод іх—шмат ударніц, юных гераінь. На самых адказных вырашальных вучастках будоўлі яны—роўныя сярод роўных, вольныя сярод вольных—ні на крок не адстаюць ад мужчын, працуюць удар-ва-удар, спаборнічаюць, абганяюць.

Жоўтае сонца, белыя і сінія трусы, бронза цягліц, блакітныя, бервянцовыя, жоўтыя, зялёныя майкі. Мядзяны дыск зырка гарыць у сонечных промнях. Элястычна ўзьлятае высака ў бяздумнае і неўтрапеннае неба баскетбольны мяч. Рытмічна паскрыпваюць штангі турнікоў. Напружана паддаўшыся наперад, рэжуць гарачае паветра бягуны. Густа льлецца марш. У розных напрамках праразаюць пляцоўку людзі. Рух, гоман, рогат. Над эстрадай цячэ, як полымя, яркае чырвонае палотнішча: „Чыстка--вялікая справа“... Хваля за хваляй ідзе вецер, цячэ трава. Бурліць, вар'юецца азіяцкае сонца.

... Як Будда, як вырак сівое змрочнае мінуўшчыны, як чмута біблейскай экзотыкі—аскепак эпохі, прывід начы... зьнікае, выпадае з памяці, расплываецца ў мятусьлівым пяцітысячным натаўпе рускіх, татар, украінцаў, башкіраў, беларусаў—а прасьцей: магнітагорцаў, у пяцітысячнай арміі ўдзельнікаў масоўкі.

... Башкір з абліччам Будды.

Ты—вырак, ты здань, ты міжвольны напамінак.

Эпоха.

Якую схапілі за горла! Якую прыціснулі! Якой—ні дыхнуць!

... Зноў паедзем па сямідзесяціпяці кілёмэтрах гістарычнай дарогі ў Магнітагорск. Зноў будзе грымець цягнік радасьцю выходнага дню, бадзёрасьцю калектыўнага адпачынку, галасамі гаспадароў і стваральнікаў вялікага помніка нашай эпохі—Магнітабуду.

Цягнік ідзе, гудзіць песьня, стэп рэзануе яе, бліскі лятуць з паравознага коміну, рытмічна грукацяць вагонныя колы: маг-ні-та-буд, маг-ні-та-буд!..

## Людзі нашага ўзросту

Руда, здабытая на чатырох гарызонтах гары Атач, праходіць праз рудадрабілку на гары Ай-Дарлы, трапляе, нарэшце, у домну. Вугаль прыходзіць з Кузьнецку, ідзе ў батарэі коксахэму, каксуецца. Руда, плюс кокс, плюс іншыя мінэральныя злучэньні даюць шыхту, якой і загружаюцца домны.

Восем домнаў будзе мець Магнітагорскі камбінат, восем коксавых батарэй будуць даваць па тысячы тон коксу ў дзень, восем мартэнаўскіх печаў будуць рабіць сталь—і праз магутны блюмінг сталь пойдзе па шматлікіх станах пракатнага цэху. Гэта—схэма вытворчасьці. Ачышчэньне печаў коксавых батарэй ад распаленага коксу—градныёзнае відовішча, якое можна параўнаць хіба толькі з выпускам вадкага чыгуну з домны. Здаецца, біблейскі агністы слуп рушыцца на цябе, языкі полымя награюць і да таго гарачае паветра.

Камсамольская домна (№ 2) дала 10-IV-33 г. 1437 тон чыгуну, выканаўшы вытворчую норму на 150 проц. Гэта домна наогул дае сусьветныя рэкорды, пра выключную эфэктыўнасьць яе гавораць з вялікай цяплынёй, нават з любоўю, нібы справа тычыцца жывое—усімі любімае—істоты. Бачыў, як хлапец, зрываючы з галавы кепку ад наплыўшых пачуцьцяў, радасна гарланіў:

— Наша камсамолка крые на ўсе сто. К чортавай маме—пляны!

Усё часьцей і часьцей чуеш: „Камсамолка", „Сход на камсамолцы", „Камсамолка патрабуе", і ў тым, што гэта жывая істота, жывы арганізм—неяк упэўніваешся міжволі. За гэтымі рабочымі фармулёўкамі стаіць калектыў юных герояў, юных змагароў за сацыялізм, якія зьядналіся ў вялікую сям'ю, імя якой—камсамольская домна № 2. Яна заваявала выключную папулярнасьць высокімі сваімі тэмпамі, высокай нормай выплаўкі. Яна на шмат перагнала домну № 1, выпрацоўваючы ўдвая.

Тут, на домне № 2, пераважная большасьць—камсамольцы.

Камсамольцы, шаснаццацігадовыя, васемнаццацігадовыя людзі—вялікі і важны атрад магнітагорскага легіёну барацьбітоў.

Магутная—на 50 тыс. клв—турбіна на ЦЭС'е змантыравана рукамі юных герояў. І ў часе выпрабаваньня турбіны інжынэр-амэрыканец пеніўся словамі радасьці і зьдзіўленьня.

— Цяпер дайце гэтую турбіну ў рукі гэтых хлапцоў. Яны справяцца з работай, як справіліся і з мантажом яе. Турбіна працуе цудоўна!—крычаў на мітынгу інжынэр-янкі.

Адзін з камсамольцаў паставіў—памятаеце, як у „Сустрэчным“?—залатоўку і яна прастояла на турбіне праз усё выпрабаваньне: турбіна мерна і чотка гула. З замежнымі спэцамі юным героям магнітагорскага будаўніцтва прышлося змагацца ўпарта, змагацца доўга. На мантыроўцы складанейшых мэханізмаў самага буйнага магнітагорскага цэху—на мантыроўцы пракатнага—працуюць сотні камсамольцаў, сотні людзей нашага пакаленьня. У шмат-якіх выпадках мантаж складанейшых варштатаў рабілі без рабочых рысункаў. Яны адсутнічалі і гэтак, бадай, і ня высьветлілася, хто ў гэтым вінаваты. І вось, уявеце сабе шаснаццацігадовага хлапца, якому даручаюць зборку важных і цяжкіх дэталяў аднаго з пракатных станаў. Хлапец перапоўнены гонарам, яму даверылі, але разам э гонарам, мацней адчуваньне гонару—у хлапца вялізарная трывога, насьцярожанасьць: як-ні-як праца цяжкая, адказная, і трэба—асноўнае!—зрабіць яе, абавязкова зрабіць, ня ўпасьці тварам у гразь.

— Я адмаўляюся браць на сябе адказнасьць за работу гэтага хлапчука!—нэрвова крычыць замежны спэцыяліст.—Калі ў вас няма дарослых спрактыкаваных рабочых, дык ня трэба будаваць. Тут не каледж, а будаўніцтва! Факт.

Хлапец працуе. На першых парах ён блытаецца, але потым знаходзіць правільную дарогу да аўладаньня дэталямі мэханізму. „О'кей!“—кажа спэц-янкі і пачынае з цікавасьцю прыглядацца да ўпартага хлапца. „Ша, сэр!“—дабратліва гіранізуе хлапец, заваёўваючы сымпатыю, увагу, дэталі.

Гэтак будуецца пракатны цэх—пераважна сіламі камсамольцаў

Мэтады іхнай работы—гэта вопыт нешматлікіх старых, кваліфікаваных рабочых, плюс уласная ўпартасьць, плюс аўладаньне тэхнікай, плюс камсамольскі білет. Але нас павінны цікавіць ня толькі мэтады работы, а—галоўным чынам—псыхалёгічныя працэсы, якія адбываюцца ў гэтых людзей нашага стагодзьдзя-працэсы іхнага росту і іхных перамог [1]). Аб гэтым і ідзе гаворка.

Спачатку—слова пра старэйшых. Тут ня варта—бо гэта ўсе ведаюць—успамінаць на сапраўдных герояў магнітагорскай пабудовы, узнагароджаных ордэнамі Леніна—вышэйшай узнагародай нашай краіны. Мне хочацца, перш-на-перш, аднатаваць слаўны і гераічны шлях інжынэра Фастаўскага, удзельніка жудаснай Трыпольскай трагедыі. Крывавая старонка барацьбы з контррэвалюцыяй на Украіне добра вядома ўсім. Тры чалавекі выратаваліся з рук бандытаў, кінуўшыся плысьці. Гэта было выключ-

---

[1]) Усё, што бачыў і зразумеў я ў гэтым найцікавейшым чалавечым матэрыяле Магнітагорску, выкарыстоўваю ў другой кнізе раману „Дужасьць“, над якім зараз працую. Гэтыя эскізы—рэзумэ назіраньняў і няхай аматары мэтафарычнасьці даруюць мне пэўную сьціслась ць іх.

нае змаганьне за жыцьцё, і параненыя, абясьсіленыя, але з моцнаю воляю гэтыя тры перамаглі ў гэтым няроўным змаганьні. Сярод іх быў таварыш Фастаўскі. Праз гады ён пранёс нянавісьць да клясы эксплёатацыі і гвалту, і вось прышоў на магнітагорскі ЦЭС, уліўся ў легіён змагароў за сацыялізм, разумеючы добра, што кожнае нашае дасягненьне,—асінавы кол у магілу буржуазіі. Сілы, веды, вопыт, трываласьць—усё аддаў ён Магнітабуду [1]).

А вось—іншае гістарычнае прозьвішча: Джапарыдзе. У „горадзе вятроў", адваёўваючы нафту ад рук белых драпежнікаў, загінулі дваццаць шэсьць бакінскіх камісараў. Мне ўспамінаюцца міжволі выключнай навальнічнай патэтыкі словы Асееўскай песьні, „Кто по тебя не горевал, Ахчай-Кумынский перевал?.. Здесь каждый взор суров и тверд, здесь цвет коммуны в землю лег... Здесь желтые пески твои, коммуна, кровью напоены... И не стереть с лица румян и в страхе в землю не зарыться таму, кем предан Шаумян, тому, кем предан Джапаридзе". Так, ня сьцерці з твару ганебных плямаў. Камісар Джапарыдзэ загінуў, пакінуўшы сваёй дачцы ў спадчыну магутную нянавісьць да імпэрыялізму. І вось інжынэр Джапарыдзэ, дачка героя-камісара, працуе ў Магнітагорску—і хіба ня гэтая магутная клясавая нянавісьць кіруе ёю, калі—разам з камсамольскімі брыгадамі—яна дзень-у-дзень працуе на мантажы турбіны, радуецца разам з імі сваімі штодзённымі перамогамі і дасягненьнямі. Гэткіх людзей у Магнітагорску шмат.

Хіба не яны—гэтыя людзі—лепшы прыклад для маладога пакаленьня, для юных стваральнікаў сацыялізму?

І тут мне хочацца гаварыць пра выключнай цікавасьці працэсы, якія адбываюцца на магнітагорскім камбінаце. Ён—ня проста вытворчасьць, якая вырабляе энную колькасьць чыгуну і сталі. Гэта „вытворчасьць" чалавечага матэрыялу і ў гэтым магнітагорскі камбінат нічым не адрозьніваецца ад усіх прадпрыемстваў савецкага Саюзу, хіба толькі—сваімі маштабамі і высокаякаснай „выплаўкай" чалавека, але карэнным чынам розьніцца ад вытворчасьці капіталістычнай.

— У вас, на Беларусі,—жартуючы кажа камсамолец Лебедзеў, ссоўваючы кепку на патыліцу,—іх-бы блізка да варштату не падпусьцілі, а тут—зірні—проста арлы.

Словы гэтыя стасуюцца маладых хлапцоў, што мантыруюць над намі, у жалезных пераплётах, вялізарны падвесны крант. Я ведаю, што Лебедзеў жартуе, але сумненьне само па сабе ўсё-ж варушыцца ў сярэдзіне маленькім непакойным зьвярком.

— А от паабяцалі крант змантыраваць раней на шэсьць дзён і змантыравалі. Спачатку падсьмейваліся над імі, а цяпер нават каторы і вучыцца ў іх.

---

[1]) Дарэчы. Зараз таварыш Фастаўскі кіруе, між іншага, работай па напісаньню гісторыі магнітагорскай ЦЭС.

Я гляджу, як хлапцы спрытна варушацца ў густым жалезным перапляценьні падвесных рэйкавых шляхоў, як у іншым месцы крышку воддаль—узьнімаюць угору пры дапамозе „сьвячы“ цяжкі каркас пад'ёмніка, як дзяўчына гадоў васемнаццаці прылажвае да слупа электрычны кабель... як—нібы ў чароўнай казцы увесь вялізарны, прасторны і размашысты паўстае перад нашымі вачыма пракатны цэх, гонар камсамольцаў-будаўнікоў.

Школа... Гэтае слова само просіцца на пяро, але гэтага мала—лепш і правільней: „вытворчасьць“ людзей, **новых** людзей.

І сапраўды:—

З навакольных станіц, з далёкіх украінскіх і беларускіх вёсак, з Паваложжа, з сярэдняга Сібіру—сотнямі, тысячамі, дзесяткамі тысяч яны прыходзяць у Магнітагорск. І ён бярэ іх у магутныя свае рукі, вызваляе іх ад прынесеных з аднаасобнай вёскі звычаяў і ўстояў—выкараняе дробнаўласьніцкія інстынкты. Вы можаце ўявіць магутнасьць выхаваўчай сілы гэтага гіганта, калі ён перарабляе, ломіць, фармуе нанава нават замежных спэцыялістаў з клясава-супроцьлеглага нам лягеру. Якое-ж вялікае ўзьдзейнічаньне ён павінен рабіць—і робіць!—на сялянскага хлапца! Інстынкты ўласнасьці пачынаюць рушыцца, рассыпацца і ва ўсёй істоце яго паўстаюць—паступова, але ўпарта—новыя разуменьні, разуменьні сьвядомага калектывізму, шырыцца разумовы кругагляд, нараджаецца новая—сацыялістычная—этыка. Праходзіць час і сялянскага хлопчука не пазнаць: ён нахіліўся над складаным рысункам дэталяў, ён выступае на брыгадным сходзе і робіць рацыяналізатарскія прапановы, яго пасылаюць ФЗВ пазнаваць тонкія існасьці тэхналёгіі мэталю, ён заклапочаны выпускам насьценнай газэты, ён—нарэшце—пры атрыманьні камсамольскага білету абяцае біцца за пераходны сьцяг.

Людзі нашага ўзросту працуюць, аддаючы ўсіх сябе працы, разуменьне „заработак“ зьнікае з псыхікі, а часьцей і трывалей атайбоўваецца ў ёй: **наша** „Камсамолка“, **наша** брыгада, **мы** не аддадзім сьцяг. Проста—бяз таннай патэтыкі некаторых няўдак рыфмачоў—яны кажуць: **наш Магнітабуд**.

І вось, як піша пра гераічную работу магнітагорцаў-камсамольцаў, адзін з іх, таленавіты паэт-камсамолец Барыс Руч'ёў [1]:

> Мятель пошла от полночи, колючая да острая,
> Дробясь в стекло прожектора кисейной белизной.
> И стерлинги водили мы под греющую росторопь
> И с лиц сдирали д крови сжигающий озноб.

---

[1] У апошні час паэт выдаў першую сваю кніжку „Вторая родина“, дзе з надзвычайнай выразнасьцю і мастацкай прастатой паказаў прыход сялянскага хлапчука на рыштаваньні Магнітабуду, пераробку ягонай псыхікі і тое, як гэты хлапчук стаў г роем—ударнікам сацыялістычнай будоўлі. Гэта—лірычная тэма ўсёй кніжкі. Але падрабязьней пра яе—у іншым месцы.

Гэта—тэма гераічных будняў,
калі рабіўся рукамі маладых складанейшы рамонт домны №1, прычым домна ішла поўным ходам;
калі выратавалі вялізарны экскаватар ад раптоўна ўзьнікшага пажару;
калі, напружыўшы нэрвы і мускулы, мантыравалі мэханізмы, каб пусьціць мартэн у тэрмін...
І, ня гледзячы на тысячы цяжкасьцяй,—выстаялі, перамаглі:

> Рассвет явился нарочным. ускоренным отменно,
> Сухой, как полагается при кованной зиме.
> Мы стерлинги передали восьмичасовой смене,
> И ковш приподнял с грохотом семьсот второй замес.

Сямсот другі замес...
Сусьветны рэкорд.
Аўтары яго—людзі нашага ўзросту.

## Лірычнае інтэрмэццо

Уявеце сабе: чалавек з лірычнай душой. Ён прылiпае да вагоннага вакна, ён цярпліва жмурыць вочы ад стромы пылу і сонца. Ён прастойвае ля вакна праз увесь дзень: цягнік ідзе па незнаёмых і чароўных у сваёй нечаканасьці шляхах.

Перад ім:
насоўваецца пахмуры самарскі вакзал;
як піва, вал за валам, густа бурліць вялікая Волга;
прыкметы Уфы—першыя горы парушаюць стэповы ляндшафт;
перавал Златауст—Міас, гара гарыць электрычнасьцю, горы падступаюць да самых вакон, і цягнік выгінаецца, як вуж.

Цягнік бег ад навальніцы, якая засьпела яго ў Эўропе. Цягнік ляцеў на Азію, цяжкія хмары перапаўзалі праз ланцугі гор, абвісаючы шкумацьцём. Цягнік абагнаў навальніцу і ў вагоне пасьвятлела.

Тады прыходзіць русявая дзяўчына, мілагучным голасам апавяшчае: пасажыры могуць смачна павячэраць у вагон-рэстаране.

Чалавеку з лірычнай душой ня ўседзець. Ён прыходзіць у сваё купэ, колькі хвілін моўчкі пазірае на спадарожніцу, важачыся нешта сказаць. Спадарожніца—спартсмэнка-хакэістка—нецярпліва прыўзьнімае бровы, нібы моўчкі пытаецца: у чым-жа справа?

— Пойдзем вячэраць.

Яна нацягвае на майку жыкетку (колер электрык), сьпехам прыглажвае валасы, і вагон пачынае блытаць іхнюю хаду.

Потым прыходзіць ноч: сіняе сьвятло электрычнай лямпы, уласны адлюстровак у люстры, стэп за вакном, спакойны сон спадарожніцы...

На магнітагорскім вакзале, сярод тлуму таварных вагонаў, чалавечай мітусьні, рамізьніцкага гармідару, трымаючыся рукой за дзьверцы аўто, спадарожніца кідае на разьвітаньне:

— Прыходзь... це... увечары... Сёмы вучастак, вуліца 15, барак 30... Да спатканьня!

Трымаючы перад сабой баул, ён разьвітальным позіркам хоча працяць пыл, што густой заслонай атуліў аўто.

Потым пачынаецца магнітагорскі дзень турыста.

Ён аглядае руднік. „Адзіны ў сьвеце, на паверхні зямлі“, кажа яму інжынэр, і чалавек аднатоўвае ў блёк-ноце: „Адзіны ў сьвеце“... Ён хутка даведваецца, што руднік падзелены на чатыры гарызонты, што працуе тут шэсьць экскаватараў—„Марыён“, а ўсіх неўзабаве іх будзе восем, што выбух робіцца пры дапамозе аманалу, што, прыкладам, за сёнешні дзень першая зьмена дала рэкордную здабычу руды—1300 тон, перакрыўшы на гэтую лічбу норму.

— А колькі чалавек у зьмене?—каб падтрымаць гаворку і выявіць ініцыятыву, пытаецца чалавек з лірычнай душой.

— Сорак чалавек.

Потым ён прагна п'е квас шклянку за шклянкай, і буйны пот пакрывае ўсё ягонае цела. Ён праходзіць усе гарызонты—зьверху ўніз, колькі часу назірае за прагнымі і цэпкімі шмат-тоннымі прыгоршчамі „Марыёну“, мінае бліжэйшы пасёлак, які, жартуючы, празвалі „Шанхай“ (тут—мазанкі, што нагадваюць фанзы), і гэтая мянушка прыляпілася трывала,—ён—змучаны пераходамі, вышынямі, сонцам, уражаньнямі—прыходзіць у горад.

І вось—вечар.

У блёкноце ён знаходзіць: сёмы вучастак, вуліца 15, барак 30. Ён апранае чыстую кашулю, прыглажвае валасы, паліваае адэкалёнай насоўку. Ён выходзіць з готэлю, і прахладны вецер начы ўдарае яго ў твар. Ён накіроўваецца на росшукі патрэбнага вучастку, мэлянхалічна апусьціўшы галаву. Прадчуваньне асалоды, творчыя меркаваньні, пляны, пляны, пляны мрояцца ў думах.

Раптам рэзкі сьвіст прыводзіць яго ў одум. Ён усім тулавам падаецца назад, і з лёгкім вурчаньнем вокамгнена перад здэганаваным ягоным абліччам імчыць цягнік. Ён яшчэ робіць крок назад. Ён ледзь-ледзь пасьпявае выпрастацца нярухома на месцы: за яго сьпіной чуецца сьвіст і новы цягнік адсякае яму дарогу назад. Ён на момант заціснуты двума цягнікамі ў вузкай прасторы. Ён напружана ўзьнімае ўгору вочы і бачыць, як хвалюецца змрочнае неба барвянцовым зарывам, як па агністаму гэтаму дывану соўваюцца густыя пасмы шматкаляровага дыму. Гэта—дыхаюць домны.

Цягнік праходзіць. Чалавек бяжыць наперад. Побач з ім раптам узьнікае фээрвэрк электразваркі. Змрок фасфарысцыруецца безьліччу адценьняў—фіялетавых, сініх, жоўтых, рубінавых. Іскры электразваркі сыплюцца проста ў твар. На момант ён заўважае сілуэт чалавека, бліскаюць ягоныя акуляры і—асыпаючыся нібы бэнгальскія агні—фээрвэрк гасьне. Цемра робіцца густой і, здаецца, трывалай. Але адразу-ж фээрвэркі ўзьнікаюць утрох, пяці, дзесяці, трыццаці мясцох... зьлева, справа, у розных

напрамках. Па нявідочнай безьлічы магістраляў імчаць цягнікі, грузка падмінаюць каменьне шасэ аўто і трактары, вар'юецца зарыва і строма разнакаляровых дымаў снуе дзівоснае павуціньне на мятусьлівым спадзе неба. Лязгаючы ланцугамі, рыпіць, грамыхае, гурчыць экскаватар, сыплецца з барабанным боем каменьне на пляцформу... Ідуць, лятуць, імчацца цягнікі, грукацяць цагнікі, грукаціць, зьвініць, рыпіць, б'ецца мэталёвымі ўдарамі, усімі гукамі і гудамі—на самым магутным форто—магнітагорская ноч.

Абліваючыся потам, у расхрыстанай кашулі, згубіўшы кэпі, ён лявіруе паміж плоймай паравозаў, аўто, трактароў, аутавозаў, экскаватараў, паміж гурчаньнем і грукатам, паміж дымам і змрокам,

Як страла, ён пралятае праз магістралі.

Ён уздыхае—на поўныя грудзі.

Але новыя прыгоды спатыкаюць яго.

— Сьцеражыся!—крычаць яму з цемры і, адбягаючы ў бок, ён бачыць, як вялізарны пад'ёмны крант нясе дзесяцёхтонную сваю ношку, зьнікаючы ў цемры. Усьлед за пад'ёмнікам коціцца чарада ваганэтак, і голыя смуглыя сьпіны людзей рытмічна кратаюцца ў тахт хады.

Толькі цяпер ён заўважае, што наўкола, усё заліта сьвятлом, што зырка паблісквающь пад ліхтарамі хвалі возера і бяжыць, скрозь аблашчаны сьвятлом, праспэкт плаціны. Сотні, тысячы людзей—на машынах, над электразваркай, з рыдлёўкамі, перад ваганэткамі... сотні, тысячы людзей у суладным рытме працы.

Нарэшце чалавек асьмельваецца і пытаецца ў электразваршчыка:

— Таварыш, як выйсьці на вялікае шасэ?

— От так! – паказвае рукой управа, абеглым позіркам аглядаючы разхрыстаную постаць чалавека з лірычнай душой.

— І пяты вучастак там будзе?

— Не, там!—ківае ў супроцьлеглы бок.

Ён разводзіць здэтанавана рукамі:

— Дазвольце... пяты вучастак ля шасэ!.. дык можна ісьці і так?

— Куды вам трэба?—нецярпліва пытаецца электразваршчык.

— Мне?—узрадаваным голасам засьпяшаўся ён.—Мне трэба ў гасьцініцу, ля шостай пошты...

— Ну, от так і ідзіце, тут значна бліжэй. Паўз... вунь гэтыя вагоны, потым улева, паўз дэпо, потым направа, потым заводакіраўніцтва, потым...

... Так... паўз вунь гэтыя вагоны (ёсьць!), потым улева (няхай будзе так!), паўз дэпо (трапляе ў нейкі тунэль і раптам над самай галавой—баммм!—тунэль аказаўся гіганцкай трубой!), потым направа (дарогу пераразае калючы дрот, да крыві разадраў руку, а кашуля—чорт з ёю!), а дзе-ж, нарэшце, заводакіраўніцтва?!

І потым, праз добрую гадзіну, скінуўшы з сябе ўсё чыста, чалавек з лірычнай душой ірваў на кавалачкі аркушык з блёк-

ноту, дзе быў запіс: сёмы вучастак, вуліцца 15, барак 30... Потым сеўшы за хісткі стол, злавіўшы на сурвэтцы вялізарную зялёную мушыну і кінуўшы яе за вакно, чалавек разгарнуў жмут папер.

На першай-жа балонцы размашыстым нэрвовым почыркам было напісана:

„Тры гады таму назад тут быў голы стэп"...

Схапіўшы аловак, ён перакрэсьліў гэта, напісаўшы накаса ўласны прысуд: „Далоў трафарэт!"

## Сонечны дзень

Дзень прышоў яркі: жоўтыя сонечныя плямы леглі на ўсё— на белыя і ружовыя камяніцы, на эліпсы і ромбы пляцовак, на лякаваную паверхню аўто. Паветра, перагрэтае на ўсе сто, здавалася, шыпела, нібы расплаўлены чыгун. На вачох жоўкла трава і над ракой—воддаль—узьнімалася марыва выпарэньняў. Маладзенькія дрэўцы—веку ім гады два—стаялі маўклівыя і відаць было, што адзіны інтарэс іхнага існаваньня: вады, вады!

Вось які яркі дзень панаваў над усёй плошчай сацыялістычнага горада, калі мы—утрох—перасякалі пляц аднаго з „кварталаў", бойкую вядучы гутарку пра пэрспэктывы будаўніцтва. Перад гэтым мы азнаёміліся з генэральным плянам пабудовы сацыялістычнага горада, з дэталямі гэтага пляну і было—шчырае слова!—дужа лёгка, упэўнена і прыўзьнята і надвор'е выдавалася не гарачым, а проста сонечным. А плян, які ажываў пры сьціслых тлумачэньнях інжынэра, быў сапраўды грандыёзны, і хоць добра ведалі мы, што будаўніцтва „першай чаргі" разьлічана на дзесяць год, але ўсе адзінаццаць „кварталаў" гэтага грандыёзнага горада ўяўляліся нам пабудаванымі і заселенымі 240 тысячамі рабочых... і—чуеце!—зьвініць трамвай, агінаючы эліпс пляцоўкі. Аднак, адчуваньні адчуваньнямі, а наўкола тым часам пульсавала, ішло трапяткое жыцьцё будаўніцтва: ішлі ваганэткі, нагружаныя чатырохкутнікамі „бэтоннай пены", з пляцформаў таварнага цягніка згружалі вапну, пад меткім ударам мякка ўразаўся ў шпалу „кастыль", арцель муляроў у сініх спэцоўках ішла на зьмену другой, паволі поўз угору транспарцёр... І ўсім гэтым кіраваў чалавек, будаўнік, ударнік.

— Вось з гэтага і пабудаваны нашыя дамы,—кладучы руку на груд „бэтоннай пены", кажа сакратар будаўнічай камсамольскай ячэйкі.—Яны лёгкія, але трывалыя!—ён прыўзьнімае аднэй рукой вялікую прызму „бэтоннай пены", усьміхаючыся пры гэтым.

Не, нічога не паробіш з фантазіяй, не заляйцаеш яе, калі ёсьць рэальная падстава для гэтай фантазіі! І добрая яна—фантазія—якасьць. Дамо ёй волю.—

Раніца. Здалёк, з заводзкай пляцоўкі, узьнікаючы суладна, гудуць гудкі: пад'ём. Вокны з шумам расчыняюцца і ў пакой напорна ўрываецца ранішняя сьвежасьць. Плаўна праплывае па бліскучым асфальце адмысловае аўто, апырскваючы асфальт

сьцюдзёнай вадой. Яркай зелянінай гарэць газоны. І—парушаючы ранішнюю сьціхоту, сьцьвярджаючы дзень—ажывае гучнагаварыцель: Альлё! Гаворыць Магнітагорск. Падрыхтуйцеся да ранішняй фізкультзарадкі.

І вось—на шматлікіх бальконах, ля расчыненых вокнаў і дзьвярэй узьнікаюць насельнікі горада. Іхны ўзрост? На гэтае запытаньне цяжка адказаць: ва ўсіх аднолькава напружаны біцэпсы, аднолькавай яркасьцю зьзяе здаровае цела, у суладным рытме—пад каманду магутнага радыё-інструктара—усе робяць рухі нескладанай, эканомнай, але шматграннай фізкультзарадкі:—уздых—выдых, раз-два. Не пра ўзрост трэба гаварыць: тут добраякасны падбор чалавечага матар'ялу—ня толькі біялёгічны, але і клясавы. У гэткім выпадку, мне здаецца, няма вялікае розьніцы паміж трыццацьмі і дваццацьмі гадамі.

Што можа быць лепшага за здаровае чалавечае цела?

Эўрапэйская буржуазія дужа добра разумее, што здаровае цела а, значыцца—і здаровы дух—гэта вялікія якасьці, гэткія якасьці якіх не хапае буржуазіі, але якія ёй патрэбны. Вазьміце літаратуру фашызму і вы ўбачыце, што яна—як і мастацтва—ўсё больш і больш паўстае супроць інэртнасьці і адрузьлеласьці прадстаўнікоў сваёй клясы (раман Клемана Вотэля „Я надзвычайна буржуа“, уся творчасьць Жана Прэва), усхваляючы ў самых патэтычных і прыўзьнятых словах спорт, дужыя біцэпсы, сільную волю, жорсткасьць (яскравы і, бязумоўна, таленавіты прадстаўнік гэткага роду літаратуры—француз Поль Маран і асабліва яго раман—„Левіс і Ірэн“). Але—фактычна—гэтыя фашыстоўскія паэты абвяшчаюць фашызм—здаровым і раласным, а фашыстоўскую дыктатуру—дыктатурай здаровага цела і духа. Зразумела, гэта толькі „дэклярацыя“, дульцынаваньне сапраўднасьці прычым настолькі-ж бяззгрунтоўная і ідыёцкая наколькі і красамоўная. І наадварот—наша савецкая рэчаіснасьць выхоўвае здаровага чалавека, цела трэніруецца і абростае біцэпсамі ў правільна наладжаных вытворчых працэсах і гадзінах адпачынку. Сотні, тысячы, мільёны людзей нашай краіны на шматлікіх стадыёнах і водных станцыях здаюць нормы і атрымліваюць значок „Гатовы да працы і абароны“—і гэтыя людзі чакаюць сваіх песьняроў. І калі Гайнэ мог сказаць пра жаночае цела, што яно—песьня песьняў, дык тым больш здаровае цела стваральнікаў сацыялізму заслугоўвае большых, незапазычаных у біблейскага Саламона мастацкіх характарыстык.

Але вось—першыя людзі пашлі на вуліцах сацыялістычнага горада. Ладна апрануты жанчыны ў блакітныя купальныя адзеньні, мужчыны ў гэткіх-жа блакітных майках і белых трусах. Сьветлаблакітны і бялютка-белы колер—самыя гігіенічныя. Гэта ідуць на ранішняе абмываньне—перад работай.

Ранішняе „абмываньне“... Гэтае слова зноў нагадвае біблейскія тэрміны... але гэта далёка ня тое, бо магнітагорскія рабочыя—носьбіты здароўя і да таго-ж—найбольшыя атэісты. І шчась-

лівыя дзеці магнітагорцаў: яны ня ведаюць і, бадай, ня будуць ведаць, што за дзіўная рэч—царква, сынагога, мечэць, што за экзотычная істота—бог. Магнітагорск, як і горад Дніпрэльстану, ня мае царквы і іншых падобных публічных устаноў, і тут, бадай, трэба гаварыць пра новую - сацыялістычную этыку.

Гэтак пачынаецца дзень у сацыялістычным горадзе. Дзень у працы, у трапяткой напружанасьці сходаў, нарад і паседжаньняў, магнітагорскі дзелавы дзень.

Трэба думаць, што сталоўкі Нархарчу будуць у сацыялістычным горадзе працаваць беззаганна... але тут ужо не фантазія, а рэальнасьць: цяпер яны працуюць ня дужа спраўна. Няпрыемны, але рэальны факт.

А покуль што—за тры гады будаўніцтва сацгорада ўзьведзены тры „кварталы"—карпусоў гэтых дзевяноста, часткова заселеных. Мы заходзім у нова-адбудаваны жыльлёвы корпус, прыглядаемся да афарбоўкі сьцен, вымяраем плошчу, правяраем кубатуру кватэр, памеры вакон. Можна падумаць, што мы экспэрты камунальнага аддзелу, але сама абстаноўка штурхае на руплівае азнаямленьне, на дзейнасьць. Праз некаторы час— і першая чарга будаўніцтва будзе скончана і ў асфальце, у зяляніне, у ружовасьці і белі камяніц, у яркіх сонечных фарбах—паўстане гэты новы, ні кім да нашай эпохі нябачаны—сацыялістычны горад.

... І ўспамінаецца мне апошні вечар у Магнітагорску. Гэты вечар прышоў пасьля плённага дню, калі аглядалі мы будаўніцтва сацгорада і адчуваньне сонечнасьці і бадзёрасьці засталося на шмат дзён, нібы дзейнічаньне цэлебнай мінэральнай вады. Мы стаім на гары і перад намі раскінулася вялізарная пляцоўка камбінату з магутнымі сілуэтамі домнаў, са стройкімі комінамі мартэнаў, з прысадзістымі чатырохкутнікамі коксахэму, раскінулася пляцоўка, спрэс залітая электрычнасьцю, зарывам домнаў і барвянцам захаду. Справа ад нас пабліскvalі, нібы зоры, агні на рудніку, зьлева захлынаўся ў сьвятле сацгорад, а воддаль пабліскvалі нешматлікія агні пасёлку Магнітнага. Магутная сымфонія, вартая рукі Бахаў і Бэтговэнаў, напаўняла начное паветра. Бязумоўна, перад намі расьцілалася панарама сацыялізму.

— Вось яна—другая бацькаўшчына,—міжволі напрошваліся словы Барыса Руч'ёва.

І мірсьцілася перад вачыма вялізарная краіна Саветаў, што зрабіла буйны свой крок у сацыялізм, сапраўдная адзіная бацькаўшчына, „другая" для тых, хто страціў, адмовіўшыся назаўсёды, ад бацькаўшчыны-фікцыі, ад „бацькаўшчыны" прыгнёту, тугі і гвалту, сапраўдная сацыялістычная бацькаўшчына.. у сьвятле, у грохаце, у грымотах будаўніцтва.

Магнітагорск—Менск,
чэрвень-ліпень,
1933.

ЦІМ. ЗАРЭЧНЫ

# БАБІНА ЛЕТА

Кароткае бабіна лета—самая лепшая пара году: высока ў небе плывуць кучаравыя і пярэстыя хмары, над самай зямлёю ляціць белае і лёгкае, як лябяжы пух, павуціньне, з кляноў і бяроз падае лісьце—першыя вяшчуны блізкае восені... Недзе далёка тарахціць малатарня, з-за лесу чуецца гул трактару. Сонца, ласкавае і спакойнае, стаіць над самым лесам, і ствалы дрэваў ад яго праменьняў здаюцца ахопленымі полымем. Калі-ж павярнуцца тварам да сонца і пайсьці насустрач яму, іржэньне здаецца пераплеценым драцяною сеткай, якой ні пачатку, ні канца. Ідзеш пад сонца, глядзіш на падпалены промнямі лес, на павуціньне, што ляціць над палямі, на хмары, што высока плывуць над зямлёю, і думаеш, што ты—частка гэтага сонца і хмар, гэтага лесу і палёў, і табе робіцца радасна і лёгка на сэрцы.

Бабіна лета 1929 году было асабліва прыгожым. Я ляжаў у цяню нізкарослае бярозы і глядзеў, як заходзіла сонца. Быў выходны дзень і на торфараспрацоўках ня было ніводнага чалавека. Роўныя штабелі торфу ляжалі адзін за адным, і ямкі, адкуль іх выкапалі, былі падобны на акопы. Тарфяньнікі—мужчыны і жанчыны—адпачывалі, хто як: старэйшыя ляжалі на нарах ў бараках, сярэдніх год сядзелі на лавах супроць клюбу і ў самім клюбе, маладзейшыя—дзяўчаты і хлапцы—хадзілі парамі і групамі па полі і лесе. Я ляжаў на ўзгорку, блізка лесу, і мне было відаць, як яны жартавалі паміж сабой і сьмяяліся. Іхныя фігуры на бязьмежным прасторы поля здаваліся маленькімі кропкамі, але ўсё-такі я бачыў, як яны разьбягаліся адна ад аднэй і зыходзіліся, а па тым, як яны махалі рукамі і паварачваліся, можна было меркаваць, што іх займае нешта вясёлае.

Хутка я даведаўся пра ўсё. Марына з-пад Кіева брала шлюб з Макарам з-пад Менску. Была яна маладая і рослая, твар у яе быў загарэлы і мужны, з глыбокімі чорнымі вачыма, на тонкіх вуснах заўсёды гарэла ўсьмешка. Ён-жа, Макар, быў значна старэй за яе, кургузы, з шэрымі вачыма, хітры. Марына лічылася лепшай ударніцай на рабоце, гонарам дзявочае брыгады; Макар-жа—гультаем, абібокам, ганьбай сваее брыгады. Не зразумела было каханьне Марыны да Макара, і дзяўчаты з хлапцамі, калі даведаліся пра яго, сьмяяліся з іх, як можна сьмяяцца з неча-

канага і сьмешнага параўнаньня. Пра гэта яны і расказвалі мне, калі ўзыйшлі на ўзгорак.

У наступны выходны дзень мы гулялі чырвонае вясельле. Пачалося яно ўраньні і цягнулася да глыбокае начы. Танцавалі на ім хлопцы і дзяўчаты з-пад Калугі і Разані, з-пад Кіева і Харкава, з-пад Менску і Полацку, дзяўчаты і хлопцы шмат якіх рэспублік танцавалі на гэтым вясельлі. Было яно вясёлае, радаснае, шумнае і сяброўскае. Гарманіст з-пад Курску граў на гармоніцы, а хлопцы і дзяўчаты выстуквалі такт на падлозе. Нават старыя і тыя ня ўтрымаліся; пакінуўшы пустымі нары ў бараках, яны на ўсю праўду выбівалі „барыню“ і „рускага“. Пасьля танцаў пелі песьні—рускія, украінскія, беларускія; у гэтых песьнях на розныя лады славілі маладую з маладым. Самі яны, маладыя, былі вясёлыя і, здавалася, шчасьлівыя. Ня ведаю, што перажываў у той дзень Макар,—хітрая яго ўхмылка глыбока хавала сапраўдныя пачуцьці; пра Марыну-ж можна было сьмела сказаць, што яна была самай шчасьлівай. Калі яна слухала ўрачыстую прамову сакратара камсамольскай ячэйкі, а за ім рабачкома, шчокі яе рабіліся чырвонымі, а ў вачох загаралася радасьць.

Дзіўнымі здаліся нам паводзіны Марыны пасьля вясельля. З добрай работніцы яна зрабілася падобнай да Макара. Спачатку дзяўчаты нічога не казалі ёй пра гэта, а калі хлопцы пачалі сьмяяцца з іх, што яны нібыта пачынаюць здаваць тэмпы, дзяўчаты ня вытрымалі і сказалі Марыне, каб яна падцягнулася ў рабоце. Гэта Марыну ўзлавала, і яна нечакана крыкнула:

— Пляваты міне на роботу. У мінэ тэпэр більшыя справы.

У яе голасе была пагарда і злосьць, самастойнасьць і ўпэўненасьць у нечым сваім, затоеным ад сяброўак. Гэта пакрыўдзіла дзяўчат, але яны не падалі знаку, што злуюцца на яе: разумнымі словамі ўгаварвалі яны Марыну зрабіцца такой-жа сумленнай на рабоце, якой была яна да вясельля.

— Гэта цябе Макар зьбіў з панталыку,—казалі яны ёй.—Гэта ён цябе навучыў гаварыць так. Мы заўсёды казалі табе, што ня варта ісьці за яго замуж.

— Міўчаты аб Макару!—крыкнула Марына і так раззлавалася, што дзяўчаты адвярнуліся ад яе і пачалі моўчкі працаваць.

Маўчала і Марына. Яна нібыта не заўважала дзяўчат. Працавала з імі, сьнедала, палуднавала і вячэрала разам, позна ноччу прыходзіла ад Макара,—і ўсё гэта рабіла моўчкі, як нямая. Праўда, працаваць пачала яна лепш, але ўжо ня было таго запалу і сяброўства, як да вясельля. Здавалася, што і лепш працаваць пачала яна таксама з нейкай затоенай ад дзяўчат, вядомай толькі ёй аднэй, думкай.

І вось нечакана ўсё зьмянілася. Не зьмянілася, а раптоўна абарвалася, разьбілася ўшчэнт: за тыдзень да сканчэньня работ Макар у потайкі ад Марыны ўзяў разьлік і ўцёк ад яе. Лепшага ад яго і чакаць нельга было, але па Марыне гэта ўдарыла, як пярун па маладой бярэзінцы. Яна хадзіла, як апантаная, нікога

ня слухаючы, нічога не разумеючы. Для яе ўсё навакольнае зрабілася варожым. Нават рэчы—і тыя Марына лічыла за сваіх ворагаў: ідучы па балоце, яна спатыкалася на купіну і валілася, а калі ўскаквала, зраўноўвала яе нагамі з зямлёю; думаючы ўвесь час пра адно, яна не заўважала, што перад ёю стаіць рыдлёўка, і зноў спатыкалася на зямлю, а пасьля хапала рыдлёўку ў рукі і кідала яе на ўсю сілу ў балота. Некаторыя хлопцы здалёк кпілі з яе, але дзяўчаты спагадвалі ёй, угаварвалі ня думаць пра Макара, забыцца на яго.

— Міўчаты аб Макару!—зноў крычала Марына, сьціскаючы ад злосьці свае белыя роўныя зубы.

Хутка я пакінуў торфараспрацоўкі, і ні пра Марыну, ні пра Макара нічога ня чуў амаль чатыры гады. Я быў упэўнены, што Марына ня жыве з Макарам, але дзе яна і што з ёю—нічога ня ведаў. Для мяне, як і раней, заставалася незразумелым, якая прычына прымусіла Макара кінуць такую прыгожую і добрую дзяўчыну, а яшчэ больш заставалася незразумелым, чаму Марына вышла замуж за кургузага, нічым нявыдатнага чалавека. Каханьне? Але-ж яно, як і ўсё на сьвеце, нечым абумоўлена, і вось гэтая абумоўленасьць для мяне заставалася невядомай. Нечаканы выпадак дапамог мне разблытаць гэты, здавалася-б просты клубок.

У ліпені 1933 году ў Менску адбываўся зьезд калгасьнікаў. Я сядзеў у залі і слухаў прамоўцаў. Яны адзін за адным апавядалі пра калгасныя справы. Я з прагнасьцю ўслухоўваўся ў іхныя словы і бачыў, адчуваў, як ламаецца старая вёска з сваім галоўным слупам—прыватнай уласнасьцю, як будуецца новая, сацыялістычная вёска—з грамадзкай уласнасьцю, з новымі ўзаемаадносінамі паміж людзьмі, з новаю павагаю да працы—цяжкой і пакутнай у мінулым, радаснай і жаданай у сучаснасьці. Гэтая ломка патрабуе нябачанай у сьвеце энэргіі, яна праходзіць у суровай клясавай барацьбе, але ўсё такі ўласнасьць здае, адступае, новы пераможны лад робіцца гаспадаром.

Як зьмяніліся людзі ў вёсцы! Не апазнаць іх: учора пакорлівыя і забітыя, сёньня яны сьмела ўзыходзяць на трыбуну і перад усёй краінай гавораць пра сваю работу. Вось сялянка-калгасьніца напалову па-украінску, напалову па-беларуску гаворыць пра свой калгас. Яна апавядае, якую шкодніцкую работу праводзілі кулакі, і як жанчыны, разам з мужчынамі выкрылі іх і прагналі з калгасу. Я пільна ўглядаюся ў твар жанчыны і ледзь не ўскакваю з месца ад зьдзіўленьня: гэта ж Марына, тая самая Марына, што чатыры гады назад вышла замуж за Макара! Якім чынам апынулася яна на зьезьдзе? Дзе яна цяпер? Што прымусіла яе вярнуцца да Макара, жыць з ім, зусім не падобным да яе, чужым ёй?

Перад сканчэньнем паседжаньня, я вышаў у файэ і пачаў чакаць, калі будуць выходзіць дэлегаты. Я ўважліва ўглядаўся, баючыся прапусьціць Марыну. Сядзела яна недзе наперадзе,

а таму мне давялося чакаць вельмі доўга. Яна адразу апазнала мяне і бяз зьдзіўленьня прывіталася. Мы выйшлі з ёю на вуліцу.

Цікавую гісторыю расказала мне Марына. Я паспрабую перадаць яе, нічога не зьмяняючы і не дадаючы. Гэта гісторыя— праўдзівая, узята з самога жыцьця, такая-ж суровая, супярэчлівая і радасная, як наша жыцьцё.

Пасьля торфараспрацовак Марына паехала на Украіну, у сваю вёску. Чужой і варожай здалася ёй вёска. Адзінотнай адчула яна сябе ў ёй. Ні бацькі, ні маткі ня было ў Марыны, а радня адчуралася ад яе, як ад валацугі. Хацела Марына пайсьці батрачыць, як рабіла гэта да торфараспрацовак, але гаспадары, у якіх працавала яна раней, коса паглядзелі на яе, як на вар'ятку. У вёсцы арганізоўваўся калгас, і Марына першай запісалася ў яго. Гаспадароў, у якіх яна батрачыла ўсё сваё кароткае жыцьцё, раскулачылі і выслалі. Марына з радасьцю глядзела як іх высылалі з вёскі. Колькі крыўды і зьдзекаў сьцярпела яна ад іх, колькі сьлёз праліла за іхную сухую скарынку хлеба! Яна з радасьцю думала, што больш ня будзе плакаць цёмнымі начамі, ня будзе згінацца ў тры пагібелі, просячы работы на лета. Разам з радасьцю Марыну ахапляў смутак: недзе далёка ад яе быў Макар, а з ім—надзея на будучыню, на шчасьце. Хоць і пашла Марына ў калгас, але ня моцна верыла ў яго, затоена думала пра сваю ўласную гаспадарку. Сьмешна сказаць: батрачка, якая змалку служыла чужым, варожым для яе людзям, думала пра сваю ўласную гаспадарку! Недзе далёка ад яе быў Макар, а з ім разам—надзея на свой цёплы кут, на сваё маленькае шчасьце. На торфараспрацоўках Макар багатымі фарбамі маляваў будучае жыцьцё: ён выйдзе з калгасу, пабудуе сваю хатку на сваёй зямлі і яны будуць жыць—самі сабе гаспадары! Старая Макарава маці будзе даглядаць за іхнымі дзецьмі, якія неўзабаве зьявяцца на сьвет, самі-ж яны будуць працаваць на полі, вольныя, не ад каго незалежачыя, самастойныя. Якім прыгожым уяўлялася Марыне яе будучае жыцьцё! Свой, сваё, свае,—на колькі ладоў паўтарала яна гэтае хцівае, здрадніцкае слова.

Праз год, калі нарадзіўся Уладзік, Марына ня вытрымала і паехала шукаць Макара. Адрас у яе быў, але няправільны, не дакладны. Доўга блукала яна, пераяжджала з гораду ў горад, з вёскі ў вёску, але нарэшце такі знайшла калгас, у якім жыў Макар. Хата Макарава стаяла на кургане, у ліпах, і Марына, падыходзячы да яе, адчула ў грудзёх трапятаньне сэрца—радаснае і трывожнае. Уладзік, які да гэтага часу спаў спакойна на яе руках, без дай прычыны заплакаў, і Марына, каб спыніць плач дзіцяці, шчыльней укутала яго ў коўдру.

У хаце, у якую асьцярожна ўвайшла Марына, было чацьвера дзяцей, малы менш малога: два хлапчукі, большы і меншы, і дзьве дзяўчынкі, сярэднія. Хлапчукі нешта майстравалі ў запечку, дзяўчынкі з лялькамі на руках стаялі сярод хаты. Марына, калі ўбачыла дзяцей, падумала, што яна ня туды трапіла. Яна запы-

талася ў большага хлапчука, як завуць яго бацьку. Ён назваў імя Макара. Калючы мароз прайшоў па сьпіне Марыны, яна, каб ня ўпасьці, села на лаву. Уладзік зноў бяз дай прычыны заплакаў. Марына рашпіліла кофту і дала яму грудзі. У гэты момант у хату ўвайшла жанчына з дзіцём на руках—высокая, худая, яшчэ не старая, але ў маршчынах, напэўна маці гэтых чацьверых дзяцей. Яна моўчкі ўставілася сваімі вачыма ў Марыну. У поглядзе яе Марына заўважыла настарожасьць і глыбока схаваны спалох.

— Што табе трэба?—запыталася яна ў Марыны.

Голас яе быў жорсткі, грубы, і Марына замяшалася, ня ведаючы, што адказаць. Яна ў момант зразумела, што гэта Макарава жонка, і дзеці, што стаялі сярод хаты,—таксама Макаравы дзеці.

— Я да Макара,—машынальна праказала Марына, адымаючы ад грудзей Уладзіка, і раптам адчула, што ня трэба было гаварыць гэта, трэ' было папрасіць кавалак хлеба і выйсьці з хаты.

Жанчына, працінаючы позіркам Марыну, падыйшла да яе і плюнула ў твар. Потым, паклаўшы на лаву дзіця, жанчына схапіла качаргу і пачала біць Марыну. Яна біла яе і крычала. А Марына згіналася пад яе ўдарамі і хутала ў коўдру Уладзіка. У яе ня было нянавісьці да гэтае жанчыны, яна не адчувала болю ад яе ўдараў, была апустошанасьць і абыякавасьць, галаву сьвідравала адна думка: выратаваць Уладзіка, хутчэй ўцячы з хаты.... У сенцах, у якія нарэшце выскачыла Марына, яна сустрэла Макара,—ён глядзеў на яе чужымі, шырока адкрытымі вачыма, і Марына, нічога не сказаўшы яму, выбегла на двор.

Прытуліла яе Сара Остэр, сакратар камсамольскай ячэйкі. Яна ішла з праўленьня калгасу і бачыла, як з Макаравай хаты выбегла незнаёмая жанчына. Сара распытала яе, як яна трапіла ў калгас, і прыняла на сваю кватэру. Марына адразу адчула ў ёй сяброўку, блізкага сабе чалавека. Сара расказвала Марыне, што Макар жанаты ўжо дзевяць год на тэй жанчыне, якая біла яе. Пяцёра дзяцей, якіх бачыла Марына, Макаравы дзеці. Сам ён—апошні чалавек у калгасе, гультай і п'яніца. У калгасе ён трымаецца толькі таму, што старшыня калгасу,—Саўка Багданчык,—яго правая рука, першы абаронца.

Пры дапамозе Сары і Альжбэты Дэлегаткі, з якой пазнаёмілася Марына на другі дзень, яна пачала працаваць у калгасе. Разам з жанчынамі Марына выбірала лён і бульбу, буракі і капусту, малаціла жыта, ячмень і пшаніцу. Шмат сяброван знайшла яна сярод калгасьніц, але першымі яе сяброўкамі былі, Сара Остэр і Альжбэта Дэлегатка. Дэлегаткай Альжбэту звалі таму, што яна сапраўды заўсёды была дэлегаткай, бой-бабай, як дражнілі яе некаторыя мужчыны, асабліва ласы на кепікі Макар. Адзінаццаць год яна была ўдавой, у яе быў трынаццацігадовы сын, памоцнік кіраўніка піянэратраду. Муж яе, Зьміцер Красьнеўскі, быў расстраляны ў дваццатым белапалякамі, і Альжбэта дала сабе цьвёрдае слова працягваць яго справу. Была яна сутулая,

заўсёды задуменая, сур'ёзная і чулая. Марына, гледзячы на яе, думала, што гэта яе сапраўдная маці.

Прайшоў тыдзень, у калгасе быў скліканы сход, на гэтым сходзе калгасьнікі пастанавілі выгнаць з калгасу Марыну. Гэтага ніяк не чакалі ні Альжбэта, ні Сара, яны абурыліся на калгасьнікаў, а яшчэ больш на Багданчыка і Макара, якія былі ініцыятарамі гэтае пастановы. Багданчык склікаў на сход адных мужчын, сваіх прыхільнікаў, і прапанова выгнаць з калгасу Марыну ня выклікала супярэчаньняў. Альжбэта і Сара разам з сакратаром парт'ячэйкі, які, даведаўшыся пра гэты выпадак, прышоў з сельсавету ў калгас, абвясьцілі пастанову сходу няправільнай, зробленай не па закону. На сходзе, на якім прымалася прапанова Багданчыка, ня было нават і паловы калгасьнікаў. Большасьць калгасьніц, калі дачуліся пра пастанову сходу, таксама сталі на бок Марыны.

Быў скліканы другі сход. На яго прышлі ўсе жанчыны, як адна, нават старая бабуля Арына і тая захацела падаць свой голас на абарону Марыны. Аднагалосна была ўхвалена пастанова: Марыну прыняць у калгас, а Макара, як падкулачніка, гультая, п'яніцу і распусьніка, выключыць з калгасу. За гэту пастанову галасавала нават Аўдуля, жонка Макарава, і Саўка Багданчык— старшыня калгасу. Аўдуля пасьля сходу падышла да Марыны і, просячы прабачэньня, пацісьнула ёй руку, як сяброўцы.

— Няхай былое быльлём зарасьце,—сказала яна Марыне.— Я ня жыла з ім, а толькі капцела. Гэта не чалавек, а зьвер. Ён умеў толькі біць мяне ды дзяцей рабіць... На гэта ён здатны быў. П'янстваваць, у карты гуляць, з зладзеямі сяброўства вадзіць,—гэта яго справа. Прападзі ён пропадам, муж такі!—скончыла Аўдуля на разьвітаньне.

Саўка Багданчык, які таксама галасаваў за прыняцьце Марыны ў калгас, меў затоеную думку захаваць свой аўтарытэт, як старшыні калгасу. Галасаваць супроць ня было мажлівасьці, і Багданчык з двух бед выбраў меншую: ён далучыўся да большасьці. На сходзе Багданчык біў сябе ў грудзі, прызнаваў памылку, і шмат хто з прысутных паверыў яго шчырасьці. Паверыла яму і Марына, і Сара, і Альжбэта, і нават сакратар парт'ячэйкі сельсавету. Багданчык паціраў рукі ад здавальненьня.

Увосень, калі пачаліся загатоўкі, Марыну абралі ўпаўнаважанай па калгасе. Яна хадзіла разам з камісіяй па дварох, агітуючы здаваць хлеб. Саўка Багданчык першым павёз збожжа на станцыю. Камісія зайшла ў яго клець, каб праверыць, колькі ў яго засталося хлеба. Клець ламілася ад збожжа. У хаце пад печчу стаяла некалькі скрынак жыта. Пад падлогай стаялі бочкі пшаніцы. Пад павецьцю і ў хляве камісія знайшла каля трох соцен пудоў збожжа. У Саўкі Багданчыка быў схаваны ўвесь кулацкі хлеб. Акрамя таго, ён за лета і восень багата накраў збожжа ў калгасе. У той-жа дзень быў скліканы сход і Саўку Багдан-

Зарэцкі, як мастак, цалкам салідарызуецца з гэтай тэорыяй падсьвядомага. Ён, відаць, мяркуе, што ў гэтай тэорыі „ёсьць нешта глыбачэйшае“, а між тым тут-та і агаляецца дробнабуржуазная абмежаванасьць яго „глыбіні“.

Па поваду „гульні ў супярэчнасьці“ ў Прудона Маркс пісаў:

> „Вырашэньне сучасных пытаньняў заключаецца для яго не ў грамадзкім дзеяньні, але ў дыялектычных „вращениях“, якія адбываюцца ў яго галаве“. [1])

Гэта можна сказаць таксама па адрасе Зарэцкага.

Але Маркс ускрывае таксама клясавыя карэньні падобнага атоежсамліваньня супярэчнасьці“ там-жа ў наступных словах:

> „Такі дробны буржуа атоежсамлівае супярэчнасьць, таму што супярэчнасьць ёсьць аснова яго істоты. Ён сам нішто іншае, як грамадзкая супярэчнасьць увасобленая ў дзеяньні“.

І гэта таксама можна сказаць па адрасе Зарэцкага

Таму заўсёды ўспамінаецца „самовар над прорвой“, калі маленькія „павятовыя герої“ Зарэцкага гавораць аб „жудаснай і чароўнай прорве“, аб „бяздоньні“ сваіх супярэчнасьцяй і г. д.

Але справа ня толькі ў ідэалізьме Зарэцкага. Зарэцкі адначасова „мэханіст“ у сваім разуменьні супярэчнасьці. Калі Зарэцкі хоча паказаць „жывога чалавека“, ён яго дае „з аднаго боку“ і „з другога боку“. З аднаго боку — розум, з другога — пачуцьцё. З аднаго боку — клясавае, з другога — біалёгічнае. З аднаго боку — „ружовы чад“, і „закінутыя назад аголеныя рукі“, а з другога — добрачынная любоў з... палітэканоміяй. Адным словам „з аднаго боку“—дабро, „з другога“—зло.

Пры чым гэтыя „два бакі“ мысьляцца Зарэцкім як дзьве „процілегланакіраваныя сілы“, механічна спалучаныя між сабою.

Так заўсёды мысьлілі і дробныя буржуа.

> „Дробны буржуа,—гаворыць Маркс,—падобна нашаму гісторыку Раўмеру, заўсёды бывае складзен з „з аднаго боку“ і „з другога боку“. Такі дваісты характар носяць яго эканамічныя інтарэсы, а таму і яго палітыка, яго рэлігійныя, навуковыя і мастацкія погляды, яго мараль, нарэшце ўся яго істота“ [2]).

Загана гэтага мышленьня ў тым, што дыялектыка замяняецца эклектыкай, дуалізмам. Замест дыялектычнага „адзінства ўзаемавыключаючых процілегласьцяй“ дробны буржуа бачыць разьмешчаныя побач „адзін бок плюс другі бок“.

Што атрымліваецца на практыцы ў рэзультаце такога мышленьня?

[1]) Ліст Маркса да Апенк[о]ва, 1846 г.

[2]) Ліст Маркса Швэйцэру, [1]865 г.

Ленін дае геніяльна-вычэрпваючы адказ на гэта пытаньне ў сваім артыкуле: „Яшчэ раз аб прафсаюзах“. Замест бухарынскай эклектычнай формулы: „прафсаюзы з аднаго боку—школа, з другога—апарат, з трэцяга—арганізацыя працоўных“ і г. д. Ленін дае дыялектычную формулу: „Ні з аднаго боку—школа, з другога—нешта іншае“, а з усіх бакоў пры данай спрэчцы, пры данай пастаноўцы пытаньня Троцкім прафсаюзы—гэта школа“... [1]). Бо дыялектычнае адзінства супярэчнасьцяй заўсёды мяркуе вядучае (у даных канкрэтных абставінах), асноўнае зьвяно.

Зарэцкі, як усякі дробна-буржуазны рамантык, ня здольны мысьліць дыялектычна. Як у свой час народніцкія рамантыкі разглядалі саматужнікаў (у капіталістычным грамадзтве) як суму двох бакоў—дрэннага і добрага, таксама дробна-буржуазны рамантык бачыць у сваіх героях чорную плюс белую душу, грэх плюс дабрачыннасьць, біалёгічнае плюс клясавае, розум плюс пачуцьцё. Вось чаму рамантычныя дробна-буржуазныя героі—гэта, як кажа Маркс, „рупоры духу времени“ на хадулях.

У сваім лісьце Ласалю Маркс асуджае рамантычную манэру пісаць вобраз суцэльнай фарбай „воодушевления, бо „гэта нудна, бо тут няма „шэксьпіраўскай жывасьці“. У чым сутнасьць гэтай заўвагі Маркса?

Камуніст—дырэктар Гай, адзін з герояў Пагодзінскай п‘есы „Мой друг“, па гэтаму поваду кажа:

„ Ученая писательница в очках... Вот бы ей сказать: Приходи вечером коньяк пить. Они же думают что новый человек это такой барбос, которому не бывает ни грустно, ни весело, вместо сердца у него подметка из синтетической резины.“

Але зьвярнеце ўвагу, што бальшавік—дырэктар Гай—гэта ня сума двух „процілегла накіраваных бакоў“: п‘яніца плюс цьвярозы; „ружовы чад“ плюс „добродетельная действенность“, сем‘янін плюс калектывіст, сумуючы Вертэр плюс „резвоскачущий“ камсамолец. Не, ён камуніст пэўнай гістарычнай фармацыі, і яго камунізм зьяўляецца вядучым зьвяном у яго мастацкім паказе. П‘янка, любоў, радасьць, сум, натхненьне, сумненьні—гэта не абстрактныя вечныя „дурныя“ і „добрыя“ бакі,—а канкрэтныя рысы пэўнага камуніста—Гая. Яго захапленьне—асаблівае, яго сум асаблівы, свой.

Думаю, што ў гэтым сутнасьць заўвагі Маркса. Думаю, што ў гэтым разуменьні дыялектыкі вобразу хаваецца мастацкі посьпех Гая, як дадатнага тыпу савецкай драматургіі.

Шолахаўскі кулак з „Поднятой целины“—Якаў Лукіч, на час як быццам-бы „врастающий искренно“ ў калгас, прывёў, як вядома, таго сяго з крытыкаў у зьдзіўленьне: ці не пайшоў тут Шолахаў па няправільным шляху паказу ўрастаньня кулака ў сацыялізм, праз яго (кулацкую) гаспадарчую жылку?

1) Ленін, т. XXVI, стар. 136.

А менавіта ў тым і заключаецца складанасьць гэтага вобразу' што ні аб якім урастаньні тут у Шолахава гутаркі няма. Калі кулак Якаў Лукіч захоплен гаспадарчым жыцьцём калгасу, ён не ўяўляе сабою сумы двух бакоў: кулак плюс працаўнік адданы гаспадарцы калгасу. Не, у яго гаспадарчым запале прасачваецца кулацкае разуменьне гаспадараньня. Такія „гаспадары" агітуюць за тое, каб раней забясьпечыць „наш калгас", а затым ужо здаць хлеб дзяржаве. Такія „гаспадары" скрозь і ўсюды—манэўр наступленьня клясавага ворага ў новых абставінах.

Можна было-б прывесьці яшчэ рад прыкладаў. І мкненьне Станіслаўскага разглядаць супярэчлівасьць вобразу, як мэханічную суму заганы і „іскры божай"—дабра і зла—нямінуча прыводзіць да лібэральнага гуманізму, калі „ў дрэнным шукаюць добрае" і да паклёпаў на рэвалюцыю, калі „ў добрым шукаюць дрэннае".

„Турок и деспот должны оставаться даже и тогда, когда они влюблены, все теми же турком и деспотом"—пісаў Лесінг у сваёй „Гамбургской драматургии".

Тут Лесінг правільна падкрэсьліў дыялектыку ўзаемапрасякненьня процілегласьцяй. Любоў дэспата не адлучана ад яго дэспатызму кітайскай сьцяной. Закаханы дэспат гэта ня сума двух бакоў: чалавечнасьці плюс дэспатычнасьці. Дэспат любіць, як дэспат,—падкрэсьлівае Лесінг. Гэта, зразумела, ня трэба разумець так, што вобраз дэспата павінен прадстаўляць адно толькі „чыстае" дэспатычнае. Гэта было-б „нудна і несправядліва," як казаў-бы ў падобным выпадку Маркс.

Але „Шэксьпіраўская жывасьць", паўтараю, не дасягаецца тым, што дэспату ўліваецца пэўная доза чалавечнасьці, шляхетнасьці, альбо калі рэвалюцыянэр у імя „шэксьпіраўскай жывасьці" накіроўваецца пасьля партыйнага сходу да „паненкі Раісы", „перажывае" там мукі супярэчнасьцяй паміж сацыяльным і біялёгічным...

Між тым іменна так Зарэцкі дае супярэчлівасьць вобразу—канфлікт паміж розумам і сэрцам, біялёгічным і клясавым, сямейным і грамадзкім.

Паміж розумам і сэрцам, біялёгічным і сацыяльным у Зарэцкага заўсёды ляжыць бяздоньне, праз якое ён перакідвае сюжэтныя мосьцікі.

Тое самае бяздоньне, якім імкнуўся ў свой час „пужаць" Леанід Андрэеў і аб якім Талстой казаў: „Ён мяне пужае, а мне ня страшна".

Вось з якім грузам ідэйна-творчых установак скрозь і ўсюды варожых сацыялістычнаму рэалізму апынуўся Зарэцкі перад сваёй задачай паказаць „Год вялікага пералому" ў беларускай вёсцы. Надыходзіла складаная творчая задача: „З гонарам пераможцы пераступіць цераз здраньцьвелы труп" рэакцыйнага мадэрнізму—так фармулюе гэту задачу сам Зарэцкі ў сваёй „Размове нязвычайнай шчырасьці".

## V.

У „Размове нязвычайнай шчырасьці“ Міхася Зарэцкага чырвонай ніткаю праходзіць думка аб пераемнасьці вобразу „шукальніка хараства“, аб мірнай эвалюцыі яго. Праз бальшавіцкае падпольле, грамадзянскую вайну, барацьбу з бандытамі, працу ў вёсцы, пaступова сюжэтна раскрываючыся, „шукальнік хараства“—„камісар з бледным тварам і блакітнымі лірычна-мяккімі вачмі“—прыходзіць на фронт калектывізацыі.

У сьвятле такой інтэрпрэтацыі руху вобразу — фронт калектывізацыі зьяўляецца толькі чарговым аб'ектам „новага, сьмелага захапленьня“ непапраўнага „шукальніка хараства“ Сымона Карызны – сакратара ячэйкі Сівецкага сельсавету (ён-жа ў мінулым Лясьніцкі).

Рухаючыя спрунжыны дзеяньняў Сымона Карызны на фронце калектывізацыі засталіся нібы-та тыя ж, што і ў папярэдніх „шукальнікаў хараства“:

„Я шчыра захапіўся веліччу гэтага гістарычнага зруху. Перада мною адкрылася цудоўнай красы пэрспэктыва і я цьвёрда пераканаў я, што знайшоў тое, што шукаў. Але пэрспэктыва была занадта блізкая і ў яе скарочаных маштабах надзвычайна цяжка было арыентавацца. Часамі здавалася, што трэба ступаць маленькімі крокамі, якімі звычайна падыходзіш да страшнага абрыву, а часамі хацелася сігануць адразу, адным рашучым і гіганцкім сігнем“...

Гэтая цытата ўзята з „Размовы нязвычайнай шчырасьці“ і ўложана ў вусны Лясьніцкага-Карызны, які трапіў на фронт калектывізацыі.

Як бачыце, па думцы Зарэцкага, гутарка ідзе толькі аб рамантычным „захапленьні веліччу“ і „цудоўнай красой“ фронту калектывізацыі. Паўтараецца нібы-та таксама старая славінская „ісьціна залатой адлегласьці“, што перасьцерагае „шукальніка хараства“ ад штодзённай, „занадта блізкай“ сувязі з рэчаіснасьцю. Блуканьне Карызны паміж кулацкай агентуры і лявацкімі загібамі тлумачыцца менавіта гэтай прыродай рамантыка, які, нібы-та, „траціць пункт“, сутыкаючыся „занадта блізка“ з рэчаіснасьцю.

Але няўжо вобраз сакратара ячэйкі Сівецкага сельсавету вычэрпваецца гэтай „вечнай прыродай“ рамантыка і „лішняга чалавека“? Няўжо-ж вобраз Карызны зьяўляецца толькі пера-апранутым Лясьніцкім?

Зарэцкі сам тут недаацэньвае Карызну, сам звужвае рамкі сваёй творчай пабудовы.

Нельга зразумець сутнасьці творчай перабудовы Зарэцкага, калі выпусьціць з-пад увагі, што тэматыку барацьбы за калектывізацыю папярэджвала „Падарожжа на новую зямлю“, „Крывічы“.

„Як робіцца хараство“—такі загаловак мае адзін з разьдзелаў „Падарожжа на новую зямлю“.

як філёзофстваваньне дурнога тону, пачынае знаходзіць палкі водгук у сэрцах паноў руйнавальнікаў машын. Шпэнглер пачынае выступаць у ролі прызнанага ідэолёга антымашынізму, антытэхніцызму, абкружаецца арэолам „нацыянальнага філёзофа“. Кніга Шпэнглера „Чалавек і тэхніка“, што выйшла у 1931 годзе, уяўляе сабой разгорнутуо пляцформу антытэхніцызму, адпавядае, як ня трэба лепш густу, разгубленай перад тварам нябачанага крызісу і растучага рэвалюцыйнага уздыму мас, замарожваючай прадукцыйныя сілы, разбураючай машыны буржуазіі.

Шпэнглер ганьбіць „травіяльны аптымізм“ тэхнічнай цывілізацыі, якая спадзявалася перакінуць на машыну праклядьце працы, вызваліўшы ад гэтага праклядьця чалавека. Тым часам машына ператварылася у сапраўднае праклядьце чалавека. З гэткай нянавісьцю гаварыць аб тэхніцы, як гэта умее рабіць Шпэнглер, можа толькі разьюшаны ідэолёг гінучага капіталізму, які дашоў у пошуках ратунку да разбурэньня машын. Шпэнглер, так, напрыклад, падае адносіны „матарыялістычнай рэлігіі“ да тэхнікі: „тэхніка вечна і непрахадзяшча, як бог-айцец: яна аслабаняе чалавецтва як бог—сын: яна сьвеціць нам—як сьвяты дух. І яе прыхільнікам зьяўляецца зачараваны прагрэсам мешчанін“ (Der Fortschhrinsphilister) новага часу [1]...

Шпэнглер прабуе даказаць усю марнасьць, усю бяспленнасьць „жрацоў матар'ялістычных рэлігій“ падпарадкаваць сабе прыроду міліярдамі конскіх сіл, ператвораных у машыну. Машына ня толькі не дае чалавецтву палегкі, але, наадварот, павялічае ярмо, пад якім яно згінаецца. Чаму? Адказваючы на гэта пытаньне, Шпэнглер выяўляе сэнс сваіх філёзофічных разважаньняў. Ён праклінае машыну перш і раней за усё таму, што яна, моў, пасеяла няўзгоду паміж прадпрыемцам і рабочым. Засмучона уздыхаючы па часох ідэалізму, калі „супрацоўніцтва“ наймальнікаў і рабочых было „свайго роду таварыствам“, Шпэнглер нудзіцца аб тым, што ў фаустаўскі машынавы век „небясьпечна ўзрос духоўны раскол паміж кіраўнікамі і падначальнымі“ (на мове Шпэнглера гэта азначае паміж прадпрыемцамі і рабочымі), аб тым, што яны больш не разумеюць „адзін аднаго“ [2]. А Асвальду Шпэнглеру і яго высокім апякуном з „клюбу паноў“ неабходна такое „узаемаразуменьне“ фабрыканта і рабочага, пры якім капіталіст зможа бесьперашкодна эксплёатаваць пралетара.

Шпэнглер лічыць, што трагэдыя, якой разьвіцьцё тэхнікі асуджае чалавецтва, у сучасны момант падыходзіць да канца. Наступае ракавы час адплаты за тое, што захапляліся тэхнікай. Мэханізацыя сьвету уступіла у стадыю небясьпечнага перанапруджаньня (Gefährlichster Überspanung)... Штучны сьвет пранізвае і атручвае сьвет прыроды. Цывілізацыя сама ператварылася у машыну, якая усё робіць альбо хоча зрабіць машынавідным

[1]) Der Mensch und die Technik, стар. 71.

[2]) Там-жа, стар. 73.

(maschinen mässg). Калі мысьляць, так толькі у конскіх сілах. Ня могуць паглядзець на вадаспад без таго, каб не ператварыць яго у электрасілу. [1]).

Шпэнглер малюе рэакцыю, якая наступіла у выніку „тэхнічнага перанапружаньня". Людзі перанасыціліся тэхнікай. Надыходзіць сваясаблівы „пацыфізм у барацьбе з прыродай", імкненьне вырвацца з халоднай атмосфэры тэхніцызму. Так робяць тыя, каго Шпэнглер лічыць „абранымі". Менавіта моцныя і творча адароныя,—сьцьвярджае ён, паварачваюць ад практычных праблем і навук да чыстай спэкуляцыі. Зноў выплываюць акультызм і сьпірытызм, індуская філёзофія, мэтафізычныя тэндэнцыі хрысьціянскай альбо паганскай афарбоўкі, што зьневажаліся у часы дарвінізму" [2]).

Дзеля таго, каб апраўдаць і „абгрунтаваць" гэты паварот тэхнікі да дзікунства, які утварае буржуазія эпохі загніваньня капіталізму, Шпэнглер імкнецца паказаць, што машына зжыла сябе, што тэхнічны прагрэс ня толькі бяссэнсоўны, але і шкодны. Аўтамабіль, дзякуючы яго распаўсюджаньню і ўдасканаленьню, страціў усялякае значэньне—у вялікіх гарадох прайсьці хутчэй пехатой. У Аргенціне і на Яве плуг дробнага гаспадара перамагае матоdo. Шпэнглер агалашае сьпіс вялікіх злачынстваў з боку машыны. Машына выкапала бяздоньне паміж кіраўнікамі працы і яе выканаўцамі, паміж галовамі і рукамі, яна штурхае масы на бунты супроць „правадыроў" гаспадарчага жыцьця. Машына пазбавіла „белыя народы" тых пераваг, што давала ім індустрыяльнае панаваньне ва ўсім сьвеце. Машына пазбавіла „белых" гэтай манаполіі. Яна зрабіла тэхніку здабыткам „цьвятных" і тым самым нанесла ўдар у сэрца фаустоўскай культуры. Яна асуджае на беспрацоўе мільёны белых рабочых. Шпэнглер ня тоіць ні ад сябе, ні ад сваіх чытачоў пагрознага характару народжанага капіталізмам беспрацоўя. „Гэта ня крызіс,—абвяшчае ён,—а пачатак катастрофы"...

Да гэтага прывяло нястрыманае разьвіцьцё тэхнікі, што стварыла „фаустоўскую цывілізацыю". Зараз гэта цывілізацыя гіне, хаваючы пад сваімі абломкамі тэхніку. „Гісторыя гэтай тэхнікі хутка набліжаецца да нямінучага канца. Яна будзе зьнішчана знутры, як усе вялікія формы якой-небудзь культуры". Шпэнглер прарочыць, што цягнікі і параходы будуць праз часы забыты, як рымскія дарогі і кітайская сьцяна, што нашы гіганцкія гарады з іх небаскробамі будуць мець лёс старажытнага Мэмфіса ці Вавілёну (старонка 88). Вось які лёс Шпэнглер нарыхтаваў тэхніцы.

Цікава тое, што фашыстоўскі філёзоф разыгрывае пры гэтым ролю пакорлівага лёсу фаталіста. Не спакушаючы сябе спадзяваньнем, бо „аптымізм гэта баязьлівасьць", як гаворыць адзін з шпэнглераўскіх афарызмаў, ён лічыць, што чалавецтва павінна

[1]) Там-жа, ст. 79

[2]) Там-жа, ст. 82.

схіліцца перад нямінучасьцю, да якой прывяла яго д'яблава машына. „Выстаяць, як той рымскі салдат, косткі якога найшлі перад брамаю Пампеі, які памер таму, што пры выбуху Вязувія яго забылі зьняць з варты"...

Калі-б нам з іншых пісаньняў Шпэнглера ня быў відзен яго твар баявіка фашысцкай рэакцыі, ваяўнічага ідэолёга загніваючага капіталізму, мы-б, бадай, маглі у сур'ёз прыняць яго фаталізм, яго схіленую перад гістарычным рокам філёзофскую сьпіну. У рэчаіснасьці шпэнглераўскі фаталізм фокус-покус фашысцкага філёзофа.

Шпэнглер зусім не зацікаўлены тым, каб буржуазія паслухмяна лягла у дамавіну, падрыхтаваную гісторыяй. Уся яго лёгічная эквілібрыстыка, усе яго філёзофскія канструкцыі накіраваны на адно: замацаваць расхістаную магутнасьць капіталістычных драпежнікаў. Гэта магутнасьць робіцца не сумяшчальнай з тэхнічным разьвіцьцём, ростам прадукцыйных сіл, з удасканаленьнем машыны. Вывад для Шпэнглера ясны: закілзайце тэхніку, разьбеце машыны—гаворыць ён сваім гаспадаром, інакш вас чакае сумотны лёс рымскага жаўнера, пахаванага пад лавай Вэзувія. Вэзувій сацыяльнай рэвалюцыі ужо злавесна дыміцца. Дык руйнуйце-ж праклятыя машыны, што пагражаюць нам катастрофай. Пускайце кроў рабочаму, які з дапамогай машыны зьбіраецца скінуць з сябе прызначанае яму боствам і гісторыяй ярмо!.. Яшчэ у сваей працы „Preussentam und Socialismus," што выйшла у 1921 годзе, Шпэнглер напамінаў, што толькі „кроў вырашае адносна будучыні", што „ідэі пасьцігаюцца толькі крывёю, інстынктам, а не абстрактным раздумваньнем"...

Фаталістычная канцоўка кнігі Шпэнглера—толькі аратарскі манэўр хітрага адваката, які заве разграміць тэхніку для таго, каб выратаваць эксплёататараў.

Зусім не выпадковы інтэрвэнцыянісцкі мэмарандум Гугэнберга на Лёнданскай эканамічнай канфэрэнцыі пачаўся спасылкай на Шпэнглера. І Шпэнглер не дарэмна ў прадмове да сваей апошняй кніжкі, што выйшла ў 1933 годзе, заяўляе, што яму у большай ступені, чым Гітлеру, прыналежыць заслуга „адраджэньня нацыянальнай Нямеччыны"... Цікава, што ў гэтай сваей кнізе Шпэнглер пераплятае антытэхнічныя матывы з няпрыкрытымі інтэрвэнцыянісцкімі матывамі у адносінах да СССР

Аргумэнтацыя гэтага ідэолёга антытэхніцызму і філёзофа інтэрвэнцыі варта таго, каб на ёй застанавіцца.

Эўропа па Шпэнглеру канчаецца на Вісьле. Эўрапейскі уплыў на ўсход ад Віслы існуе настолькі, наколькі там ёсьць сьляды калёнізатарства нямецкіх рыцараў. Расею нельга зразумець, ня вывучыўшы яе душу. Там усё характарызуецца адсутнасьцю волі, схільнасьцю да падначаленьня, імкненьнем да бадзяжніцтва (навейшы прыклад „лятунства" рабочых), інстынктыўна рэлігійным адыходжаньнем ад традыцыйна-эўрапейскіх форм гаспадараньня. Шпэнглер патрабуе глянуць на Расею „эўра-

пейскімі вачыма". Гэта значыць, зразумець, што „фактычна з пункту гледжаньня гаспадаркі Захаду—гэта неабсяжная калёніяльная вобласьць, у якой як у вёсцы, так і ў мястэчку рускі працуе у асноўным па-сялянскі, па-рамесьніцкі". Шпэнглер даказвае, што „гаспадарчы арганізатар, кіраўнік фабрыкі, інжынэр і вынаходца—гэта ня рускія тыпы... Машынная індустрыя па свайму духу „ня руская" і заўсёды будзе рускаму чужая, як нешта грэшнае, д'ябальскае"... Гэтыя анэкдотычныя разважаньні ідэолёг антытэхніцызму прыпадносіў у 1922 годзе кіраўніком Рэйнскавестфальскай прамысловасьці. „Але самае анэкдотычнае, бадай, у тым, што гэтыя разважаньні Шпэнглера з вельмі пераможным выглядам упяршыню былі апублікаваны ў 1933 годзе, г. зн. у пачатку II-й пяцігодкі.

Сярод другіх сучасных ідэолёгаў антытэхніцызму варта асобна вылучыць Анры Бэрксона. Гэта ужо не філёзофскі выскачка, не ўчарашні настаўнік правінцыяльнай гімназіі, накшталт Шпэнглера. Гэты прызнаны філёзофскі Matre выпусьціў, як вядома, у 1932 г. працу, у якой падводзіць вынікі яго шматгадовым філёзофскім разважаньням „Дзьве вытокі маралі і рэлігіі". Бэргсон даводзіць у сваей новай кнізе, што „чалавецтва, на палову раздушанае, стогне пад цяжарам прагрэсу і тэхнікі,якія ім-жа выкліканы да жыцьця". Сучаснае чалавецтва пакутуе таму, што яго паглынае неабходнасьць пастаяннай барацьбы за насушны хлеб. У выніку гэтай барацьбы чалавечая культура накіравана не па містычнаму, а па мэханічнаму шляху. Мэханічны шлях панаваньня машыны прывёў да таго, што у шмат разоў павялічылася і ўзмацнела чалавечае цела, але душа чалавечая засталася такой-жа слабай, як да гэтых часоў. У выніку—канфлікт паміж целам і душой чалавецтва: „вырасшае цела чакае папаўненьня душы, мэханіка кліча містыку". Бэргсон таксама, як і Шпэнглер, ведае, якія няшчасьці прынясе чалавецтву „мэханістычны шлях", ён таксама бядуе аб тым, што дзякуючы машынізму „павялічылася адлегласьць і зьмяніліся адносіны паміж гаспадаром і рабочымі, паміж капіталам і працай". Але Бэргсон задужа рафінаваны філёзоф для таго, каб расквітацца з тэхнікай паводле салдацкай парады Шпэнглера, ён вышуквае для гэтага больш далікатныя сродкі. Трэба тэхніку ураўнаважыць і забясьпечыць містыкай. Трэба супроцьпаставіць дэманізму машыны боскасьць чалавека. Чалавечы розум, які стварыў машыну, адбівае сваю разлагаючую сілу ў кульце машын, у машынізму, што нарадзіла дэмократыя з яе духам вынаходзтва. Гэтай разлагаючай сіле розуму неабходна супроцьпаставіць абараняльную рэакцыю прыроды. Гэта рэакцыя ажыцьцяўляецца у рэлігіі... Ратунак чалавецтва, што стогне пад цяжарам тэхнікі, зьвяртацца да простага жыцьця. Людзі павінны перамагчы тэхнічнае рабства і стаць багамі, „чалавецтва недастаткова ведае, што будучыня залежыць ад яго. Яно павінна уявіць сабе перш за ўсё, ці хоча яно жыць, яно павінна задацца пытаньнем, ці хоча яно толькі існаваць, альбо,

не абмяжоўваючыся гэтым, зрабіць намаганьне, якое неабходно для таго, каб на нашай мяцежнай плянэце ажыцьцявілася місія, вызначаная сусьветам".

Хто-ж прыносіць чалавецтву гэтае разуменьне? Бэргсон, як і Шпэнглер, чакае вызваленца чалавецтва з-пад ярма машынізму. Але гэты вызваленца ня шпэнглераўскі салдат у трыкутніку, а містычны гэні вялікай творчай асобы—„хай зьявіцца гэні-містык, ён павядзе за сабою чалавецтва нязьмерна вырослае сваім целам, а дух у яго ён пераробіць"... Вось гэткі другі з ідэолёгаў антытэхніцызму, з машынаборцаў загніваючага капіталізму. Іншая аргумэнтацыя, іншыя філёзофскія абгрунтаваньні, іншыя шляхі ратаваньня, але тая нянавісьць перапалоханага буржуа да ўзросшых продукцыйных сіл, з якімі ня можа управіцца капіталізм, той-ж бясьсільны і злобны пратэст супроць пагражаючай чалавечай культуры дэманічнай машыны.

Тады як Анры Бэргсон яшчэ у глыбі свайго габінэту выношваў свой боскі антымашынізм, а Осваль Шпэнглер ужо руйнаваў тэхніку, вяшчуючы надыход „гібелі Эўропы", амэрыканскі эканаміст Сьцюарт Чэйз тварыў з захапленьнем гімн машыне,—вызваленцу чалавецтва. Вакол яго імкліва расьлі небаскробы, па асфальтавых шляхох Злучаных Штатаў каціўся суцэльны аўтамабільны канвэйер, Гэнры Форд нёс сусьвету эвангельле „арганізаванага капіталізму", амэрыканскі даляр дыктатарстваваў над сьветам. Тагды Чэйз натхняўся экспрэсамі транс-кантынэнтальнай лініі і зернавымі элеватарамі Мініаполіса. Ён выхваляў гэтую „самую прыгожую старонку нашае цывілізацыі". Чэйз агалошваў лёзунгі аслабаненьня тэхнікі, „складанае тэхнічнае будаўніцтва павінна весьціся пад кіраўніцтвам інжынэраў, а не гандляроў; але тэхнік—сучасны Прамэтэй, скованы ланцугамі"...

Прайшло якіх-небудзь тры гады. Прасьпярыцці разьвеяліся ветрамі, захісталася цытадэль капіталістычнай рацыяналізацыі—фордаўскія заводы. Паліцыя ўдушлівымі газамі распраўлялася з беспраноўнымі вэтэранамі вайны. Крызіс накіраваў думку дробнага буржуа Чэйза у бок шпэнглераўскага машынаборства. Дробны буржуа ня так даўно казаў аб тым, што „блытаніна, матаніна, таўкатня" капіталістычнага грамадзтва павінны быць узяты пад нацыянальны кантроль, прабаваў нават супаставіць прамысловую анархію і „савецкі дзяржплян", пад уплывам крызісу далучыўся да рыцараў „тэхналёгічнага беспрацоўя". Разам з Шпэнглерамі і Бэргсонамі ён патрабуе як мага мацней скаваць „тэхнічна-сучаснага Прамэтэя", дзеля таго, каб гандляры маглі працягваць сваю справу.

У кнізе „Молах машыны", а таксама ў артыкуле, надрукаваным у чэрвені 1932 году у часопісе „Нью рэспублік" пад загалоўкам „Возмездие прогресса" Чэйз выступае ідэолёгам антытэхніцызму.

Кнігу „Молах машыны" Чэйз заканчвае наступнымі мнагазначнымі словамі: „Джэмс Уат быў добрым чалавекам і таму яго

дух прышоў-бы у судраганьне, калі-б убачыў цэлы жанчын, мужчын і падросткаў, якія гінуць у адскіх памяшканьнях, у якіх грымхаюць яго машыны". Ён пратэстуе супроць таго, што новыя вынаходзтвы зрываюць цэлыя прамысловыя галіны, зьнішчаюць капітал, пускаюць на злом вялізарныя запасы сталі і цэмента. Тэхнічны прагрэс, кажа ён, прыводзіць да руйнуючай эксплёатацыі прыродных рэсурсаў, тэхнічны прагрэс, новыя тэхнічныя вынаходзтвы нясуць чалавецтву бядоту. Гэтую помсту прагрэсу неабходна перамагчы. Дабіцца гэтага можна толькі затармазіўшы разьвіцьце тэхнікі.

Чэйз агаварваецца, што ён не зьбіраецца зусім забараніць тэхнічныя ўдасканаленьні, а толькі—паменшыць іх тэмп. Чэйз мысьліць „зьмясьціць тэхнічны прагрэс у зачыненую пасудзіну і выпускаць яго па мерцы". Як гэта ажыцьцёвіць? Надзвычай проста—„абвясьціць мараторыі на вынаходзтвы у меншай меры на 10 год і разглядаць усіх вынаходцаў як небясьпечных, вышоўшых з глузду і патрабуючых належнага догляду".

Ад чэйзаўскай прапановы можна было-б адмахнуцца як ад нявартай увагі рэакцыйнай утопіі, але так пастуліць можна было-б, калі-б рэакцыйная утопія не карысталася крэдытам сярод досыць шырокіх слаёў прадстаўнікоў дробна-буржуазнай інтэлігенцыі. Яны імкнуцца у пошуках выхаду з таго гістарычнага тупіка, у які завёў іх капіталізм.

Аполёгэтам яе, напрыклад, выступае Жорж Дзюамэль. Гэта ужо ня вучоны, а мастак. У шэрагу сваіх мастацкіх твораў— „Аўладаньне сьветам", „Размова ў сумяціцы" Дзюамэль праяўляе варожасьць да тэхнікі, да тэхнічнай цывілізацыі. Як мастак Дзюамэль даўно даказвае, што авалоданьня сьветам можна дасягнуць толькі праз духоўныя, а не матарыяльныя, тэхнічныя „блага". У артыкуле „Адпачынак вынаходнікам" Дзюамэль паказаў бядоту, якую нясе тэхнічны прагрэс. „Вучоныя ў такой ступені множаць свае вынаходзтвы, што адгэтуль здараюцца вельмі важныя перабоі у рытме індывідуальнага і сацыяльнага жыцьця. Няма больш нічога устойлівага, канчатковага. Усё зьменьваецца. На працягу некалькіх месяцаў кожнае вынаходзтва старэе,—з якімі вынікамі... Мы натхняем зараз вынаходнікаў як клоунаў, альбо акрабатаў у цырку, а паралельна зачыняюцца шматлікія прадпрыемствы і павялічваецца беспрацоўе". Якія-ж сродкі барацьбы з гэтай арытміяй індывідуальнага і сацыяльнага жыцьця прапануе пісьменьнік? Гэтыя сродкі вельмі простыя. Гэта-ж тая рэакцыйная чэйзаўская утопія: „Давайце-ж стабілізаваць на пяць год тэхніку поўным адказам ад новых патэнтаў і забаронаю ўсякай эксплёатацыі усякіх вынаходзтваў".

Сацыял-фашысты, што сталі галоўнай сацыяльнай апорай буржуазіі, не застаюцца у сваіх разважаньнях аб тэхніцы ад заядлых рэакцыянэраў. Отто-Бауэр запалохан „перанапруджаньнем" тэхнікі ня менш Освальда Шпэнглера. У сваім артыкуле „Сусьветны духоўны крызіс" Бауэр заяўляе: „Тэхніка гэта рок нашай

культуры. Містэр Бабіст валтузіцца па вечарох за аўтамабілямі, служачы з матацыклеткай, рабочы з апаратам бяздротавага тэлеграфу. Людзі заняты найвялікшай цікавасьцю да усяго, што мае дачыненьне да тэхнікі... І усе·ж чым больш мы услаўляем пераможны ход тэхнікі, тым жудасьней нам здаецца сьвет, які стварае гэтую перамогу. Рабочы—у ланцугу. Дзень за днём, гадзіна за гадзінай, хвіліна за хвілінай у адвечнай звычайнасьці, у заўсёднай паступовасьці усё тых-жа рухаў".

Мракабесная ідэя тэхнічнага рэгрэсу, закілзаньне тэхнікі ня рэдка пераводзіцца з мовы філёзофаў і соцыёлёгаў на мову палітыкаў. У Нямеччыне напрыклад узьнікла ў 1932 годзе некалькі арганізацый па прапагандзе тэхнічнага рэгрэсу. Найбольш вядомы з іх, так званы. „Саюз барацьбы з неграмадзкімі машынамі" „Der Kampf bund gegen unsociale Machinen" Кіраўніцтва гэтага саюзу знаходзіцца у Ганновэры. Саюз абвяшчае галоўнай прычынай сучаснага крызісу „гаспадарча-варожую тэхнічную звыш рацыялізацыю". Пляцформа саюзу пабудована на патрабаваньні звароту Нямеччыны да тэхнічнага прымітыву, яна сабірае тысячы прыхільнікаў пераважна з расьціснутай крызісам дробнай буржуазіі.

Амэрыка пайшла яшчэ далей. Зацьверджаны 12 чэрвеня 1933 г. амэрыканскім сэнатам закон аб „нацыянальным плянаваньні", створаная рузьвельтаўскім „трэстам мазгоў" навейшая утопія ратаваньня капіталізму—патрабуе паміж іншым максымальнага ўжываньня ручной працы і прапануе замяніць машыннае абсталяваньне ва усіх выпадках, калі гэта ажыцьцявіма і сумяшчальна з гаспадарчым здаровым сэнсам".

Адзіным фронтам ад Шпэнглера да Бауэра, ад Бэргсона да Чэйза, ад Франса Вэрфеля да Карла Ясьперса вядуць Ідэолёгі гніючага капіталізму і яго сацыял-фашысцкія лекары прапаганду тэхнічнага рэгрэсу, звароту да старых тэхнічных форм і мэтадаў, прапагандуюць лёзунг „сьпінай да тэхнікі". Усялякім чынам даказваецца, што наша машына калечыць чалавечую асобу, што яна стварае немагчымы аўтаматызм жыцьця.

У мастацкай літаратуры культывуецца ідылічная першабытнасьць. Аднэй з біткавых п'ес Парыжу у мінулым годзе не выпадкова была „Век жалеза"—Дзена Д'Амілея, якая паказвала „ідыётызм гарадзкога жыцьця, калі вакол нас зямля з дрэвамі, з бясконцымі палямі і паветрай".

П'еса Д'Амілея—крык супроць „Какофоніі горада", супроць таго, што „мозг чалавечы нястомна абцяжаран вынаходзтвамі", супроць таго, што „адна палавіна чалавецтва заключана у турму у ванючыя фабрыкі і заводы, рыхтуе для другой усе гэтыя машыны, што абвіваюцца вакол чалавека як жалезныя чэрві".

Граф Гэрман Кайзэрлінг пяе ў працівагу урбаністычнай цывілізацыі машыннага века, прымітыўны „індуізм" і „кітаізм".

Яго апошняя кніга „Паўднёва—Амэрыканскія мэдытацыі" уяўляе сабою суцэльны панэгірык Паўднёвай Амэрыцы, якая не атраўлена ядам мэханіцызму і тэхніцызму. „Кантынэнт

трэцяга дню тварэньня"—так заве Кайзэрлінг Паўднёвую Амэрыку адзіны супроцьстаячы усяму „перамэханізаванаму сьвету". Толькі тут адшуквае адзін гэты з найбольш важных правадыроў сучаснай філёзофскай рэакцыі глыбінныя сілы антырацыянальнага. Толькі тут пануе антытэхніцызм, толькі тут пануе сьвет Тана.

Якім дробным лепетам здаюцца усе гэтыя выступленьні тэарэтычных адвакатаў буржуазіі у абарону „чалавечай асобы" ад машыны. што уродуе яе, у параўнаньні з тымі клясычнымі характарыстыкамі прыгнечаньня машынай чалавека пры капіталізьме, што даны асновапаложнікамі навуковага камунізму. Маркс і Энгельс паказалі, што працэс калечаньня, крамсаньня чалавечай асобы капіталістычнай тэхнікай і арганізацыяй працы ператварае чалавека ў „частичный индивидум", будзе спынен толькі зьнішчэньнем самога капіталізму. Яны паказалі, што толькі сацыялізм адніме у чалавека мажлівасьць прыгнятаць асобу, што ён верне чалавека да самога сябе, што ён зробіць асобу шматграннай і свабоднай. А паны, абаронцы чалавечай асобы з лягеру дыпленіраваных лёкаяў буржуазіі не знаходзяць нічога лепшага як хорам гнусавіць: „Машына падаўляе асобу. Разьбеце машыну".

Паток антытэхнічнай прапаганды акутвае шырокія колы, у масах сеюць зьнявагу да машыны, кажучы, што яна зьяўляецца прычынай іх беспрацоўя і галечы. Уся гэта рэакцыйная вакханалія не сустракае адпору з боку буржуазных вучоных, сярод якіх у сваю чаргу пачынае культывавацца ідэя „канікул для навукі", закідваньня навуковай тэарэтычнай думкі.

Прыказчыкі буржуазіі добра разумеюць, што уся іх спэкуляцыя на „тэхналёгічным беспрацоўі" будзе адкінута пры адным толькі успаміне аб існаваньні Савецкага саюзу, дзе бурны рост тэхнікі, магутны тэхнічны прагрэс спалучаюцца з поўнай ліквідацыяй беспрацоўя. Яны імкнуцца адмахнуцца ад гэтага факту, робячы харошую міну пры дрэннай гульні, накшталт той, якой займаўся на пленуме „саюза сацыяльнай палітыкі" у Цюрыху вучоны сафіст Артур Файлер. „У адносінах вытворчых форм працы,—казаў пан Файлер—і самая радыкальная сацыялізацыя нічога не зьмяніла, бо для лёсу рабочага рашаючае значэньне мае тэхніка. А для большай часткі чалавецтва падзел працы, мэханізаваная праца на буйных прадпрыемствах зьяўляецца лёсам, такі быў-бы лёс і ў сацыялістычнай гаспадарцы, як і ва ўсякім гаспадарчым ладзе наогул, бо форма вытворчасьці на залежыць ад капіталізма і сацыялізма".

Але сафістыка паноў Файлераў ня можа затрымаць пранікненьня ў масы разуменьня таго факту, што прычына беспрацоўя не ў машыне, а у грамадзкім ладзе капіталістычных краін.

Ня кажучы аб рэвалюцыйных рабочых, гэтае разуменьне пачынае ахопліваць і дробна-буржуазнае асяродзьдзе, асяродзьдзе дробна-тэхнічнай інтэлігенцыі. Сярод інжынэрства капіталістычных краін усё часьцей чуюцца галасы, накіраваныя супроць рэакцыйных утопій антытэхніцызму. Расьце разуменьне таго,

што прычына эканамічных бядот у неадпаведнасьці вытворчых адносін капіталізма з вырасшымі прадукцыйнымі сіламі. У гэтых адносінах паказальны спрэчкі, якія адбыліся на кангрэсе інжынэраў і архітэктараў Чэха-Славакіі, што адбыўся у Альмюце у чэрвені 1932 г., і на зьезьдзе нямецкіх інжынэраў у Берліне ў кастрычніку 1932 году.

Аднак, большасьць той дробна-буржуазнай інтэлігенцыі, якая пачынае разумець усю рэакцыйнасьць антытэхніцызму, усё-ж не даходзіць да той асноўнай думкі, што адзіным выйсьцем з гістарычнага тупіку, да якога прывяла грамадства буржуазія,—на шляхох сацыялістычнай рэвалюцыі і пралетарскай дыктатуры.

Замест гэтага яны імкнуцца „упэўніць“ буржуазію, што тэхніка ня так пагубна, як ёй здаецца, што і тэхніка здольна прыносіць карысьць, што „несправядліва“ яе праклінаць і інш. З выступленьняў такога роду можна назваць кніжку Дзюбі „Навука, тэхніка, культура“ і артыкул Бассо „Навука, тэхніка і грамадства“.

Характэрным прыкладам у гэтых адносінах зьяўляецца і арганізацыя, шырока вядомая пад назвай „тэхнакратыя“ (панаваньне тэхнікі).

Тэхнакратыя узьнікла яшчэ у 1921 годзе. Яна ўяўляе сабою арганізацыю, аб'яднаючую да 25.000 інжынэраў і эканамістых. На чале яе стаіць Гавард-Скот і прафэсар Рычард Польман. Мэта арганізацыі—вывучэньне „уплыву разьвіцьця тэхнікі на сацыяльнае і палітычнае жыцьцё“. Нядаўна тэхнакратыя агаласіла даклад аб сваей 10-гадовай рабоце па вывучэньню гэтага ўплыву. Вывадам з гэтай работы зьяўляецца сьцьверджаньне, што „сучасная тэхніка, якая запрэжана у сацыяльную тэхніку, што выйшла з моды, і ў ўстарэўшую палітычную тэорыю, падрываюць асновы нашага сацыяльнага ладу“. Але давесьці гэтага вываду да свайго лёгічнага канца барацьбіты за „панаваньне тэхнікі“, зьвязаныя шматлікімі ніткамі з капіталістычнай грамадзкасьцю, зразумела не змаглі. Яны не змаглі сказаць, што „сацыяльная тэхніка, якая выйшла з моды“, павінна быць зруйнавана, што на яе абломках павінен узьнікнуць той адзіны лад, пры якім тэхніка зможа свабодна прагрэсаваць, г. зн, лад сацыялізму. Таму яны тварылі чарговую утопію аб „тэхнічнай рэарганізацыі грамадства“ шляхам стварэньня так званага „энэргетычнага даляра“. Не барацьба кляс, не дыктатура пралетарыяту, не сацыялістычная рэвалюцыя, а „энэргетычны даляр“ заклікан абнавіць чалавецтва.

Ня прыходзіцца казаць, што творачы сваю ўтопію паны барацьбіты за тэхніку толькі робяць паслугу гніючаму капіталізму, г. зн. ладу зажыму тэхнікі, ладу яе арганізаванага руйнаваньня.

Рэзкі кантраст паміж становішчам тэхнікі і адносінамі да яе у двух сыстэмах—капіталістычнай і сацыялістычнай—утварае пэўную думку ў тэхнічнай інтэлігенцыі капіталістычных краін.

Аб тым, якія гістарычныя пэрспэктывы адкрывае гэты кантраст, нядаўна пісаў буржуазны нямецкі журналіст Зібург на старонках амэрыканскага часопісу „Форум“: „у Эўропе ёсьць толькі адно панаваньне, якое зьвязвае ўсе свае надзеі з тэхнічным прагрэсам, глыбока верыць у яго,—гэта Савецкая Расея“. Вывад Зібурга кажа: „Калі рускі бальшавізм і нямецкі нацыяналізм будуць ісьці далей па такому шляху, на які яны сталі, Эўропа быць можа будзе ўяўляць сабою малюнак, які рэзка адрозьніваецца ад таго малюнку, да якога мы прывыклі. Небаскробы будуць паднімацца да неба на Дану, альбо на Урале, у той час, як быкі будуць па-гультайскі цягнуць за сабой плуг на плошчы Тэмпельгофа пад Берлінам“... Такі голас аднаго з інтэлігентаў, што абураюцца супроць пропаведзі адмаўленьня ад тэхнічнага прагрэсу, якая ідзе з асяродзьдзя буржуазіі. Яны вымушаны зараз прызнаць, што толькі адна краіна ва ўсім сьвеце,—а іменна Савецкі саюз зьвязвае свае мэты і надзеі з тэхнічным прагрэсам і глыбока у яго верыць. У гэтых прызнаньнях мы бачым ня толькі прызнаньне нашых заслуг, колькі аб'ектыўнае пацьверджаньне сапраўдных пераваг сацыялізму перад сучасным перасьпелым капіталізмам, які разбураецца.

У сваёй клясычнай працы аб імпэрыялізьме Ленін вычарпальна паказаў, як манаполія паралізуе імкненьне да тэхнічнага прагрэсу, як манапалістычны капітал выступае на шлях тармажэньня гэтага прагрэсу. У гады усеагульнага капіталістычнага крызісу гэты працэс, ахарактарызаваны Леніным, знайшоў сваё асаблівае яскравае і усебаковае завяршэньне. Вывучаючы гэты працэс, мы павінны, зразумела перасьцярагчы ад упрашчэнства, наяўна выражанага у так званай тэорыі стагнацыі. Было-б упрашчэнствам сьцьвярджаць, што у краінах капіталізму немажліва яшчэ якое-б та ні было разьвіцьце тэхнікі. Хутка разьвіваецца, напрыклад, тэхніка, зьвязаная з новай падрыхтоўкай імпэрыялістычнай бойні. Мажліва разьвіцьце тэхнікі на другіх вучастках. Канкурэнцыя, якая ня зьнішчаецца пры манаполіі, штурхае капіталістых на асобныя тэхнічныя ўдасканаленьні і вынаходзтвы. Мы павінны мець, такім чынам, тэндэнцыю тэхнічнага рэгрэсу пры мажлівых прыватных прасоўваньнях ўперад. Па усяму фронту капіталістычнай гаспадаркі мы назіраем як правіла застой тэхнікі, яе дэградацыю і загніваньне. Усё гэта знаходзіць усебаковую праяву ў ідэолёгіі антытэхніцызму. Абурэньне вытворчых сіл капіталізма супроць яго маемасных адносін дасягнула свайго апогэю. Усе праклёны „спасителей капитализма“ ня змогуць спыніць гэтага абурэньня. Яно прывядзе да нізрынуцьця ўлады буржуазіі, якая стала ня сумяшчальнай з разьвіцьцём вытворчых сіл, з тэхнічным прагрэсам, з жыцьцём грамады. Толькі дыктатура пралетарыяту і сацыялістычная перабудова грамадзтва адчыняць новыя прасторы да далейшага магутнага росту тэхнікі, якая падпарадкуе чалавецтву стыхію прыроды.

# ХРОНІКА

## ЗА МЕЖАМІ

### Міжнародны кангрэс пісьменьнікаў.

У апошніх лічбах мая ў гор. Рагузе адбыўся чарговы кангрэс міжнароднага клюбу пісьменьнікаў „Пэнклюб“.

Як зазначае замежная прэса, адразу пасьля адчыненьня кангрэсу пачаліся гарачыя выступленьні пра тэрор нацыянал-сацыялістаў супроць пісьменьнікаў.

У той час, як старшыня кангрэсу ангельскі пісьменьнік Вэлз абмежаваўся ў сваім прывітальным слове абстрактнымі пратэстамі супроць „звароту Германіі да сярэднявечча“ усе прамоўцы, якія выступалі пасьля яго, з выключнай рэзкасьцю ганьбілі фашыстоўскі рэжым у Германіі і ўносілі канкрэтныя рэзалюцыі аб барацьбе з антыкультурнымі ўчынкамі нацыянал-сацыялістаў.

Ад імя Саюзу сацыялістычных пісьменьнікаў Аўстрыі, пісьменьнік Сонка прапанаваў кангрэсу вітаць усіх нямецкіх пісьменьнікаў, якія кінуты фашыстамі ў турмы.

Францускі дэлегат Крэм'е і бэльгійскі дэлегат Тома ў сваіх прамовах рэзка пратэставалі супроць прасьледваньняў літаратуры ў Германіі. Італьянскі дэлегат Марынэці ў сваім слове ганьбіў фашыстаў за яўрэйскія пагромы.

У зьвязку з пагрозай нямецкай дэлегацыі, што яна пакіне кангрэс і выступіць з „Пэнклюбу“, кіраўніцтва кангрэсу вынесла кампрамісную пастанову—адтэрмінаваць спрэчкі аб падзеях у Германіі да наступнага кангрэсу.

Калі старшыня кангрэсу, англійскі пісьменьнік Гэрберт Вэлз, даў слова нямецкаму пісьменьніку Эрнсту Толгеру, нямецкая, аўстрыйская, швэйцарская і галяндзкая дэлегацыі пакінулі кангрэс.

Кангрэс прыняў рэзалюцыю бельгійскай дэлегацыі аб тым, што асноўнымі заданьнямі „Пэнклюбу“ зьяўляецца барацьба супроць прыдушэньня свабоды думкі і свабоды друку.

### Тэлеграма кітайскіх пісьменьнікаў.

З прычыны аднаўленьня дыплёматычных адносін між Кітаем і СССР, 57 кітайскіх пісьменьнікаў накіравалі на імя Савету Народных Камісараў СССР наступную тэлеграму:

„— Савету Народных Камісараў і ўсім народам Савецкага Саюзу.

— Між Савецкім Саюзам і Кітаем адноўлены дыплёматычныя адносіны! Мы ўпэўнены, што з гэтага часу дружба паміж народамі абедзьвюх краін яшчэ больш узмацніцца. Ужо год мінуў з таго часу, як японскі імпэрыялізм узброенымі сіламі захапіў нашу Манчжурыю. Усе дзяржавы і Ліга нацый заўсёды абаранялі Японію; больш таго, яны абгаварваюць плян падзелу Кітаю і іх супольнага кантролю над Кітаем. Кітайскі народ ужо ясна бачыць сапраўднае аблічча міжнароднага імпэрыялізму і ў той-жа час яшчэ ясьней бачыць мірную палітыку Савецкага ўраду.

Толькі Савецкі Саюз зьяўляецца шчырым прыяцелем прыгнечанага народу. Аднаўленьне дыплёматычных зносін між Кітаем і СССР выклікана гарачым жаданьнем народных мас Кітаю.

Мы горача вітаем працоўныя масы Савецкага Саюзу, якія будуюць сацыялізм, зьдзяйсьняюць найвышэйшую ідэю чалавецтва. Народ у нашай краіне ўжо ведае, што Савецкі Саюз зьяўляецца краінай міру і шчасьця. Мы, работнікі літаратуры і культуры, цешымся з намаганьняў і дасягненьняў Савецкіх культурных работнікаў у справе сацыялістычнага культурнага будаўніцтва. Мы ўпэўнены, што капіталістычная культура ўжо цалкам заняпадае, стварэньне і росквіт сацыялістычнай культуры ў Савецкім Саюзе зьяўляецца вялічэзнай справай, нячуванай у гісторыі чалавецтва. Мы рашуча супроць усялякіх намаганьняў сарваць гэту вялічэзную справу! І мы ўпэўнены, што доўгія вякі прыгнечаны і эксплёатаваны імпэрыялістычнай культурай народ Кітаю патрабуе прыкладу новай мірнай і творчай культуры Савецкага Саюзу для свайго ўзмацненьня.

У ўрачысты момант усё большага і большага узмацненьня дружбы паміж народамі Кітаю і СССР мы, работнікі літаратуры і культуры, горача жадаем, каб пісьменьнікі і ўсе работнікі культуры Кітаю і СССР ішлі плячо ў плячо на фронце сацыялістычнай культуры“.

## У фэдэрацыі рэвалюцыйных пісьменьнікаў Амэрыкі.

Фэдэрацыя рэвалюцыйных пісьменьнікаў Амэрыкі пачала выдаваць штомесячны літаратурны бюлетэнь. Побач з творамі амэрыканскіх рэвалюцыйных пісьменьнікаў бюлетэнь зьмяшчае значную колькасьць твораў пісьменьнікаў украінцаў, угорцаў і прадстаўнікоў іншых нацменшасьцяй ПАЗШ, а таксама пераклады твораў замежных рэвалюцыйных пісьменьнікаў.

## Новыя творы нямецкіх пісьменьнікаў.

За апошні час вышаў у сьвет цэлы шэраг новых твораў нямецкіх рэвалюцыйных пісьменьнікаў.

Іоганэс Бэхэр выдаў паэму-аповесьць „Чалавек, які ўсяму верыў“ пра звычайнага грамадзяніна даваеннай Германіі, які прыходзіць у лягер рэвалюцыйнага пралетарыяту. Побач з гіс-

торыяй палітычнага разьвіцьця героя, які „усяму верыў“. аўтар дае рад сатырычных карцін вайны, царквы, фашыстоўскага руху. У адрозьненьне ад папярэдніх твораў Бэхэра гэта паэма-аповесьць разьлічана на шырокага масавага чытача.

Бэрт-Брэхт выдаў п'есу „Сьвята Іоганна“—п'есу пра крызіс капіталізму (месца дзеі—біржа і бойня у Чыкага). У цэнтры п'есы сатырычны вобраз капіталіста і вобраз работніцы Арміі ратунку, якая імкнецца прымірыць капіталістаў з рабочымі і тым здраджвае пралетарыяту.

Дорнбэргер Е. напісаў раман „Жанчыны праводзяць вайну“—раман паказвае імпэрыялістычную вайну, становішча жанчыны ў часе вайны і раскол у сацыял-дэмакратычнай арганізацыі моладзі, у сярэдзіне якой вырастае інтэрнацыянальная апазыцыя.

Эрнст Глэзэр выдаў раман „Мастон у Эльзасе“ на тэму пра ідэалегічны распад дробна-буржуазнай інтэлігенцыі.

Эгон Эрвін Кіш надрукаваў зборнік нарысаў пра Савецкі Узьбекістан і Таджыкістан „Азія цалкам перараджаецца“. Нарысы зьмяшчаюць у сабе надзвычай багаты фактычны матэрыял пра сацыялістычнае будаўніцтва, культурную рэвалюцыю і людзей ранейшых царскіх каленій. Нарысы процістаўляць эканамічны і культурны рост Савецкай Азіі эканамічнаму і культурнаму крызісу капіталістычнай Эўропы і Амэрыкі.

Тэодор Плів'е напісаў раман пра нямецкую рэвалюцыю 9-га лістапада, пра яе першыя пасьлярэвалюцыйныя дні—„Кайзэр пайшоў, генэралы засталіся“.

## Новы раман пра вайну.

У Варшаве вышаў першы том новага раману Андрэя Струга пад назвай „Жоўты крыж“. Зьмест яго ахапляе апошні пэрыяд сусьветнай вайны. Цэнтральнае месца займае барацьба за авалодваньне таямніцай „жоўтага крыжу“, найжахлівага з атрутных газаў, якія ўжываліся немцамі. Дзейнымі асобамі ў рамане зьяўляюцца Клемансо, Вільгельм, Людэндорф.

## Выстаўка савецкіх мастакоў.

Вясной г. г. у Варшаве, у будынку Інстытуту прапаганды і мастацтва, адбылася выстаўка твораў савецкіх мастакоў. На выстаўцы былі паказаны творы мастакоў Савецкай Украіны. Выстаўку арганізавала Усесаюзнае таварыства культурнай сувязі з-замежамі.

# ПА СССР

## Савецкія пісьменьнікі Украіны за работай.

— П. Панч—апрацоўвае матэрыял для раману з калгаснага жыцьця. Працуе над апавяданьнямі для дзяцей. Здаў у друк новаму Выдавецтву Савецкіх Пісьменьнікаў раман „Права на сьмерць“.

— А. Головко—працуе над сцэнарыем з калгаснага жыцьця.

— Іван Кірленка—выдаў масавым тыражом у выдавецтве „ЛІМ“ аповесьць „Аванпосты“. Працуе над камэдыяй „Шляпа з партбілетам“.

— В. Гіжыцкі—піша гістарычны раман пад назвай „Довбуш“. Раман з часоў 18-га стагодзьдзя. Рыхтуецца да паказу Чырвоназаводзкім тэатрам на гэтую-ж тэму „Чорныя хлопцы“—яго гістарычная п'еса.

— В. Бабінскі—працуе над раманам „Львоў“. Апрацоўвае цыкль сьпеваў на калгасныя тэмы і паэму, якая зьяўляецца адным цэлым з гэтымі сьпевамі. Напісаў дзіцячую п'есу „Пробны камень“, і зьбірае матэрыял для новай дзіцячай п'есы. П'есу „Пробны камень“ ставіць ТЮГ. У выдавецтве „ЛІМ“ вышла яго кніжка „Паэмы і памфлеты“.

— М. Дукін—працуе над сцэнарыем на конкурс, агалошаны Украінфільмам. Здаў у выдавецтва „ЛІМ“ зборнік навэль „Брыгадзір Рубан“. У выдавецтве „Малады бальшавік“ выходзіць яго кніжка для дзяцей школьнага ўзросту „Юхім Бурлай“—пра героя-калгасьніка.

— І. Фэфэр—здаў у друк другі том твораў. Працуе над паэмай пра грамадзянскую вайну на Украіне. Рыхтуе да друку кніжку паэзіі „Лірыка“.

— Х. Гільдзін—працуе над п'есай—тэма—Днепрабуд.

— Д. Гардзіенка—у выдавецтве „Рух“ выдаў зборнік апавяданьняў „Чужыя профілі“. Падрыхтаваў зборнік паэзіі „Жалезны лістапад“.

— В. Штангель—у выдавецтве „Рух“ выдаў том навэль. Працуе над зборнікам апавяданьняў пра грамадзянскую вайну і Чырвоную армію.

## У пісьменьнікаў Малдавіі.

— Д. Мілеў—закончыў п'есу „Два сьветы“. Працуе над раманам „Першая вясна“.

— С. Лехтцыг—скончыў п'есу „Перамога“. Рыхтуе да друку кнігу паэзіі. Разам з таварышом Андрыеску заканчвае работу над анталёгіяй румынскай поэзіі.

— Л. Корнфэльд—выдаў зборнік паэзіі „Авімтуры“, здаў у друк кнігу вершаў для дзяцей школьнага ўзросту. Працуе над паэмай з калгаснага жыцьця.

— Н. Маркоў—скончыў раман „Жывы струмень", працуе над раманам „Бура".

— І. Кана—здаў у выдавецтва зборнік калгасных апавяданьняў. Рыхтуе да друку цыкль апавяданьняў з калгаснага жыцьця.

## Малдаўская савецкая літаратура на творчым уздыме.

Гістарычная пастанова ЦК УсеКП(б) ад 23 красавіка 1932 г. для маладой малдаўскай савецкай літаратуры мела асабліва важнае значэньне. Яна застала наша пісьменьніцкае грамадзтва як раз у той пэрыяд, калі буйны росквіт сацыялістычнага будаўніцтва ў савецкай Малдавіі ўступіў у чацьверты завяршальны год пяцігодкі, а ідэёва-культурны ўзровень працоўных за апошнія гады непараўнальна ўзрос і вымагае ўжо ад пісьменьнікаў прадукцыі, якая-б сваёй мастацка-ідэёвай якасьцю задавальняла патрабаваньні часу.

Пастанова ЦК ва ўсю шырыню паставіла перад кожным савецкім пісьменьнікам Малдавіі заданьне адлюстраваньня шырокага сацыялістычнага працэсу у Савецкай Малдавіі, заданьне паказу непасрэдных удзельнікаў, перадавых байцоў гэтага працэсу і барацьбу іх са сваім клясавым ворагам.

Рэалізуючы і канкрэтызуючы пастанову ЦК УсеКП(б), бюро Абкому КП(б)У сваёй пастановай ад 9 жніўня 1932 г. у сваю чаргу паставіла перад аргкамітэтам малдаўскіх савецкіх пісьменьнікаў рад задач.

Найважнейшай з гэтых задач было заданьне аб'яднаць навакол сябе ўсе пісьменьніцкія сілы Малдавіі, якія стаяць на савецкай пляцформе, скіраваць іх творчы энтузыязм на актыўную барацьбу за мабілізацыю працоўных мас, на выкананьне задач другой пяцігодкі, за пабудову бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва.

Падсумоўваючы работу Аргкамітэту Саюзу Савецкіх пісьменьнікаў Малдавіі і літаратурную прадукцыю малдаўскіх пісьменьнікаў за год, трэба перш за ўсё адзначыць рад посьпехаў, якія дасягнуты малдаўскай савецкай літаратурай у сваім творчым росьце. Творы, якія вышлі на працягу 1932—33 г., дазваляюць зрабіць вывад пра значны якасны ўзрост нашай літаратуры.

Калі параўнаць з 1931 годам, прадукцыя колькасна крыху і зьменшылася, але гэта трэба аднесьці за кошт пераходу Малдавіі на латынізаваны альфабэт. Апошняе застала нашых пісьменьнікаў ня зусім падрыхтаванымі. Аднак, усё-ж яны здолелі хутка, па-бальшавіцку, пераключыцца і нават стаць у першых радох байцоў на новую пісьменнасьць.

22 назвы кніжок, якія выйшлі ў 1932 г. з-пад пяра пісьменьнікаў Малдавіі сваім ідэёвым зьместам, як і бязумоўна, вышэйшымі ў параўнаньні з папярэднімі творамі,—мастацкімі якасьцямі сьведчаць, што асноўныя кадры малдаўскіх савецкіх пісьмень-

нікаў сталі сапраўды здольнымі ўспрыняць і правільна зразумець глыбокі зьмест пастановы ЦК УсеКП(б) ад 23 красавіка і зрабіць з яе правільныя практычныя вывады.

Творы т. т. Андрыеску, Маркава, Кані, Корнфэльда, Мілева, Лехтціра і інш., шэраг празаічных і паэтычных твораў, якія адлюстроўваюць работу нашых фабрык, заводаў, калгасаў, паасобныя моманты з грамадзянскай вайны на тэрыторыі сучаснай Савецкай Малдавіі, разьдзелы з гісторыі нашых фабрык і заводаў,—усё гэта сьцьвярджае прыведзенае вышэй палажэньне з поўнай выразнасьцю.

Акрамя гэтага трэба адзначыць значныя посьпехі ў галіне драматургіі. Да гэтага часу малдаўскія тэатры ня мелі арыгінальнага рэпэртуара. Зараз становішча рэзка зьмянілася. На працягу году малдаўскія савецкія пісьменьнікі, уключыўшыся ў конкурс на лепшую п'есу, напісалі каля 10 п'ес. П'есы т. т. Барскага, Лехтціра, Андрыеску, Мілева, Васіленка і інш. зьяўляюцца значным укладам у рэпэртуар нашых тэатраў.

Але побач з гэтымі асноўнымі дасягненьнямі малдаўская савецкая літаратура і Аргкамітэт саюзу савецкіх пісьменьнікаў Малдавіі мае і сур'ёзныя недахопы. Ліквідаваўшы часткова мэтад „проста папісваць" і прыёмы архі-лявацкай крытыкі (а гэтыя хваробы часу ў Малдавіі давалі сябе адчуваць з асаблівай сілаю). Аргкамітэт ня здолеў цалкам аб'яднаць навакол сябе тыя маладыя літаратурныя кадры, якія высунула да жыцьця ўжо сама пастанова ЦК УсеКП(б) ад 23 красавіка. У гэтай галіне, у галіне выяўленьня і ахопу адпаведнай выхаваўчай работай надзвычай хутка ўзрастаючых маладых літаратурных сіл, Аргкамітэт з ускладзенымі на яго задачамі недастаткова спараўляецца.

Вынікам гэтага і зьявіўся той ненармальны самацёк у гэтай галіне, які адчуваецца яшчэ і цяпер.

І яшчэ слабым месцам у рабоце Аргкамітэту зьяўляецца выкарыстоўваньне чужымі варожымі элемэнтамі імя савецкага пісьменьніка. Нічым іншым, як праявамі клясава-варожых настрояў можна назваць апавяданьне „Чабаніца" і яшчэ некаторыя літаратурныя і грамадзкія выступленьні пісьменьніка Кафтанакі.

Трэба адзначыць, што Аргкамітэт недастаткова працаваў у гэтым напрамку,—ня здолеў сваячасова мабілізаваць увагу усёй савецкай грамадзкасьці і пісьменьнікаў на барацьбу з падобнымі клясава-варожымі выступленьнямі.

У асаблівым становішчы апынуўся ў гэтым годзе хто ніхто з маладых, раней заклікаsucceeded у літаратуру пісьменьнікаў. Яны ня ўлічылі новых абставін і новых задач літаратурнай работы. Некаторыя з гэтых таварышоў сустрэліся з патрабаваньнямі рэальнай сапраўднасьці, якая дыктавала ўсім пісьменьнікам, а ўдарнікам-пачаткоўцам асабліва, патрэбу вучобы, ня здолелі зрабіць практычных вывадаў для сябе і апынуліся ў фальшывым становішчы.

Мы павінны побач з гэтым таксама сказаць, што і ў гэтай галіне Аргкамітэт, а таксама наша крытыка, якая павінна асабліва цікавіцца справай выхаваньня новых літаратурных кадраў, зрабілі надзвычай мала.

Літаратурныя вечары, на якіх праводзіліся калектыўныя чыткі і абгаварэньне твораў пісьменьнікаў Савецкай Малдавіі, унесьлі былі пэўнае ажыўленьне ў работу. Але і гэта таксама не змагло ў патрэбнай ступені пераключыць нашых ударнікаў-пачаткоўцаў на асваеньне новых задач і форм сваёй творчай вучобы. Ды і саміх літаратурных вечароў адбылося менш, чым патрэбна было для выкананьня гэтых задач.

Аргкамітэт, а затым абранае зьездам кіраўніцтва саюзу павінны, улічыўшы гэтыя асноўныя недахопы нашай работы, не адкладаючы справы, распрацаваць і правесьці ў жыцьцё шэраг практычных захадаў і дамагчыся поўнага выкананьня задач, якія выплываюць з пастановы ЦК УсеКП(б) і пастановы бюро Малдаўскага Абкому КП(б)У.

Нацыянальна-культурнае будаўніцтва ў Савецкай Малдавіі і ў прыватнасьці ў галіне літаратуры і мастацтва мае ў сваім актыве шэраг значных посьпехаў. У сьвятле гэтых посьпехаў з асаблівай сілай акрэсьліваюцца вялічэзныя пэрспэктывы творчай работы для кожнага савецкага пісьменьніка Малдавіі. Пасьпяховая індустрыялізацыя краіны, вялічэзны рост эканамічна-культурнага ўзроўню працоўных, сканчэньне ў асноўным калектывізацыі і на базе яе ліквідаваньне кулака як клясы, далейшае разгортваньне барацьбы за моцны калгас, за высокі ўраджай, пабудова соцен школ аж да Камуністычнага унівэрсытэту,—усё гэта нявычэрпныя крыніцы для творчай працы пісьменьніка.

Надыходзячы 1-ы зьезд Саюзу савецкіх пісьменьнікаў Малдавіі, які павінен будзе працаваць над вырашэньнем гэтых задач літаратурнай работы, стане новым этапам росту і росквіту малдаўскай савецкай літаратуры.

## Пісьменьнік і абарона краіны

— Абаронная камісія Оргкому ССП БССР да Усебеларускага зьезду пісьменьнікаў выдае альманах твораў аб авіяцыі. У альманаху прымаюць удзел пісьменьнікі: М. Лынькоў, Іл. Барашка, А. Вольны, А. Александровіч, І. Харык і інш.

— Чырвонаармейскія літаратурныя гурткі ўключыліся ў падрыхтоўку да Усебеларускага зьезду пісьменьнікаў:

У літаратурным гуртку пры Менскім Доме Чырвонай арміі тав. Орса рыхтуе кніжку нарысаў, тав. Шапіра працуе над аповесьцю „Кіпучыя дні", Курдзін піша новую п'есу, І. Шапавалаў працуе над новай кнігай вершаў. Вылучаюцца маладыя паэты Даніловіч, Шубін, Шчарбакоў.

— У літаратурным гуртку пры Гомельскім Доме Чырвонай арміі тав. Карпачоў закончыў і здае ў друк новую аповесьць, тав. Кручкін здае ў друк кнігу вершаў, тав. Сінані здаў у друк новы чацьверты зборнік вершаў, тав. Залатароў напісаў п'есу „Авангард".

— У літаратурным гуртку Авіябрыгады тав. Рапапарт працуе над кнігай фэльетонаў, тав. Гарошкаў рыхтуе кнігу вершаў. Вылучаюцца маладыя пісьменьнікі Ляшкоў і Чавычалаў.

— У літаратурным гуртку №-скага лягеру тав. Вальдаўскі працуе над кнігай нарысаў, тав. Кастроў закончыў паэму.

— У літаратурным вайсковым гуртку у Оршы тав. Ардатаў працуе на аповесьцю.

— У Бабруйскім вайсковым літаратурным гуртку тав. Зінін і Загорскі працуюць над аповесьцю з пэрыяду грамадзянскай вайны

— Магілеўскі вайсковы літаратурны гурток разгарнуў масавую работу сярод чырвонаармейцаў, уключыўшыся ў падрыхтоўку да усебеларускага зьезду пісьменьнікаў. Праведзена некалькі літаратурных выступленьняў. Гурток выдае літаратурную старонку ў шматтыражцы. Вылучаюцца сваёй творчай работай т. т. С. Хадыка, Ключароў, Адрыянаў, Разжавін, Каралькоў.

— Пісьменьнікі Іл. Барашка і Шапавалаў працуюць над сцэнарыямі на тэму аб савецкіх пагранічніках.

— Кіно-фабрыка „Савецкая Беларусь" прыняла і пусьціла ў вытворчасьць сцэнары мастацкай ваенна-абароннай фільмы „Князь Мсьціслаў Удалы" Л. Прута. Фільм ставіць рэжысэр Уладзімер Корш.



Адказны рэдактар Міхась Лынькоў.
Намесьнік рэдактара Зарамбоўскі
**Рэдкалегія:** Бацюшкаў, Брэнштэйн, Галавач, Жылуновіч, Клімковіч, Колас, Крапіва, Чорны.

Выдавец: Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі
Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая 68, Дом пісьменьніка